# Змест



Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).

У 2010/11 навучальным годзе для арганізацыі і правядзення факультатыўных заняткаў па вучэбным прадмеце "Беларуская мова" рэкамендуецца выкарыстоўваць зацверджаныя навукова-метадычнай установай "Нацыянальны інстытут адукацыі" Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь наступныя вучэбныя праграмы.

Ларыса ГАМЕЗА

# ГРАНІ СЛОВА: АД ГУКА ДА СКАЗА

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ V КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Праграма разлічана на вучняў V класа і звязана з курсам беларускай мовы для агульнаадукацыйных устаноў. Слова з'яўляецца аб'ектам вывучэння ў кожным раздзеле курса беларускай мовы, таму работа па ўзбагачэнні слоўнікавага запасу вучняў заканамерна павінна праводзіцца на ўсіх узроўнях моўнай сістэмы. Работа па ўзбагачэнні слоўнікавага запасу спрыяе фарміраванню маўленчай культуры вучняў, авалоданню ведамі і ўменнямі, якія забяспечваюць эфектыўную маўленчую дзейнасць у тыповых сітуацыях камунікацыі.

**Мэта** прапанаванага курса – павысіць увагу да гукавога афармлення, семантыкі, сінтаксічнай спалучальнасці, спосабаў утварэння і складу слова з мэтай увядзення яго ў актыўны слоўнікавы запас вучняў.

Дасягненне пастаўленай мэты ажыццяўляецца шляхам вырашэння наступных **задач**:

а) фарміраваць у вучняў уменні вызначаць фанетыка-арфаэпічныя характарыстыкі слова, карыстацца словамі ў вусных выказваннях;

б) звяртаць увагу школьнікаў на выяўленне семантыкі слова і падбор да яго сінонімаў, антонімаў;

в) удасканальваць уменне характарызаваць марфемную будову слова і спосабы яго ўтварэння;

г) узбагачаць слоўнікавы запас вучняў.

Пастаўленыя задачы вырашаюцца на аснове прынцыпаў навуковасці і даступнасці, пераемнасці і перспектыўнасці, сістэмнасці і паслядоўнасці, сувязі тэорыі з практыкай, актыўнасці і самастойнасці, індывідуалізацыі навучання. З мэтай развіцця цікавасці да прадмета, павышэння маўленчай культуры вучняў факультатыўныя заняткі павінны мець займальны характар.

Слова без гукавой формы не існуе. Таму без знаёмства з фанетычнай сістэмай мовы немагчыма тэарэтычнае і практычнае вывучэнне слова.

На лексічным узроўні вывучаецца семантыка, спецыфіка ўжывання, паходжанне слова. Слова вывучаецца не ізалявана, а ў сувязі з іншымі словамі. Узаемасувязь слоў дапамагае ім "раскрыцца", праявіць усе свае якасці на семантычным узроўні, ператварыцца з моўнай адзінкі ў мастацкае слова.

Марфемна-славаўтваральныя і лексічныя з'явы перакрыжоўваюцца пры стварэнні лексічнага значэння вытворнага слова, пры выбары марфем у працэсе ўтварэння новых слоў.

Змест курса, яго мэты і задачы абумоўліваюць неабходнасць выкарыстання розных метадаў і прыёмаў навучання: слова настаўніка, лінгвістычнага разважання, гутаркі, слоўнікава-арфаграфічных дыктовак, пошукавых сітуацый, лінгвістычных і слоўнікавых практыкаванняў, творчых заданняў (напісання тэксту па пачатку, тлумачэння сэнсу прыказак, напісання казак, гумарыстычных замалёвак), самастойных работ, працы з вучэбнай і навуковай літаратурай і інш.

Тэмы факультатыўных заняткаў засяроджваюць увагу на фанетыка-арфаэпічных характарыстыках слова, выяўленні семантыкі слова, яго паходжання і асаблівасцей ужывання, падборы да яго сінонімаў, антонімаў, амонімаў, марфемнай будове слова і спосабах яго ўтварэння, стварэнні словазлучэнняў і сказаў. Факультатыўныя заняткі паўтараюць і сістэматызуюць вывучаны на ўроках беларускай мовы матэрыял, засяроджваюць увагу на найбольш складаных пытаннях фанетыкі, арфаэпіі, лексікі, марфемікі і славаўтварэння, сінтаксісу.

Кожны раздзел праграмы змяшчае віды работ, якія арыентуюць на прымяненне ведаў у творчай сітуацыі.

Настаўнік можа ўнесці змены ў змест праграмы, пашырыць або скараціць матэрыял у залежнасці ад ступені падрыхтаванасці школьнікаў, іх імкнення да авалодання ведамі, ад уменняў і навыкаў вучняў.

### ЗМЕСТ КУРСА

(35 гадзін)

**Уводзіны** (2 гадзіны)

Слова як адзінка мовы і маўлення. Слоўнікавы запас чалавека. "Слова не верабей, вылеціць – не зловіш".

*Стварэнне тэкстаў; выпісванне выслоўяў, прыказак і прымавак пра мову, слова; каментарый вытрымак з прац майстроў слова; вызначэнне лексічнага значэння слоў.*

**Гукавая абалонка слоў** (7 гадзін)

Ад гучання да напісання.

Фантастычная краіна галосных і зычных гукаў.

Вымаўляем правільна!

*Чытанне і запіс пад дыктоўку слоў, словазлучэнняў, сказаў і тэкстаў з захаваннем арфаэпічных і арфаграфічных нормаў. Складанне дыялогаў на бытавыя тэмы.*

**Лексічнае значэнне слова** (15 гадзін)

Дрэва са шматлікімі галінкамі. Агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжытку. Устарэлыя словы і неалагізмы. Словы "свае" і "чужыя". Механізм мнагазначнасці. Размежаванне мнагазначных слоў і амонімаў. Блізкія па значэнні словы – сінонімы. Супрацьлеглыя па значэнні словы – антонімы.

Роля фразеалагізмаў у маўленні.

*Знаходжанне ў тэкстах слоў з прамым і пераносным значэннем, амонімаў, сінонімаў, антонімаў, дыялектных, прафесійных, устарэлых, новых і запазычаных слоў, тэрмінаў; вызначэнне лексічнага значэння слоў, іх сэнсава-стылістычнай ролі ў маўленні, запіс фразеалагізмаў, падбор да іх сінонімаў, антонімаў.*

**Марфемная будова слова і словаўтварэнне** (5 гадзін)

Змяненне і ўтварэнне слоў. Корань слова – агульная частка роднасных слоў. "Знайдзіце сваякоў" – аднакаранёвыя словы і формы аднаго і таго слова.

"Будуем" словы з дапамогай прыставак, суфіксаў, складання асноў.

*Чытанне тэкстаў, выяўленне ў іх аднакаранёвых слоў і формаў аднаго і таго слова, вызначэнне сэнсавай ролі марфем. Тлумачэнне спосабу ўтварэння слоў, падбор аднакаранёвых слоў, складанне з імі сказаў і тэкстаў.*

**Слова ў словазлучэнні і сказе** (6 гадзін)

Слова ў словазлучэнні.

Слова ў сказе. Сказы, якія апавядаюць, з дапамогай якіх пытаюцца і пабуджаюць да дзеяння.

"Хто галоўны?" Дзейнік, выказнік, дапаўненне, азначэнне, акалічнасць.

Сказы з аднароднымі членамі.

"Звярніцеся да мяне!" Афармленне на пісьме простай мовы і дыялога.

*Вылучэнне словазлучэнняў, клічных сказаў. Вызначэнне іх сэнсавай ролі ў тэксце. Пабудова сказаў розных тыпаў, уключэнне іх у тэкст.*

*Вызначэнне ў тэкстах галоўных і даданых членаў сказа, іх сэнсава-граматычнай ролі. Перабудова неразвітых сказаў у развітыя.*

*Чытанне тэкстаў, вызначэнне сказаў з аднароднымі членамі, абгрунтаванне мэтазгоднасці ўжывання. Складанне такіх сказаў, уключэнне ў выказванне.*

*Знаходжанне складаных сказаў у тэксце, вызначэнне іх ролі, складанне новых сказаў, уключэнне ў вусныя і пісьмовыя выказванні.*

*Падрабязны пераказ тэкстаў з простай мовай (з выкарыстаннем апорных слоў і словазлучэнняў).*

**Прагназуемыя вынікі**

Вучні павінны **ведаць**:

фанетыка-арфаэпічныя характарыстыкі гукаў у слове;

агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжывання, прафесійныя словы і навуковыя тэрміны, устарэлыя словы і неалагізмы, спрадвечна беларускія і запазычаныя словы, адназначныя і мнагазначныя словы, прамое і пераноснае значэнні слова, сінонімы, антонімы, амонімы, фразеалагізмы як лексічная з'ява;

склад слова і спосабы ўтварэння слоў;

асаблівасці функцыянавання слова ў словазлучэнні і сказе.

Вучні павінны **ўмець**:

правільна вымаўляць словы;

вызначаць лексічнае значэнне слова па слоўніку і ў тэксце; знаходзіць у тэксце агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжытку; распазнаваць і пісаць запазычаныя словы, устарэлыя словы і неалагізмы, правільна выкарыстоўваць іх у маўленні; падбіраць да слоў сінонімы і антонімы, карыстацца сінонімамі як сродкам сувязі сказаў у тэксце; знаходзіць фразеалагізмы ў тэксце, тлумачыць іх значэнне; карыстацца тлумачальным і перакладным слоўнікамі;

вызначаць склад слова і спосаб яго ўтварэння, падбіраць аднакаранёвыя словы.

**Літаратура**

1. **Гамеза, Л. М.** Вывучэнне раздзела "Словаўтварэнне" ў функцыянальна-семантычным аспекце / Л. М. Гамеза // Роднае слова. – 2004. – № 6. – С. 65 – 67.

2. **Гамеза, Л. М.** Вывучэнне фанетыкі ў школьным курсе беларускай мовы / Л. М. Гамеза // Роднае слова. – 2001. – № 5. – С. 63 – 66.

3. **Гамеза, Л. М.** Вывучэнне фразеалогіі беларускай мовы ў школе (V клас) / Л. М. Гамеза // Роднае слова. – 1997. – № 8. – С. 79 – 83.

4. **Гамеза, Л. М.** Выкладанне лексікі беларускай мовы ў функцыянальна-камунікатыўным аспекце. Адназначныя і мнагазначныя словы. Прамое і пераноснае значэнне слоў / Л. М. Гамеза // Роднае слова. – 1998. – № 10. – С. 119 – 125.

5. **Гамеза, Л. М.** Тэма ўрока : "Антонімы" / Л. М. Гамеза // Роднае слова. – 1999. – № 10. – С. 141 – 143.

6. **Красней, В. П.** Стылістычныя рэсурсы лексікі / В. П. Красней // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1990. – № 11. – С. 27 – 28; № 12. – С. 37 – 40.

7. **Ляшчынская, В. А.** Практыкаванні па лексіцы і стылістыцы : дапам. для настаўніка / В. А. Ляшчынская, А. А. Станкевіч. – Мінск : Нар. асвета, 1984. – 160 с.

8. **Паўлоўскі, І. І.** Родная мова ў пазнанні рэчаіснасці / І. І. Паўлоўскі // Пачатковая школа. – 1998. – № 3. – С. 42 – 51.

9. **Протчанка, В. У.** Арфаграфія – важны кампанент у сістэме работы па развіцці мовы / В. У. Протчанка // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1998. – № 4. – С. 14 – 22.

10. **Якуба, С. М.** Некаторыя асаблівасці засваення пяцікласнікамі словаўтваральных паняццяў / С. М. Якуба // Роднае слова. – 1998. – № 12. – С. 108 – 116.

Святлана ЯКУБА

# САКРЭТЫ СЛОВАЗМЯНЕННЯ І ФОРМАЎТВАРЭННЯ

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ VI КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Праграма разлічана на вучняў VI класа і звязана з базавым курсам беларускай мовы. Асноўная ўвага на факультатыўных занятках накіравана на развіццё інтэлектуальных магчымасцей, творчых здольнасцей вучняў, удасканаленне ўменняў прымяняць атрыманыя веды ў нестандартных маўленчых сітуацыях.

**Мэта** прапанаванага курса – павысіць тэарэтычны ўзровень ведаў вучняў па пытаннях словазмянення і формаўтварэння часцін мовы на аснове адабранага моўнага матэрыялу, які забяспечыць аптымальнае засваенне складаных пытанняў лінгвістыкі з апорай на развіццё формаў актыўнага валодання маўленнем і будзе садзейнічаць прымяненню ведаў у творчай сітуацыі.

У адпаведнасці з акрэсленай мэтай вырашаюцца наступныя **задачы**:

– на аснове адабранага лінгвістычнага матэрыялу сістэматызаваць і пашырыць веды вучняў па пытаннях формаўтварэння і словазмянення розных часцін мовы;

– арганізаваць практычную работу над марфалагічнымі паняццямі і правіламі на аснове пашырэння спосабаў дзейнасці школьнікаў;

– садзейнічаць развіццю лінгвістычнага мыслення школьнікаў, фарміраванню ўмення самастойна набываць веды ў працэсе прадуктыўна-творчай дзейнасці;

– сістэматычна і мэтанакіравана развіваць граматычны лад маўлення і моўнае чуццё школьнікаў, узбагачаць іх слоўнікавы запас;

– удасканальваць навыкі аналізу тэкстаў, якія змяшчаюць словы розных часцін мовы, абгрунтоўваць асаблівасці формаўтварэння і словазмянення, вучыць абагульняць, сістэматызаваць моўны матэрыял, рабіць самастойныя вывады;

– развіваць уменні і навыкі карыстання словамі розных часцін мовы ў вусных выказваннях і пісьмовых тэкстах у адпаведнасці з нормамі літаратурнай мовы і сітуацыяй маўлення, прымяняць веды ў незнаёмых сітуацыях;

– ствараць умовы для развіцця пазнавальнай актыўнасці, даследчыцкіх навыкаў, творчых здольнасцей і маральных якасцей школьнікаў.

Пастаўленыя задачы вырашаюцца на аснове прынцыпаў навуковасці і даступнасці, пераемнасці і перспектыўнасці, сістэмнасці і паслядоўнасці, сувязі тэорыі з практыкай, актыўнасці і самастойнасці, а таксама індывідуалізацыі навучання. З мэтай развіцця цікавасці да прадмета, пашырэння лінгвістычнага кругагляду і маўленчай культуры школьнікаў факультатыўныя заняткі павінны мець займальны характар.

Змест курса, яго мэты і задачы абумоўліваюць неабходнасць выкарыстоўваць розныя формы і метады навучання: лінгвістычнае назіранне, эксперымент, слова настаўніка, гутарку, пошукавыя сітуацыі, маўленча арыентаваныя практыкаванні, розныя віды самастойнай работы (праца з вучэбнай і навуковай літаратурай, складанне дыдактычных матэрыялаў, рознаўзроўневых заданняў, тэставых работ, слоўнікавых дыктовак, алгарытмаў, афармленне рознага віду нагляднасці: картак, перфакартаў, табліц), творчыя работы (вусныя паведамленні, крытычныя выступленні, напісанне сачынення, рэцэнзаванне работ аднакласнікаў і інш.).

Праграма змяшчае тэарэтычны і практычны матэрыял. Кожныя заняткі – крок наперад па ўдасканаленні ведаў, уменняў і навыкаў, развіцці маўлення і творчых здольнасцей.

Тэмы факультатыўных заняткаў, сістэматызуючы вывучаны на ўроках беларускай мовы матэрыял, засяроджваюць увагу на найбольш складаных пытаннях марфалогіі, якія разглядаюцца з пункту гледжання праблем кваліфікацыі і размежавання тых ці іншых моўных з'яў, а таксама словазмянення, формаўтварэння і ўжывання часцін мовы. Пашыраючы аб'ём ведаў, пажадана звярнуцца да мовазнаўчых праблем, якія не маюць адназначнага тлумачэння ў навуковай і вучэбнай літаратуры. Увага да найбольш складаных, дыскусійных пытанняў, пры вырашэнні якіх супастаўляюцца розныя погляды вучоных на праблему, вызначаецца пазіцыя настаўніка і вучняў адносна таго ці іншага пункту гледжання, дазваляе пашыраць лінгвістычны кругагляд, развіваць даследчыцкія навыкі, інтэлектуальны і творчы патэнцыял школьнікаў.

Тэарэтычныя звесткі падаюцца ў ходзе гутарак, невялікіх паведамленняў, дыспутаў, лінгвістычных дыскусій. З мэтай азнаямлення школьнікаў з дасягненнямі і праблемамі сучаснай лінгвістыкі для ўдзелу ў такіх формах навучання могуць быць запрошаны вучоныя і настаўнікі-практыкі. Сістэматычна на занятках выступаюць вучні з самастойна падрыхтаванымі паведамленнямі, дакладамі. Падрыхтоўка вусных выказванняў вучыць самастойна працаваць з літаратурай (слоўнікамі, энцыклапедыямі, даведнікамі), падводзіць да самастойнага асэнсавання моў-

ных з'яў. Пошукавыя сітуацыі, што ствараюцца на занятках, накіраваны на выяўленне супярэчнасцей і заканамернасцей у марфалагічных з'явах. Цікавым відам працы будуць практыкаванні на выкарыстанне ведаў у нестандартных, творчых сітуацыях.

Аддаючы перавагу маўленча арыентаваным практыкаванням, варта засяродзіцца на заданнях павышанай складанасці. Стварэнне маўленчых сітуацый актывізуе разумовую дзейнасць школьнікаў, вучыць іх мэтанакіравана карыстацца моўнымі сродкамі. На занятках курса практыкуецца выкананне работ, падчас якіх удасканальваюцца навыкі працы са слоўнікамі, энцыклапедычнымі даведнікамі, лінгвістычнымі дапаможнікамі. Разнастайныя віды працы будуць садзейнічаць развіццю кемлівасці, настойлівасці ў дасягненні мэты, адказнасці, дысцыплінаванасці, працавітасці. У якасці дыягнастычных матэрыялаў могуць быць прапанаваны камп'ютарныя тэсты, што дапаможа выявіць узровень засваення вучнямі прапанаванага на факультатыўных занятках матэрыялу.

Вывучэнне курса неабходна будаваць з апорай на веды па літаратуры, рускай мове, рыторыцы, стылістыцы. На занятках мэтазгодна спалучаць калектыўныя і індывідуальныя формы работы, ствараць атмасферу супрацоўніцтва. Вучні аб'яднаны адзінай мэтай, але кожны з іх мае права на выражэнне ўласнай думкі адносна той ці іншай лінгвістычнай праблемы. Роля настаўніка заключаецца ў стварэнні праблемнай сітуацыі і арганізацыі пошуку ісціны.

Праграма прадугледжвае экскурсіі на радыё і тэлебачанне, у друкарню і бібліятэку, музей і тэатр, рэдакцыю часопіса і інш.

Настаўнік можа ўнесці змены ў змест праграмы, пашырыць ці скараціць матэрыял у залежнасці ад умоў навучання і ступені падрыхтаванасці школьнікаў, іх імкнення паглыбіць свае веды па тым ці іншым лінгвістычным пытанні і ўдасканаліць практычныя ўменні і навыкі.

Праграма складаецца з тэарэтычнай часткі, у якой прадугледжваецца вывучэнне складаных пытанняў формаўтварэння, словазмянення, правапісу і ўжывання самастойных часцін мовы. Кожны раздзел змяшчае віды работ, якія арыентуюць на прымяненне ведаў у нестандартнай, творчай сітуацыі.

### ПА СЦЯЖЫНКАХ КРАІНЫ МАРФАЛОГІІ
(35 гадзін)

**Мой выток, пачатак і аснова** (1 гадзіна)

**Кладзі слова ў лад** (2 гадзіны)

**Назоўнік** (9 гадзін)

*"Нам засталася спадчына..."*: назоўнікі ўласныя і агульныя; канкрэтныя і абстрактныя, зборныя, рэчыўныя. *"Наш пярэсты какаду..."*: цяжкасці ў вызначэнні роду назоўнікаў. Назоўнікі агульнага роду. *"У роднай мовы моцнае карэнне..."*: назоўнікі адзіночнага і множнага ліку. *"А слова – сапраўды жывая рэч..."*: адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі.

*Асцярожна, роднае слова*: канчаткі назоўнікаў у адзіночным ліку. *Далоней* ці *далоняў*, *яблык* ці *яблыкаў?*: скланенне назоўнікаў у множным ліку. *"Да свайго племені-роду паплывеш і праз воду"*: змяненне рознаскланяльных назоўнікаў. *Паміж Ракавам і Валожынам*, ці асаблівасці змянення геаграфічных назваў. *Скарына, Скарыне, Скарынам*: пра скланенне некаторых прозвішчаў.

**Прыкладныя віды работ**

Паведамленне на лінгвістычную тэму.

Апавяданне "Падарожжа ў краіну кніг".

Напісанне тэлеграмы.

Вуснае выказванне "Наведаўшы выставу беларускіх мастакоў".

Рэдагаванне вучнёўскага сачынення.

Апавяданне "Я, маё імя і прозвішча".

Складанне крыжаванак, рэбусаў і інш.

Сачыненне "Назвы зямлі беларускай".

Складанне слоўніка тапанімічных назваў.

Пераклад тэкстаў.

**Прыметнік** (5 гадзін)

*"А найлепшая тая дарога, што вядзе на бацькоўскі парог"*: асаблівасці ўтварэння і ўжывання ступеней параўнання прыметніка. *"Будзь здароў, як вада..."*: поўныя і кароткія формы якасных прыметнікаў. *"Жменька сонечных промняў..."*, ці скланенне якасных і адносных прыметнікаў. *Святло Купалавага дома* ці *Купалава дома*: прыналежныя прыметнікі і іх склонавыя формы.

**Прыкладныя віды работ**

Выказванне пра ролю прыметніка ў маўленні.

Пераклад тэкстаў розных тыпаў і стыляў.

Напісанне невялікага рэкламнага тэксту з выкарыстаннем прыметнікаў вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання.

Апісанне жывёлы ў афіцыйным стылі.

Збіранне прыказак і прымавак, складанне загадак.

**Лічэбнік** (5 гадзін)

*"За трыдзевяць зямель..."*: разрады лічэбнікаў. *Граматыка з матэматыкай*, ці змяненне колькасных (лічэбнікаў, якія абазначаюць цэлыя лікі, зборных, дробавых) і парадкавых лічэбнікаў. *Дзядулю пад шэсцьдзесят* ці *каля шасцідзесяці?*: абазначэнне прыблізнай колькасці ў беларускім маўленні. *Колькі часу? Каторы час?*: гадзіны па-беларуску.

**Прыкладныя віды работ**

Напісанне аб'явы, распіскі.

Сацыялагічнае апытванне.

Складанне храналагічных табліц.

Конкурс на замяшчэнне вакантных пасад дыктараў беларускага радыё і тэлебачання.

**Займеннік** (4 гадзіны)

*"Я – акіяну жытняга калоссе..."*: змяненне і ўжыванне асабовых займеннікаў. *"Травінка ква-*

*лая і тая не ўзрастае дзеля самой сябе…”*: асаблівасці змянення і ўжывання зваротнага займенніка. *“Якое карэнне, такое і насенне…”*: змяненне займеннікаў, якія суадносяцца з прыметнікамі. *Каго? Чаго? Якога?*: скланенне пытальных і адносных займеннікаў. *Ні пры кім* ці *пры нікім*: асаблівасці змянення адмоўных і няпэўных займеннікаў.

**Прыкладныя віды работ**

Мастацкае разважанне на экалагічную тэму.

Рэдагаванне сачыненняў.

Складанне дыялогаў.

**Дзеяслоў** (9 гадзін)

*“У краіне Дзея слова”*: неазначальная форма дзеяслова, зваротныя дзеясловы, пераходныя і непераходныя дзеясловы. *“Не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломy…”*: адметнасць ужывання і правапісу асабовых і безасабовых дзеясловаў. *Падабацца* ці *спадабацца*: дзеясловы незакончанага і закончанага трывання, іх утварэнне, ужыванне ў беларускай мове. *Здзекавацца, здзеківаццa* ці *здзеквацца*: загадка дзеяслоўных суфіксаў *-ава-* (*-ява-*), *-ыва-* (*-іва-*), *-ва-*, *-оўва-* (*-ёўва-*). *Быў, ёсць, буду*: цяперашні, прошлы, будучы часы дзеяслова. *Я бягу, ты бяжыш, ён бяжыць. Гавары са мной па-беларуску*: абвесны, умоўны і загадны лады дзеяслова.

**Прыкладныя віды работ**

Лінгвістычны марафон.

Пераклад тэкстаў.

Напісанне замалёўкі ў форме дарожнай нататкі.

Рэдагаванне тэкстаў розных тыпаў, стыляў і жанраў.

**Прагназуемыя вынікі**

Вучні павінны:

– ведаць марфалагічныя нормы беларускай мовы, асноўныя лінгвістычныя паняцці і правілы;

– умець творча ўспрымаць і перапрацоўваць лінгвістычную інфармацыю, праяўляць самастойнасць і актыўнасць мыслення;

– размяжоўваць часціны мовы на аснове іх агульнага (граматычнага) значэння, марфалагічных, словаўтваральных і сінтаксічных прымет;

– супастаўляць і параўноўваць моўныя з’явы, даваць ім граматычную характарыстыку, прымяняць атрыманыя веды ў незнаёмай маўленчай сітуацыі;

– выкарыстоўваць моўныя сродкі ў адпаведнасці з нормамі літаратурнай мовы, задачай выказвання і сітуацыяй маўлення.

**Літаратура**

1. **Асновы культуры маўлення і стылістыкі** : вучэбн. дапам. для студ. філал. фак. ВНУ / У. В. Анічэнка, У. Д. Еўтухоў, В. А. Ляшчынская, Т. І. Тамашэвіч; пад рэд. У. В. Анічэнкі. – Мінск, 1992.

2. **Беларуская граматыка** : у 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; [рэд. М. В. Бірыла, П. П. Шуба]. – Мінск : Навука і тэхніка, 1985 – 1986. – Ч. 1 : Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. – 1985. – С. 50 – 210.

3. **Беларуская мова : цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі** / пад рэд. А. І. Падлужнага. – Мінск, 1987.

4. **Беларуская мова** : хрэстаматыя : вучэбн. дапам. / аўт.-склад. З. І. Бадзевіч [і інш.]. – Мінск : Юнипресс, 2005. – С. 238 – 396.

5. **Беларуская мова** : энцыклапедыя / БелЭн; пад рэд. А. Я. Міхневіча. – Мінск : БелЭн, 1994.

6. **Булахаў, М. Г.** Прыметнік у беларускай мове / М. Г. Булахаў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1964. – 200 с.

7. **Васілеўскі, М. С.** Дзеяслоўнае словаўтварэнне : адыменныя суфіксальныя лексемы / М. С. Васілеўскі. – Мінск : Навука і тэхніка, 1985. – 248 с.

8. **Верціхоўская, М. І.** Беларуская мова : цікава і складана : дапам. для вучняў ст. кл. з пагл. вывуч. бел. мовы / М. І. Верціхоўская. – Мінск, 2001.

9. **Вярхоў, П. В.** Лічэбнік у беларускай мове [параўнальна з рускай і ўкраінскай мовамі] / П. В. Вярхоў. – Мінск, 1961.

10. **Граматыка беларускай мовы** : у 2 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск : 1962, 1966. – Т. 1 : Марфалогія. – Мінск, 1962. – 540 с.

11. **Кароткая граматыка беларускай мовы** : у 2 ч. / навук. рэд. А. А. Лукашанец. – Мінск : Беларус. навука, 2007. – Ч. 1 : Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія. – 351 с.

12. **Лепешаў, І. Я.** Сучасная беларуская літаратурная мова : спрэчныя пытанні : дапам. / І. Я. Лепешаў. – Гродна : ГрДУ, 2002.

13. **Наркевіч, А. І.** Назоўнік : Граматычныя катэгорыі і формы / А. І. Наркевіч. – Мінск, 1976. – 275 с.

14. **Протчанка, В. У.** Актуальныя праблемы тэорыі і практыкі навучання беларускай мове / В. У. Протчанка. – Мінск : НІА, 2001. – 212 с.

15. **Сучасная беларуская літаратурная мова** : Марфалогія : вучэбн. дапам. / Н. В. Гаўрош, М. Ц. Кавалёва, Н. М. Нямковіч [і інш.]; пад агульн. рэд. праф. М. С. Яўневіча. – Мінск : Выд. У. М. Скакун, 1997.

16. **Сцяцко, П. У.** Мовазнаўчы досвед : выбраныя творы : у 2 ч. / П. У. Сцяцко. – Гродна, 2005. – 240 с.

17. **Сямешка, Л. І.** Курс беларускай мовы : падручнік / Л. І. Сямешка, І. Р. Шкраба, З. І. Бадзевіч. – Мінск : Універсітэцкае, 1996.

18. **Шуба, П. П.** Сучасная беларуская мова : Марфаналогія. Марфалогія : вучэбн. дапам. для філал. фак. ун-таў / П. П. Шуба. – Мінск : Універсітэцкае, 1987.

19. **Яленскі, М. Г.** Лінгвадыдактычная парадыгма асобасна арыентаванага навучання мове ў сучаснай школе / М. Г. Яленскі. – Мінск : НІА, 2002. – 211 с.

**Слоўнікі**

1. **Арашонкава, Г. У.** Кароткі слоўнік беларускай мовы : Правапіс. Вымаўленне. Націск. Словазмяненне / Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. – Мінск, 1994.

2. **Беларускі арфаграфічны слоўнік** / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; уклад. Л. П. Кунцэвіч, І. У. Кандраценя; пад рэд. А. А. Лукашанца. – Мінск : Беларус. навука, 2009. – 695 с.

3. **Булыка, А. М.** Слоўнік іншамоўных слоў / А. М. Булыка. – Мінск, 1993.

4. **Бардовіч, А. М.** Словаўтваральны слоўнік беларускай мовы / А. М. Бардовіч, М. М. Круталевіч, А. А. Лукашанец. – Мінск, 2001.

5. **Гаўрош, Н. В.** Слоўнік эпітэтаў беларускай мовы / Н. В. Гаўрош. – Мінск, 1991.

6. **Грабчиков, С. М.** Русско-белорусский словарь / С. М. Грабчиков. – Мінск, 1993.

7. **Грабчыкаў, С. М.** Беларуска-рускі слоўнік / С. М. Грабчыкаў. – 4-е выд., дапрац. – Мінск, 1993.

8. **Грабчыкаў, С. М.** Слоўнік паронімаў беларускай мовы / С. М. Грабчыкаў. – Мінск, 1994.

9. **Плотнікаў, Б. А.** Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы / Б. А. Плотнікаў, В. П. Трайкоўская. – Мінск, 2004.

10. **Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы.** – Мінск, 1996.

11. **Тлумачальны слоўнік беларускай мовы** : у 5 т., 6 кн. – Мінск, 1977 – 1985.

Ганна ВАЛОЧКА
Святлана ЯЗЕРСКАЯ

# СЛОВА Ў ТЭКСЦЕ

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ VII КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

*Над намі словы ўладараць…*
С. Грахоўскі.

**Мэта** факультатыўных заняткаў – павысіць увагу вучняў да асноўнай моўнай і маўленчай адзінкі – слова як асновы для стварэння тэксту, тым самым забяспечыць фарміраванне ўмення асэнсоўваць, як функцыянуе кожная часціна мовы на ўзроўні тэксту.

Пад тэкстаўтваральнай функцыяй моўных адзінак прынята разумець іх здольнасць удзельнічаць у стварэнні тэксту, звязваць у адно цэлае яго "часткі" (асобныя словы, словазлучэнні і сказы) з улікам агульнай задумы. Вядома, што тэкст дапамагае больш поўна і дакладна зразумець значэнне пэўнай моўнай адзінкі. Звязнасць тэксту выражаецца перш за ўсё фармальнымі сродкамі, якія фіксуюць адносіны паміж кампанентамі. У здольнасці моўных адзінак звязваць тэкст у адно цэлае праяўляецца іх тэкстаўтваральная функцыя.

Вывучэнне тэкстаўтваральнай функцыі пэўнай часціны мовы дапаможа разгледзець яе ролю ў тэкстах розных стыляў і жанраў. Такі падыход робіць працэс іх вывучэння больш цікавым і карысным для вучняў, садзейнічае не толькі ўзбагачэнню іх слоўнікавага запасу, але і фарміраванню здольнасці стварэння ўласных тэкстаў для іх выкарыстання ў канкрэтнай жыццёвай сітуацыі, у сферы сацыяльнай практычнай дзейнасці.

Вядома, што словы звязваюцца паміж сабой па пэўных правілах граматыкі. Праз іх сувязь адлюстроўваюцца адносіны і сувязь рэчаў у рэальным жыцці. Таму неабходна вучыць дзяцей не проста бачыць "часткі" слова, выражаныя гукамі, гэта значыць тое, што ляжыць на паверхні, а дабірацца да галоўнага – да "ядра" слова, яго значэння, сэнсу.

Законы і формы мыслення ўяўляюць сабой адлюстраванне ў свядомасці чалавека пэўных уласцівасцей, сувязей і адносін прадметаў аб'ектыўнай рэчаіснасці. Гэтыя сувязі выражаюцца чалавекам у словах, словазлучэннях, сказах. Утварэнне аднаго слова ад другога адбываецца не хаатычна, а па строгіх законах, выпрацаваных чалавекам у працэсе жыцця. Напрыклад, параўноўваючы словы, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ок*, *-ёк*, *-ак*, *-як*, *-ік*, *-ык*, вучні заўважаць, што адны словы з гэтымі суфіксамі маюць памяншальна-ласкальнае значэнне (*пух – пушок*), а другія такога значэння не выражаюць (*мех – мяшок*).

У ходзе заняткаў вучні будуць асэнсоўваць ролю самастойных і службовых часцін мовы ў тэксце. Гэтыя веды дапамогуць зразумець функцыю пэўнай моўнай адзінкі ў арганізацыі маўлення, разгортванні і стварэнні тэкстаў розных стыляў і жанраў, адметныя асаблівасці тэкстаў. Такім чынам будзе створана трывалая аснова для развіцця асобы вучня, яго сацыялізацыі, узбагачэння яго духоўнага свету, выхавання любові і пашаны да роднага слова, нацыянальнай культуры.

Прапануемыя факультатыўныя заняткі маюць тэарэтыка-практычны характар. Яны накіраваны на духоўнае і эстэтычнае развіццё вучняў, іх моўнай, камунікатыўнай і лінгвакультуралагічнай кампетэнцый. Таму мэтазгодна выкарыстанне такіх формаў заняткаў, на якіх будзе ствараецца творчая атмасфера супрацоўніцтва, сумеснай дзейнасці настаўніка і вучняў.

У адпаведнасці з мэтай акрэслены **задачы** факультатыўных заняткаў:

– сфарміраваць у школьнікаў свядомае разуменне ролі ў тэксце самастойных і службовых часцін мовы;

– развіваць навыкі аналізу тэкстаў, якія змяшчаюць адпаведныя моўныя адзінкі;

– удасканальваць уменні і навыкі карыстання пэўнымі моўнымі адзінкамі ў вусных выказваннях і пісьмовых паведамленнях у адпаведнасці з нормамі літаратурнай мовы і канкрэтнай сітуацыяй маўлення, г. зн. прымяняць атрыманыя веды ў сферы сацыяльнай практычнай дзейнасці;

– ствараць умовы для развіцця пазнавальнай актыўнасці, даследчыцкіх навыкаў, творчых здольнасцей і высокіх маральных якасцей моўнай асобы вучня;

– узбагачаць слоўнікавы запас і граматычны лад маўлення вучняў, удасканальваць работу над асэнсаваннем значэння і асаблівасцей ужывання пэўнай моўнай адзінкі ў канкрэтным тэксце;

– развіваць моўнае і маўленчае чуццё, маўленчую інтуіцыю і эстэтычны густ, тым самым фарміраваць у вучняў высокую культуру маўлення.

### ЗМЕСТ КУРСА

(35 гадзін)

**Паўтарэнне вывучанага** (5 гадзін)

Тэкст, яго асноўныя прыметы. Тэма і асноўная думка тэксту. Загаловак. Спосабы і сродкі сувязі сказаў і частак у тэксце.

Сэнсава-граматычная і тэкстаўтваральная роля іменных часцін мовы і дзеяслова ў тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў.

*Чытанне і аналіз тэкстаў, вызначэнне іх тэмы і асноўнай думкі, адрасата і мэтанакіраванасці, будовы, стылістычных асаблівасцей, спосабаў і сродкаў сувязі. Выяўленне сэнсава-граматычнай і тэкстаўтваральнай ролі іменных часцін мовы і дзеяслова ў тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў.*

**Словы-гібрыды**
**(дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе)** (9 гадзін)

Спецыфіка дзеепрыметніка як формы дзеяслова. Сэнсава-граматычная і стылістычная роля дзеепрыметнікаў. Правілы ўжывання дзеепрыметнікавых зваротаў. Роля дзеепрыметнікаў пры апісанні асоб, прадметаў, з'яў.

*Чытанне тэкстаў, аналіз іх сэнсавай і структурнай арганізацыі, сэнсава-стылістычнай ролі дзеепрыметнікаў і дзеепрыметнікавых зваротаў. Роля дзеепрыметнікаў у тэкстах-апісаннях. Замена дзеепрыметнікаў і дзеепрыметнікавых зваротаў іншымі моўнымі сродкамі, семантыка-граматычны і стылістычны аналіз сінанімічных канструкцый. Складанне тэкстаў і фрагментаў тэкстаў з выкарыстаннем дзеепрыметнікаў і дзеепрыметнікавых зваротаў. Творчая работа.*

Спецыфіка дзеепрыслоўя як дзеяслоўнай формы. Сэнсава-граматычная і стылістычная роля дзеепрыслоўяў у сказах, тэкстах. Правілы ўжывання дзеепрыслоўяў у маўленні.

*Чытанне і аналіз тэкстаў, вызначэнне сэнсава-стылістычнай і граматычнай ролі дзеепрыслоўяў і дзеепрыслоўных зваротаў. Замена аднаго з аднародных выказнікаў у сказе дзеепрыслоўем ці дзеепрыслоўным зваротам, вызначэнне сэнсавых адрозненняў. Рэдагаванне сказаў з памылковым ужываннем дзеепрыслоўяў. Стварэнне ўласных тэкстаў, фрагментаў тэкстаў з ужываннем дзеепрыслоўяў і дзеепрыслоўных зваротаў з мэтай размежавання галоўнага і дадатковага дзеянняў, пазбягання аднастайнасці пры пераліку некалькіх дзеянняў.*

**Прыслоўе** (6 гадзін)

Прыслоўе як самастойная часціна мовы. Разрады прыслоўяў па значэнні. Выкарыстанне прыслоўяў розных сэнсавых груп у апавядальных тэкстах. Ужыванне прыслоўяў-сінонімаў і прыслоўяў-антонімаў у тэкстах розных стыляў. Вобразна-выяўленчая роля прыслоўяў у тэкстах-апісаннях. Ужыванне прыслоўяў у тэкстах тыпу разважання.

*Знаёмства з тэарэтычным матэрыялам, вызначэнне ролі прыслоўяў у тэкстах-узорах рознага тыпу, стылю і жанру, абгрунтаванне ўжывання прыслоўяў; самастойны падбор прыкладаў ужывання прыслоўяў у структуры зачыну тэксту, пры перадачы паслядоўнасці змены падзей, з'яў прыроды, ужывання сінонімаў для дакладнага выражэння сэнсу, прымет і ўласцівасцей дзеянняў і працэсаў і да т. п. Складанне ўласных тэкстаў з пэўнай задачай і вызначанай тэкставай характарыстыкай, мэтанакіраванае выкарыстанне ў іх прыслоўяў; удасканаленне напісанага. Праверачная тэставая работа.*

**Прыназоўнік** (5 гадзін )

Прыназоўнік як службовая часціна мовы. Асаблівасці ўжывання некаторых прыназоўнікаў у беларускай мове. Ужыванне прыназоўнікава-іменных канструкцый як сродку падзелу тэксту на сэнсавыя часткі. Шматпрыназоўнікавасць як вобразна-выяўленчы сродак.

*Вывучэнне і асэнсаванне тэарэтычнага матэрыялу; чытанне і аналіз тэкстаў-узораў, вызначэнне тэкстаўтваральнай і вобразна-выяўленчай ролі прыназоўнікава-іменных канструкцый; асэнсаванне сінанімічных магчымасцей прыназоўнікаў. Стварэнне ўласных вусных і пісьмовых выказванняў пэўнай мэтанакіраванасці з адпаведным выкарыстаннем прыназоўнікава-іменных канструкцый; удасканаленне тэкстаў. Тэставая работа.*

**Злучнік** (3 гадзіны)

Злучнік як службовая часціна мовы. Ужыванне злучнікаў як сродку сувязі сказаў і частак у тэксце. Шматзлучнікавасць як экспрэсіўны граматычны сродак.

*Асэнсаванне тэарэтычнага матэрыялу, чытанне і аналіз прапанаваных тэкстаў-узораў, вызначэнне тэкстаўтваральнай і экспрэсіўнай ролі злучнікаў, ужыванне злучнікаў для стылістычнай арганізацыі тэксту. Стварэнне ўласных вусных і пісьмовых выказванняў з мэтанакіраваным выкарыстаннем злучнікаў; удасканаленне напісанага.*

**Часціца** (3 гадзіны)

Спецыфіка часціцы як службовай часціны мовы. Роля часціц у маўленні. Ужыванне часціц ***не***, ***ні***. Правапіс ***не*** (***ня***), ***ні*** з рознымі часцінамі мовы.

*Чытанне і аналіз тэкстаў-узораў, вызначэнне ролі часціц у мастацкім, публіцыстычным і гутарковым стылях для ўзмацнення выразнасці і эмацыянальнасці выказвання; стварэнне ўласных выказванняў з мэтанакіраваным ужываннем часціц; удзел у дыялогах з выкарыстаннем часціцы* ***ці*** *для змякчэння просьбы.*

**Выклічнік** (1 гадзіна)

Спецыфіка выклічніка як асобай часціны мовы.

**Падагульненне**
**і сістэматызацыя вывучанага** (3 гадзіны)

**Прагназуемыя вынікі**

Вучні павінны **ведаць**:

• марфалагічныя прыметы пэўнай часціны мовы, сэнсавую і сінтаксічную ролю ў словазлучэнні, сказе;

• ролю самастойных і службовых часцін мовы ў арганізацыі маўлення, разгортванні і стварэнні тэкстаў розных стыляў і жанраў;

• сродкі сувязі сказаў і частак у тэксце;

• суадноснасць сінанімічных канструкцый у сказах і частках тэксту.

Вучні павінны **ўмець**:

• знаходзіць пэўную моўную адзінку ў тэксце;

• вызначаць асаблівасці ўжывання пэўнай моўнай адзінкі ў канкрэтным тэксце (месца ўжывання, роля ў стварэнні стылістычнай афарбоўкі і інш.);

• аналізаваць моўныя сродкі, якія забяспечваюць выражэнне асноўнай думкі тэксту;

• мэтанакіравана і свядома ўжываць у вусных выказваннях і пісьмовых паведамленнях моўныя адзінкі з улікам пэўнай камунікатыўнай задачы;

• вызначаць экспрэсіўна-ацэначныя магчымасці слоў і граматычных канструкцый у тэкстах розных стыляў і жанраў;

• валодаць вымаўленчымі, лексічнымі, граматычнымі, арфаграфічнымі, пунктуацыйнымі, стылістычнымі нормамі беларускай літаратурнай мовы;

• адчуваць вобразнасць, шматграннасць і семантычнае багацце беларускага слова, успрымаць прыгажосць яго гучання ў сказе, тэксце;

• выкарыстоўваць тэкстаўтваральныя і вобразна-выяўленчыя сродкі марфалагічнага ўзроўню ў стварэнні аўтарскіх тэкстаў рознага тыпу, стылю і жанру.

**Літаратура**

1. **Кароткая граматыка беларускай мовы** : у 2 ч. / навук. рэд. А. А. Лукашанец. – Мінск : Беларус. навука, 2007. – Ч. 1. – 351 с.

2. **Кароткая граматыка беларускай мовы** : у 2 ч. / навук. рэд. А. А. Лукашанец. – Мінск : Беларус. навука, 2009. – Ч. 2. – 240 с.

3. **Беларуская мова** : энцыклапедыя / пад рэд. А. Я. Міхневіча. – Мінск, 1994.

4. **Беларуская мова ў тэксце і ў сістэме мовы** / пад рэд. В. К. Шчэрбіна. – Мінск : Навука і тэхніка, 1994.

5. **Васюковіч, Л. С.** Вучэбны тэкст у школьным падручніку па беларускай мове / Л. С. Васюковіч. – Мінск : НІА, 2004.

6. **Выкладанне беларускай мовы ў школе** / пад рэд. М. Г. Яленскага. – Мінск : Нар. асвета, 1994.

7. **Ипполитова, Н. А.** Текст в системе обучения русскому языку в школе : учеб. пособие для студ. пед. вузов / Н. А. Ипполитова. – М. : Флинта, Наука, 1987.

8. **Кананенка, Т. М.** Праца з тэкстам на ўроках беларускай мовы : вучэб.-метад. дапам. / Т. М. Кананенка, Г. М. Малажай, І. М. Пашкевіч. – Брэст, 1994.

9. **Каўрус, А. А.** Слова наша роднае : кніга для настаўніка / А. А. Каўрус. – Мінск : Нар. асвета, 1986.

10. **Красней, В. П.** Грані слова : факультатыўны курс "Лексіка і фразеалогія беларускай мовы" : вучэб. дапам. / В. П. Красней. – Мінск : Нар. асвета, 1996.

11. **Лаўрэль, Я. М.** Вывучэнне марфалогіі ў школе / Я. М. Лаўрэль, Т. Р. Новікава, С. А. Язерская. – Мінск : Нар. асвета, 1991.

12. **Литвинко, Ф. М.** Методика изучения разделов школьного курса русского языка (функциональный подход) : курс лекций для студентов филол. ф-та / Ф. М. Литвинко. – Минск : БГУ, 2001.

13. **Лосева, Л. М.** Как строится текст : пособие для учителей / Л. М. Лосева; под ред. Г. Я. Солганика. – М. : Просвещение, 1980.

14. **Мурина, Л. А.** Русский язык : культура устной и письменной речи : рекоменд. для учителей / Л. А. Мурина [и др.]. – Минск : НИО, 1999. – Ч. 2.

15. **Протчанка, В. У.** Праца з тэкстам як агульнаадукацыйнае ўменне / В. У. Протчанка // Фарміраванне ў школьнікаў агульнаадукацыйных уменняў пры навучанні беларускай мове : зб. навук. прац. – Мінск : НІА, 1994.

16. **Протчанка, В. У.** Жывое слова ў методыцы навучання / В. У. Протчанка // Беларуская мова і літаратура. – 1998. – № 1. – С. 3 – 9.

17. **Янкоўскі, Ф. М.** Само слова гаворыць / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск : Маст. літ., 1986.

Ірына САМАТЫЯ

# ГЭТЫ НЯПРОСТЫ ПРОСТЫ СКАЗ

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ VIII КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Мова як сродак зносін паміж людзьмі ў грамадстве знаходзіць сваё матэрыяльнае выражэнне ў сказах. Толькі ў сказах дзякуючы камунікатыўнай мэце актуалізуюцца, набываюць сэнсавую дакладнасць і выразнасць словы і іх формы. Таму сказу як мінімальнай функцыянальнай адзінцы надаецца выключнае значэнне ў школьным курсе беларускай мовы.

Мова захоўваецца ў памяці чалавека не ў выглядзе сказаў, якія кожны раз фарміруюцца ў канкрэтнай маўленчай сітуацыі, а ў выглядзе мадэлей, схем, элементаў, што ў працэсе напаўнення лексікай, інтанацыяй і жывой экспрэсіяй граматычна аб'ядноўваюцца і ўтвараюць сказы рознай будовы. Такім чынам, пры дапамозе сказаў думкі не толькі выражаюцца, але і фарміруюцца.

Сказ фарміруецца згодна з законамі граматыкі беларускай мовы. У сучасным моваазнаўстве ён разглядаецца як структурная і функцыянальна-камунікатыўная адзінка. Гэта самастойны сродак паведамлення, які адначасова можа выконваць пэўную ролю ў разгортванні цэласнай адзінкі маўленчых зносін – тэксту.

У гэтым заключаецца актуальнасць факультатыўных заняткаў, на якіх разглядаецца будова сказа праз прызму маўленчай творчасці, асэн-

соўваюцца яго ўнутраныя і знешнія рэсурсы, выяўляюцца механізмы, што дазваляюць перадаць інфармацыю аптымальным спосабам.

На факультатыўных занятках трэба дапамагчы вучням асэнсаваць функцыянальныя рэзервы простага сказа. Веды аб простым сказе павінны стаць не самамэтай, а сродкам, інструментам свядомага авалодвання мовай.

Вывучэнне сінтаксісу ў VIII класе арганізоўваецца на аснове структурна-семантычнага падыходу, адметнай асаблівасцю якога з'яўляецца тое, што пры аналізе моўных з'яў прымаецца пад увагу не адзін аспект, а некалькі. Найважнейшымі з іх з'яўляюцца будова, значэнне і функцыя. Такая арганізацыя навучання мове дазволіць школьнікам успрымаць не асобныя моўныя з'явы, а ўсю сістэму ва ўзаемадзеянні яе элементаў, асэнсоўваючы пры гэтым адпаведныя сінтаксічныя паняцці і іх істотныя прыметы.

**Мэтай** факультатыўных заняткаў з'яўляецца фарміраванне ў вучняў сістэмы сінтаксічных паняццяў, уменняў і навыкаў, звязаных з сутнасцю простага сказа як спецыфічнай моўнай і маўленчай адзінкі.

**Задачы:**

• стварыць умовы для найбольш трывалага засваення вучнямі тэарэтычных звестак пра структурна-семантычныя асаблівасці сінтаксісу простага сказа;

• садзейнічаць развіццю лінгвістычнага мыслення вучняў, фарміраванню ўмення самастойна назапашваць веды ў працэсе навучальнай дзейнасці;

• выпрацоўваць уменні:

– будаваць словазлучэнні ў адпаведнасці з нормамі сучаснай беларускай мовы; выкарыстоўваць словазлучэнні для пабудовы сказаў у адпаведнасці з камунікатыўнай мэтазгоднасцю і сітуацыяй зносін;

– распазнаваць простыя сказы і іх тыпы, складаць сказы ў адпаведнасці з нормамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы;

– аналізаваць сэнс выказвання ў цэлым, сэнсавыя адносіны паміж яго часткамі;

– карыстацца ў маўленні сінтаксічнымі сінонімамі (замяняць аднасастаўныя сказы двухсастаўнымі і наадварот, складаныя сказы простымі ўскладненымі і наадварот);

– правільна ўжываць простыя сказы розных відаў і тыпаў у адпаведнасці з камунікатыўнай мэтазгоднасцю;

– абгрунтоўваць выбар знакаў прыпынку і расстаўляць іх у адпаведнасці з вывучанымі правіламі.

Вывучэнне сінтаксічных тэм наладжваецца на аснове такіх спосабаў дзейнасці, як аналіз і сінтэз.

У якасці самастойных і праверачных работ прадугледжваюцца наступныя віды дзейнасці вучняў: канспектаванне тэарэтычных крыніц, падрыхтоўка дакладаў, паведамленняў, выкананне пісьмовых заданняў, назіранне над тэкстам, аналіз тэксту, выкананне тэставых заданняў, складанне ўласных тэкстаў з уключэннем пэўных сінтаксічных адзінак і пунктаграм, складанне віктарын і конкурсных заданняў, падрыхтоўка прэзентацый ці электроннага тэкставага дакумента. Вучням даецца магчымасць выбіраць віды вучэбнай дзейнасці: выкананне пісьмовай працы, складанне тэста, стварэнне віктарыны, конкурсных заданняў, напісанне рэферата, падрыхтоўка даклада, удзел у турніры знаўцаў беларускай мовы і інш.

**Прыёмы і сродкі**, якія можна выкарыстаць пры вывучэнні асаблівасцей простага сказа: арганізаваныя настаўнікам (шляхам пастаноўкі пытанняў і пазнавальных задач) назіранні над моўным матэрыялам; лінгвістычны эксперымент, што ў сваю чаргу абапіраецца на такія прыёмы, як супастаўленне, супрацьпастаўленне, суадносны аналіз, трансфармацыя і інш.; сінтаксічны разбор, які ажыццяўляецца з рознымі мэтамі і ў рознай форме (поўны, частковы; вусны, пісьмовы; слоўна выражаны ці прадстаўлены графічна); наглядныя дапаможнікі (схемы, табліцы, карціны), мультымедыйныя сродкі навучання.

На факультатыўных занятках выкарыстоўваюцца наступныя практыкаванні: а) практыкаванні на распазнаванне моўнай з'явы сярод іншых; б) практыкаванні, якія актывізуюць уменне аналізаваць сінтаксічныя асаблівасці простых сказаў і іх састаўных частак; в) практыкаванні, звязаныя з удасканаленнем маўленчай дзейнасці васьмікласнікаў.

З мэтай актывізацыі мысліцельнай і маўленчай дзейнасці, фарміравання і развіцця агульнавучэбных уменняў (слухаць і "чуць", адэкватна ўзнаўляць успрынятую інфармацыю, крытычна да яе ставіцца, даваць ёй ацэнку; выказваць сваю думку, пацвярджаць яе канкрэтнымі прыкладамі) могуць выкарыстоўвацца гульнёвыя формы навучання. Гульні садзейнічаюць абуджэнню цікавасці да роднай мовы, развіццю маўленчай вынаходлівасці і ўмення нестандартна мысліць, а таксама фарміраванню практычных агульнавучэбных і спецыяльных навыкаў.

## ЗМЕСТ КУРСА

(35 гадзін)

### Паняцце пра сінтаксіс і пунктуацыю

(1 гадзіна)

З чаго пачынаецца сінтаксіс? Сінтаксіс і пунктуацыя – чаму заўсёды разам?

**Словазлучэнне** (4 гадзіны)

Слова. Спалучэнні слоў. Словазлучэнні. Аповед пра развітае… слова.

Аповед пра падпарадкавальныя і спалучальныя адносіны. Асаблівасці дапасавання і кіравання ў беларускай мове. Словазлучэнне як член сказа (сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні).

Словазлучэнні ў маўленні. Граматычныя і маўленчыя памылкі ў пабудове словазлучэнняў.

*Выдзяленне словазлучэнняў са сказа. Разгортванне словазлучэнняў, іх выкарыстанне пры апісанні прадметаў, людзей, з'яў. Пераклад сказаў (тэкстаў) з адметнымі беларускімі словазлучэннямі.*

*Вызначэнне апорных словазлучэнняў у тэкстах, выяўленне іх сэнсава-стылістычнай ролі. Выражэнне мікратэм тэксту з дапамогай словазлучэнняў, разгортванне іх у тэкст.*

**Сказ – усёмагутны валадар сінтаксісу**
(17 гадзін)

Сэнсавыя "таямніцы" сказаў. Сказ як мінімальная маўленчая адзінка. Інтанацыйныя і граматычныя прыметы сказа.

З дапамогай якіх сказаў можна выказаць свае думкі і эмоцыі? (Віды сказаў паводле мэты выказвання і інтанацыйнага афармлення.)

*Чытанне і аналіз тэкстаў з мэтай выяўлення ролі сказа ў маўленні.*

*Чытанне сказаў і тэкстаў з захаваннем патрэбнай інтанацыі. Запіс тэкстаў з расстаноўкай прапушчаных знакаў прыпынку ў канцы сказаў.*

*Падбор прыказак у форме пабуджальных сказаў на прапанаваную тэму.*

*Разважанне на тэму "Словамі мы паведамляем, а голасам, інтанацыяй пытаемся".*

*Сачыненне на лінгвістычную тэму "Сказ – усёмагутны валадар сінтаксісу".*

Асноўныя віды простых сказаў.

Тэкстаўтваральная роля парадку слоў у сказе. Лагічны націск.

*Чытанне і аналіз сказаў з мэтай выяўлення ролі лагічнага націску і парадку слоў.*

*Чытанне і аналіз тэкстаў-апавяданняў і апісанняў, вызначэнне ў іх тэкстаўтваральнай ролі парадку слоў.*

Двухсастаўныя сказы. Сакрэты дзейніка і выказніка. Загадкі інфінітыва. Сувязь выказніка з дзейнікам. "След зніклай звязкі". Роля дзеяслова-звязкі ў перадачы адценняў значэння ў сказе. Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам.

Разнастайнасць даданых членаў сказа. Правілы адрознення мнагазначных членаў сказа (*адпачынак на прыродзе: які* ці *дзе*?).

Даданыя члены сказа ў маўленні.

*Пісьмовы адказ на пытанне-загадку. Складанне сказаў з фразеалагізмамі ў ролі выказніка.*

*Перабудова сказаў на сінанімічную замену членаў сказа.*

*Стварэнне тэкстаў-разважанняў на лінгвістычную тэму.*

*Пабудова азначэнняў тэрміна (алгарытм).*

Аднасастаўныя сказы: дзейнік ці выказнік? Сінаніміка аднасастаўных і двухсастаўных сказаў.

Аднасастаўныя сказы ў маўленні.

Поўныя і няпоўныя сказы. Назоўны ўяўлення.

Адрозненне аднасастаўных і двухсастаўных, поўных і няпоўных сказаў.

*Знаходжанне ў тэкстах аднасастаўных развітых і неразвітых сказаў, вызначэнне іх сэнсава-стылістычнай ролі, абгрунтаванне мэтазгоднасці ўжывання. Замена двухсастаўных сказаў сінанімічнымі аднасастаўнымі.*

*Падрыхтоўка тэкстаў-апісанняў.*

*Параўнальны аналіз маналагічных і дыялагічных тэкстаў, вызначэнне сродкаў моўнай выразнасці.*

**Сінтаксічныя лабірынты ўскладненага сказа**
(10 гадзін)

Правілы пабудовы сказаў з аднароднымі членамі, знакі прыпынку пры аднародных членах.

Аднародныя члены сказа ў маўленні. Стылістычныя магчымасці сказаў з аднароднымі членамі. Сінаніміка простых сказаў з аднароднымі членамі і складаназлучаных сказаў.

*Аналіз тэкстаў розных стыляў. Вызначэнне ў іх сэнсава-стылістычнай ролі сказаў з аднароднымі членамі, абгрунтаванне мэтазгоднасці ўжывання.*

*Канструяванне сказаў з аднароднымі членамі, уключэнне іх у тэкст.*

Зваротак – самы яркі этыкетны знак. Функцыі звароткa: заклікальная, ацэначная, этыкетная. Уменне абыходзіцца са звароткам.

"Выратавальныя" словы: пабочныя і ўстаўныя канструкцыі як сродкі выражэння ацэнкі выказвання, уздзеяння на суразмоўцу, "лагічнай разметкі тэксту", паведамлення дадатковай інфармацыі. Сінаніміка пабочных слоў.

Словы-сказы, або Што такое *безумоўна*?

*Чытанне тэкстаў розных стыляў, знаходжанне сказаў са звароткамі, пабочнымі словамі. Вызначэнне іх сэнсава-стылістычнай ролі, абгрунтаванне мэтазгоднасці ўжывання.*

*Напісанне віншаванняў, афіцыйных пісьмаў і сяброўскіх лістоў.*

*Разважанне на тэму «Калі "Вясна!" – сказ».*

Ужыванне коскі паміж часткамі складаназлучанага сказа. Ужыванне працяжніка паміж часткамі складаназлучанага сказа, калі другая частка выражае хуткую змену падзей або супрацьпастаўленне ці вынік. Варыянтнае ўжыванне коскі або працяжніка паміж часткамі складаназлучанага сказа. Ужыванне кропкі з коскай паміж часткамі складаназлучанага сказа. Адсутнасць коскі паміж часткамі складаназлучанага сказа.

**Знакі прыпынку паміж часткамі ў складаназалежных сказах**

(3 гадзіны)

Ужыванне коскі паміж часткамі складаназалежнага сказа. Ужыванне знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах з паслядоўным падпарадкаваннем некалькіх даданых частак (пры збегу адзіночных і парных падпарадкавальных злучнікаў). Ужыванне знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах з сузалежным аднародным і неаднародным падпарадкаваннем некалькіх даданых частак.

**Знакі прыпынку паміж часткамі складаных бяззлучнікавых сказаў**

(3 гадзіны)

Ужыванне коскі паміж часткамі складаных бяззлучнікавых сказаў, калі паміж імі выражаюцца адносіны адначасовасці або паслядоўнасці. Ужыванне кропкі з коскай паміж часткамі складаных бяззлучнікавых сказаў, калі гэтыя часткі маюць ускладненую будову і свае знакі прыпынку. Ужыванне двукроп'я паміж часткамі складаных бяззлучнікавых сказаў, калі паміж імі выражаюцца паясняльныя, прычынна-выніковыя, аб'ектныя адносіны; калі другая частка выражае прамое пытанне; калі першая частка з'яўляецца абагульняльнай у дачыненні да наступных частак. Ужыванне працяжніка паміж часткамі складаных бяззлучнікавых сказаў, калі паміж імі выражаюцца ўмоўна-выніковыя, умоўна-часавыя, супраціўныя, параўнальныя адносіны; калі часткі ўказваюць на хуткую змену падзей; калі ў другой частцы паведамляецца пра нечаканы вынік. Залежнасць выбару пэўнага знака прыпынку ад сэнсава-граматычных адносін паміж часткамі складанага бяззлучнікавага сказа (пунктуацыйныя варыянты).

**Знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі**

(2 гадзіны)

Ужыванне двукроп'я паміж часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі. Ужыванне працяжніка паміж часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі. Ужыванне кропкі з коскай паміж часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі.

**Знакі прыпынку ў сказах з чужой мовай**

(2 гадзіны)

Ужыванне знакаў прыпынку ў сказах з простай мовай, калі словы аўтара знаходзяцца перад простай мовай, пасля простай мовы, у сярэдзіне простай мовы.

Ужыванне знакаў прыпынку пры афармленні цытат і эпіграфаў.

**Падагульненне вывучанага**

(3 гадзіны)

Падагульняльнае паўтарэнне пунктуацыйных нормаў.

Падагульняльны тэст па пунктуацыі і яго аналіз.

**Прагназуемыя вынікі**

Вучні павінны **ведаць**:

• сістэму правіл беларускай пунктуацыі;
• функцыі знакаў прыпынку.

Вучні павінны **ўмець**:

• ставіць знакі прыпынку ў канцы сказа (кропка, пытальнік, клічнік, шматкроп'е), пры аднародных членах з абагульняльным словам і без яго, пры зваротках, параўнальных зваротах, пры адасабленні і ў сказах з пабочнымі словамі, словазлучэннямі і сказамі, устаўнымі канструкцыямі;
• ставіць працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам;
• ставіць знакі прыпынку ў складаных сказах са злучнікавай і бяззлучнікавай сувяззю, сказах з рознымі відамі сувязі;
• правільна афармляць дыялог і канструкцыі з простай мовай;
• устанаўліваць сэнсава-граматычныя адносіны ў сказах для абгрунтавання выбару пастаноўкі знакаў прыпынку.

Вучні павінны самастойна прымяняць атрыманыя веды і ўменні і пунктуацыйна правільна афармляць уласныя пісьмовыя выказванні.

**Літаратура**

1. **Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.** – Мінск, 2008.
2. **Бурак, Л. І.** Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы / Л. І. Бурак. – Мінск, 1982.
3. **Сямешка, Л. І.** Курс беларускай мовы / Л. І. Сямешка, І. Р. Шкраба, З. І. Бадзевіч. – Мінск, 1996.
4. **Бурак, Л. І.** Сучасная беларуская мова : Сінтаксіс. Пунктуацыя / Л. І. Бурак. – Мінск, 1987.
5. **Цыбульская, С. І.** Даведнік па арфаграфіі і пунктуацыі беларускай мовы / С. І. Цыбульская, І. У. Ялынцава. – 3-е выд., выпр. – Мінск : ТетраСистемс, 2008.
6. **Клімавец, В. П.** Практыкум па беларускай мове : вучэб. метад. дапаможнік / В. П. Клімавец. – Ч. 1 : Арфаграфія. Марфалогія. – Мінск : БДЭУ, 2001.
7. **Куліковіч, У. І.** Беларускі правапіс : правілы, заданні, кантрольныя работы / У. І. Куліковіч. – Мінск : Завігар, 1998.
8. **Кавалёва, М. Ц.** Беларуская мова : дапаможнік для вучняў старэйшых класаў / М. Ц. Кавалёва, Л. П. Падгайскі. – 6-е выд., дапрац. – Мінск : Нар. асвета, 1995.
9. **Беларуская мова** : Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі / пад рэд. А. І. Падлужнага. – Мінск : Нар. асвета, 1987.

*Шлях творцы*

Мікола МІКУЛІЧ

## *“МЫ ЖЫВЁМ НАДЗЕЯЙ…”*

### ДА 130-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ГАЛЬЯША ЛЕЎЧЫКА



Гальяш Леўчык (сапр. – Ілья Ляўковіч; 1880 – 1944) прыйшоў у літаратуру на хвалі рэвалюцыйнага ўздыму 1905 г. У “Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры (ад 1905 году)” І. Дварчанін заўважаў, што гэта “тыпічны пісьменьнік-нашанівец з найбольшым прыбліжэньнем да сялянскіх пісьменьнікаў” [1, с. 286]. На наш погляд, дадзенае вызначэнне дакладна акрэслівае асаблівасці творчасці паэта, схільнай да адлюстравання народных пакут і гора. “Паэзія Г. Леўчыка, – пісаў пра яго вершы дарэвалюцыйнага перыяду А. Лойка, – па гучанні даволі аднатонная: у ёй пераважаюць матывы смутку, тугі, болю, сыноўняга плачу над нядоляй радзімы, над беспрасветнасцю жыцця мужыка, над марнасцю жыцця ўвогуле, пазбаўленага дастатку, хуткаплыннага, без якіх-небудзь выразных надзей на лепшае будучае”. І далей: “Лірыка Г. Леўчыка – лірыка яго асабістых перажыванняў, і яны ў яго вельмі напятыя, завостраныя сваёй увагай толькі на горыч жыцця. Гэтая завостранасць, паглыбленасць асабістага перажывання за народную нядолю і вылучыла Г. Леўчыка як аднаго з адметных лірыкаў на купалаўска-коласаўскай арбіце беларускай грамадзянскай лірыкі пачатку XX ст.” [2, с. 398 – 399].

Характэрная рэфлексія і журбаванне лірычнага героя са зборніка **“Чыжык беларускі”** (1912) з нагоды гаротлівага жыцця вёскі і прыгнечанага стану мужыка-беларуса, слязлівыя скаргі і нараканні былі відавочныя. Пры ўсім імкненні Г. Леўчыка намацаць грунт для істотнай выверкі рэгістраў мелодыі сваёй *“дудачкі”*, знайсці магчымасці для падзарадкі паэтычнага механізма новай ідэйна-эмацыянальнай энергіяй, свежымі, бадзёрымі настроямі і інтанацыямі (“О, сэрца, ты не плач!..”, “Годзе!”, “Мы жывём надзеяй…” і інш.), выйсці за межы пампрочліва-тужлівага перажывання яму не ўдавалася:

*Часта мне шарай гадзінай у хаце*
*Зробіцца сумна і жаль забярэ,*
*Слёзы падступяць к вачам, як дзіцяці,*
*Жыць неахвотна, і сэрца замрэ…*
*Сумна па хаце блукаю вачамі, –*
*Ціхія слёзы па твары цякуць,*
*Боль, як сава, рве мне грудзі кагцямі,*
*Думкі маркотныя жалем сякуць…* [3, с. 21].

Гэта абумоўлівалася, думаецца, не толькі асаблівасцямі духоўнай няволі беларусаў, абвостранымі палітыкай падазронасці і праследу пасля паражэння рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. грамадска-сацыяльнымі праблемамі і супярэчнасцямі. Тут сказалася таксама ўздзеянне нацыянальнай літаратурнай традыцыі, творчасці папярэднікаў, паэтаў XIX ст., асабліва калі мець на ўвазе той факт, што Г. Леўчык быў вельмі беларускім, традыцыйным пісьменнікам. Паколькі пачынаючы з 1904 г. паэт стала жыў у Варшаве, на змест яго мастацкіх пошукаў адчувальна ўплываў сум па Радзіме, Віленшчыне, па людзях і краявідах роднай Слонімшчыны. У лісце да І. Луцкевіча ад 4/17 ліпеня 1911 г. Г. Леўчык пісаў: *“Эх, здаецца, каб гэта я ўжо ў Вільні мог жыць! Загудзеў бы, зайграў бы, ажні край увесь танцаваў бы!”* [3,



**Мікалай Уладзіміравіч Мікуліч** – *літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1990), дацэнт (1997). Навуковы супрацоўнік аддзела ўзаемасувязей літаратур Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (1982), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі (1986). Працаваў у Рачэнскай сярэдняй школе Любанскага раёна (1982), Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы (1987 – 2005). Аўтар кніг і брашур "Максім Танк і сучасная беларуская лірыка" (1994), "На зломе часу" (1995), "Пошук вядзе ў глыбіню" (1998), "Максім Танк: на скразняках стагоддзя" (1999), "Паэзія рэчаіснасці" (2001), "Міхась Васілёк: паэзія давераснёўскага перыяду" (2005), "Паэзія Казіміра Сваяка" (2005), "Міхась Машара: паэзія заходнебеларускага перыяду" (2010) і інш.*

с. 113]. Гэта быў вельмі чулы, па словах У. Калесніка, "далікатны і лагодны па натуры" [4, с. 73], сентыментальнага складу чалавек, са схільнасцю да ўзрушаных, эмацыянальна-парывістых паводзін і ўчынкаў.

Яго асоба і творчасць сталі жывой ілюстрацыяй пераемнасці двух перыядаў нацыянальна-культурнага развіцця – нашаніўскага і заходнебеларускага, актуальнасці самой беларускай ідэі, сведчаннем падключанасці заходнебеларускага мастацкага слова да папярэдняга духоўна-маральнага вопыту і ідэйна-эстэтычных традыцый айчыннай паэзіі, яго арыентацыі на творчую практыку Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, некаторых іншых пісьменнікаў.

Паэзія Г. Леўчыка 1920 – 1930-х гг. засведчыла непасрэдную сувязь са з'явамі і працэсамі навакольнага свету, адлюстраванне яго паўсядзённа-побытавых аспектаў, выяўленне жывога, натуральнага чалавечага пачуцця. Яна выкрывала асаблівасці сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці і прыгнёту ў заходнебеларускім грамадстве, прыніжэння чалавечай годнасці беларусаў, факты адшчапенства і здрадніцтва, маральнай дэградацыі асобы, поўнілася звычайнымі жыццёвымі вобразамі і малюнкамі. Лірычны герой паэта знаходзіўся ў канфліктных адносінах з рэчаіснасцю, востра перажываў праблемы роднага краю, клопаты і беды свайго народа.

*Хоць з нас кроў і пот сплывае,*
*як раса, –*
*Нашу працу пазбірае:*
*серп, каса!*
*Эх! напоўніць збожжам сверны*
*родны край!*
*Будзе хлеб, хто будзе верны, –*
*так і знай!* [3, с. 59].

Творчасць Г. Леўчыка развівалася ў сілавым полі ідэйна-эстэтычнага вопыту і традыцый Я. Купалы. У дарэвалюцыйныя гады ён быў, мабыць, адным з самых тыпалагічна набліжаных да народнага песняра беларускіх аўтараў. І гэта невыпадкова. Г. Леўчыку імпанавалі чалавечыя якасці і жыццёвыя прынцыпы Я. Купалы, духоўна-светапоглядныя і мастацка-стылявыя асаблівасці яго творчасці, пазіцыя ахвярнага грамадзянска-патрыятычнага заступніцтва, якую ён абраў.

У прысвечаным свайму творчаму пабраціму і настаўніку санеце "На Купалле" (1907) Г. Леўчык засведчыў далучанасць да адвечных пластоў народнай свядомасці і маралі, інтарэсаў і памкненняў сацыяльных нізоў грамадства. Як і ў многіх творах Я. Купалы, у гэтым вершы лірычны герой паўстае ў вобразе нястомнага падарожніка, мудрага праўдашукальніка, што зморана крочыць ад адной сялібы селяніна-аратая да другой.

Чытаючы некаторыя вершы паэта, напрыклад "О, сэрца, ты не плач!..", "Хто адрокся сваіх…", "Ёй", "Дружна, брацця!..", "Мы жывём надзеяй…", "Усё пераходзе, у далі знікае…" і іншыя, міжволі звяртаеш увагу на іх тыпалагічныя паралелі і сыходжанні, зместава-вобразнае і паэтыка-стылявое перагукванне з многімі творамі Я. Купалы. Выразнае ідэйна-эстэтычнае падабенства назіраецца паміж вершамі "Хто адрокся сваіх…" Г. Леўчыка і "Песенька для некаторых маладых людзей" Я. Купалы. У Я. Купалы верш выбудоўваецца ў форме філасофска-аналітычнай развагі, раскутага маналога – з канкрэтнымі адраснымі пасыламі і пералічэннямі. Паэт скрушліва канстатуе, што, займеўшы добрыя пасады, выгадна ўладкаваўшыся ў жыцці, некаторыя *"маладыя людзі дужа вучоныя"* адмаўляюцца ад сваіх ранейшых ідэй і прынцыпаў, становяцца на шлях здрадлівага адступніцтва ад маральнага абавязку служыць інтарэсам абяздоленых і пакрыўджаных беларусаў. Дактары, *"брахунцы-адвакаты"*, інжынеры, судовыя службоўцы, банкіры і іншыя забываюць пра сваё паходжанне, з іх *"кожны сыт будзе, багацце чужою / То крыўдай, то працай размножа"* [5, с. 80]. Асноўнымі носьбітамі асуджэння двурушніцкай абыякавасці і ашуканскага крывадушша *"пярэваратняй"* маралі маладых *"паночкаў"* у Я. Купалы выступаюць іронія і сарказм:




**Ілюстрацыя да зборніка "Доля і хлеб" (1980) Гальяша Леўчыка. Мастак В. Губараў.**

*Так будзе з вас кожны слядамі йсці дзедаў,*
*Не знаючы гора ніколькі,*
*І ўсе вы, і ўсе вы палкі дармаедаў*
*Сабой павялічыце – й толькі.*
*І скажаце гэта вы некалі самі,*
*Як вам спухнуць каркі ад сала,*
*Што песенька песняй, чужымі ж трудамі*
*Жыць лёгка дый чэсць і пахвала* [5, с. 80].

Як можна заўважыць, тое, што ў Я. Купалы фігуруе ў знешне стрыманай, амаль лагоднай форме, у Г. Леўчыка набывае даволі скандэнсаваны выгляд, выяўляецца хлёстка і безапеляцыйна, з характэрным народным досціпам і красамоўствам. Ідэйна-зместавая сабранасць твора дапаўняецца дагэтуль практычна неўласцівым паэту эмацыянальна-пачуццёвым запалам і палемічнасцю. Верш звяртае на сябе ўвагу духоўна-маральнай заклапочанасцю аўтара, грамадзянска-патрыятычным пафасам, экспрэсіўнасцю моўных сродкаў:

*Хто адрокся сваіх,*
*Хто стыдацца нас стаў*
*І прыліп да чужых, –*
*Каб ён свету не знаў!*
*Мову родную хто*
*Пазабыў, асмяяў,*
*Загубіў за нішто, –*
*Каб ён свету не знаў!*
*Сваю родну зямлю*
*Хто чужынцу прадаў,*
*Скрыўдзіў вёску сваю, –*
*Каб ён свету не знаў!*
*Хто з народам не жыў*
*І карысці не даў,*
*Хто сваіх не любіў, –*
*Каб ён свету не знаў!* [3, с. 29].

Ідэйна-эмацыянальны змест верша "Хто адрокся сваіх…" быў актуалізаваны падзеямі Другой сусветнай вайны. Відаць, ён сапраўды дакрануўся да самых балючых струн душы беларуса, калі ў абноўлена-трансфармаваным выглядзе бытаваў на акупаванай ворагам тэрыторыі, вусна распаўсюджваўся як твор, спароджаны стыхіяй народнага гора і гневу, актыўнай барацьбой з фашысцкай навалай.

Заходнебеларускі перыяд у творчай працы Г. Леўчыка з'явіўся перыядам далейшага працягу і развіцця духоўна-мастацкіх традыцый Я. Купалы. Рэагуючы на складаныя жыццёвыя рэаліі, разгортванне ў краі народна-вызваленчага руху, яго паэзія ўзбагачалася новымі фарбамі і адценнямі. Яна набіралася пэўнай грамадзянска-патрыятычнай актыўнасці, была прасякнута драматызмам мыслення і перажывання, пафасам адмаўлення. Выхад Г. Леўчыка на новы этап ідэйна-эстэтычнага адлюстравання рэчаіснасці дазволіў яму шмат у чым па-іншаму зірнуць на творчую дзейнасць Я. Купалы, па-сапраўднаму адчуць увесь маштаб і сілу яго мастацкай індывідуальнасці, глыбіню і абсягі пошукаў, усвядоміць агульнанацыянальнае значэнне адкрыццяў выдатнага пісьменніка, прыкмеціць у іх і асэнсаваць новыя асаблівасці. Натуральна, што ў гэтых абставінах цяжка было ўтрымацца, каб не ісці за народным паэтам. Такія вершы Г. Леўчыка, як "Не нам, беларусам, не нам…", "Я багат, багаты", "Душыцелям слова", "Школьны званок" і іншыя, нясуць на сабе выразны адбітак Купалавага ўплыву, пераклікаюцца з яго творамі. Як і Я. Купала, Г. Леўчык паэтызаваў высокі грамадзянска-пачуццёвы стан асобы, працу па матэрыялізацыі беларускага народнага духу, рэалізацыі нацыянальнай ідэі. Імкнучыся падхапіць заступніцкую купалаўскую місію, ён бараніў стыхію роднамоўя ад засілля прышлых "ворагаў Беларушчыны", пагардлівай абыякавасці шматлікіх дамарошчаных махляроў і адшчапенцаў.

Ёсць падставы меркаваць, што ў многім знаёмствам з вершам Я. Купалы "Песні вайны" быў навеяны верш Г. Леўчыка "Дажынкі на Беларусі ў 1920 г.". Пра тое, што адзін мастацка-творчы акт стаў рэальна магчымы пасля другога, сведчыць і тая акалічнасць, што пачатковыя радкі абедзвюх строф Леўчыкавага верша з'яўляюцца трансфармаванымі варыянтамі аднаго з купалаўскіх – "І вось жніва, што за жніва!".

Перад намі тыповыя сімвалізаваныя карціны ваярскага пабоішча, якое ў сістэме індывідуальна-аўтарскага мастацкага мыслення па даўняй фальклорна-дэманалагічнай традыцыі выклікае тыпалагічныя асацыяцыі падабенства са жнівом – адвечным земляробчым заняткам чалавека. Вершы звяртаюць на сябе ўвагу адметным асэнсаваннем непапраўна-жахлівай трагедыі людскіх лёсаў, сцвярджэннем спаконных духоў-

на-гуманістычных пачаткаў жыцця. Слоўнасэнсавыя адзінкі паэтаў, кусцістыя, крамяныя, вобразна-метафарычныя малюнкі, – прадметнарэчыўныя, фактурныя; эмацыянальна-настраёвыя штрыхі і фарбы – тужлівыя, жалобныя. Разам з тым, у адрозненне ад Купалавага твора, у якім акцэнтуецца галоўным чынам першы складовы элемент асацыятыўнай тыпалогіі, тое, што супастаўляецца, у вершы Г. Леўчыка, дзе карціна ў значна большай ступені фальклорна-сімвалізаваная, першы план аддадзены таму, з чым бітва параўноўваецца, выніку супастаўлення:

*…Вось так жнеі, вось так жніва!*
*"Збожжа" шэра, чорна, сіва…*
*Гэта ж людзі ў кроўнай лужы, –*
*Серп пажаў іх гостры, дужы.*
*Не ў гумне ім – ў гробе быці,*
*Чэрві будуць малаціці…*
*Іх зярнят люд не пазнае,*
*Ўсе "снапы" пясок зраўняе* [3, с. 47].

Вершы Г. Леўчыка "Да Беларусі" і "Маё ўваскрэсенне" тыпалагічна блізкія купалаўскім творам – вершу "Я не сокал", паэме "Курган" і вершу "Песня званара".

Мастацкае аблічча паэзіі Г. Леўчыка вызначалася непасрэднасцю адчуванняў і ўяўленняў, элементамі нарысавасці і публіцыстычнасці, даволі часта сімвалізацыяй сацыяльных адносін, персаніфікаванымі карцінамі і малюнкамі. Беларусь ён паказваў як *"край крыжоў, дзе слёзы льюцца, / Дзе віхар здзеку не сціхае, / Скуль жаль і боль у свет нясуцца…"* ("Беларусь – мой край"). На думку паэта, яна свядома пала *"пад крыж сярод туманаў, / Каб сілам ворага не дацца"* [3, с. 52]. У. Калеснік абгрунтавана заўважаў: "Таленту Леўчыка больш адпавядала лірызацыя або сімвалічнае пераўтварэнне жыццёвай явы; тады надзённыя праблемы грамадскага жыцця складваліся ў вобраз народнага лёсу, які мог рэалізавацца ў рамантычных узлётах і парадоксах, несамавітых прыгодах чулай і шчырай душы" [6, с. 18].

Мастацка-пазнавальныя адкрыцці Г. Леўчыка звязаны з душэўна-пачуццёвай узрушанасцю, эмацыянальнасцю лірычнага характару ці эмацыянальна-ацэначным лірызмам, якія падпарадкоўваліся раскрыццю сацыяльна-маральнага сэнсу з'яў і працэсаў. Адметнасць стылю паэта заключалася ў тым, што гэты лірызм грунтаваўся на псіхалагічнай праўдзе падзеі і факта, рэальным душэўна-чалавечым перажыванні. Ідэйна-эмацыянальны свет героя Г. Леўчыка раскрываўся праз выяўленне яго паяднанасці з грамадскім асяроддзем. Арыентацыя на агульнае, калектыўнае, масавае ў жыцці і чалавеку, узвышаны пафас не толькі не заміналі, а наадварот прадугледжвалі ў паэта адлюстраванне канкрэтнага зместу рэчаіснасці, яе балючых праблем і канфліктаў. Яго творы характарызаваліся ўзаемадзеяннем лірыка-апавядальнага і рамантычнага пачаткаў пры пераваze першага.

Адметным у гэтых адносінах з'яўляецца верш "Да Беларусі". Першая частка цалкам пабудавана на ўзнёсласці імкненняў, вытрымана ў рамантычна-ўзвышаным, умоўна-сімвалічным плане. Мы бачым, *"каб падняці праўды сілу"*, лірычны герой Г. Леўчыка быў здольны на рашучыя дзеянні, шырокія эмацыянальныя жэсты:

*Ў бездну-пропасць кіну гора,*
*Мысль скупаю ў небе,*
*Расплывуся хваляй мора,*
*Каб забыць аб хлебе.*
*Затаплю я злую долю*
*Ў нашых слёзаў моры,*
*Палячу ў прастор на волю,*
*Каб не знаць аб горы!* [3, с. 69].

У другой частцы высокі лірычны пафас, пачуццёвая зараджанасць ідуць на спад. Тут перажыванне сведчыць пра відавочнае зніжэнне эмацыянальнай амплітуды, набліжэнне да звычайных чалавечых жаданняў, характэрную сацыяльна-гуманістычную заангажаванасць. Лірычны герой намагаецца падпарадкаваць сваю духоўна-грамадзянскую місію інтарэсам працоўнага асяроддзя, будзённым справам хлебароба:

*Цёплым ветрыкам павею*
*Па араным полі,*
*Як сейбіт, людзям засею*
*Зёрны добрай долі!* [3, с. 69].

Па словах У. Калесніка, у гэтым вершы паэт "уяўляе сябе не памяншальна – шэрым чыжыкам – і не гіпербалічна – дэманам ці былінным волатам, а чымсьці больш мерным, жыццёвым, роўным па маштабах чалавечай істоце… Праметэеўская ідэя слугавання прымае тут свойскі, Гесіёдаў, земляробскі, працоўна-аптымістычны ўклад і склад" [6, с. 22].

Часта будучы падпарадкаванай высокай пачуццёвай гаме, паэзія Г. Леўчыка звяртала на сябе ўвагу характэрнай грамадзянска-сацыяльнай скіраванасцю. Яго лірычнае перажыванне, як правіла, прадугледжвала *асаблівасці грамадскай свядомасці*, сацыяльную эмоцыю, герой адстойваў адносіны, заснаваныя на прынцыпах "рэальнага", "практычнага гуманізму".

Паэт сцвярджаў духоўна-грамадзянскую місію мастака з народа і яго пранікнёна-ўсчуленай песні, звернутай да шырокага працоўнага асяроддзя.

У вершы "Душыцелям слова" Г. Леўчык паэтызаваў ідэю свабоды роднага слова.

*Душыць магчыма слова –*
*Дух слова не ўмірае:*
*Ён над махлярствам вашым*
*Арлом увысь лятае* [3, с. 62].

Так гаварыў паэт, звяртаючыся да апанентаў. *"Здушыць"*, заняволіць слова немагчыма, даводзіў творца, бо яно з'яўляецца носьбітам свабоднага, неўміручага духу, валодае магутнай сілай, якая аб'ядноўвае, кансалідуе людзей на прынцыпах грамадзянска-патрыятычнай свядомасці і актыўнасці, забяспечвае шырокія сацыяльна-маральныя далягляды і магчымасці. Ён цвёрда верыў у тое, што прыйдуць часы, калі *"слова ў суме-жалю / Не будзе больш ніколі / Так уміраць памалу"* [3, с. 63].

Мастацкія пошукі паэта матэрыялізаваліся ў разнастайных жанравых формах. Тут былі не толькі традыцыйныя для яго вершы, але і апавяданні, публіцыстычныя артыкулы. Супрацоўніцтва з часопісамі "Заранка", "Авадзень", "Маланка" падштурхнула Г. Леўчыка да напісання дзіцячых, а таксама сатырычных вершаў, падрыхтоўкі гумарыстычных і сатырычных фальклорных твораў. У гэты час ён актыўна перакладае – найперш актуальныя для заходнебеларускай рэчаіснасці вершы вядомых польскіх і рускіх аўтараў – А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, Ю. Тувіма, К. Тэтмаера, М. Някрасава, рэлігійныя творы, што друкуюцца на старонках часопіса "Новае жыццё", штомесячнага дадатка да выдання "Pielgrzym Polski" "Дух і праўда", падрыхтоўкай якога паэт займаўся, зборніка "Божая ліра" і інш.

Творы Г. Леўчыка змяшчаліся таксама ў "Студэнцкай думцы", "Заходняй Беларусі", "Беларускім календары", іншых выданнях. Разам з тым варта заўважыць, што яны ўсё ж не так часта з'яўляліся ў друку, як таго хацелася аўтару і заслугоўвалі іх ідэйна-мастацкія асаблівасці. А. Клімовіч дадзеную акалічнасць тлумачыў супрацоўніцтвам Г. Леўчыка з метадыстамі, якое, відаць, пачалося ў часы яго сакратарства ў праўленні Беларускага камітэта і цэнтральным праўленні Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Варшаве (сярэдзіна 1920-х гг.). У 1920 – 1930-я гг., адзначаў А. Клімовіч у "Матэрыялах да біяграфічнага слоўніка дзеячаў беларускай культуры і нацыянальнага руху", паэт "быў чынны ў рэлігійнай сэкце мэтодыстаў і як такі ня меў доступу да тагачаснай заходнебеларускай прэсы" [7, арк. 193].

Вядома, што ў міжваенны перыяд Г. Леўчык хацеў *"выпусціць другое выданне гражданкай"* зборніка "Чыжык беларускі", імкнуўся апублікаваць новы паэтычны зборнік "Беларускі жаваранак", кнігу перакладзеных трыялетаў усходняй мудрасці "Мудра прыгаворка – соладка і горка", выдаць зборнікі вершаў-памфлетаў пра *"тожа-беларусаў"*, *"што нам шмат злога нарабілі"*, "Камплект дзеячоў", перакладаў папулярных польскіх і рускіх песень, *"перакладаў з паэтаў расейскіх і польскіх цікавейшыя рэчы"*, якіх *"таксама сабралася б у брашурку"*. Аднак, нягледзячы на актыўныя захады, аб чым можна меркаваць, напрыклад, па яго эпісталярнай спадчыне, пісьмах у Беларускае выдавецкае таварыства, да А. Луцкевіча, ліставанні з І. Маразовічам, І. Дварчаніным, некаторымі іншымі заходнебеларускімі дзеячамі, ажыццявіць гэтага не здолеў. Думаецца, непераадольнай перашкодай на шляху да рэалізацыі задуманага з'явілася не так супрацоўніцтва паэта з метадысцкай місіяй у Польшчы, як яго аддаленасць ад Вільні, пэўная адасобленасць ад цэнтра літаратурна-творчага жыцця Заходняй Беларусі і звязаныя з ёю цяжкасці і праблемы.

Творчасць Г. Леўчыка – адметная старонка ў гісторыі беларускай літаратуры. Балюча рэагуючы на вострыя сацыяльныя і нацыянальныя праблемы і супярэчнасці рэчаіснасці, яна выявіла рост духоўнай свядомасці народа, актывізацыю грамадска-патрыятычнага руху, нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў Заходняй Беларусі. Паэзія Г. Леўчыка вызначалася натуральнасцю адчування жыцця, непасрэднасцю думак і перажыванняў героя, схільнасцю да лірыка-апавядальнага тыпу мастацкага абагульнення, рэалістычнага адлюстравання з'яў і падзей.

**Спіс літаратуры**

1. **Дварчанін, І.** Хрэстаматыя новай беларускай літэратуры (ад 1905 году) : для старэйшых клясаў беларускіх сярэдніх школ / І. Дварчанін. – Вільня : Беларус. выдав. тав-ства, 1927. – 495 с.
2. **Лойка, А. А.** Гісторыя беларускай літаратуры : дакастрычніцкі перыяд : у 2 ч. / А. А. Лойка. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск : Выш. шк., 1989. – Ч. 2 : Падручнік для філал. фак-таў ВНУ. – 480 с.
3. **Леўчык, Г.** Доля і хлеб : выбраныя творы / Г. Леўчык. – Мінск : Маст. літ., 1980. – 192 с.
4. **Калеснік, У.** Ветразі Адысея : Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі / У. Калеснік. – Мінск : Маст. літ., 1977. – 328 с.
5. **Купала, Я.** Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. – Мінск : Маст. літ., 1995. – Т. 1 : Вершы, пераклады 1904 – 1907. – 462 с.
6. **Калеснік, У.** Лёсам пазнанае : выбраныя літаратурныя партрэты і нарысы / У. Калеснік. – Мінск : Маст. літ., 1982. – 560 с.
7. **Матэрыялы да біяграфічнага слоўніка дзеячоў беларускай культуры і нацыянальнага руху** // ЦНБ НАН Беларусі, аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Фонд 5 (А. Клімовіч). – Воп. 1. – Адз. зах. 1.

Віктар ЖЫБУЛЬ

# ВОБРАЗ ДОНА ПУЗА Ў ПАЭМЕ "ШТУРМУЙЦЕ БУДУЧЫНІ АВАНПОСТЫ!" УЛАДЗІМІРА ДУБОЎКІ

Паэма "Штурмуйце будучыні аванпосты!" (1929) займае прыкметнае месца як у творчай спадчыне Уладзіміра Дубоўкі, так і ва ўсёй беларускай паэзіі міжваеннага перыяду. Гэты складаны паводле структуры і зместу твор яшчэ доўга будзе прыцягваць увагу даследчыкаў літаратуры, а магчыма, і набываць новыя інтэрпрэтацыі. Бо сёння паэма яшчэ тоіць у сабе нямала загадак.

Бадай самы недаасэнсаваны персанаж паэмы – гратэскава-пачварны Дон Пуза, які рэдка трапляў у поле зроку літаратуразнаўцаў. Тым не менш у агульнай сістэме герояў твора ён займае асаблівае месца, увасабляе адну з важных ідэй, без якой немагчыма паўнавартаснае асэнсаванне ўсяго твора.

Нагадаем асноўныя моманты зместу паэмы. Лірычны герой (своеасаблівы двайнік аўтара) едзе ў цягніку Орша – Унеча. Менавіта такім маршрутам Уладзімір Дубоўка часта ездзіў да свайго цесця Пятра Кляўса ў вёску Студзянец Касцюковіцкага раёна. Аднак у творы вобраз цягніка мае алегарычны сэнс: ён, як вызначылі даследчыкі паэмы, сімвалізуе "гісторыю" (А. Бабарэка), "імклівы нацыянальны прагрэс" (А. Адамовіч). Перад лірычным героем ("на белым экране") разгортваюцца карціны мінулага і будучыні. З імглы з'яўляецца Пушкін, чытае свой верш "Я пережил свои желанья…", потым – Байран з вершам "I saw thee weep…" (абодва творы ўведзены ў паэму ў Дубоўкавым перакладзе: "Я перабыў свае жаданні…" і "Ты плакала… Буйной слязой…"). Прачытаўшы вершы, здані вялікіх паэтаў – усходняга і заходняга – знікаюць у тумане. Лірычны герой едзе далей, чуе размову Кандуктара і Пасажыра, актуальную для таго часу спрэчку пра пераход сялянства да сацыялізму. Кандуктар угаворвае Пасажыра-селяніна ўступіць у калектыў (г. зн. у калгас), але той адмаўляецца. Пры гэтым аргументы Пасажыра выглядаюць важкімі, пераканальнымі, поўнымі жыццёвай праўды, а контраргументы Кандуктара – "звычайнымі адчэпкамі й агульнымі месцамі, што яшчэ больш узмацняла сілу селянінавай аргументацыі" [1, с. 468]. Тым не менш менавіта з вуснаў Кандуктара гучаць два буйныя маналогі ў выглядзе пераказаных народных апавяданняў – *"пра музыку і пра тое, як ён прадаваў чорту сваю скрыпку"* і *"пра тое, як Салімонава дачка памерла ды ізноў ажыла"*, у якіх праглядаецца алегорыя на тагачасную беларускую савецкую рэчаіснасць і нават у карыкатурызаваным выглядзе "чортавых памагатых" паказаныя некаторыя прадстаўнікі беларускага літаратурнага афіцыёзу канца 1920-х гг.

Пераканаць адзін аднаго героі не здолелі: Пасажыр выйшаў на станцыі Цёмны Лес (рэальная станцыя на лініі Орша – Крычаў), так і не закончыўшы спрэчкі. Лірычнага героя хіліць на сон. І вось тут – ці тое ў сне, ці тое на яве – у вагоне і з'яўляецца Дон Пуза. Ён уяўляе з сябе агідную чалавекападобную істоту з галавою не на плячах, а ў жываце ("у пузе"): *"Глядзіць адным вокам праз пуп, / праз пуп і гаворыць пачвара. / Здаецца, што некалькі труб / уладжана ў гэту бачару"* [2, с. 183]. Тлумачэнне, якое даў сам Дон Пуза наконт незвычайнай будовы свайго цела, вылучаецца логікай парадоксу: *"Каб думкам мякчэй. / Бліжэй да мазгоў і наедак"* [2, с. 183]. Далейшы дыялог лірычнага героя з Донам Пузам нагадвае "сапсаваны тэлефон". Дон Пуза не здольны чуць і разумець суразмоўцу: усю яго ўбогую свядомасць напаўняюць думкі пра матэрыяльны дабрабыт, пра спажыву для "пуза":

*– Ды чым ты ў змаганні памог,*
*для гэтай што ўнёс асалоды?*
*– Я больш на суніцы налёг,*
*яны ж гаркаваты заўсёды…*
*– Ты ўсё на прысмакі павёў.*
*Галоўнага бачу я мала!*
*– У-га!*
*Насаліў і грыбоў,*
*а рыжыкі –*
*проста міґдалы…* [2, с. 184].

Урэшце лірычны герой – дагэтуль прадстаўлены ў паэме толькі летуценнікам і сузіральнікам – не вытрымлівае, хапае Дона Пуза і выкідвае яго з цягніка праз акно. І хоць у героя закрадаюцца думкі, што за такі ўчынак яго могуць папрасіць *"на суд крымінальны"*, ён адчувае значную палёгку: *"Ціява, / ці спраўджаны сон – / няхай больш не ходзіць за мною…"* [2, с. 185].

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 4.*

*У № 5 апублікаваны артыкул "Уладзімір Дубоўка як літаратурны крытык і навуковы дзеяч" **Тацццяны Ганчаровай-Цынкевіч** і **Тацццяны Мельнікавай**.*



Уладзімір Дубоўка (15.07.1900, в. Агароднікі Пастаўскага раёна – 20.03.1976, Масква) – паэт, перакладчык, празаік, крытык, мовазнаўца. Закончыў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю (1918). Настаўнічаў у Тульскай вобласці (1918 – 1920), служыў у Чырвонай Арміі (1920 – 1921). Пасля дэмабілізацыі працаваў метадыстам і інспектарам беларускіх школ Наркамата асветы РСФСР і займаўся на творчым аддзяленні Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытута імя В. Брусава, які скончыў у 1924 г. Быў сябрам літаратурных аб'яднанняў "Маладняк", "Узвышша", першым рэдактарам часопіса "Беларускі піянер". Працаваў рэдактарам беларускага тэксту "Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР" (1922 – 1925), адказным сакратаром пастпрэдства БССР пры ўрадзе СССР (1923 – 1924), выкладчыкам беларускай літаратуры Камуністычнага універсітэта народаў Захаду (1924 – 1927), рэдактарам "Збору законаў і загадаў рабоча-сялянскага ўраду Саюза ССР" (1926 – 1930). У 1930 г. арыштаваны па сфабрыкаванай справе Саюза вызвалення Беларусі. Зняволенне, высылку адбываў у Кіраўскай вобласці, Чувашыі, на Далёкім Усходзе, у Грузіі, Краснаярскім краі. Пасля рэабілітацыі (1957) жыў у Маскве, у 1958 г. быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР.

110

Першы верш надрукаваў у 1921 г. у газеце "Савецкая Беларусь". Выйшлі зборнікі вершаў "Строма" (Вільня, 1923), "Трысцё" (1925), "Credo" (1926), "Наля" (Масква, 1927), "Палеская рапсодыя" (1961), "Вершы" (1970), паэмы "Там, дзе кіпарысы" (1925), "І пурпуровых ветразей узвівы" (Вільня, 1939), кніжкі вершаваных казак для дзяцей "Цудоўная знаходка" (1960), "Кветкі – сонцавы дзеткі" (1963), "Казкі" (1968), "Залатыя зярняты" (1975), казак "Як сінячок да сонца лётаў" (1961), "Дзівосныя прыгоды" (1963), "Мілавіца" (1964), а таксама выбраныя творы ў 2 тамах (1959, 1965).

Аўтар аповесцей для дзяцей "Жоўтая акацыя" (1967), "Ганна Алелька" (1969), "Як Алік у тайзе заблудзіўся" (1974) і кнігі апавяданняў "Пялёсткі" (1973). Выступаў з крытычнымі, публіцыстычнымі і навуковымі артыкуламі па пытаннях беларускай мовы, літаратуры, культуры.

Вядомы і як перакладчык твораў У. Шэкспіра ("Санеты", 1964), Дж. Байрана (паэмы "Шыльёнскі вязень", "Бронзавы век", містэрыя "Каін" у зборніку "Выбранае", 1963), вершаў В. Брусава, А. Пракоф'ева, П. Тычыны, Ю. Янoніса, С. Шырвані, М. Ардубады, К. Каладзэ, Э. Чарэнца, У. Бранеўскага, Ю. Славацкага, У. Сыракомлі, Ду Фу і інш.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1962) за зборнік вершаў "Палеская рапсодыя".

---

Як справядліва зазначае Мікола Арочка, у паэмах У. Дубоўкі героі-апаненты (Лірык і Матэматык, Пасажыр і Кандуктар) уяўляюць з сябе "хутчэй умоўныя абазначэнні супрацьлеглых пазіцый, кантраставыя ўвасабленні персаніфікаваных ідэй, чым жывыя, псіхічна індывідуалізаваныя персанажы" [3, с. 491]. Нездарма, напрыклад, Лірык і Матэматык, героі папярэдняй Дубоўкавай паэмы "І пурпуровых ветразей узвівы", у першапачатковай рэдакцыі твора называліся Пачуццё і Розум [1, с. 939]. Апанентам жа Дона Пуза выступае сам аўтар: як бачым, расправіцца з брыдкім стварэннем ён даручае не Пасажыру і не Кандуктару, а ўласнаму лірычнаму двайніку. Такі ход сведчыць пра выключна негатыўнае стаўленне аўтара да Дона Пуза і, адпаведна, катэгарычнае непрыманне таго, што гэты герой увасабляе. На фоне прысутных у паэме рамантычных постацей Байрана і Пушкіна шаржаваны і вылучаны рамкай сну вобраз Дона Пуза выглядае асабліва камічна і ўспрымаецца як іншароднае цела, штосьці чужое светапогляду У. Дубоўкі.

Паказальная ў гэтым плане і гісторыя паходжання імя персанажа. Ліст паэта да Адама Бабарэкі ад 6 ліпеня 1929 г. сведчыць, што У. Дубоўка спачатку хацеў увесці ў твор Дона Кіхота з вядомага рамана Мігеля дэ Сервантэса, але потым перадумаў, замяніўшы вандроўнага рыцара-ідэаліста на яго поўнага антыпода: *"Пачаў пісаць поэму, пра якую гаварыў (з Цікавым – пра Вока і г. д.). Галоўны гэрой, які прыходзіць мяне лаяць, – ня дон Кіхот, як я думаў раней, а дон Пуза. Гаворыць ён і думае Пузам, дзе знаходзіцца і галава"* [4, с. 486]. Паводле пачатковай задумы аўтара, з'явіцца Дон Пуза павінен быў "на ішаку" [4, с. 496], больш нагадваючы нават не Дона Кіхота, а яго збраяносца Санча Панса, прозвішча якога акурат і перакладаецца з іспанскай мовы як "пуза". Такім чынам, з двух герояў знакамітага рамана У. Дубоўка зрабіў аднаго – пачварнага Дона Пуза, надаўшы яму гратэскава-фантастычныя рысы, уласцівыя персанажам нават не Сервантэса, а Ф. Рабле, Дж. Свіфта ці М. Салтыкова-Шчадрына. Магчыма, паводле аўтарскай задумы, такое "гібрыднае" імя героя мусіла выклікаць у культур-

на дасведчанага чытача адпаведныя асацыяцыі і стварыць дадатковы камічны эфект.

Што ж сімвалізуе сабой Дон Пуза? У апублікаваных на сёння літаратуразнаўчых працах найбольш разгорнутую і абгрунтаваную фармулёўку гэтага вобраза даў былы паплечнік Уладзіміра Дубоўкі па "Узвышшы" Антон Адамовіч. Паводле яго прац «Зь "яснай явы" – у "ночнае царства"» (1954) і "Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры (1917 – 1957)" (1958), Дон Пуза – гэта карыкатурызаваны "вобраз гэткага адпетага матар'ялістага, што, паводля фактычных бальшавіцкіх імкненьняў, павінен быў заступіць сабою (дый заступіў) сьведама ліквідаваных ідэалістых жыцьця і змаганьня і гэтым выклікаў трывогу за будучыню ў чулых паэтаў-узвышэнцаў" [1, с. 476 – 477]. Нагадаем, што ў беларускім літаратуразнаўстве існуюць дзве дыяметральна супрацьлеглыя трактоўкі паэмы "Штурмуйце будучыні аванпосты!". Паводле першай з іх, твор мае антысавецкую скіраванасць і ў алегарычна-іншасказальнай форме асуджае распачаты бальшавікамі курс калектывізацыі. Паводле другой, твор усхваляе калектывізацыю і індустрыялізацыю. Антон Адамовіч прытрымліваўся першай з трактовак, разглядаючы Дубоўкаву паэму ў кантэксце цэлай сістэмы метадаў мастацкай крыптаграфіі, якія паэты-ўзвышэнцы мусілі выкарыстоўваць ва ўмовах савецкай цэнзуры. Ці ж меў рацыю А. Адамовіч, калі пабачыў карыкатуру на бальшавіка-матэрыяліста і тут – у вобразе Дона Пуза? Наколькі слушнае такое тлумачэнне гэтага вобраза?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, мае сэнс звярнуцца да літаратурна-крытычных крыніц пачатку 1930-х гг., то бок напісаных амаль "па гарачых слядах": хоць паэма была адхілена ад друку, яна ў кароткі час набыла папулярнасць і распаўсюджвалася ў рукапісах. У 1931 г. выйшла кніга Аскара Канакоціна "Літаратура – зброя клясавай барацьбы", вытрымкі з якой цытуе і А. Адамовіч. Трактоўкі твора, зробленыя А. Канакоціным і А. Адамовічам, шмат у чым падобныя, толькі ў першага прыхаваная антысавецкасць У. Дубоўкі разглядаецца ў адмоўным святле (не дзіва: аўтар быў упаўнаважаным ад ЦК, прыстаўленым да "Узвышша" з мэтай "дапамагчы" суполцы "прызнаць свае памылкі"), а ў другога – у станоўчым (А. Адамовіч пісаў свае працы ў эміграцыі і абараняў іншую тэндэнцыю, уласцівую заходняй саветалогіі).

Сёння агульную карціну можа дапоўніць яшчэ адна праца, якая доўгі час лічылася страчанай, – «Увагі да "Штурмуйце будучыны аванпосты!"» (1933) Адама Бабарэкі, што з'яўляецца часткай яго дзённіка "Запіскі выгнанца". Разгледзеўшы змест паэмы, крытык звярнуў увагу на сімвалічнае, філасофска-алегарычнае напаўненне твора, наватарскую ролю У. Дубоўкі ў развіцці беларускай паэзіі, яго схільнасць да "камбінацыі новага і старога" [5]. Пра Дона Пуза А. Бабарэка ў гэтай працы піша мала – больш засяроджваецца на актуальных для таго часу эстэтычных праблемах, закранутых аўтарам у паэме. Затое некалькі ёмістых абзацаў пра Дона Пуза ёсць у чарнавіках лістоў А. Бабарэкі да А. Адамовіча, а таксама да самога У. Дубоўкі. Як і «Увагі да "Штурмуйце будучыны аванпосты!"», лісты гэтыя пісаліся ў высылцы – у 1931 – 1932 гг. Чаму ж узвышэнскі крытык у выгнанні перыядычна звяртаўся да вобраза Дона Пуза? Таму што не паспеў напісаць пра яго раней, да арышту? Магчыма, так, але прычына не толькі ў гэтым. Менавіта ў высылцы А. Бабарэка, як і іншыя ўзвышэнцы, найбольш востра адчуў усю актуальнасць створанага У. Дубоўкам вобраза. Дазволім сабе прывесці аб'ёмны фрагмент ліста А. Адамовічу (захаваўся чарнавік), напісанага ў кастрычніку 1931 г., дзе А. Бабарэка разважае над сэнсам вобраза Дона Пуза:

«Гэты вось час [выгнаньня] асабліва даваў сябе адчуваць гэты вобраз. Тады стала пытаньне, што гэта за праява такая?.. Куды ні глянеш, усюды бачыш праявы гэтага вобразу. Вось раніц[аю] раўчаі вуліц запаўняюцца рабочаю сілаю, што цячэ на фабрыкі і заводы. І тут выступае Дон. Прыходзі[ш] у ўст[анов]ы на працу. І тут той жа Дон. Выходзіш на рынак – і тут перад табою царства ўсеўладнага Дона… Пачынаеш углядацца ў твары людзей, і ў кожным з іх бачыш вобразы таго-ж Дона. Ідзеш ад бачанага, ад адчуванага ў край мысьлі, і тут бачыш, як заяўляе свае правы на ўсеўладства людзкім розумам усё той жа Дон. Гэта-ж ён увесь сьвет выводзіць з сябе – гэта ён, уважаючы сябе за пачатак усяго сьвету, ваюе цяпер за ўсеўладства над ім. <…> Я – бог. Ад людзей я патрабую безразьдзельнага сабе служэньня. Я настроен, каб яны ад галавы да пят былі запоўнены мною і толькі мною. – І ня толькі ў "вялікім", а і ў самых на першы погляд нязначных дробязях усюды гэты лыцар чалавечай "нищеты" заяўляе сябе як уладыка жыцьця і сьмерці. Вось ты ў сваіх пажаданьнях мне памянуў і кватэру, і мне ўспомнілася, як ты шукаў яе і як увесь час аклапочан ёю, і я думаў – ну ці ў гэтым моманце ня той жа Дон і ў нас… Вось так і жыве ў сьвеце і людзях гэты яшчэ не разлушчаны [г. зн. не раскрыты. – ***В. Ж.***] сьвету і людзям вобраз Дона, вобраз сусьветнай пачвары гэтай і чакае на свайго мастака, як калісьці чакаў Дон Кіхот на Сэрвантэса.

Дык чаму ж гэты вобраз стаў якраз вось тут у рад, калі гутарка ідзе пра пачатак другога схону майго жыцьцёвага шляху? Толькі ён, як той злы дух, як той спакусіцель у пустэльні, што дакляраваў Хрысту ўладу, выступаў на дарозе і ў пустэльні нашага выгнаньня, каб заўладаць намі беспа-

дзельна, каб падпарадкаваць сабе, каб скарыць наш непакорны і не[с]пакойны дух і выпятрыць наш мозак дашчэнту. Тут вось і адкрываецца ўся глыбіня Уладзікавага вершу [неразборліва], дзе йдзе і пра Дон Пузу» [6, с. 5 адв. – 6].

(Апошні сказ утрымлівае намёк на тое, што ў адным са страчаных вершаў перыяду высылкі У. Дубоўка, магчыма, яшчэ раз звярнуўся да вобраза Дона Пуза.)

Як бачым, Дон Пуза ў 1931 г., незадоўга пасля напісання паэмы, успрымаўся А. Бабарэкам часткова гэтаксама, як і А. Адамовічам у 1954 г. (як вульгарны матэрыяліст: "усё матэрыя і ўсё ад матэрыі"). Можна нават меркаваць, што А. Адамовіч узгадаў і скарыстаў некаторыя Бабарэкавы тэзы, хоць і невядома, ці дайшоў ліст да адрасата, а калі дайшоў – то ў якім выглядзе. Аднак відавочна, што А. Бабарэка бачыў у паэме і яе персанажах больш універсальны, філасофска-абагульнены сэнс. У яго, колішняга выпускніка Мінскай духоўнай семінарыі, эпізод з Донам Пузам не мог не выклікаць біблійных асацыяцый – у прыватнасці, з евангельскім сюжэтам спакушэння Хрыста д'яблам у пустэльні. Падобна, што У. Дубоўка, пішучы дыялог лірычнага героя з Донам Пузам, і сапраўды прыгадаў біблійны сюжэт, намякнуўшы на выслоўе "Не хлебам адным…" у наступнай рэмінісцэнцыі: *"– Не з сала і будзеш ты жыў, / Дон Пуза, праклятае пуза!"* [2, с. 184].

Яшчэ пра адну біблійную асацыяцыю А. Бабарэка напісаў У. Дубоўку ўзімку 1931 – 1932 гг.: «Як ніколі перада мною паўстала ўся веліч гэтага, толькі шчэ пазначанага ў саркастычных, я б сказаў, абрысах вобраза Дон Пуза ў "Штурмуйце будуч[ыні] аванпосты!". Гэта што той Мамона, які прымусіў сабе служыць цэлыя народы» [4, с. 539]. *Мамона* (пачаткова – імя бога багацця ў старажытных сірыйцаў) сустракаецца ў Новым Запавеце як сінонім багацця. Цікава, што ў рускім прастамоўі імя гэтага бога ператварылася ў слова *мамон*, якое, дарэчы, мае значэнне 'чэрава, страўнік' [7].

У іншых лістах да А. Адамовіча А. Бабарэка называе Дона Пуза "лыцарам і героем нашага часу", які ўвасабляе "вечныя клапоты аб кавалку хлеба" [8, с. 12] або "патрэбы матар'яльнага жыцьця" ўвогуле [4, с. 538]. Такім чынам, Дон Пуза ўяўляўся А. Бабарэку ўвасабленнем усёпаглынальнага матэрыяльна-спажывецкага пачатку, што змушае людзей вечна клапаціцца пра матэрыяльны дабрабыт і ў гэтым клопаце забывацца пра каштоўнасці духоўныя. І ён апаноўвае людзей незалежна ад іх прафесіі, сацыяльнага стану, палітычных поглядаў.

Сваё перажыванне выгнання А. Бабарэка ўяўляў у выглядзе "змаганьня між Донам Пузам і Дзеньдзвірам" [4, с. 538]. Хто ж такі *дзеньдзвір*? У беларускай лексікаграфіі гэтае слова зафіксавана ў значэнні 'лянотнік, лайдак, маруда'. Аднак У. Дубоўка ўжывае яго з больш станоўчым адценнем – як характарыстыку сімпатычнага яму рамантыка-летуценніка. Гэта яскрава адбілася, напрыклад, у паэме "І пурпуровых ветразей узвівы" (1929): *"Матэматык. / Дзівак ты ці рамантык, / мой дружа любы, гэта вельмі ясна. / У нашы дні руін і будаўніцтва / ты руйнаваць і будаваць павінен, / а не бадзяцца нейкім дзеньдзівірам. / Лірык. / У нашы дні і радасьці і гора / патрэбны дойліды і дзеньдзвіры. / Аднолькава іх права на паветра / ды і на сонца такжа…"* [2, с. 111]. У паэме "Кругі" (1927) словам *дзеньдзвір* У. Дубоўка характарызуе селяніна Цікаўнага, які вылучаўся празмернай дапытлівасцю, неспатольнаю прагаю ведаў. Вобраз Дубоўкавага дзеньдзвіра А. Бабарэка суадносіў з вобразам "вольнага ад працы чалавека" [4, с. 538], створаным Лукашом Калюгам у аповесці "Нядоля Заблоцкіх" (1931), і, адпаведна, супрацьпастаўляў абодвух абмежаванаму, заклапочанаму выключна ўласным наедкам Дону Пузу.

Быць жа "вольным ад працы" атаясамлівалася ва ўзвышэнцаў не з лайдацтвам, а з "працай духу", "работай вольнай мыслі", з магчымасцю разважаць над спрадвечнымі пытаннямі, чэрпаць матэрыял для будучых твораў, даваць думкам "адстояцца і аформіцца" [4, с. 539] – менавіта ў служэнні мастацтву і духоўнай сферы яны бачылі сэнс свайго жыцця. І калі раней гэтую мэту яны рэалізоўвалі, пішучы і публікуючы творы, збіраючыся на сходы літаратурнага згуртавання і выдаючы часопіс, то цяпер, у высылцы, апынуліся ў такім становішчы, калі дзеля кавалка хлеба даводзілася займацца нятворчымі відамі працы і, адпаведна, менш думаць пра хлеб духоўны. Характэрная ў гэтым сэнсе скарга А. Бабарэкі У. Дубоўку: «…гэты "Дон Пуза", у выглядзе звычайных штодзённых турбот і клопатаў аб пражытку, адбіраў у мяне ўвесь мой час. Калі, часам, і аставалася якая капля яго вольнаю, дык і то яна была атручана ягоным паветрам, і ані дзела, ані работы вольнай мысьлі яна не давала. Калі што й думалася такімі часінамі, дык гэта толькі як высновы з гэтага стану – калі хочаш, каб чалавек ня меў вольных думак, зрабі яго нявольнікам Дон Пуза, аддай яго ў няволю да гэтага пана, і будзеш тады ты спакойны ад усякай "крамолы", – Дон Пуза ўжо паклапоціцца аб тым, каб і тхнуць яму ня было калі, ня то шчэ аб чым-небудзь вольна думаць» [4, с. 539].

Вось і адчувалі выгнаныя ўзвышэнцы ўнутры сябе пастаяннае змаганне за магчымасць вызваліцца ад змушанай працы і напісаць хоць крыху новых паэтычных, празаічных ці проста дзённікавых радкоў. І калі У. Дубоўка ў пачатковы перыяд высылкі стварыў некалькі вершаў ("З-за кратаў", "…Забыўся ты. Схіліўся на да-

лоні…", "Здраднікам") і даслаў іх А. Бабарэку, той радасна ўспрыняў гэта як адну з праяў перамогі над усюдыісным Донам [4, с. 538].

Цікава, што аналагічнай Дону Пузу ўсёпаглынальна-дэструктыўнай сілай А. Бабарэку бачыўся і вобраз Камбайна. Само слова *Камбайн* у паэме "Штурмуйце будучыні аванпосты!" сустракаецца толькі адзін раз, і гэта – яе жанравае азначэнне, выведзенае ад англійскага дзеяслова *to combine* – 'камбінаваць, суладжваць, спалучаць, змешваць' [2, с. 140]. Нягледзячы на такое аўтарскае тлумачэнне, слова *Камбайн* не магло не звязвацца ў чытача з сельскагаспадарчай машынай, якая ў сваю чаргу ўвасабляла новыя працэсы ў тагачаснай вёсцы – індустрыялізацыю і калектывізацыю. І хоць у прадмове да паэмы У. Дубоўка ў духу тагачаснай афіцыйнай прапаганды называе гэтыя працэсы "вышэйшымі формамі жыцця" [2, с. 133], вобраз Камбайна выклікаў у А. Бабарэкі хутчэй адмоўную асацыяцыю: «Больш за ўсё займала мяне гэтым часам гэтая ўява Комбайна, як яна сказала сябе ня ў гэтым творы, а ў рэчаіснасьці найшла на мяне і ўвабрала паволі амаль усяго мяне і маю сям'ю ў сябе. То-ж мне ўяўляецца гэты час у вобразе гэтага "Пуза", якое разраслося да таго, што ўвабрала ў сябе і галаву з яе і мазгамі і думкамі, не таму, каб бліжэй да іх наедак зрабіць, а таму, каб яны былі бліжэй да "наедку" і яму служылі» [4, с. 539]. Такое бачанне кампетэнтным крытыкам і найбліжэйшым Дубоўкавым сябрам Камбайна і Дона Пуза ў адным вобразна-сімвалічным шэрагу сведчыць не на карысць таго, што паэма была задумана аўтарам як прапагандысцкі твор з усхваленнем калектывізацыі і індустрыялізацыі. Хутчэй, гэтыя працэсы паэт паспрабаваў паказаць аб'ектыўна, даўшы слова абодвум бакам: сялянам у вобразе Пасажыра і нацыянал-камуністычным ідэолагам у вобразе Кандуктара.

Але, акрамя закранутай тэмы калектывізацыі, паэма ахоплівае і праблемы, актуальныя для любога часу. Адна з іх і ўвасоблена аўтарам ва універсальным вобразе Дона Пуза, які – у шырокім яго разуменні – не мае прывязкі да нейкай канкрэтнай гістарычнай эпохі (напрыклад, савецкай), а прымушае і сёння задумацца пра жыццёвыя каштоўнасці. Змушанасць чалавека аддаваць перавагу матэрыяльным прыярытэтам перад духоўнымі і ёсць тое, што А. Бабарэка называў "уладаю Дон Пуза". Супраць гэтага і пратэставаў Уладзімір Дубоўка, сцвярджаючы – праз адмаўленне Дона Пуза – высокія гуманістычныя ідэалы.

**Спіс літаратуры**

1. **Адамовіч, А.** Да гісторыі беларускае літаратуры / А. Адамовіч. – Менск : Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005.
2. **Дубоўка, У.** Выбраныя творы : у 2 т. / У. Дубоўка. – Мінск : Беларусь, 1965. – Т. 2 : Паэмы, балады, казкі.
3. **Арочка, М. М.** Уладзімір Дубоўка / М. М. Арочка // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя : у 4 т. / Нац. акад. навук Беларусі; Ін-т літаратуры імя Я. Купалы. – 2-е выд. – Мінск : Беларус. навука, 2002. – Т. 2. – С. 475 – 503.
4. **"Мы застанемся чыстымі сумленьнем перад гісторыяй і народам…"** : Лісты Ўладзімера Дубоўкі да Адама Бабарэкі; Лісты Адама Бабарэкі да Ўладзімера Дубоўкі (Чарнавікі) // Arche. – 2009. – № 11-12.
5. **Бабарэка, А.** Запіскі выгнанца / А. Бабарэка // БДАМЛМ. – Ф. 407. – Воп. 1. – Адз. зах. 87. – Арк. 9 адв.
6. **Бабарэка, А.** Ліст да А. Адамовіча, кастр. 1931 г. (чарнавік) / А. Бабарэка // БДАМЛМ. – Ф. 407. – Воп. 1. – Адз. зах. 133. – Арк. 4 – 7 адв.
7. **Толковый словарь живого великорусского языка В. Даля** [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://slovari.yandex.ru/dict/dal/article/dal/03110/10700.htm.
8. **Бабарэка, А.** Ліст да А. Адамовіча, травень 1931 г. (чарнавік) / А. Бабарэка // БДАМЛМ. – Ф. 407. – Воп. 1. – Адз. зах. 86. – Арк. 11 – 13 адв.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 г.

ВЕРАСЕНЬ

**1 верасня –** 110 гадоў з дня нараджэння Сымона Баранавых (сапр. Баранаў; 1900 – 1942), празаіка

100 гадоў з дня нараджэння Андрэя Раеўскага (1910 – 1993), расійскага і беларускага рэжысёра, акцёра, заслужанага артыста Беларусі

95 гадоў з дня нараджэння Масея Сяднёва (1915 – 2001), паэта і празаіка. Жыў у ЗША

75 гадоў з дня нараджэння Лявонція Доўбуша (1935 – 2002), графіка, жывапісца, сцэнографа

70 гадоў з дня нараджэння Анатоля Майсеенкі, літаратуразнаўцы

70 гадоў з дня нараджэння Барыса Рэпіна, сцэнографа, жывапісца, графіка

**2 верасня –** 80 гадоў з дня нараджэння Анатоля Шаўні, паэта, перакладчыка, крытыка

**3 верасня –** 80 гадоў з дня нараджэння Паўла Ткачова (1930 – 1998), празаіка, літаратуразнаўцы, крытыка, заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі

**4 верасня –** 70 гадоў з дня нараджэння Леаніда Юшкевіча, піяніста, педагога

**6 верасня –** 105 гадоў з дня нараджэння Віктара Казлоўскага (1905 – 1975), паэта

**7 верасня –** 205 гадоў з дня нараджэння Яна Юзафа Бараноўскага (1805 – 1888), інжынера, эканаміста, пісьменніка

105 гадоў з дня нараджэння Георгія Бярозкі (1905 – 1982), празаіка, крытыка, літаратуразнаўцы, кінакрытыка

20 гадоў з часу адкрыцця Полацкага музея беларускага кнігадрукавання

**8 верасня –** 60 гадоў з дня нараджэння Святланы Ганчаровай-Грабоўскай, літаратуразнаўцы

**9 верасня –** 70 гадоў з дня нараджэння Інэсы Адзінцовай (1940 – 1997), спявачкі

*Працяг на с. 73, 82.*

Алесь БЕЛЬСКІ

# *"БЫЦЬ ЧАЛАВЕКАМ…"*

## СТАНАЎЛЕННЕ ІДЭІ ГУМАНІЗМУ Ў БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ КАНЦА XIX – ПАЧАТКУ XX ст.

### НА МАТЭРЫЯЛЕ ТВОРАЎ ЯНКІ КУПАЛЫ

*Заканчэнне. Пачатак у № 6.*

Янка Купала цудоўна ўсведамляў сваю ідэйна-мастацкую звышзадачу – маральна рэабілітаваць шматмільённы беларускі народ у вачах чалавецтва і свету, паказаць рэальнасць духоўнага адраджэння "Маладой Беларусі" і зацвердзіць яе права на *"свой пачэсны пасад між народамі"* ("Маладая Беларусь") [5, т. 3, с. 99]. Шлях да нацыянальнай ідэі пачаўся для Я. Купалы з думкі пра сацыяльнае вызваленне мужыка-беларуса. Паэт, падхопліваючы традыцыю Францішка Багушэвіча, яшчэ больш выразна і глыбока выявіў гуманістычную сутнасць сялянскага (па сутнасці нацыянальнага) менталітэту, маральныя каштоўнасці народнага светапогляду. У сувязі з гэтым трэба яшчэ раз адзначыць, што беларускае сялянства пераважала ў этнічным і сацыяльным складзе тагачаснага насельніцтва так званага Паўночна-Заходняга краю. Грамадства ў часы Я. Купалы па-ранейшаму было размежаванае, раз'яднанае паводле саслоўна-класавай прыналежнасці, маёмаснага і прававога становішча.

З эстэтычна-этычнага ўзвышэння чалавечай годнасці селяніна-беларуса і пачынаўся Я. Купала як паэт-гуманіст. Ён абуджаў, падкрэсліваў і сцвярджаў чалавечае ў чалавеку, людскае як вызначальнае ў жыцці-існаванні: *"Ніколі, браткі, не забуду, / Што чалавек я…"* ("Мужык") [5, т. 1, с. 52]; *"…хай быць чалавекам захоча брат мой"* ("Вы кажаце…") [5, т. 1, с. 119]; *"Долю мець будзем, – эй! будзем людзьмі!"* ("Чаго нам трэба") [5, т. 1, с. 218]. Я. Купала выдатна бачыў галоўнае, універсальнае ў чалавеку, таму і заклікаў яго адчуць сябе самога, спасцігнуць уласную існасць. Ён вёў актыўны дыялог з тымі, хто гараваў пад сялянскімі стрэхамі. Паэт заахвочваў развіццё ўнутранага патэнцыялу, рост свядомасці, без чаго немагчыма матывацыя да сацыяльнага і маральнага жыцця, наўрад ці могуць з'явіцца неабыякавасць, мэтаімкнёнасць, актыўнасць. Калі кожны ўсвядоміць, хто ён і што з сябе ўяўляе, здолее *"сказаць, што і я – чалавек"* ("Я мужык-беларус…") [5, т. 1, с. 201], то тады, кіруючыся логікай думкі Я. Купалы, і пачнецца пошук адказаў на пытанні: як жыць далей? што для гэтага трэба рабіць? куды і па што ісці?

Як і іншых паэтаў пачатку XX ст., Я. Купалу глыбока ўзрушыла народнае гора. Перад намі не проста паэт, а грамадская асоба, у светапоглядзе якой арганічна спалучана асабістае і агульнанароднае. На матэрыяле кніг "Жалейка", "Гусляр", "Шляхам жыцця" можна пераканацца, што ў аснове яго роздумаў, назіранняў ляжыць пачуццё адказнасці за навакольнае жыццё, пакуты чалавека, недасканалае ўладкаванне грамадства: *"А слёзы другіх, што ліюцца над намі, / Ці ж могуць даць спаць нам спакойна?.."* ("Шчасце") [5, т 1. с. 89]; *"Ці ж мала няшчасцяў, ці ж мала слёз мора? / Ці ж мала кайданаў, мучэнняў не ў меру?"* ("Перад бурай") [5, т. 1, с. 137]. Гуманнасць пазіцыі паэта відавочная: ён з хрысціянскім спачуваннем і шкадаваннем ставіўся да прыніжаных, спакутаваных, бяспраўных людзей, даведзеных да прымітыўнага, убогага існавання:

*О, жаль мне праз гэта вас, людзі загнаныя,*
*Цёмныя людзі, гаротныя людзі,*
*Жаль, што вы такія, праз свет пагарджаныя,*
*Жаль, што так жыцца йшчэ доўга вам будзе…*
"З маркотных думак…" [5, т. 1, с. 160].

Карціны сацыяльнай рэчаіснасці жахлівыя, змрочныя і гнятлівыя, яны ўяўляюць перакулены, дысгарманічны свет, якіператварыўся для *"цёмных, нешчаслівых"* у зямное пекла: *"І відзець страшна… / Людскі ўвесь енк і плач, / Аж хоць кладзіся ў магілу / І свету гэтага не бач"* ("З песень а бітвах") [5, т. 1, с. 62]; *"Дый над гэтай крывёю магільныя / Расплываюцца енкі сірот, / Плачуць цяжанька людзі бяссільныя, / Плача змучаны ўвесь мой народ"* ("З песень аб няволі") [5, т. 1, с. 148]. Беларускі селянін для паэта *"пеклаў цёзка"* ("Спусташэнне") [5, т. 1, с. 232]. Кола пакут для яго фатальнае, бясконцае, у такой сітуацыі крайняй нястачы і прыгнёту ён пазбаўлены самага галоўнага ў жыцці – чалавечай радасці, шчасця, долі, будучыні.

Паэт быў перакананы: беларус можа змяніць штосьці ў сваім лёсе пры ўмове ўнутранага вызвалення, разумення ўласнай вартасці. І не толькі сацыяльнай, маральнай. Выключнае месца ў

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

творчасці Я. Купалы набывае пытанне нацыянальнай ідэнтыфікацыі асобы, інакш кажучы, нацыянальнага самаўсведамлення. Паэт выступаў за захаванне самабытнага "я" беларуса ў вялікім свеце: *"…кожны народ сам сабе пан; / І беларус можа змясціцца / Ў сям'і нялічанай славян!"* ("Ворагам Беларушчыны") [5, т. 1, с. 134]. Я. Купала сцвярджаў ідэю высокай нацыянальнай годнасці беларуса, адстойваў яго духоўную паўнацэннасць і ўсклікаў: *"Жыў беларус і будзе жыць!"* ("Ворагам Беларушчыны") [5, т. 1, с. 134]. Я. Купалу займаў нацыятворчы працэс, і ён прадэманстраваў патрыятычна-пасіянарнае выяўленне ўнутраных сіл і памкненняў народа. А. Луцкевіч адзначае, што "ўсё нашае нацыянальнае сілай творчага таленту свайго Купала падымае на вышыню агульналюдскага разумення, знаходзячы ў ім і адбіраючы цэннасці агульналюдскае вагі. Гэта перадусім – вялікая краса й дух волі, гэта – магутны парыў да вызвалення і цела і духу народу, гэта – імкненне да чалавечнасці" [7, с. 245]. У паэзіі Я. Купалы вельмі выразна выяўляецца нацыянальная рыса гуманізму. Беларуса, беларускі народ паэт уключае ў кантэкст суіснавання з іншымі народамі і ўсім чалавецтвам.

У канцэпцыю чалавечай асобы Я. Купала паклаў агульназначныя ідэі і каштоўнасці, найперш такія, як свабода, справядлівасць і роўнасць. Для паэта быць чалавекам азначае *"быць вольным"* ("Вы кажаце…") [5, т. 1, с. 119]. Дасягнуць годнага існавання ў тагачаснай рэальнасці беларусу было немагчыма. Ён даўно *"не знаў… дум свабодных"*, не мог скінуць *"няволі ланцугі"* ("Там", "Ворагам Беларушчыны") [5, т. 1, с. 71, 134]. Таму паэт падчас рэвалюцыі 1905 г., ды і пазней, спадзяваўся, што на Белай Русі абудзіцца *"дух свабоды і сілы мяцежнай"* ("Перад бурай") [5, т. 1, с. 137]. Я. Купала заклікаў да актыўнага дзеяння, жыў палымянай верай у вызваленчыя сілы народа: *"Пойдзем, ўзяўшы за сцяг свой і роўнасць, і згоду, / Жыцця лепшага покуль не знойдзем, / Пойдзем, пойдзем здабываці свабоду, / Як адзін, як адзін дружна пойдзем!"* ("Пойдзем") [5, т. 1, с. 96]. Свабодалюбныя пачуцці і памкненні для паэта – найвышэйшая духоўная каштоўнасць асобы: *"Душой я вольны чалавек, / І гэткім буду цэлы век!"* ("Песня вольнага чалавека") [5, т. 1, с. 197]; *"За свабоду сваю, / Усёй душой пастаю…"* ("За свабоду сваю…") [5, т. 3, с. 40].

Свабода ўяўляецца паэту як ідэал, праява касмічных, боскіх сіл, іх уплыву на асобу чалавека. Невыпадкова матыў свабоды ў сэнсавым кантэксце вершаў паўстае поруч з вобразамі сонца, неба, зор, ветру і іншых актыўных прыродных стыхій. Герой Купалы прызнаецца: *"Малюся свабоднаму ветру – віхуры, / Што лётае птушкай ад краю да краю…"* ("Мая малітва") [5, т. 3, с. 76]. Свабода для Купалы – гэта ўнутраная прастора асобы, выяўленне яе найвышэйшай існасці. *"Дух чалавека рвецца ўдаль"* ("Кругаварот") [5, т. 2, с. 201] і перасягае зямное вымярэнне. Паэт скіроўвае нас ад хаосу, дысгармоніі рэчаіснасці да космасу, яго хараства і велічы: *"На небе свабода, святло і прыволле, – / А думцы замала: няма там людзей…"* ("Мая думка") [5, т. 2, с. 128]. Людское зямное быццё, наадварот, недасканалае, нягоды і няшчасці сталі спадарожнікамі народнага лёсу. Здаецца, ніхто і нішто не парушыць ход гісторыі. На зямлі ўладараць сон, здранцвенне, зіма, мароз, завеі… І ўсё ж насуперак гэтаму Я. Купала натхнёна паэтызуе мару пра ўсеагульную свабоду: *"Сцежку свабоднаму духу народа, / Сцежку да сонца і зор залатых!"* ("Годзе…") [5, т. 3, с. 81]. Сімвалам волі ў яго паэзіі выступае вобраз сокала:

*Як сокал, і я б мкнуў да зор:*
*Там сонца, раздолле, прастор;*
*Без жалю б пакінуў зямлю,*
*І хатку, і долю сваю.*

Вецер, і сокал, і я… [5, т. 1, с. 169].

Доля *"забранага краю"* балюча прыгнятае паэта, бо на сваёй зямлі беларус стаў чужым і паднявольным, апынуўся пад цяжкім гнётам нейкага зачараванага, беспрасветнага існавання. Сонца, зоркі – сведкі і саўдзельнікі людскога лёсу: *"Плача сонца маладое / Над планетай над старою, / Іскры сыплюцца цурком…"* ("Знямога") [5, т. 2, с. 164]. Паэт быццам заклікае нябесныя сілы перамагчы зямную цемру, зло і прасвятліць народнае жыццё. Як можна пераканацца, гуманізм аўтара ў шэрагу твораў набывае ярка выяўлены рамантычны характар.

Любоў – важны сэнсаўтваральны матыў Купалавай паэзіі. Сэрца, душа – вобразы, якія яскрава люструюць унутраны свет чалавека (вершы "Сэрца спытай…", "Адгукніся, душа!" і інш.). Стан сэрца і душы характарызуе адносіны да спрадвечнага народнага скарбу – роднага слова. Паэт адгукаецца на з'явы жыцця, хвалюецца пра вечныя нацыянальныя і агульначалавечыя каштоўнасці, і ўсё гэта выразна раскрывае гуманізм яго духоўнага светаадчування.

Свет чалавечы бачыўся Купалу як асяродак, далёкі ад сапраўднага гуманізму, наадварот, паэт з трывогай рэагаваў на нарастанне негатыўных з'яў, разбурэнне маральна-хрысціянскіх асноў жыцця: *"Колькі жудкага, / Колькі горкага / Зла ўсялякага / Ходзіць, поўзае!"* ("З песень нядолі") [5, т. 1, с. 105]; *"Свет, людзі-шэльмы / Крадуць,*

*лгуць шчыра…*" ("Паэзія") [5, т. 1, с. 108]; "*Раскрыйся нанова, магіла: / Страшней цябе людзі і свет*" ("Адвечная песня") [5, т. 7, с. 33]. Этычныя нормы знікалі, усталёўваліся ваўчыныя законы, бурлілі нянавісць і злосць. Гэта быў час пагарды да чалавека, разладу грамадства, вялікіх узрушэнняў і бітваў. Крызіс ідэі чалавека і чалавечнасці прымусіў паэта задумацца пра маштабны, эпахальны характар канфлікту дабра і зла і адначасова падштурхнуў да пошуку новай, глабальнай у сваёй аснове, гуманістычнай канцэпцыі быцця. У вершы "Чалавеку" Я. Купала гаворыць пра абмежаваныя чалавечыя магчымасці: "*Мае свет неадкрытыя сілы… / Гэтых сіл не пазнаць да магілы / Табе, думнаму цару зямлі*" [5, т. 3, с. 103].

Імкнучыся адшукаць сэнс быцця, ён востра адчуваў, што ёсць таемная духоўная крыніца ўздзеяння на чалавека. У. Гніламёдаў адзначае: "Купала як бы адчуў духоўную першаснову светабудовы, яе таямніцу, і ён па-новаму ставіць пытанне аб ролі чалавека ў светабудове" [4, с. 46]. Паэт шукаў сродак узаемасувязі з Богам, каб знайсці шлях выратавання для людзей і Бацькаўшчыны. Яму жадалася, "*каб наша малітва ўзляцела / Аж там, аж пад неба, да Бога!*" ("З сіроцкай долі") [5, т. 1, с. 101]. Пасля палымяных грамадзянскіх вершаў у абарону значнасці чалавека ён ствараў паэтычныя малітвы, у якіх прасіў "прасветласці божай" ("Дайце мне…") [5, т. 1, с. 151]. Скіраванасць чалавека і народа да Бога акрэслівае сутнасць аўтарскай канцэпцыі свету: "*Малюся… / Магутнаму Богу – Ўсясвету малюся…*" ("Мая малітва") [5, т. 3, с. 77].

Ідэя чалавекалюбства вызначальная ў паэзіі Я. Купалы, які, у чым пераконваюць многія яго творы, прытрымліваўся этыкі хрысціянскага гуманізму. Паэт марыў пра трывалую гуманістычную супольнасць людзей: "*Кіньма сваркі, звадкі; / Жыйма, як родныя дзеці / Адной нашай маткі!*" ("Любімось, мае суседзі!") [5, т. 1, с. 218]; "*Сваркі, звадкі не раз былі згубай для нас, / Разлучалі са шчасцем, з свабодай… / Хай жа з Новым Гадком новы бліжыцца час, / Брацтва, роўнасць, супольнасць і згода!*" ("Маладая Беларусь") [5, т. 2, с. 48]; "*Хай льюцца-зыльюцца ад хаты да хаты / У адно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў!*" ("Вялікдзень") [5, т. 2, с. 62]. Ён думаў пра прыгожы нацыянальны дом, дзе жыццё будзе будавацца на аснове агульначалавечых каштоўнасцей. Сэнс быцця для Купалы заключаецца ў духоўнай еднасці, чалавечым братэрстве, згодзе, мірным існаванні. Разам з тым паэт адчуваў сябе сынам свету, нават шырэй – чалавекам сусвету: "*Мой дом – прыволле звёзднай далі…*" ("Мой дом") [5, т. 2, с. 112]. У такім планетна-касмічным аспекце мысліў і М. Багдановіч: "Нашто ж на зямлі / Сваркі і звадкі, боль і горыч, / Калі ўсе мы разам ляцім / Да зор?" Гуманістычнае мысленне Я. Купалы па-сапраўднаму маштабнае, яно, як мы пераканаліся, пашыраецца да агульначалавечага, планетнага маштабу. Паэт апярэджваў сваю эпоху, ён марыў пра гуманістычны вобраз новай Беларусі і новы дзень чалавецтва. Сучасная думка сцвярджае "неабходнасць новага, Планетнага гуманізму… Мы павінны прызнаць тое, што кожны чалавек на планеце Зямля роўны іншым у сваёй вартасці і каштоўнасці, незалежна ад месца пражывання і перакананняў" [1].

Гуманізм Я. Купалы мае ўсёабдымны характар, утрымлівае ў сабе разнастайныя аспекты: сацыяльны, нацыянальны, рэлігійны, філасофска-маральны. Інакш кажучы, гуманістычны светапогляд вялікага паэта вызначаецца шматаблічнасцю і, разам з тым, характарызуецца сістэмнасцю, багаццем сэнсавых кампанентаў.

У час Першай сусветнай вайны і пераломныя 1918-ы – 1920-я гг. гуманістычны вопыт падказваў паэту, што трэба супрацьстаяць чарговым сацыяльна-палітычным катаклізмам. Яго ахапілі боль і трывога за чалавека, народ, мільёны людзей, іх лёс і будучыню (вершы "Маё цярпенне", "Нашто?", "Свайму народу", "Перад будучыняй" і інш.). У выніку Я. Купала быў адным з першых, "хто бескампрамісна бараніў традыцыі гуманізму", катэгарычна не прымаў "крывавага разгулу грамадзянскай вайны, праяў антыгуманізму, спароджаных тэрорам" [6, с. 9 – 10]. На Захадзе тады гаварылася пра "заняпад Еўропы" (О. Шпэнглер), у Беларусі таксама пачыналася вялікая катастрофа ідэі гуманізму.

Канфлікт чалавека і грамадства прывёў у 1930-я гг. да занядбання агульначалавечых каштоўнасцей. Літаратура на той час разглядалася як "зброя класавай барацьбы". Абясцэньвалася жыццё асобы, узвышалася і апраўдвалася бесчалавечнасць. Сведчаннем таму вершы "Свой прыгавор падпісваю першы…" М. Чарота, "Дзень гневу" М. Лужаніна, "Мала іх павесіць…" Я. Купалы і інш. Доўгі час культывавалася думка, што "сапраўдны гуманізм – …гуманізм сацыялістычны, які спалучае ў сабе вялікую любоў да працоўнага чалавека і лютую нянавісць да яго ворагаў" [3, с. 346]. Любоў і хрысціянскую міласэрнасць замянялі нянавісць і жорсткасць. Грамадству і літаратуры трэба было прайсці шлях цяжкіх выпрабаванняў і страт, каб урэшце знайсці гуманістычную альтэрнатыву філасофіі знішчэння і руйнавання. Аднавіць парушаны парадак светабудовы, пазначыць "шлях да чалавечае чыстаты" (К. Чорны), шлях, па якім

"наперад ісці чалавеку гуманнаму" (А. Адамовіч). Грамадства мела патрэбу ў пераўтварэнні чалавека па законах прыгажосці і дабрыні. Літаратура пераарыентоўвала свядомасць чалавека на агульначалавечыя маральныя каштоўнасці (творы К. Чорнага, І. Шамякіна, Я. Брыля, П. Панчанкі, М. Танка, В. Быкава і інш.). Невыпадкова ў новым XXI ст. як прыярытэтны вылучаецца "агульначалавечы (духоўны) узровень каштоўнасцей, якому павінны быць падпарадкаваны зямныя (матэрыяльныя) каштоўнасці, каб пазбегнуць рэгрэсу і гібелі чалавецтва" [2, с. 174]. Менавіта ўнутраным, гуманным станам чалавечай асобы і вызначаецца прагрэс грамадства, яго перспектывы. Гэта выдатна паказала беларуская класічная паэзія яшчэ на этапе свайго станаўлення.

**Спіс літаратуры**

1. **Андреева, Л. С.** Природа человека и гуманизм : междунар. науч. конф. "Природа человека и гуманизм : антропологическое измерение техногенной цивилизации", Владимир, ВГПУ, 28 – 29 сент. 2007 г. / Л. С. Андреева. – Режим доступа : www.atheismru.narod.ru/humanism/journal/45/andreyeva.htm. – Дата доступа : 16.02.2010.
2. **Башкова, Н. В.** Преображение человека в философии русского космизма / Н. В. Башкова. – М. : КомКнига, 2007. – 224 с.
3. **Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, 1917 – 1940** / В. В. Казлова [і інш.]; пад рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. – Мінск : Выш. шк., 1981. – 454 с.
4. **Гніламёдаў, У.** Янка Купала : новы погляд / У. Гніламёдаў. – Мінск : Нар. асвета, 1995. – 176 с.
5. **Купала, Я.** Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. – Мінск : Маст. літ., 1995 – 2003. – Т. 1 – 7.
6. **Лойка, А.** Галгофа : кніга лёсаў / А. Лойка. – Слонім : ГАУПП "Слонім. друкарня", 2001. – 288 с.
7. **Луцкевіч, А.** Выбраныя творы / А. Луцкевіч. – Мінск : Кнігазбор, 2006. – 460 с.

*Майстэрства творцы*

# ВОБРАЗ РУСАЛКІ Ў ВЕРШАХ ЯНКІ КУПАЛЫ

Чэрпаючы мастацкія ідэі і вобразы з найглыбейшых народных крыніц, Янка Купала ў сваёй паэзіі з надзвычайнай праўдзівасцю адлюстраваў духоўны свет і найлепшыя нацыянальныя традыцыі народа, якія перадаваліся праз стагоддзі ад пакалення да пакалення. Вобразам русалак у купалаўскай паэтычнай спадчыне ўжо не ўласціва тая першасная наіўнасць адчування свету старажытнага чалавека, калі дэманічныя прыгажуні падаваліся сапраўды рэальнымі стварэннямі. Я. Купала творча падыходзіў да адбору фальклорнага матэрыялу. Свет русалак, відмаў, вадзянікоў існаваў у казках, фантастычных народных апавяданнях, міфах, валодаў своеасаблівай вобразнай мовай, якую выразна зразумеў і выкарыстаў у сваёй творчасці Я. Купала, ідучы па шляху ўскладнення міфалагічнага аспекту. Фальклорныя вобразы русалак удала перапрацоўваліся пісьменнікам адпаведна мастацкай задуме. У вершах адлюстроўваўся не проста мясцовы каларыт, а сама сутнасць народнай душы.

Творы "Русалка" (1912), "Страшны вір" (1914) носяць выразны адбітак рамантызму. Дарэчы, яго вытокі ў творчасці паэта характарызуюцца літаратуразнаўцамі неадназначна. Да прыкладу, Р. Бярозкін лічыў, што рамантызм Я. Купалы вырастаў з рэалізму: "Купалаўскаму рамантызму папярэднічала (а не прыйшло пазней, як у большасці еўрапейскіх літаратур) і потым увесь час спадарожнічала праўдзіва-рэалістычнае і сацыяльна-канкрэтнае адлюстраванне жыцця народа" [2, с. 120]. Аднак гэтую канцэпцыю небеспадстаўна крытыкаваў І. Навуменка, сцвярджаючы, што "рамантызм вырастаў не з рэалізму… а ішоў побач з ім з першых крокаў паэтычнай работы – у паэзіі Купалы рамантычны і рэалістычны пачаткі ўзаемадзейнічаюць, насычаюцца адзін другім" [7, с. 38]. Літаратуразнаўца адзначаў, што з'яву такога парадку, як паэзія Янкі Купалы, з'яву, якая па-мастацку адлюстроўвае цэлую эпоху ў жыцці народа, цяжка, ды, бадай, і немагчыма ўціснуць у рамкі пэўнага літаратурнага стылю. Паэзія Я. Купалы ўзнялася на скрыжаванні, на самым цесным перапляценні таго і другога. Гэта так званы актыўны рамантызм. Такой думкі прытрымліваецца і У. Гніламёдаў, выказваючы меркаванне, што "купалаўскі рамантызм выявіў нецярплівыя адносіны да жыцця, адмаўленне тагачаснага ў імя будучыні. Рамантызм гэты ў пэўным сэнсе можна назваць крылатым рэалізмам, скіраваным уперад. Ён патрабаваў ёмістасці душы, сілы, здольнай ахапіць усе прадметы свету, усё чалавечае існаванне ў цэлым" [3, с. 78]. І. Шот сцвярджае, што рамантызм паэта быў звязаны з дэмакратычнымі поглядамі часу і нарадзіўся "як мастацкае асэнсаванне вызваленчай барацьбы, якая вызначала ўвесь ход

гісторыі краіны ў сучасную пісьменніку эпоху" [8, с. 91]. Па меркаваннях У. Калесніка, В. Каваленкі, у мастацкіх творах Я. Купалы прасочваецца сувязь рамантызму з нацыянальна-песеннай традыцыяй беларусаў, славянскай міфалогіяй. Паэта перш за ўсё цікавіць духоўны пачатак у чалавеку [4, с. 19]. На думку І. Багдановіч, "у купалаўскай канцэпцыі светабудовы ідэал духоўнай свабоды асобы, народа ў цэлым вымалёўваецца як вызначальны, да якога дастасоўваюцца і ідэалы сацыяльнай, палітычнай, нацыянальнай свабоды ў спецыфічных формах свайго мастацкага адлюстравання" [1, с. 59].

Важным матывам дакастрычніцкай творчасці Я. Купалы з'яўляюцца крытычныя адносіны да пасіўнасці людзей, адмаўленне іх пакорлівасці, заклік да актыўнай барацьбы за сваю будучыню. Зло ў мастацкіх творах пісьменніка мае сацыяльныя карані. Таму нават вобразы міфічных персанажаў пераасэнсоўваюцца ў плане сацыяльнай псіхалогіі.

У мастацкіх творах "Русалка", "Страшны вір" пісьменнік развівае паэтыку народных вераванняў, пашыраючы вобразна-асацыятыўнае багацце твораў, імкнецца да выяўлення чалавечага перажывання ў яго псіхалагічнай непаўторнасці і жыццёвай канкрэтнасці. У вершы **"Русалка"** Я. Купала раскрыў матыў духоўнага і сацыяльнага зняволення дзяўчыны. Выратаваннем для яе падалося развітанне з зямнымі праблемамі, людзьмі, якія *"яе гналі, яе мучылі"* [5, с. 125].

Пясняр малюе казачны свет, дзе ажываюць народныя вераванні. Свет фантастычны кантрастуе з рэальным, выглядае прывабным: *"Пойдзе гульня ў іх мёдам салодзенькім, / Развесяляцца, чары завесяць; / Вецер, лясун, русалка з вадзянікам, / Пушча, крыніца, ночка і месяц / Казку аставяць дзіўную зганнікам"* [5, с. 128]. Чытач трапляе ў адвечную пушчу, дзе чалавека падсцерагаюць незвычайныя здарэнні, дзе крыніцы вабяць да сябе ачышчальнай, гаючай моцай, дзе месяцовай ноччу прачынаюцца таемныя сілы. Гэты загадкавы свет паказаны пісьменнікам марай, якой не маглі дасягнуць у зямным жыцці дзяўчаты. Фантастычныя мроі – гэта думкі-жаданні простага люду пра шчасце.

Цікава, што Я. Купала выяўляе казачны свет чароўным, прыгожым і зусім не страшным, там назіраецца поўнае паразуменне, напрыклад паміж русалкай і вадзянікам: *"Ў ціне, як бледны месяц засвеціцца, / Будзе русалка плаваць, круціцца; / К ёй вадзянік там зблізыцца сватацца, / Выйдзе і сядзе з ёй над крыніцай"* [5, с. 126].

Праз вобраз дзяўчыны-русалкі Я. Купала выяўляе супярэчнасці рэальнага жыцця. Пісьменнік адыходзіць ад уласцівай старажытнаму чалавеку першаснай наіўнасці адчування свету і паказвае памкненні простага чалавека да духоўнай і сацыяльнай незалежнасці.

У баладзе **"Страшны вір"** раскрываюцца маральна-этычныя погляды беларуса, адлюстроўваюцца духоўныя каштоўнасці селяніна, рэзка адмаўляюцца зайздрасць і сквапнасць. Постаць русалкі, намаляваная ў творы, цалкам адпавядае народным уяўленням пра чароўных дзяўчат-русалак, якія жывуць у вірах: *"Ёсць месца, дзе ў поўнач над рэчкай, / Пакуль йшчэ пявун не пяе, / Выходзе здань дзіўная з віру / І творыць варожбы свае… / Сцюдзёная льецца вадзіца / Па целе з распушчаных кос, / А вочы блішчаць, як дзве зоры, / А вочы глядзяць да нябёс"* [6, с. 243].

Янка Купала закрануў праблему ўзаемаадносін паміж блізкімі людзьмі – сёстрамі – у найважнейшы момант іх асабістага жыцця: князь збіраецца ажаніцца з малодшай. Але зайздрасць старэйшых сясцёр прывяла да таго, што яны атруцілі дзяўчыну і кінулі ў вір. Паэт перакананы: зло не можа заставацца беспакараным. Злачынцы не знаходзяць сабе супакою, ад страху і роспачы пакідаюць яны бацькоўскі кут і ідуць у свет: *"Як страшнае скончылі дзела, / Напаў і на іх саміх страх: / Адна паляцела на захад, / Другая на ўсход знайшла шлях"* [6, с. 245].

Стаўшы зданню, дзяўчына-русалка захавала каханне да князя. Янка Купала ўхваляе вернасць, дабрыню малодшай сястры, кажа пра неўміручасць сапраўднага кахання: *"І рыцар у тую часіну / На белым агністым кані / Над вірам з'яўляецца знекуль / Ці проста выходзіць з зямлі. / З каня свайго злазіць і к здані / Падходзіць, галубіць яе, / У мокрыя косы цалуе, / Яна ж толькі нема пяе"* [6, с. 243].

**Спіс літаратуры**

1. **Багдановіч, І.** Янка Купала і рамантызм / І. Багдановіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1989. – 220 с.
2. **Бярозкін, Р. С.** Свет Купалы : думкі і назіранні / Р. С. Бярозкін. – Мінск : Беларусь, 1965. – 304 с.
3. **Гніламёдаў, У.** Янка Купала : новы погляд / У. Гніламёдаў. – Мінск : Нар. асвета, 1995. – 176 с.
4. **Калеснік, У.** Тварэнне легенды / У. Калеснік // Полымя. – 1976. – № 9. – С. 197 – 219.
5. **Купала, Я.** Вершы / Я. Купала. – Мінск : Маст. літ., 1987. – 270 с.
6. **Купала, Я.** Збор твораў : у 7 т. / Я. Купала. – Мінск : Навука і тэхніка, 1973. – Т. 3 : Вершы, пераклады (1911 – 1917). – 431 с.
7. **Навуменка, І.** Янка Купала : Духоўны воблік героя / І. Навуменка. – Мінск : Выш. шк., 1967. – 219 с.
8. **Шотт, И. М.** Фольклор в творчестве Янки Купалы (Дореволюц. период) / И. М. Шотт. – М. : Наука, 1968. – 190 с.

**Таццяна БАЛДЫШЭЎСКАЯ,**
дырэктар гімназіі № 1 г. Бялынічы.

*Драматургія і жыццё*

Сцяпан ЛАЎШУК

# ЯШЧЭ НЕ ВЕЧАР

## ДА 60-ГОДДЗЯ АЛЯКСЕЯ ДУДАРАВА

*Заканчэнне. Пачатак у № 6.*

Назвы п’ес “Выбар” і “Узлёт” маюць пэўнае сімвалічнае гучанне. Сапраўды, А. Дудараў зрабіў канчатковы выбар на карысць драматургічных прыярытэтаў у творчасці, прадэманстраваўшы даволі хуткі ўзлёт свайго прафесійнага майстэрства. І няхай у гэтых п’есах яшчэ не адчуваецца тое, што даследчыкі называюць аўтарскай перажытасцю, затое паўсюдна адчуваецца аўтарская індывідуальнасць. Індывідуальнасць чалавека, які вырас у выбітым вайной краі, жадаў стаць прафесійным ваенным, афіцэрам, стаў у рэшце рэшт пісьменнікам, але пагоны капітана запасу ўсё ж займеў. Само сабою зразумела, што ў творах такога чалавека шчырае захапленне мужнасцю людзей на вайне, праслаўленне іх подзвігаў будзе спалучацца з антываенным пафасам. Пацвярджэннем гэтай думкі з’яўляецца драматычная балада ў дзвюх дзеях **“Радавыя”** (1984), у якой з надзвычайнай эмацыянальнай яркасцю асэнсоўваецца тэза пра цывілізацыйную антыгуманнасць вайны. Сваёй мастацкай мэты драматург дасягае паказам ваеннага лёсу сямейных пар: Дзерваед – Мар’я, Бушцец – Люська, Дугін – Вера. Ва ўсіх выпадках ад сямейнага ачага засталіся толькі галавешкі, таму і не дзівяць прызнанні герояў-пераможцаў, якія дайшлі да Берліна, што ў іх не засталося душэўных рэсурсаў для мірнага жыцця.

П’еса “Радавыя” мела проста-такі трыумфальны поспех. Спектакль Купалаўскага тэатра (1984, рэжысёр В. Раеўскі) быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР за 1985 год. У тым жа годзе да саракавой гадавіны Перамогі п’есу паставілі практычна ва ўсіх куточках тэатральных абшараў савецкай краіны. У тым ліку і на сцэнах такіх легендарных тэатраў, як Малы тэатр Саюза СССР, Цэнтральны тэатр Савецкай Арміі, Вялікі драматычны тэатр у Ленінградзе і інш.

Такім поспехам магла пахваліцца хіба што толькі драма “Парог”. Вось як пра гэта гаворыць сам аўтар: *«У 1980-м напісаўся “Парог”, які нечакана для ўсіх, у тым ліку і для мяне, стаў лідэрам тэатральнага пракату. На карце былога СССР цяжка знайсці горад, дзе гэтая п’еса не была б пастаўлена. І ва ўсіх без выключэння ігралася па сто і больш разоў. У Купалаўцаў аж за трыста. Ставілася і ў замежжы»*.

Пачатак 1980-х гг. у гісторыі СССР быў не самым плённым, яго не зусім дакладна ахрысцілі стагнацыйным. Усё яшчэ магутная краіна сутыкнулася з шэрагам крызісных праблем, грамадства знаходзілася ў прадчуванні перамен. А. Дудараў хутчэй інтуітыўна, але беспамылкова ўлавіў духоўныя імператывы часу, таму дыялогі яго п’есы нярэдка ператвараліся ў дыялогі сцэны і залы, а не самая дасканалая ў мастацкіх адносінах п’еса зрабілася хітом сезона. Самае цікавае заключалася ў тым, што аўтар запрашаў гледачоў на дыспут без колькі-небудзь пэўнай праграмы, нават без “тэзісаў”, паколькі і сам вельмі цьмяна ўяўляў прычыны духоўных дысбалансаў. Сапраўды, хіба можна ўсур’ёз успрымаць інвектывы ў адрас супляменнікаў сімпатычнага аўтару бамжа-алкаголіка Андрэя Буслая, якому здалося, што ўсе беды грамадства ад залішняй меркантыльнасці існавання, калі сытасць і рацыяналізм забіваюць душу? Праўда, ёсць яшчэ ў п’есе пазасцэнічны вобраз пісьменніка-казачніка Максіма Пакутовіча, які ўмее лячыць аблудныя душы пякучымі словамі-пропаведзямі. Але і ў тых пропаведзях не было нічога арыгінальнага. Аднак тое, што ў яго не зводзіліся пацыенты, сведчыла аб пашырэнні ў грамадстве пачуцця непрыкаянасці. А гэта заўсёды лічылася калі не знакам бяды, дык прадвеснікам будучых сацыяльных узрушэнняў. Менавіта таму глядач, а гэта, як правіла, самая актыўная частка грамадства, і запаўняў тэатральную залу, калі давалі спектакль пад назваю “Парог”, – там можна было зверыць уласныя назіранні, падумаць пра час і пра сябе.

Тэма непрыкаянасці яшчэ неаднойчы ўзнікне ў творах А. Дударава – “Адцуранне” (1994), “У прыцемках” (1996), “Люці” (2002) і інш. У п’есах жа **“Вечар”** (1983) і **“Злом”** (1989) яна паўстала ў вельмі цікавым ракурсе. Асабліва ў першай з іх. Не лішнім будзе зазначыць, што менавіта гэта п’еса паслужыла для яе аўтара пропускам у элітны клуб самых выбітных айчынных драматургаў. І яшчэ. Да гэтай п’есы А. Дудараў прымерваўся доўгі час, накідваючы эскізы сюжэта ў некаторых апавяданнях, сцэнарыях тэлефільмаў. Адсюль тая гранічная мастацкая дакладнасць, з якой увасоблены вобразы персанажаў, рэалізавана ідэйная задума твора. Паміраe неперспектыўная вёска Вежкі, дажываюць у ёй свой век васьмідзесяцігадовы Васіль-Мульцік, сямідзесяцівасьмігадовы Мікіта-Гастрыт і сямідзесяцішасцігадовая Ганна. Дажываюць у вялікай непрыкаянасці, забытыя роднымі дзецьмі і людзьмі. Але дзякуючы сонцапаклонніку Мульціку, гэтаму заў-

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 6.*

зытаму носьбіту глыбінных асноў народнай маралі з яе арыентацыяй на любоў, дабрыню і стваральную працу, іх існаванне пазбавілася панылай руціннасці, горкай безнадзейнасці. Вечар жыцця – гэта час успамінаў, ацэнак мінулага, этычных падрахункаў. І добрае, і кепскае ўзгадвалі героі са светлым смуткам – магло быць і горш. Якраз гэта і абумоўлівае аптымістычнасць успрымання твора ў цэлым, чаго пры ўсім жаданні нельга сказаць пра драму “Злом”, дзея якой адбываецца на звалцы, у апошняй хаце разбуранай вёскі, дзе сабраліся маргіналы, бамжы. Гэтая п’еса выклікала вялікую цікавасць у тэатральных колах СССР, сведчаннем чаго можа служыць факт пастаноўкі яе славутымі калектывамі Маскоўскага мастацкага акадэмічнага тэатра, Ленінградскага акадэмічнага вялікага драматычнага тэатра, рускімі трупамі Рыгі, Таліна, многімі абласнымі драмтэатрамі краіны. Але потым пачалося нешта незразумелае. Маскоўскія крытыкі (Л. Анінскі ў газеце “Советская культура”, Е. Ланецкая ў часопісе “Театральная жизнь” і г. д.) далі п’есе проста-такі абструкцыяністкую ацэнку. Крытыка паставіла пад сумнеў значнасць характараў герояў п’есы, цалкам адмовіла яе аўтару ў самастойнасці творчай задумы. Такая крытыка, вядома ж, нікому даспадобы не акажацца. І каму пасля такіх слоў захочацца зноў пісаць пра сучаснасць з яе брудам, блудам ды рознымі неўладкаванасцямі. Не, не, пісаць усё ж трэба, бо без асэнсавання праблем рэчаіснасці драматургія не ўяўляецца, але можна зразумець А. Дударава, які ў газеце “Звязда” за 13 красавіка 1999 г. тлумачыў прычыны звароту да падзей мінулага: «*Мне там цікава. А ў сённяшнім дні нецікава. Таму і з’явіліся гістарычныя п’есы. Я раней пра каханне пісаў – светлае, добрае пачуццё, але яно праходзіла ўскосна. У “Князе Вітаўце” яго больш, у “Палачанцы” таксама. А ў “Чорнай панне Нясвіжа” – поўнае каханне. Упэўнены, што гэты матэрыял будзе глядзецца. Бо прыгожа, там багата пачуцця*».

Вядома ж, па п’есах А. Дударава наўрад ці будуць, як гэта мяркуе адзін з публіцыстаў, вывучаць айчынную гісторыю (залішне вольна абыходзіцца драматург з летапіснай і дакументальнай фусталогіяй), але ён сваімі п’есамі робіць надзвычай карысную справу, выконваючы запавет Максіма Гарэцкага паказваць са сцэны беларусу, што ў яго ёсць слаўнае і глыбокае мінулае. Зусім справядліва А. Дудараў лічыць свае гістарычныя п’есы значным творчым набыткам. Да асаблівага этапу адносіць ён “сваю гістарычную хроніку (маленькую частку яе) нашае Беларусі. “Князь Вітаўт”, “Чорная панна Нясвіжа”, “Палачанка”, “Усяслаў Чарадзей”, “Крыж”. Рагнеда, Рагвалод, Еўфрасіння Полацкая, Вітаўт, Ягайла, Усяслаў Чарадзей, Барбара Радзівіл… Легендарныя асобы нашай гісторыі выйшлі на тэатральныя падмосткі” (з аўтабіяграфіі). Гэта і сапраўды з’яўляецца толькі невялікай часткай нашага гістарычнага пантэона, так што працы хопіць удосталь.

За апошняе дзесяцігоддзе А. Дудараў стварыў п’есы самага рознага жанрава-стылявога і ідэйна-тэматычнага напаўнення. Як гаворыцца – на любы густ і зацікаўленасць. Некаторыя з іх успрыняліся прыемнай нечаканасцю. Маюцца на ўвазе меладрамы “Кім” (2000) і “Люцi”, якія вызначаюцца надзвычайнай дынамікай развіцця дзеі, дэтэктыўнай інтрыгай, адкрыццём невядомых у айчыннай драматургіі сацыяльных тыпаў – прадстаўнікоў гангстэрскага свету. Зрабіў пісьменнік і экскурс у гістарычнае мінулае, напісаўшы драму “Ядвіга” (2006). Аднак асноўны вектар яго творчай зацікаўленасці гэтым часам быў скіраваны на дзейнасць Драматычнага тэатра Беларускай Арміі, мастацкім кіраўніком якога ён з’яўляецца з моманту заснавання ў 2004 г. Спецыяльна да адкрыцця гэтага тэатра драматург напісаў драматычную баладу ў дзвюх дзеях “Ты помніш, Алёша…”. П’еса прысвечана гераічнай абароне Магілёва 3 – 26 ліпеня 1941 г. Для свайго тэатра А. Дудараў напісаў яшчэ адну драматычную баладу – “Не пакідай мяне…”. Даўно ўжо ў творах беларускай літаратуры тэма моладзі на вайне не раскрывалася з такой шчымлівай спачувальнасцю, захопленасцю і тактоўнасцю.

У лік двух дзесяткаў уласных п’ес А. Дудараў не ўключыў драмы, напісаныя паводле празаічных і паэтычных твораў іншых аўтараў: “Як гартавалася сталь” М. Астроўскага (1981), “Паляванне на апошняга жураўля” А. Жука (1986), “Майстар і Маргарыта” М. Булгакава (1988), “Песня пра зубра” М. Гусоўскага (1994) і інш. А між тым у гэтых п’есах добра адчуваецца дудараўская творчая індывідуальнасць, асоба. Зрэшты, адчуваецца яна і ў перакладах п’ес У. Шэкспіра “Рычард III”, “Макбет”, “Гамлет”. На добры лад гэтыя творы варта было б выдаць асобнай кнігай. Знайшоўся б пакупнік і на кнігу, складзеную са сцэнарыяў кіна- і тэлефільмаў. А наяўнасць сярод іх пісьмовага ўвасаблення славутых ва ўсім славянскім свеце “Белых Росаў” забяспечыла б гэтай кнізе прыстойны па нашым часе тыраж.

Драматург – найважнейшая і творчая, і грамадская пасада А. Дударава. Але давялося яму папрацаваць у сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі “Тэлефільма” (1979 – 1983), галоўным рэдактарам часопіса “Мастацтва” (1991 – 2002), з 1992 г. А. Дудараў узначальвае Беларускі саюз тэатральных дзеячаў. Узнагароджаны шэрагам урадавых узнагарод, у тым ліку ордэнам “Знак Пашаны”. Адзначаны, побач з Дзяржаўнай прэміяй СССР, прэміямі Ленінскага камсамола Беларусі (1982) і Ленінскага камсамола (1984). Лаўраў, як быццам бы, хапае, але зачахляць пяро падстаў няма, бо шасцідзесяцігоддзе – яшчэ не вечар. Тым больш – для чалавека творчага.

# СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ П’ЕСА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ПАДЛЕТКАЎ

**АГЛЯД**

На сучасным этапе, адлік якога карэктна весці з канца 1980-х гг., айчынная драматургія выявіла сябе надзвычай плённа. Асабліва ў жанрах, разлічаных на дзіцячую аўдыторыю. У беларускіх п’есах для дзяцей і падлеткаў канца XX – пачатку XXI ст. мы знойдзем адметную рэцэпцыю гісторыі, асэнсаванне сучаснасці, стварэнне фантастычна-казачных светаў. Сацыяльныя і светапоглядныя трансфармацыі 90-х гг. XX ст. запатрабавалі канструявання новых герояў свайго часу, раскрыцця для маладога пакалення надзённых праблем.

Традыцыйная ***школьная тэматыка*** ўвасоблена ў п’есе “Рэпетыцыя” А. Федарэнкі, сцэнках “Задачка” В. Ткачова і “Залатое правіла” Н. Башлаковай. Праблемы новых рэалій спрабуюць вырашыць праз сістэму мастацкіх вобразаў А. Саскавец у аднаактоўцы “Старэйшы брат”, Г. Марчук у меладраме “Каханне маё нешчаслівае”, А. Дзялендзік у рускамоўнай п’есе “Восы”. З. Дудзюк узнімае найбольш далікатную праблему – стасункаў паміж хлопцам і дзяўчынай (“Люба ў шлюбе”).

Тэматычная складанасць сучаснай п’есы для дзяцей і падлеткаў, глыбіня і супярэчлівасць характараў герояў не саступаюць набыткам “дарослай” драматургіі. Да таго ж разам са сталеннем кожнай новай генерацыі адбываецца не проста пашырэнне тэматычнай парадыгмы драматургіі, але і пэўная трансфармацыя мастацкага выяўлення жыццёвай праўды. Літаратура, першапачаткова адрасаваная дарослым, у значнай ступені стала фактам чытацкага жыцця маладога пакалення. А ўспрыманне драматургіі як самага складанага літаратурнага роду становіцца найбольш асэнсаваным толькі ў старэйшых класах, гадоў з 15. Нядзіўна, што ў адрозненне ад празаічных і паэтычных твораў “дарослая” драматургія ў сваім заваяванні маладой чытацкай аўдыторыі звычайна не пераступае гэтую ўзроставую мяжу ў бок яе памяншэння.

Асаблівая тэндэнцыя акрэслілася на сучасным этапе стасоўна п’ес на ***гістарычную тэматыку***, якія стала заваявалі месца ў школьнай праграме (“Звон – не малітва” І. Чыгрынава, “Барбара Радзівіл” Р. Баравіковай, “Прарок для Айчыны” А. Петрашкевіча, “Страсці па Аўдзею” У. Бутрамеева і інш.). Перад намі паўстаюць непаўторныя і разам з тым праўдзівыя, жывыя вобразы, у існаванне якіх хочацца верыць – і менавіта паводле бачання кожнага з аўтараў. Абсалютная большасць персанажаў – надзвычай удалы прыклад стварэння мастацкіх характараў. Гістарычныя п’есы, уключаныя ў школьную праграму, збліжае іх арыентацыя перадусім на выбітных дзеячаў сваіх часоў.

Нягледзячы на зніжэнне колькасці рэалістычных твораў для дзяцей і падлеткаў, назіраецца імкненне да прынцыпова новых даляглядаў. Аўтары асвойваюць тэматыку, якую абміналі дагэтуль. Шырока рэпрэзентуецца мастацкая інтэрпрэтацыя нашага мінулага. Адсюль – свежасць характараў і канфліктаў. Любы рэцыпіент у мастацкіх творах шукае не толькі адпаведнай эстэтыкі, але і пэўных, актуальных для запытанняў яго часу, адказаў. Гістарычныя драмы выяўляюць маральную канстанту, ісці да якой няпроста, але паводле яе вызначаецца характар кожнага.

Пры драматургічным ***асэнсаванні фальклору і мастацкай прозы*** перанос герояў у творы іншай формы адбываецца рознымі шляхамі. Згодна з агульнай тэндэнцыяй вобразы ў інсцэніроўках, як правіла, вядомых фальклорных ці аўтарскіх твораў маюць вялікае падабенства з аўтэнтыкамі (п’есы “Сава і Дзяцел” Т. Жураўлёвай, “Чаму кабета спачыну не мае” У. Сіўчыкава, “Мушка-зелянушка і камарык – насаты тварык” Л. Ламекі). Аднак, як відаць з некаторых іншых (“Дзедава дачка і бабіна дачка” В. Жуковіча), інсцэніроўкі хоць і захоўваюць канву першакрыніц, не заўсёды капіруюць іх. Больш за тое, крэатыўны падыход ідзе толькі на карысць драматургічнаму пераасэнсаванню прозы, вобразы яе ў выпадку просталінейнага капіравання могуць пацярпець у эстэтычным плане. Драматургія патрабуе акрэслівання характараў адметнымі сродкамі, без якіх не абысціся і ў інсцэніроўцы, інакш не адбудзецца паўнавартаснай перадачы канфлікту.

Стварэнне п’ес ***паводле народных казак***, з аднаго боку, прадвызначае тыповасць канфліктаў і архетыпавасць характараў у аўтарскіх п’есах, з іншага – дае свабоду творчага выяўлення ў развіцці калізій і стварэнні вобразаў (“Прыгоды Міхея і Марціна” У. Граўцова, “Лёгкі хлеб” А. Бычкова, “Дзе Цярэшка ды Тамаш, там поўны кірмаш…” Л. Лямезы ды шмат іншых). Адна з такіх характэрных п’ес-казак – “Дудка-самагудка” З. Дудзюк. Зло ў творы ўвасабляюць сваявольны, дэспатычны Пан і хцівы Разбойнік. Ім супрацьстаіць кемлівы, мужны і добры Кастусь – народны герой-збаўца. Эпізадычная, але канцэптуальная роля адведзена Белуну – міфалагічнаму лясному дзядку, які дорыць чароўны сродак для збавення – дудку-самагудку, а таксама прагматычнаму селяніну Кандрату. Такім чынам, персанажы ў агульных рысах нібыта знаёмыя чытачу. Аднак З. Дудзюк надае ім элементы

індывідуалізацыі. Напрыклад, Бялун літаральна праз некалькі выказванняў паўстае глыбакадумным філосафам, Разбойнік, у якога не атрымалася завалодаць светам, ператвараецца ў Падпанка, а дудка паклікана служыць толькі добрым справам, інакш яе гаспадара чакае пакаранне. Менавіта такія дэталі дадаюць твору перманентную напружанасць і не адпускаюць увагу рэцыпіента.

Розная ступень арыгінальнасці выяўляецца ў п'есах, заснаваных на ***літаратурных мастацкіх тэкстах*** ("Заяц варыць піва", "Жабкі і Чарапашка", "Чарнакніжнік" С. Кавалёва, "Чортаў скарб" А. Вольскага, "Юнак і Вядзьмар" І. Сідарука). У драматургічных перапрацоўках празаічных твораў назіраецца захаванне сутнасці канфлікту (што і зразумела: у выпадку з казкамі маем звычайна антаганізм паміж сіламі зла і дабра). А вось характары, перавандраваўшы ў іншы род літаратуры, паводзяць сябе па-рознаму: некаторыя захоўваюць тоеснасць з прататыпам, некаторыя ж паўстаюць зусім у іншым аблічча. Вядома, перанос у кантэкст драматургіі суправаджаецца мадыфікацыяй вобразаў. А ў святле рампы яны глядзяцца больш яскрава.

Большай аўтэнтычнасцю мастацкіх вобразаў і развіцця дзеяння валодаюць п'есы-казкі, якія не маюць аналогій у фальклорнай культуры, але часам настолькі ***стылізаваныя пад прадукт народнай творчасці***, што практычна не адрозніваюцца ад яго. Фальклор канцэптуальна паўплываў на малюнак характараў і сюжэтных калізій падобных аўтарскіх твораў. Такімі паўстаюць вобразы ў п'есах "Жылі-былі…" М. Захаранкі, "Страшнік Гам" П. Васючэнкі і інш. Некаторыя казкі адчулі подых постмадэрнізму. Беларуская драматургія мае два яркія прыклады своеасаблівай гульні з вядомай дзецям класікай. Калі П. Васючэнка ў "Новым калабку" канцэптуальна змяняе характар свайго пратаганіста, то Г. Аўласенка ў вершаванай п'есе "Як казкі пераблыталіся" захоўвае партрэты персанажаў адразу трох вядомых казак.

Сёння адбылося вяртанне да твораў, мастацкі матэрыял якіх пачэрпнуты з рэлігійнай культуры беларускага народа. Перадусім адзначым, што адраджаецца ***тэматыка традыцыйнай батлейкі*** з яе класічнымі вобразамі, характары якіх у п'есах, тым не менш, часта розняцца з класічнымі. С. Кавалёў, напрыклад, у п'есе пра нараджэнне Хрыстова пратаганістам робіць звычайнага Асла: яму наканавана выратаваць самога Божага Сына ("Братка Асёл").

Такім чынам, характары і канфлікты маюць розныя шляхі пранікнення ў драматургічны род літаратуры. Практыка паказвае, што шаблоннасць, адсутнасць творчага падыходу можа ім зашкодзіць. І наадварот: пераасэнсаванне з пільнай аглядкай на патрабаванні жанру пры такім пераходзе дае вобразам новае цікавае літаратурнае жыццё. Нязменным застаецца адно – сістэма каштоўнасцей, якой вывяраюцца характары дзейных асоб. Цікава, што, калі перафразаваць класіка, адмоўныя персанажы ў сваёй адмоўнасці, бадай, аднолькавыя. А вось характары герояў станоўчых маюць параўнальна высокую ступень індывідуалізацыі.

Арыгінальнасць уласна ***літаратурных п'ес-казак*** вызначаецца перадусім характарамі, народжанымі аўтарскай фантазіяй. Зразумела, фальклорных элементаў у развіцці дзеяння, вобразах цалкам пазбегнуць немагчыма, але не яны робяцца канцэптуальным стрыжнем п'есы.

Нягледзячы на шматлікасць ***навагодніх п'ес*** ("Новы год у лесе" Г. Аўласенкі, "На паляне, каля ёлкі…" Р. Бензерука, "Пад Новы год не без прыгод" М. Сіўца і інш.), характары традыцыйных персанажаў свята – Дзеда Мароза і Снягуркі – не падаюцца аднастайнымі. П. Васючэнка ("Навагодні дэтэктыў") увогуле надзяляе іх якасцямі герояў трылера. Часта асновай сістэмы вобразаў становяцца жыхары лесу, што маюць чалавечыя рысы (як заганы, так і вартасці). Характары ў такіх п'есах фарміруюцца па-рознаму. Некаторыя пісьменнікі ідуць па шляху стэрэатыпізацыі ("Вясновая песня" С. Клімковіч, "Хто вінаваты" А. Якімовіча, "Зімовая песня Жаўрука" Г. Марчука). Іншыя партрэтную палітру персанажаў ствараюць, кіруючыся лейтматывам твора ("Квак-Нэсквік" Л. Мялешкі, "Ная і Нахлебнік" З. Дудзюк, "Маленькі Анёлак" С. Кавалёва). Але ў любым выпадку найбольш удалымі атрымліваюцца індывідуалізаваныя персанажы, якія маюць тыя ці іншыя тыповыя рысы псіхалогіі і паводзін.

***Творы прыгодніцкага плана*** ніколі не перастануць быць папулярнымі сярод дзятвы, а іх героі – запамінальнымі. Рызыкоўныя прыгоды – экстрэмальныя сітуацыі – найлепшым чынам выяўляюць сутнасць і асобнага чалавека, і міжчалавечых стасункаў. Таму, напрыклад, Непаседа і Забіяка з п'есы "А як жа Непаседа" Г. Каржанеўскай напаверку аказваюцца найлепшымі сябрамі – клапатлівымі і самаахвярнымі. Да таго ж яны пераасэнсавалі да лепшага свае адносіны да прыроднага навакольнага асяроддзя. Але каб яны не прайшлі праз наладжаныя міфічнымі істотамі выпрабаванні, то такой эвалюцыі не адбылося б.

Характары персанажаў большасці прыгодніцкіх п'ес створаны на гістарычна-казачным матэрыяле (напрыклад, "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Забалоцкага" С. Кавалёва і П. Васючэнкі). Назіраецца прадукаванне так званай рыцарскай п'есы з ідэаламі і высокімі каштоўнасцямі рыцарства ("Янук, рыцар Мятлушкі" Л. Рублеўскай). Так, у п'есе "Драўляны Рыцар" С. Кавалёва малюецца ідэалізаваны ўзор прадстаўніка рыцарскай культуры. Ён не міне тых, каму патрэбна яго дапамога. Носьбіт дабрыні – звычайная драўляная

цацка, але гэты вобраз характарызуецца недасягальнай для большасці людзей ступенню чалавечнасці, робіцца для іх маральным арыенцірам.

П'еса для дзяцей дзякуючы канцэптуальным катэгорыям – перадусім канфлікту і характару – з'яўляецца адлюстраваннем мастацкага дыскурсу эпохі, рэагуе на новыя актуаліі як у жыцці грамадства, так і ў светапоглядах маладой генерацыі. Часта назіраецца ***кантамінацыя класічных казачных матываў з рэаліямі сучаснасці***, а часам і перавага апошніх. Канфлікты будуюцца на глебе, нярэдка шчодра ўзбагачанай элементамі сучаснага жыцця чалавечай цывілізацыі і актуальнай жыццёвай праблематыкай. Вобразы ўяўляюць сплаў архетыпавых рыс з якасцямі сучаснікаў ("Міжпланетны пажарнік" і "Шкляныя горы, альбо Праграміст Чароўнай даліны" Р. Баравіковай, "Канікулы на астэроідзе" і "Сінязорка" З. Дудзюк, "Кацярынка і Кэт" П. Васючэнкі).

Многія ***фантастычныя п'есы*** аб'ядноўвае перасцеражэнне ад згубных для жыцця шляхоў, на якіх па-за ўвагай застаецца тое, на чым жыццё фактычна і трымаецца, – чалавечнасць, любоў, дабрыня, а без іх інтэлект нічога нявартны. На старонкі гэтых драматургічных казак выходзяць новыя героі: на змену фальклорным (ці стылізаваным пад фальклорныя) персанажам (лепей сказаць, у дадатак да іх) ідуць вобразы з элементамі, знаёмымі дзецям па іх паўсядзённым жыцці.

Тэматыка некаторых фантастычных казак закранае ***экалагічную праблему*** ("Каляровая затока" П. Васючэнкі, "Калі дракон прачнуўся" М. Арахоўскага, "Чарнабог" Г. Каржанеўскай). Станоўчыя героі не толькі супрацьстаяць злу – яны адстойваюць чысціню навакольнага асяроддзя. У казачны свет урываюцца не самыя лепшыя рэаліі сучаснай чалавечай цывілізацыі – нават назвы ўвасаблення сіл зла як аднаго з бакоў канфлікту адпаведныя. Місія па выпраўленні сітуацыі ўскладаецца на маладое пакаленне. У якасці прыкладу можна прывесці Паўліка з п'есы "Начныя прыгоды Паўліка" Г. Марчука. Ён вядзе барацьбу са Злым Духам Асфальту. Перамогу абумоўлівае не толькі маладосць героя, але і повязь яго з традыцыямі, духоўная непарыўнасць паміж пакаленнямі: да поспеху спрычыняецца і жыццесцвярджальная музыка скрыпкі, і своечасовыя парады бабулі.

Як відаць, напрыканцы XX ст. беларуская п'еса-казка распачала якасна новы этап развіцця. Аднак нягледзячы на шырокую мадэрнізацыю, асучасніванне, захоўваюцца традыцыйныя творчыя падыходы, перадусім у аксіялогіі. Пры мадэляванні характараў адзначаецца большая разняволенасць і фантазія. Адзінае застаецца нязменным – вастрыня сутыкнення прадстаўнікоў антаганістычных сіл, што дазваляе аўтарам належным чынам раскрыць іх характары, якія нясуць у сабе і тыповыя рысы, і індывідуальныя. Большасць п'ес-казак рэпрэзентуе класічным чынам сканструяваныя характары, г. зн. іх маральна-этычная дыферэнцыяцыя дастаткова экспліцытная (што адэкватна ўзроставай псіхалогіі). У той самы час усё шырэй практыкуецца ў драматургіі для дзяцей і падлеткаў адыход ад традыцыйных мастацкіх канонаў. Таму часам палярнасць характараў немагчыма вызначыць адразу на пачатку п'есы (напрыклад, рыцар Дармедонт з "Маленькага зброяносца" П. Васючэнкі). Такі творчы падыход дастаткова дзейсны, бо праз загадкавасць вобраза ці псіхалагічную нечаканасць павышаецца цікавасць рэцыпіента да твора.

Галерыя мастацкіх характараў сведчыць пра высокую ступень іх індывідуалізацыі на сучасным этапе пры захаванні тыповых маральных якасцей рознапалярных герояў. Сучасныя творцы і ў п'есах для малодшых дзяцей больш выразна звяртаюцца да пэўных, звычайна эвалюцыйных змен у характарах герояў: Віхурык ("Спадчына бабулі Зімавухі" Л. Рублеўскай), Пеўнік і Індык ("Качка Гапа" Н. Марчук). Знаходзяцца характары, якія не з'яўляюцца носьбітамі дабра ці зла. Між тым яны дастаткова цэльныя і канцэптуальна неабходныя ("Хведар Жылка і сапраўдныя асілкі" А. Мінкіна).

Высокая дакладнасць пры падзеле большасці казачных персанажаў на станоўчых і адмоўных мае на мэце набліжэнне да эстэтычнага ідэалу шляхам канкрэтызацыі яго рыс у святле сфарміраванай на працягу шматвяковай гісторыі аксіялогіі. У той самы час мастацкі метад твораў, напісаных у рэалістычнай манеры, не дазваляе прымітызаваць стварэнне характару шляхам надзялення яго адназначнымі псіхалагічнымі рысамі, размеркавання паміж рознапалярнымі героямі катэгарычна адпаведных ім якасцей. Выкрышталізоўваецца своеасаблівая тэндэнцыя да мінімізацыі мастацкага характару ў драматургіі для дзяцей і падлеткаў. Яна выражаецца ў надзяленні героя тымі якасцямі (пры замоўчванні, вынясенні за дужкі менш важных псіхалагічных рыс), без якіх нельга было б абысціся пры стварэнні ўсебаковага партрэта. Такім чынам, характар уключае канкрэтныя штрыхі, што становяцца яго стрыжнем, а поўны псіхалагічны партрэт адыходзіць на другі план, робіцца фонам, які не заўсёды бачны.

Увогуле ў стварэнні характараў і мадэляванні канфліктаў у літаратурнай п'есе-казцы вызначальнай з'яўляецца тэма, якая прапануе спосабы яе раскрыцця. Адсюль – шырокі спектр мастацкіх сродкаў у фарміраванні характараў: ад пачэрпнутых у вуснай народнай творчасці да цалкам выдуманых, фантастычных, што не абмінаюць фарбаў, перманентна падкінутыя надзённасцю.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК,**
супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага
музея Якуба Коласа.

# ЯРКІЯ ГРАНІ ТАЛЕНТУ АКАДЭМІКА СЕІТА КАСКАБАСАВА



Сёлета 24 чэрвеня споўнілася 70 гадоў дырэктару Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Аўэзава Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Казахстан, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Казахстан, члену Міжнароднага таварыства фалькларыстаў (Фінляндыя), доктару філалагічных навук, прафесару, акадэміку НАН Рэспублікі Казахстан Сеіту Аскаравічу Каскабасаву.

Пасля заканчэння Казахскага педагагічнага інстытута імя Абая ў 1964 г. Сеіт Аскаравіч усё сваё жыццё звязаў з фундаментальнай навукай. Абранае поле – фальклорная спадчына казахскага народа – на той час было складанай галіной гуманітарнай навукі, паколькі сістэмных даследаванняў з выкарыстаннем новых навуковых падыходаў яшчэ не было. Гэтую нішу запоўніў С. Каскабасаў, прымяніўшы сістэмны міждысцыплінарны падыход да вывучэння эпічнай спадчыны казахскага народа.

Акадэмікам С. Каскабасавым упершыню праведзены класіфікацыйныя даследаванні ў галіне вуснай прозы, а таксама тыпалогіі казахскай міфалогіі. Устаноўленыя заканамернасці развіцця нацыянальнай прозы ад архаічных фальклорных формаў да сучасных аўтарскіх твораў пацверджаны працамі фалькларыстаў Башкірыі, Татарстана, Туркменіі, Кыргызстана, Узбекістана, Турцыі.

Сеітам Каскабасавым апублікавана больш за 300 работ па пытаннях гісторыі літаратуры, мастацтва, тэорыі фальклору і тэксталогіі. З яго ўдзелам выдадзены акадэмічны збор казак пра жывёл на казахскай і рускай мовах, 8 варыянтаў ліраэпасу "Козы-Корпеш і Баян сулу", фальклорныя тэксты Г. Патаніна і В. Радлава і творы жырау (казахскіх паэтаў) XVII – XIX стст., а таксама выбраныя творы Жамбыла Жабаева на рускай мове. У рамках Года Казахстана ў Расіі ў 2003 г. у Маскве апублікаваны тэксты "Козы-Корпеш и Баян сулу", "Кыз Жибек" (серыя "Эпос народов Евразии") з навуковымі каментарыямі С. Каскабасава.

Маштабныя задумы вучонага па вяртанні унікальнай эпічнай спадчыны казахскага народа рэалізаваліся ў ініцыяваным і падрыхтаваным ім выпуску 100-томнага збору "Бабалар сөздері" ("Слова продкаў"), адзінага на ўсёй тэрыторыі СНД сістэматызаванага, з навуковымі каментарыямі збору твораў розных эпічных жанраў.

За гады незалежнасці пад яго кіраўніцтвам выдадзены 10-томная акадэмічная "Гісторыя казахскай літаратуры", 3-томная "Гісторыя казахскага мастацтва", 42 тамы Поўнага збору твораў М. Аўэзава ў 50 тамах і інш.

Акадэмік Сеіт Каскабасаў паспяхова спалучае навукова-даследчую, выкладчыцкую дзейнасць з грамадскай і дзяржаўнай. У складаны час станаўлення суверэнітэту краіны ён быў прызначаны старшынёй Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Казахстан. Па ініцыятыве С. Каскабасава створаны Міжнародная асацыяцыя дзяржаўных органаў атэстацыі краін СНД (МАГАТ), навукова-даследчы цэнтр "Еўразійства" пры Еўразійскім нацыянальным універсітэце імя Л. М. Гумілёва (Астана).

Сеіт Каскабасаў – член Нацыянальнага савета пры Прэзідэнце Рэспублікі Казахстан і Грамадскага савета па дзяржаўнай праграме "Культурная спадчына" пры дзяржсакратары Рэспублікі Казахстан, член Камітэта па дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, сябра Саюза пісьменнікаў Казахстана, Сусветнай акадэміі Чынгісхана (Манголія), Міжнароднай Айтматаўскай Акадэміі (Кыргызстан).

Вялікую работу сёлетні юбіляр праводзіць па падрыхтоўцы навуковых кадраў. Пад яго кіраўніцтвам напісаны і абаронены 11 доктарскіх і 23 кандыдацкія дысертацыі па актуальных праблемах сучаснага літаратуразнаўства, фалькларыстыкі, тэксталогіі. Навуковая школа акадэміка Сеіта Каскабасава вядомая не толькі ў Рэспубліцы Казахстан, але і далёка за яе межамі. У сваіх вучняў ён выхоўвае высокую культуру даследавання, імкненне да пастаяннага навуковага пошуку, здольнасць глыбока пранікаць у сутнасць праблемы, што, зрэшты, складае яго навуковае і жыццёвае крэда.

Усё жыццё Сеіта Аскаравіча Каскабасава напоўнена яркім святлом Навукі, Асветы, Мастацтва.

**Сауле АЛТЫБАЕВА,**
вучоны сакратар Аддзялення грамадскіх і гуманітарных навук НАН Рэспублікі Казахстан, кандыдат філалагічных навук,

**Мікалай ТРУС,**
загадчык кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.



# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

*Мова мастацкіх твораў*

## РОЛЯ СІНАНІМІЧНЫХ РЭСУРСАЎ ПРЫ СТВАРЭННІ ПЕЙЗАЖНЫХ МАЛЮНКАЎ У ПРОЗЕ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Пейзажныя малюнкі, напісаныя на аснове ўражанняў ад шматлікіх вандровак па Беларусі, займаюць важнае месца ў творах Уладзіміра Караткевіча. Пісьменнік звычайна імкнецца расказаць, у якой мясцовасці адбываецца дзеянне, пры якім надвор'і, як навакольнае асяроддзе ўспрымаецца героямі, як яно на іх уплывае. Пейзажы надаюць тэксту пэўную танальнасць, настраёвасць, дапамагаюць ахарактарызаваць герояў, спрыяючы пры гэтым вырашэнню ідэйнай задумы. Ёсць у празаіка і асобныя творы, прысвечаныя прыродзе роднай краіны (апавяданне "Дрэва вечнасці").

Адзін са сродкаў для стварэння дакладных, канкрэтных і яркіх малюнкаў навакольнага свету – сінонімы, якія дазваляюць неаднастайна, шматфарбна апісваць тую самую з'яву. Уладзімір Караткевіч імкнуўся паказаць прыгажосць, непаўторнасць беларускай прыроды, таму шукаў словы для дакладнай намінацыі з'яў, трапнай характарыстыкі, абуджэння пэўных асацыяцый у чытача, надання пластычнасці замалёўкам. Інакш кажучы, пісьменнік выбіраў такія словы, якія дапамагалі паказваць багацце родных краявідаў.

Яркім, зрокава адчувальным апісаннем грушы, што цвіце апошні год, пачынаецца раман "Каласы пад сярпом тваім": *Усе галіны яе, усе вялікія расохі, да апошняга пруціка, былі ўсыпаны бурным бела-ружовым цветам. Яна кіпела, млела і раскашавалася ў пчаліным звоне, цягнула да сонца сталыя лапы і распасцірала ў яго ззянні маленькія, кволыя пальцы новых парасткаў. І была яна такая магутная і свежая, так утрапёна спрачаліся ў яе ружовым раі пчолы, што здавалася, не будзе ёй зводу і не будзе канца* (Кс, с. 7). Перадаць прыгажосць дрэва ў квецені пісьменнік у вялікай ступені здолеў дзякуючы сінонімам рознага тыпу: *галіны – расохі – пруцікі – лапы – пальцы (новых парасткаў), звод – канец, маленькі – кволы, кіпець – млець – раскашавацца, цягнуць – распасціраць.*

Сінонімы, што належаць да розных часцін мовы, нясуць у пейзажных замалёўках розную сэнсавую і эмацыянальную нагрузку. Выбар слова ў значнай ступені залежыць ад таго, з якой мэтай апісанне прыроды ўведзена ў твор. Гэтая акалічнасць часта абумоўлівае і колькасць сінонімаў, ужытых у блізкім кантэксце.

Прозе У. Караткевіча ўласцівы кароткія заўвагі пра мясцовасць, дзе адбываецца дзеянне, пра стан надвор'я і г. д. Асноўная функцыя такіх заўваг – стварыць рэалістычны фон дзеяння.

Разгорнутыя пейзажныя малюнкі надаюць твору настраёвасць, каларыт, пэўную танальнасць; характарызуюць духоўны свет героя, яго псіхалагічны стан; паэтызуюць беларускую прыроду. У. Караткевіч выбірае сінонімы, што належаць да розных часцін мовы, улічваючы не толькі іх значэнне, але і стылістычныя, эмацыянальныя адцэнні.

Найбольш важную ролю ў апісаннях прыроды адыгрываюць назоўнікі-сінонімы, выкарыстанне якіх дапамагае пазбегнуць аднастайнасці, паўтарэнняў. З гэтай мэтай У. Караткевіч звяртаецца да абсалютных сінонімаў. У кантэксце яны ўзаемазамяняльныя, а выбар слова абумоўліваецца пераважна мастацкім густам аўтара. Гэта датычыць, у прыватнасці, ужывання слоў *вясёлка – радуга*: *І тут перад вачыма дзяцей успыхнула ў тумане белая шырокая* ***вясёлка****, слаба-аранжавая звонку, шыза-блакітная знутры* (Кс, с. 134); *На павуцінках, на росным верасе раптам з'явілася другая* ***радуга*** (Кс, с. 134).

Разнастайнасць маўленню надаюць сінонімы *змрок – цемра*, а таксама не зафіксаваныя слоўнікамі беларускай літаратурнай мовы лексемы *цемрыва, цямноцце*: *А* ***цемра*** *стала такая, калі знік месяц, што адыдзі далей ад вогнішча і не пабачыш пальца на руцэ* (Дзп, с. 68); *А тут гэтыя агідныя яліны, дрыгва,* ***змрок****…* (Дзп, с. 52); *Дзеці яшчэ нейкую хвіліну стаялі аслупянелыя і глядзелі ў* ***цемрыва*** (Кс, с. 33); *Яны былі вялізныя, тыя стагі, і выглядалі ў* ***цямноцці*** *нават*

*трошкі злавесна* (Кс, с. 121). З іншага боку, выбар названых лексем звязаны з іх ледзь улоўнымі сэнсавымі адценнямі, што дапамагаюць надаць кантэксту адпаведную танальнасць. Ужыванне слоў *цемра*, *змрок* дазваляе адлюстраваць непрывабнасць пейзажу. Гэтая акалічнасць абумоўлівае пераважнае іх выкарыстанне ў апісанні маёнтка Балотныя Яліны ("Дзікае паляванне караля Стаха"), калі аўтару трэба было стварыць змрочную карціну. Слова *цямноцце* ў прыведзеным кантэксце робіць для чытача пейзаж вельмі знаёмым, нястрашным, "утульным". Тут назіраецца своеасаблівая стылістычная адпаведнасць: для апісання звычайнай вясковай карціны выкарыстоўваецца слова, што ўтворана па мадэлі, характэрнай для гутарковага маўлення.

Немалаважную ролю пры выбары сінонімаў адыгрывае светапогляд аўтара. Некаторыя пейзажныя апісанні выяўляюць пантэістычнае стаўленне пісьменніка да прыроды, якую ён успрымае як жывую істоту. Гэтым абумоўлена ўжыванне ў сінанімічным радзе *вяршыня – верхавіна – макуша* кантэкстуальнага сіноніма *галава*: *Залог гэтага – мудрыя чалавечыя вочы, чорныя рукі і апошні водсвет захаду на* ***вяршыні*** *Дрэва Вечнасці* (Дв, с. 28); *Ён* [лес] *цягнуўся амаль на сорак вёрст, і ўсе гэтыя вёрсты шумелі* ***верхавінамі*** *і маўчалі ўнізе…* (Кн, с. 105); *Толькі ля самага дома бачны былі… ліпы-волаты і адзін каржакаваты дуб, відаць, запаветны, бо ўзнosiў сваю* ***макушу*** *на некалькі сажэняў вышэй за самыя высокія яліны* (Дзп, с. 49); *Але вось ён* [дуб] *стаіць і яшчэ расце. А перад ім у маўчанні стаім мы. Неўміручая мозгам і справамі мятуліца-аднадзёнка. А ён стаіць.* ***Галава*** *ягоная ў небе* (Дв, с. 28).

Кантэкстуальныя сінонімы-назоўнікі – нярэдкая з'ява ў прозе У. Караткевіча. Часам іх выкарыстанне прымушае задумацца над тым, уступаюць словы ў сістэмныя адносіны толькі ў маўленні ці ёсць падставы для таго, каб лічыць іх моўнымі сінонімамі. Лексема *бераг* часам замяняецца словам *бок*: ***Берагі*** *Палаты і Дзвіны захлынаaліся ў бела-ружовай квецені яблынь і вішні* (Кс, с. 142); *Процілеглы* ***бераг*** *быў нізкі…* (Нз, с. 7); *І імпэтная страла вышкі, узнесеная над затокай, над зеленаватым Дняпром, над дубамі, што шырока растрэслі на процілеглым* ***баку*** *свае зялёныя шапкі* (Нз, с. 62). Гэтыя словы можна лічыць кантэкстуальнымі сінонімамі, паколькі яны не супадаюць ні ў адным са сваіх лексіка-семантычных варыянтаў. Але ёсць вельмі тонкае падабенства ў іх семантыцы, а гэта значыць, што сінанімізавацца названыя лексемы могуць не толькі ў кантэксце творчасці пэўнага пісьменніка.

Сінонімы-назоўнікі часцей за ўсё нясуць асноўную сэнсавую нагрузку ў малюнках, што ствараюць фон дзеяння. Уладзімір Караткевіч пры іх дапамозе лаканічна апісвае з'яву або прадмет. Прыметнікі і дзеясловы ў такіх замалёўках таксама выкарыстоўваюцца, але іх няшмат. Пісьменнік не імкнецца рабіць гэтыя пейзажы вельмі яркімі, каб не адцягваць увагу ад асноўных падзей.

Разгорнутыя пейзажныя малюнкі ў творах У. Караткевіча спрыяюць рэалізацыі ідэйнай задумы, таму аўтар стараецца не толькі дакладна называць прадмет гутаркі, але і характарызаваць з'явы, індывідуалізаваць апісанні, надаючы ім пэўную танальнасць, каб выклікаць у чытачоў адпаведны настрой, стварыць у іх канкрэтныя, зрокава адчувальныя ўяўленні. Дасягнуць гэтага дапамагаюць прыметнікі.

Дзякуючы прыметнікам-сінонімам, ужытым У. Караткевічам, перад чытачамі адкрываецца непаўторнае аўтарскае бачанне пейзажаў. Наваколле пераліваецца рознымі адценнямі і фарбамі: *Выдаўся* ***цудоўны***, ***раскошны*** *сонечны дзень, такі цёплы, што мы знялі тэнт, апусцілі, спадзеючыся на бязлюддзе і адсутнасць інспекцыі, ветравое шкло, скінулі кашулі і ехалі, і толькі глядзелі, пілі ўсімі вачыма прыгажосць, разлітую вакол* (Дв, с. 19).

Прыметнікі надаюць пейзажным замалёўкам канкрэтнасць. Пры іх дапамозе аўтар вельмі дакладна характарызуе навакольнае асяроддзе, фізічныя адчуванні героя: *Страсяні галіну карычкі –* ***сцюдзёны*** *і нават балючы, як шрот, дождж прамочыць з галавы да ног* (Кс, с. 129); *Чатыры хвіліны ў* ***ледзяной***, *глыбіннай, жывушчай вадзе!* (Сс, с. 86); *Я толькі паспеў адзначыць неспакойнай думкай, што гэта занадта позна для навальніцы, як на мяне, на коней, на фурмана абурыўся акіян* ***халоднай*** *вады* (Дзп, с. 27); *Зноў пах грыбніцы і* ***стылая*** *раса* (Кс, с. 124).

У некаторых кантэкстах аўтар лічыць неабходным ужыць побач некалькі сінонімаў: *А вакол мокрыя лугі з* ***высокай***, ***перастаялай*** *травой* (Нз, с. 36). Тут, выкарыстаўшы прыметнік і дзеепрыметнік, пісьменнік не толькі называе прыкмету, але і ўказвае на прычыны, якія яе абумовілі.

Сярод прыметнікаў-сінонімаў у творах У. Караткевіча пераважаюць кантэкстуальныя. Яны надаюць пейзажам суб'ектыўную падсветку, нярэдка лірыка-рамантычную: *Маланкі любяць дубы, часцей за ўсё змагаюцца менавіта з імі, бо гэта варты праціўнік, і амаль ніколі не чапляюць бярозу, такая яна* ***плакучая***, ***пакорлівая*** *і* ***ніцая*** (Дв, с. 32).

Такія сінонімы дапамагаюць зразумець стаўленне героя да пэўнай прыроднай з'явы або рэаліі, яго псіхалагічны стан, выкліканы ўбачаным: ***Цякучыя***, ***зменлівыя***, ***агідна жывыя***, *яны паўзлі і паўзлі з вяршынь, згіналіся, варушыліся, паўзлі вышэй, вышэй і вось ужо амаль спляліся ля сонца, а потым рыўком спаймалі яго* (Сс, с. 96);

*І ў сінім сутонні направа і налева, да самага далягляду, ішоў усё той жа* ***страшэнны***, ***мёртвы***, ***бязлюдны*** *яр* (Бшч, с. 143).

Некаторыя рады кантэкстуальных сінонімаў арыентаваны найперш на асацыятыўнае мысленне чытача: *Неба, якое ўсё мацней адлівае* ***пякельнай***, ***смяротнай*** *і* ***трывожнай*** *барвай* (Сс, с. 85).

Пры дапамозе прыметнікаў і назоўнікаў можна стварыць незвычайную, прыгожую і яркую, але статычную карціну. А У. Караткевіч нярэдка адлюстроўвае псіхалагічны стан героя, змены ў яго настроі, звяртаючы ўвагу на тое, як змяняецца прырода. Гэтым абумоўлена неабходнасць ужывання такіх слоў, якія дазваляць стварыць дынамічную карціну.

Свет прыроды не толькі пераліваецца рознымі фарбамі, штохвілінна змяняецца, але і гучыць. Перадаць гэта дапамагаюць дзеясловы-сінонімы: *Вакол* ***гайдаліся***, ***млелі***, ***дурманілі***, *суха* ***звінелі*** *і вільготна* ***шасталі*** *паплавы* (Бшч, с. 130); ***Крычалі*** *кнігаўкі,* ***малілі*** *аб вадзе, хоць яе досыць было на залітых лугах* (Нз, с. 35); *Кнігаўкі, спуджаныя крокамі, стаіліся, але потым пачулі ціішыню і пачалі ўзлятаць.* ***Каўкнула*** *першая* (Нз, с. 36); *Потым вусны гэтыя замёрлі, а позірк здзіўлена і безуважна спыніўся на шэрым небе, пад якім усё яшчэ лёталі і* ***енчылі*** *аб літасці кнігаўкі* (Нз, с. 37). Каб назваць рух вады, пісьменнік ужывае словы *плысці – грукатаць – цурчаць – рухацца – красціся*: *І вада гэтая не стаіць. Яна* ***плыве***, ***грукоча***, ***цурчыць*** *або проста і плаўна* ***рухаецца*** *наперад* (Сс, с. 101); *Грабы і хвоі ў невыносна злітых абдымках, зараснікі, джунглі падлеску ля ног волатаў, рэчкі, што з цяжкасцю* ***крадуцца*** *праз пушчы* (Дв, с. 19).

Уладзімір Караткевіч вельмі часта ўжывае побач у вузкім або шырокім кантэксце некалькі аказіянальных дзеяслоўных сінонімаў. На нашу думку, гэта можа быць абумоўлена рознымі прычынамі. Па-першае, аўтар імкнецца паказваць навакольны свет не застылым, а зменлівым. Па-другое, здольнасць успрымаць карціны прыроды ў творах залежыць ад асабістага жыццёвага вопыту чытачоў. Таму пісьменнік часта нібы шукае патрэбнае слова: *Яго краналі не словы, а проста мёртвы сон камянёў, дрэў, будыніны, якую* ***абкружалі***, ***сціскалі*** *дубы* (Кс, с. 66); *Вакол іх, над імі, на іх* ***каціўся***, ***наступаў*** *грозны, гарачы і вільготны травяны акіян* (Бшч, с. 130).

З дапамогай дзеясловаў У. Караткевіч выдатна паказвае хуткія змены надвор'я, развіццё з'яў: *За акном – Юрый з трывогай сачыў за гэтым – хмары пачалі* ***наплываць*** *аднекуль і* ***зацягваць*** *неба. Яны* ***накіпалі*** *амаль з неверагоднай хуткасцю,* ***грувасціліся*** *адна на адну, пасоўваючыся туды, да Дняпра, у бок горада, дзе вісела яшчэ бялёсая смуга на невялічкім лапіку блакітнага неба* (Нз, с. 12); *Полымя іхняе* ***адбівалася*** *на лёзах кос, на вострых іглах вілаў, у глыбокіх вачах,* ***чырванела*** *на кары Вечнага Дрэва. Яно* ***скакала*** *недзе высока ўверсе на ягоных галінах* (Дв, с. 28); *Шаты* ***выраслі*** *над галавою зусім нечакана. То было ўсё далёка, далёка, а то раптам* ***насунуліся*** *на дзяцей і* ***навіслі*** *над галовамі* (Кс, с. 121); *Дзённы прамень коса падае з іх, і ў промені шыза і вясёлкава* ***клубіцца*** *дым,* ***пераліваецца***, ***наплывае*** *адным завітком на другі* (Кс, с. 112).

За кошт сінонімаў, што належаць да розных часцін мовы, пісьменніку ўдалося перадаць шматфарбнасць навакольнага свету, яго зменлівасць. У прыродзе няма нічога аднастайнага, застылага, нязменнага. Таму, малюючы тую самую прыродную з'яву, ён кожны раз шукае новыя фарбы, адценні, што перадаюцца сінонімамі.

Вельмі маляўніча і жыва апісвае У. Караткевіч дождж. Для намінацыі гэтай з'явы выкарыстоўваюцца назоўнікі *дождж – лівень – залівень – залева*: *Навокал на многіх дзесяцінах шумеў і хваляваўся пад асеннім* ***дажджом*** *закінуты, глухі, чорны ад старасці і вільгаці парк* (Дзп, с. 47); *Над бясконцымі лясамі, над усім Палессем ішоў некуды і не праходзіў несамавіты* ***лівень*** (Дв, с. 33); *Што ж, за гадзіну* ***залівені*** *магло так раку наліць?* (Нз, с. 15); *Машына ледзь прабівалася праз яго* [дождж], *ляцела ў* ***залеву*** (Дв, с. 33).

Для апісання зрокавага эфекту падзення дажджу пісьменнік ужывае назоўнікі *палосы, струмені*, узмацняючы іх прыметнікамі, і словазлучэнне *вадзяныя бізуны*: *І надвор'е, на такі выпадак, стала псавацца: нізкія чорныя хмары паўзлі нам насустрач, там-сям з іх цягнуліся наўскос зямлі* ***свінцовыя палосы*** *дажджу* (Дзп, с. 26); *Па нешматлікіх галінах, па пацямнелай ад вільгаці белай кары сплываюць* ***алавяныя струмені*** *дажджу* (Дв, с. 34); *Леановіч яшчэ хвіліну маўчаў, гледзячы за акно, дзе ў сінім святле маланак буйна скакалі па зямлі густыя* ***вадзяныя бізуны*** (Нз, с. 15).

Выкарыстоўваючы пры апісанні дажджу прыметнікі, пісьменнік імкнецца выклікаць у чытача асацыяцыі, заснаваныя на жыццёвым вопыце, і такім чынам стварыць у яго ўяўленні жывую і непаўторную карціну: *І я ўвесь час уяўляў, што вось стаіць недзе ў глыбінях гэтых лясоў, у глухой пушчы, у чарнільным змроку, пад гэтым,* ***начным***, ***глухім*** *і* ***вечным***, *як стагоддзі,* ***жыватворным*** *і* ***безвыходным*** *дажджом мой, наш дуб* (Дв, с. 34).

А вось як перадае аўтар дзеянне дажджу дзеяслоўнымі сінонімамі: *Дождж* ***сцябаў*** *так, што, здавалася, паветра было менш, чым вады* (Нз, с. 13 – 14); *Скажу толькі аб дажджы, які* ***паласаваў*** *нас на працягу дванаццаці гадзін, калі мы ехалі назад* (Дв, с. 15); *Серабрыста-шэры, ён* [лівень] *амаль хаваў нават блізкія дрэвы,* ***паласа-***

***ваў***, ***сек***, *плыў цэлымі патокамі па перапоўненай вадою зямлі* (Дв, с. 33).

Ужыванне сінанімічных назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў дапамагае пісьменніку ствараць кожны раз новую карціну, нават тады, калі ён гаворыць пра з'яву, усім знаёмую. Таму апісанні дажджу надзвычай арыгінальныя і неаднастайныя.

Выкарыстанне сінанімічных рэсурсаў мовы дазволіла У. Караткевічу апаэтызаваць чалавека і прыроду, унутраны свет асобы, паказаць непаўторнае хараство навакольнага асяроддзя. Пісьменнік стварыў адметныя пейзажныя замалёўкі, што надаюць творам рамантычна-ўзнёслы характар, высвечваюць прыгажосць душы герояў. Апісанні прыроды выяўляюць уменне аўтара ўбачыць у звычайным незвычайнае, яго захопленасць прыгажосцю навакольнага свету і здольнасць адлюстраваць гэта ў творах. Арыгінальнае бачанне рэчаіснасці і выдатнае валоданне беларускай мовай дазволілі У. Караткевічу стварыць канкрэтныя, дакладныя і яркія пейзажныя малюнкі.


**Спіс літаратуры**

**Булыка, А. М.** Слоўнік іншамоўных слоў : у 2 т. / А. М. Булыка. – Мінск : БелЭн, 1999. – Т. 2.

**Караткевіч, У.** Чазенія : апавяданні і аповесць / У. Караткевіч. – Мінск : Маст. літ., 2007.

**Караткевіч, У.** Дзікае паляванне караля Стаха; Зямля пад белымі крыламі / У. Караткевіч. – Мінск : Маст. літ., 2008.

**Караткевіч, У.** Каласы пад сярпом тваім / У. Караткевіч. – Мінск : Маст. літ., 2001.

**Караткевіч, У.** Нельга забыць : раман / У. Караткевіч. – Мінск : Маст. літ., 1982.

**Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы.** – Мінск : БелЭн, 1999.


**Скарачэнні**

Бшч – Барвяны шчыт, Дв – Дрэва вечнасці, Дзп – Дзікае паляванне караля Стаха, Кн – Кніганошы, Кс – Каласы пад сярпом тваім, Нз – Нельга забыць, Сс – Сіняя-сіняя…


**Алена АСАДЧАЯ,**
саіскальнік аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі
Інстытута мовы і літаратуры
імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.



*Артыкул рэкамендаваны да друку аддзелам лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.*


*Мова заканадаўства*


Ганна КУЛЕШ


# НАЗВЫ СА ЗНАЧЭННЕМ АСОБЫ, УТВОРАНЫЯ ШЛЯХАМ СУБСТАНТЫВАЦЫІ, У ЗАКАНАДАЎСТВЕ 1920 – ПАЧАТКУ 1930-х гг.

Адметнасцю юрыдычнай тэрміналогіі з'яўляецца наяўнасць даволі значнай колькасці назваў асобы, якія ўтварыліся шляхам субстантывацыі.

Пераход слоў іншых часцін мовы ў назоўнікі як спосаб фарміравання тэрмінаў канцылярскаюрыдычнага пісьменства меў шырокае распаўсюджанне яшчэ ў старабеларускай мове. Гэтым спосабам складіся, у прыватнасці, дзве тэматычныя групы спецыяльнай лексікі – назвы падаткаў і плацяжоў і назвы асоб паводле пасады, роду заняткаў, абавязкаў [2, с. 54].

Першая група ўтварылася шляхам субстантывацыі прыметнікаў у форме ніякага роду. У старабеларускай мове ўжываліся такія назвы падаткаў, як *вижованое* 'плата за засведчанне прычыненых шкод', утвораная ад *вижъ* 'асоба, прыцягнутая да засведчання фактаў, якія датычаць аднаго асобнага злачынства' [3, с. 23], *децкованое* 'плата пасыльнаму, прыказнаму выканаўцу ў Вялікім княстве Літоўскім', утвораная ад *децкий* 'пасыльны пры вялікакняжацкім двары, судовы выканаўца' [3, с. 46], *записное* 'падатак за афармленне якоганебудзь дакумента' [3, с. 66], *нестаное* 'штраф на карысць істца і суда за няяўку ў суд', утвораная ад *нестанье* (*нестаня*) 'няяўка ў суд' [3, с. 117], *паметное* 'плата ў судзе выйграўшым бокам' [3, с. 126], *потуремное* 'плата ад вязня пры выхадзе з турмы' [3, с. 134] і інш.

Другую групу складалі прыметнікі ў форме мужчынскага роду: *возный* 'судовы выканаўца' [3, с. 26], *войский* 'ураднік, які ахоўваў маёнткі шляхціцаў-апалчэнцаў у час вайны' [3, с. 26], названы вышэй *децкий* [3, с. 45], *поводовый* 'істец' [3, с. 129], *радный* 'член гарадской упра-

*Цыкл артыкулаў **Г. Кулеш**, прысвечаных мове беларускага заканадаўства, друкуецца з № 1 (разгледжаны пераклад "Конституции РСФСР" 1918 г.). У № 3 ішла гаворка пра 1920-я гг. як пачатковы этап гісторыі сучаснага беларускага заканадаўства, у № 5 – пра полінайменнасці тэрмінаў-агентываў.*

вы' [3, с. 141], *становничий* 'службовая асоба пры двары вялікага князя, адказная за размяшчэнне і пражыванне знакамітых гасцей і паслоў' [3, с. 151] і інш. У ліку назваў асоб вылучаецца падгрупа ўтварэнняў з прыстаўкай *пад-*: *подканцлерый* 'намеснік канцлера, хавальнік малой дзяржаўнай пячаткі Вялікага княства Літоўскага' [3, с. 130], *подскарбий* 'вышэйшая службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім, якая загадвала дзяржаўным скарбам' [3, с. 130], *подстаростий* 'намеснік старасты' [3, с. 130].

У заканадаўчых тэкстах 1920 – пачатку 1930-х гг. агентыўныя назвы субстантыўнага ўтварэння мелі даволі значнае пашырэнне. Гэта пацвярджаюць лічбы, якія паказваюць іх колькасць у агульным ліку назваў асобы. Так, напрыклад, у Крымінальным кодэксе БССР 1928 г. з 75 асабовых назваў розных спосабаў утварэння субстантываваных агентываў 19 – прыблізна чацвёртая частка. У Грамадзянскім працэсуальным (1930) з 79 агентываў 15 утвораны шляхам субстантывацыі (каля 19%).

Калі ў старабеларускай мове пры ўтварэнні назваў асобы субстантываваліся прыметнікі, то ў сучаснай – пераважна дзеепрыметнікі: *зняволены, арыштаваны, асуджаны, пацярпеўшы, падсудны, хворы, паранены, забіты, адсутны, абвінавачаны, зняважаны* і інш. Прыметнікаў у значэнні назоўнікаў значна менш, напрыклад: *палонны, малалетні, няпоўналетні, дзеяздольны.* Аднак іх колькасць у беларускіх заканадаўчых тэкстах 1920 – пачатку 1930-х гг. павялічвалася за кошт таго, што ў асобных выпадках як аналагі рускіх агентываў-назоўнікаў выкарыстоўваліся ўжываныя ў ранейшы час субстантываваныя прыметнікі:

*родственник – кроўны*:

*Свидания заключенных допускаются в изоляторах… исключительно с ближайшими **родственниками*** (ИТК-27, 112)* – *Пабачэньні зьняволеных дапушчаюцца ў ізолятарах… выключна з блізкімі **кроўнымі*** (ППК-27, 112);

*следователь – следчы*:

*Оглашение данных предварительного следствия без разрешения **следователя** влечет…* (УК-28, 138) – *Абвяшчэньне матар'ялаў папярэдняга сьледзства без дазволу **сьледчага** выклікае…* (КК-28, 138).

Існаванне паралельных беларускіх і рускіх заканадаўчых тэкстаў дае магчымасць выявіць спецыфіку ўтварэння і функцыянавання субстантываваных дзеепрыметнікаў са значэннем асобы ў беларускай мове.

Перадусім варта агаварыцца, што склад субстантываваных назваў асобы ў заканадаўчых тэкстах неаднародны паводле такіх паказчыкаў, па-першае, як знаходжанне адносна ядра тэрміналагічнага поля і, па-другое, як ступень субстантывацыі. Назвы асоб тыпу *хворы, паранены* і падобныя, якія ўжываюцца ў заканадаўчых тэкстах, знаходзяцца на перыферыі тэрміналагічнага поля. Іх уключэнне ў юрыдычную тэрміналогію ў строгім сэнсе ўмоўнае. Падобныя агентывы становяцца юрыдычнымі тэрмінамі толькі ў заканадаўчым кантэксце:

*Дрэнныя абыходзіны з палоннымі… альбо з хворымі і паранеными палоннымі, а таксама нядбайнае выкананьне абавязкаў у дачыненьні да паказаных **хворых і параненых** асобамі, якія павінны лячыць і клапаціцца аб іх, выклікае пазбаўленьне волі…* (КК-28, 192).

У такога кшталту артыкулах прававых актаў залічэнне вылучаных слоў да тэрміналогіі заканадаўства падтрымліваецца і тым, што яны выступаюць гіпонімамі адносна гіпероніма з выразна юрыдычнай семантыкай *пацярпелы.*

Найменні асобы субстантыўнага ўтварэння адрозніваюцца і паводле ступені субстантывацыі: маюць розную ступень набліжанасці да назоўніка. Адносна гэтага паказчыка традыцыйна вылучаюць тры віды субстантываваных назваў: поўныя, няпоўныя і аказіянальныя [4, с. 542 – 543]. Да поўных субстантываў залічваюць тыя словы, якія поўнасцю перайшлі ў разрад назоўнікаў і страцілі магчымасць ужывацца як іншыя часціны мовы: *днявальны, дыспетчарская, гасціная.*

Сярод выяўленых намі агентыўных назваў утвораныя ў выніку поўнай субстантывацыі – адзінкавыя. Напрыклад, *паняты* 'асоба, якая запрашаецца для ўдзелу ў правядзенні следчых дзеянняў у выпадках, прадугледжаных крымінальна-працэсуальным законам, з мэтай засведчання фактаў, зместу і вынікаў праведзеных у іх прысутнасці дзеянняў' [5, с. 377].

Няпоўныя субстантывы – тыя словы, якія могуць ужывацца як назоўнікі, але працягваюць заставацца іншымі часцінамі мовы (прыметнікамі, дзеепрыметнікамі і г. д.): *паранены – паранены чалавек, выклікаемы – выклікаемая асоба.* Утварэнні няпоўнай субстантывацыі (*зняволены, арыштаваны, падсудны, асуджаны, непаўналетні* і да т. п.) маюць эліптычнае паходжанне. Яны ўзніклі шляхам кампрэсіі словазлучэння. Эліптаванасць заключаецца ў тым, што галоўнае слова словазлучэння ў тэксце прававога зместу становіцца збыткоўным кампанентам сэнсавай структуры і апускаецца з мэтай эканоміі моўных сродкаў (*зняволены / -ая грамадзянін / асо-*

* Пасля скарочанай назвы кодэкса ўказваецца нумар артыкула пераважна першага ўжывання тэрміна ў кодэксе.

*ба → зняволены*). Гэтыя субстантывы фіксуюцца ў слоўніках*, у заканадаўчых тэкстах ужываюцца як самастойна, так і ў складзе словазлучэнняў (*выклікаемы* і *выклікаемая асоба*; *арыштаваны* і *арыштаваны праваларушнік*). Значэнне няпоўных субстантываў зразумелае без кантэкстуальнай падтрымкі.

Аказіянальнымі субстантывамі называюць словы, якія з'яўляюцца назоўнікамі толькі ва ўмовах пэўнага кантэксту. У адрозненне ад узуальных аказіянальныя субстантывы не належаць да мовы заканадаўства. Яны ўласцівыя такім сферам, як мастацкая літаратура, публіцыстыка. Аказіянальнымі субстантывамі становяцца як знамянальныя, так і службовыя часціны мовы і любыя маўленчыя адзінкі ўвогуле. У якасці прыкладу можна ўзгадаць славутыя Панчанкавы радкі: *І ўсё мілагучна для слыху майго: і звонкае* "***дзе***", *і густое* "***чаго***".

У мове заканадаўства, акрамя названых узуальных відаў, выяўляецца своеасаблівы від асабовых субстантываваных дзеепрыметнікаў, намінатыўная функцыя якіх рэалізуецца толькі ў спалучэнні з назоўнікамі ва ўскосным склоне:

*прысуджаны да штрафу – Калі* ***прысуджаны да штрафу*** *не заплоціць яго, то суд замяняе штраф на прымусовыя работы без пазбаўленьня волі…* (КК-28, 45);

*пазбаўлены волі – Кожны судзьдзя і кожны пракурор, які выявіць пазбаўленьне каго-небудзь волі без законнай пастановы, павінен безадкладна вызваліць няправільна* ***пазбаўленага волі*** (КПК-32, 6);

*падаўшы іск – Калі вызначыць старшынства немагчыма, то ўласнікам прызнаецца* ***падаўшы іск*** *раней за іншых* (ГК-32, 193).

Асоба ў такіх выпадках абазначаецца, па сутнасці, тэрміналагічным словазлучэннем, паколькі субстантываваныя дзеепрыметнікі, што ўваходзяць у іх склад, самастойна ў значэнні назоўнікаў ужывацца не могуць. Будучы ўтворанымі ад пераходных дзеясловаў, яны патрабуюць наяўнасці пры сабе аб'екта дзеяння. Як і няпоўныя субстантывы, такія абазначэнні асобы ўзніклі ў выніку кампрэсіі. З апісальных выразаў накшталт *асоба, прысуджаная да штрафу*; *асоба, пазбаўленая волі* і да т. п. выключаўся кампанент, які ўвесь час паўтараўся, – слова *асоба*. У выніку дзеепрыметнік субстантываваўся і набыў спецыфічную для заканадаўчага стылю форму роду пры абазначэнні асобы.

Назіранні паказваюць, што назвы асобы, выражаныя словазлучэннямі, галоўны кампанент якіх узыходзіць да дзеепрыметніка прошлага часу незалежнага стану з суфіксамі *-ш-* / *-ўш-*, у форме назоўнага склону мелі абмежаванае пашырэнне ў беларускамоўных тэкстах заканадаўчых актаў. Перакладчыкі ўсведамлялі неўласцівасць такіх формаў для беларускай мовы. Імкнуліся іх пазбягаць і з-за ўтварэння аманімічных пар з адпаведнымі дзеепрыслоўямі. Выключэнне складалі ўжыванні ва ўскосных склонах:

*Вызначаючы разьмер платы за шкоду, суд павінен прыняць пад увагу маёмаснае становішча* ***зрабіўшага шкоду*** (ГК-32, 453); *Кожны з* ***бяручых удзел*** *у ме́не лічыцца прадаўцом таго, што дае на абмен* (ГК-32, 215).

У пераважнай жа большасці выпадкаў у беларускім тэксце слова *асоба* ўзнаўлялася, нягледзячы на неаднаразовае яго паўтарэнне нават у межах аднаго артыкула:

*Лицо не застрахованное не может взыскивать от* ***причинившего вред*** *большего вознаграждения, чем могло бы получить лицо застрахованное…* (ГК-32, 457) – *Незастрахаваная асоба ня можа спаганяць ад* ***зрабіўшай шкоду асобы*** *большай платы, як магла б атрымаць застрахаваная асоба…* (ГК-32, 457).

Зразумела, замена субстантываванай назвы на дзеепрыметнікавы зварот не была прадыктавана патрэбамі лінгвістычнага характару: неспецыфічная форма дзеепрыметніка заставалася. Можна меркаваць, што перакладчыкі заканадаўчых тэкстаў свядома пазбягалі лаканічнасці, якая ўзнікала ў выніку кампрэсіі, каб кожны артыкул афіцыйнага дакумента быў зразумелы не толькі спецыялісту, але і маладасведчанаму ў правазнаўстве карыстальніку.

Узнаўляцца магло не толькі слова *асоба*, але і іншыя агентывы, што залежала ад галіны права. Напрыклад, у папраўча-працоўным кодэксе – *зняволены*. Пры гэтым неўласцівыя формы дзеепрыметнікаў маглі замяняцца на даданыя азначальныя сказы:

***Находящимся на излечении*** *в больнице передачи могут быть допускаемы только с разрешения врача* (ИТК-27, 81) – ***Зьняволеным, што знаходзяцца на лячэньні ў больніцы****, перадачы могуць дапушчацца толькі з дазволу доктара* (ППК-27, 81);

*Одиночные камеры для изоляции* ***подвергаемого дисциплинарному воздействию*** *не должны отличаться от условий других камер…* (ИТК-27, 95) – *Адзіночныя камеры для ізоляцыі* ***зьняволеных, да якіх ужываецца дысцыплінарны ўплыў****, не павінны розьніцца ўмовамі ад іншых камер…* (ППК-27, 95).

---

* Напрыклад, руска-беларускі слоўнік "Тэрміналогія права" (1926) уключае такія субстантываваныя назвы асобы, як *спаганяты* (да рус. *взыскатель*), *паверапы, падследны, падсудны, даручны* (да рус. *приказчик*), *зняволены* і інш. [1].

Такія трансфармацыі таксама вялі да страты субстантываваных назваў асобы. У выніку колькасць тэрмінаў-агентываў, выражаных субстантываванымі дзеепрыметнікамі, у беларускамоўных заканадаўчых тэкстах на пачатковым этапе іх стварэння была меншай, чым у адпаведных рускамоўных.

Так, напрыклад, у тэксце Уголовного кодекса 1928 г. налічваецца 30 субстантываваных назваў асобы. У перакладным варыянце з іх засталіся субстантывамі толькі 19:

*арыштаваны – дапамога **арыштаванаму** праз ашуканства* (КК-28, 117);

*асуджаны – ужываньня гэтых мер да **асуджанага**, згодна з акалічнасьцямі справы* (КК-28, 15);

*забіты – з прычыны цяжкае абразы з боку **забітага*** (КК-28, 215);

*упаўнаважаны – перашкоджаньне законнай дзейнасьці… прафэсіянальных саюзаў і іх **упаўнаважаных*** (КК-28, 141) і інш.

Як відаць з прыкладаў, усе яны ўзыходзяць да ўласцівых для беларускай мовы формаў дзеепрыметнікаў. Тыя з рускіх найменняў асобы, што набылі б неўласцівыя беларускай мове словаўтваральныя суфіксы *-ўш-* / *-ш-*; *-уч-* (*-юч-*) / *-ач-* (*-яч-*) або ненарматыўную для беларускай мовы зваротную форму, калі пры перакладзе звярнуліся б да калькавання, перададзены пераважна даданай азначальнай часткай. Такім спосабам у КК-28 перададзены 8 субстантываваных дзеепрыметнікаў са значэннем асобы:

*давший или принявший взятку – асоба, што дала альбо атрымала хабар* (КК-28, 209);

*нападавший – асоба, што нападала* (КК-28, 216);

*неявившийся – той, хто не з'явіўся* (КК-28, 134);

*обороняющийся – асоба, якая абараняецца* (КК-28, 10);

*оставивший без помощи – асоба, што пакінула без дапамогі* (КК-28, 229);

*совершившие преступления – асобы, што ўчынілі злачынства* (КК-28, 7, 52);

*уклонившийся от призыва – асоба, якая ўхілілася ад прызыву* (КК-28, 81);

*условно досрочно освобожденный – асоба, умоўна вызваленая да тэрміну* (КК-28, 62).

Субстантываваныя дзеепрыметнікі *оскорбленный* і *подчиненный* перакладзены словазлучэннем "назоўнік *асоба* + адпаведны дзеепрыметнік": *зняважаная асоба* (КК-28, 169); *падпарадкаваная асоба* (КК-28, 182). Такі пераклад, як і вышэйзгаданыя аналагічныя, не можа быць вытлумачаны лінгвістычнымі патрэбамі.

У адным выпадку беларускім адпаведнікам стаў назоўнік: *для отбывания **военнослужащими** дисциплинарного ареста* (УК-28, 31) – *для адбывання **вайскоўцамі** дысцыплінарнага арышту* (КК-28, 31).

Імкнуліся перакладаць уласцівымі беларускай мове формамі і агентывы субстантыўнага паходжання з суфіксамі *-ем-* / *-им-*: *поведение **подсудимого** даст суду основание считать…* (УК-28, 46) – *паводзіны **падсуднага** дадуць падставу лічыць…* (КК-28, 46). Тэрмін *обвиняемый* перадаваўся адпаведнікам *падвіноўны*, утвораным, відаць, па аналогіі з *падсудны*: *если в деянии, совершенном **обвиняемым**, имеются признаки нескольких преступлений* (УК-28, 53) – *калі ў дзеяньні, учыненым **падвіноўным**, ёсць прыкметы некалькіх злачынстваў* (КК-28, 53). У Крымінальна-працэсуальным кодэксе выкарыстаны варыянт *абвінавачваны*: *Крымінальнае праследаваньне не можа быць узбуджана з прычыны сьмерці **абвінавачванага*** (КПК-32, 4).

Прыведзеныя прыклады паказваюць, што стварэнне беларускіх юрыдычных тэрмінаў у 1920-я – пачатку 1930-х гг. ажыццяўлялася пераважна шляхам падбору аналагаў да адпаведных рускіх. Такі шлях, безумоўна, не спрыяў паўнавартаснай рэалізацыі словаўтваральнага патэнцыялу беларускай мовы. Тым не менш прадэманстраваныя спосабы перадачы рускіх субстантываваных дзеепрыметнікаў са значэннем асобы сведчаць пра імкненне тагачасных стваральнікаў беларускамоўных заканадаўчых тэкстаў знайсці для гэтага ўласцівыя беларускай мове сродкі.

### Спіс літаратуры


1. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып. 10. Тэрміналогія права. – Мінск : Інстытут беларускай культуры, 1926. – 104 с.
2. **Жураўскі, А. І.** Гісторыя беларускай літаратурнай мовы / А. І. Жураўскі. – Мінск : Навука і тэхніка, 1967. – Т. 1. – 372 с.
3. **Прыгодзіч, М. Р.** Старабеларускі лексікон : падручны перакладны слоўнік / М. Р. Прыгодзіч, Г. К. Цівановa. – Мінск : Бел. выд. тав. "Хата", 1997. – 175 с.
4. **Справочник по русскому языку : словарь лингвистических терминов** / Д. Э. Розенталь, М. А. Теленкова. – М. : Оникс : Мир и образование, 2008. – 623 с.
5. **Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік** / Беларус. Энцыкл.; рэдкал. : С. В. Кузьмін [і інш.]. – Мінск : БелЭн, 1992. – 636 с.


### Скарачэнні

**ГК-32 –** Грамадзянскі кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі: са зменамі з 1927 па 1-е лістап. 1932 г. – Мінск: Выд. НКЮ БССР, 1932; **КК-28** (**УК-28**) **–** Крымінальны кодэкс БССР. Афіц. выд. – Мінск: Выд-ва кіраўніцтва спраў СНК: Выд. эканам. нарады БССР, 1928; **КПК-32** (**УПК-28**) **–** Крымінальна-працэсуальны кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. – Мінск: Выд. НКЮ БССР, 1932; **ППК-27** (**ИТК-27**) **–** Папраўнапрацоўны кодэкс Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі. – Мінск: Выд. Выдавецкага п/аддзелу заканадаўчых праектаў НКЮ БССР, 1927.

Фёдар ПІСКУНОЎ

# АРФАГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ: МЕЖЫ НАРМАТЫЎНАСЦІ

*Празмерным можа стаць усё.*
Р. Эмерсан.

Найноўшы "Беларускі арфаграфічны слоўнік" [1], першы ўкладзены з улікам новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", утрымлівае ў выдавецкай прадмове напамін пра яго нарматыўны характар: "Слоўнік мае **нарматыўны характар**..." (тут і далей вылучэнне наша. – ***Ф. П.***). Асобныя памылкі, выяўленыя пазней аўтарамі гэтага слоўніка, выклікалі калектыўнае рэагаванне аўтарска-рэдактарскага калектыву: «Падрыхтоўка любых **нарматыўных слоўнікаў**, у тым ліку і арфаграфічных, – справа вельмі складаная і адказная. На жаль, пры гэтым непазбежны і пэўныя хібы... Не пазбаўлены асобных недахопаў і "Беларускі арфаграфічны слоўнік"» [2]. Падобныя інтэрпрэтацыя і рэалізацыя паняцця нарматыўнасці выклікае пільную неабходнасць засяродзіцца на сутнасці самога тэрміна нарматыўнасці ў дачыненні да розных тыпаў слоўнікаў: больш дэталёва да арфаграфічнага і ў агульных рысах да перакладнога двухмоўнага і тлумачальнага аднамоўнага. Такі аналіз асабліва актуальны ў святле выказанай прапановы (Настаўніцкая газета, 2009, 19 вер.) ажыццяўляць у сценах інстытута (распрацоўшчыка згаданага выдання) экспертную ацэнку ўсіх слоўнікавых выданняў, падрыхтаваных іншымі ўстановамі ці асобамі.

Перш за ўсё акцэнтуем увагу на тым факце, што з увядзеннем новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", якія маюць сілу дзяржаўнага закона, вызначаецца адзіны крытэрый **нарматыўнага напісання** слова – адпаведнасць "літары і духу" палажэнням прынятага заканадаўчага акта. Згаданы закон мае прамое дзеянне, выйшаў асобным выданнем дастатковым тыражом і даступны шырокаму колу карыстальнікаў. Таму ўказанне на нарматыўнае напісанне слоў у тым ці іншым арфаграфічным слоўніку, эвентуальна выдадзеным у тэрмін дзеяння "Правілаў...", па сутнасці становіцца неабавязковым, факультатыўным. Як уяўляецца аўтару, рэкамендацыі па ўжыванні канкрэтнага слоўніка ў навучальным працэсе агульнаадукацыйнай школы знаходзяцца ў сферы кампетэнцыі Міністэрства адукацыі і прынцыпова механізм іх прыняцця не выходзіць за межы існуючай працэдуры экспертызы школьных падручнікаў і дапаможнікаў.

Выглядае больш супярэчлівай і ўвогуле непрымальнай на дадзеным этапе моўнага развіцця спроба пазіцыянавання арфаграфічнага слоўніка як нарматыўнага, калі яўна ці няяўна ўкладальнікі разумеюць пад нарматыўнасцю факты граматыкі, арфаэпіі або нават рэестравага складу слоўніка. Ступаючы на хісткую глебу ўзаемадзеяння фактараў недастатковага узусу [3] і недасканаласці граматычнага падмурка [4], укладальнік з прычыны сціслага фармату падачы матэрыялу ў арфаграфічным слоўніку непазбежна аддаецца ва ўладу густоўнасці ці вульгарнага спрашчэнства. Праблема значна абцяжарваецца адсутнасцю сучаснага прадстаўнічага тлумачальнага слоўніка беларускай мовы і змушанасцю карыстацца састарэлым выданнем, "скроеным па лекалах 50 – 60-х гадоў" [5]. У адрыве ад рэальных універсальных тэкставых масіваў (моўных баз) і супрацы са спецыялістамі ў інтэрдысцыплінах узнікаюць слоўнікавыя памылкі. На факты гэтага парадку неаднаразова ўказвалася [6; 7].

У ходзе працы над электроннай базай беларускай мовы аўтар дэталёва прааналізаваў рэестравы склад "Слоўніка беларускай мовы" пад рэдакцыяй М. Бірылы (СБМ-87), выявіўшы больш за тысячу розных недакладнасцей. Канкрэтны спіс іх будзе пададзены пазней у рамках адмысловай публікацыі. Развіваючы тэзіс непрымальнасці пашырэння паняцця "нарматыўнасць" за межы чыста правапісных фактаў мовы, у гэтым артыкуле зробім спробу групавога аналізу заўважаных недакладнасцей у СБМ-87 – адзіным на сёння вялікім (каля 117 тыс. слоў) слоўніку, пазіцыянаваным як нарматыўны. У выпадках супастаўлення з новым "Беларускім арфаграфічным слоўнікам" (БАС-2009) неабходна ўлічваць, што апошні мае значна меншы аб'ём (каля 50 000 слоў). На думку аўтара, можна вылучыць некалькі асноўных груп недакладнасцей.

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

**1**. Неабгрунтаванае звужэнне словазмяняльнай парадыгмы назоўнікаў з суб'ектыўных прычын (недастатковы ці павярхоўны ўлік лексіка-семантычных варыянтаў, некампетэнтнасць у галіне спецыяльных ведаў). Так, у СБМ-87 больш за 400 назоўнікаў, што могуць ужывацца ў адзіночным і множным ліку, падаецца толькі ў адзіночным ліку. Прыводзім без каментарыя невялікую выбарку з разраду агульнай лексікі: ***аўкцыён***, ***букваедка***, ***датацыя***, ***ілжэнавука***, ***індульгенцыя***, ***клетачка***, ***лютня***, ***падкормка***, ***прэс-клуб***, ***санстанцыя***. Больш небяспечнае на думку аўтара – прадстаўніка дакладных навук – навязванне "нарматыўных путаў" у галіне спецыяльнай лексікі, бо некампетэнтнасць у гэтай сферы непасрэдна выштурхоўвае беларускую мову як з унутрыдзяржаўнай навукова-тэхнічнай камунікацыі, так і з газетна-часопіснага друку, стымулюючы пераарыентацыю на рускую ці нават на англійскую мовы. У падмацаванне прыводзім некалькі характэрных прыкладаў з таго ж СБМ-87, дапоўніўшы іх магчымымі кантэкстамі, ужытымі з множным лікам: ***пульсацыя*** (фіз. тэрмін: *пульсацыі інтэнсіўнасці выпраменьвання*), ***трамбоз*** (мед. тэрмін: *смяротнасць ад трамбозаў*), ***псеўдараствор*** (хім., фіз. тэрмін: *калоідныя растворы адносяцца да класа псеўдарастовраў*), ***урэтан*** (хім. тэрмін: *урэтаны з'яўляюцца зыходнымі рэчывамі для вытворчасці поліурэтанаў*), ***аксалат*** (хім. тэрмін: *солі шчаўевай кіслаты называюцца аксалатамі*) і інш. Цяжка ўявіць збянтэжанасць ад падобнай слоўнікавай "нармалізацыі" настаўніка-прадметніка, які выкладае хімію, фізіку ці біялогію на беларускай мове, перакладчыка вучэбнай літаратуры і г. д. З адказнасцю сцвярджаю, што масавая незацікаўленасць вучняў і іх бацькоў у атрыманні беларускамоўнага навучання і звужэнне сеткі беларускамоўных навучальных устаноў выкліканы ў тым ліку недастатковай якасцю прапанаваных беларускамоўных слоўнікавых выданняў. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што значная колькасць хібаў СБМ-87 патрапіла і ў найноўшы БАС-2009. Вось далёка няпоўны спіс слоў, якім адмоўлена ў праве мець множны лік: ***ацэтат***, ***формула***, ***эфір***, ***пенапласт***, ***пенапластык***, ***фенол***, ***карбанат***, ***рэцыдыў***, ***дыслакацыя***, ***разлом***, ***зніжэнне***, ***павышэнне*** (у той час як для слова ***паглыбленне*** слоўнік "дазваляе ўжываць" канчаткі множнага ліку). Асабліваe месца займаюць словы ***інфляцыя*** і ***нітрат***, першае з якіх, на думку ўкладальнікаў слоўніка, мае побач з адзіночным таксама множны лік, а другое – ужываецца толькі ў множным ліку і адпаведна пададзена як ***нітраты***.

**2**. Звужэнне дзеяслоўнай парадыгмы за кошт выключэння спрагальных формаў 1-й і 2-й асобы з прычыны неўлічэння ўсёй сукупнасці лексіка-семантычных варыянтаў дзеяслова. Пры супастаўленні матэрыялаў СБМ-87 з беларускамоўнымі тэкставымі масівамі і прадстаўнічымі слоўнікамі рускай і ўкраінскай моў [8; 9] было выяўлена больш за 150 падобных выпадкаў. У якасці характэрных прыкладаў прыводзім частковую выбарку дзеясловаў, што згодна з СБМ-87 не ўжываюцца ў 1-й і 2-й асобе: ***адчужацца***, ***аздараўляцца***, ***ачарсцвіцца***, ***наэлектрызавацца***, ***падпіхвацца***, ***пераатэстоўвацца***, ***упіхвацца***. Укладальнікі СБМ-87, жадаючы падкрэсліць нарматыўны характар выдання, прапанавалі розныя наборы спрагальных формаў для адной і той жа дзеяслоўнай лексемы, напрыклад:

**датрапацца** *зак.*, (*пра лён і пад.; знасіцца – пра адзенне*) датрэплецца, -люцца; (*дабалбатацца*) *разм.*, датраплюся, датрэплешся [сься], -лецца, -лемся, -лецеся, -люцца;

**выбрыкваць** *незак.*, (*пра коней*) -ае, -аюць; (*пра чалавека*) *разм.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць.

Відавочна, што сістэмная рэалізацыя такога падыходу вымагае зусім іншага фармату выдання і можа быць здзейснена толькі ў межах шматтомнага тлумачальнага слоўніка з прыцягненнем тэхналогій лінгвістычных карпусоў і ў супрацоўніцтве са спецыялістамі розных галін ведаў. Характэрна, што ўкладальнікі найаўтарытэтнейшых арфаграфічных слоўнікаў рускай [8] і ўкраінскай [9] моў падаюць рэестравыя словы з патэнцыяльна самай шырокай парадыгмай:

**дотрепаться**, -еплюсь, -еплется, -еплются *и* -епется, -епятся;

**вибрикувати**, -ую, -уєш, *недок.*

У БАС-2009, які мае значна меншы па аб'ёме рэестр, фактычна пераймаецца спосаб паказу слоўнага артыкула СБМ-87 з адпаведным узнаўленнем наяўных у апошнім недакладнасцей. На жаль, унесены і дадатковыя хібы: больш за сто дзеясловаў пададзены толькі ў форме інфінітыва (***закаціцца***, ***закачацца***, ***закачвацца***, ***закашляцца***, ***заківацца*** і інш.).

**3**. Недакладнасці, звязаныя з некарэктнай інтэрпрэтацыяй грэка-лацінскіх кампанентаў у складаных словах. Істотная частка іх стала прадметам разгляду ў нядаўняй публікацыі аўтара [10], прысвечанай правапісу спалучэнняў *іа / ыа*. Нагадаем, што няўлік этымалогіі іншамоўных кампанентаў прыводзіць да некарэктнай фіксацыі ў слоўніках, напрыклад: *дыямін* (правільнае напісанне ***дыамін*** <спалучэнне ***ыа*** на стыку кампанентаў: *ды-* + *амін*>), *трыянгуляцыйны* (правільнае напісанне ***трыангуляцыйны*** <спа-

лучэнне ***ыа*** на стыку кампанентаў: *тры + ангуляцыйны*>) у СБМ-87, *радыегалактыка* (правільнае напісанне ***радыёгалактыка***, г. зн. галактыка, якая выпраменьвае радыёхвалі), *радыёэкалогія* (правільнае напісанне ***радыеэкалогія***) і яшчэ 15 лексем* у БРС-2002.

**4**. Няпоўнае адлюстраванне асістэмных парадыгматычных формаў назоўнікаў у складзе спалучэнняў з лічэбнікамі *два*, *тры*, *чатыры*. У СБМ-87 такія формы ўказаны наступным чынам:

**баразна** -не [зьне], *мн*. барозны, баразён і барознаў, *з ліч. 2, 3, 4* – баразны;

**бяльмо** -ме, *мн*. бельмы, -маў, *з ліч. 2, 3, 4* – бяльмы.

Аднак са 137 рэестравых назоўнікаў жаночага роду з акцэнтным тыпам D (пераход націску з канчатка на аснову), якія маюць асістэмныя формы з лічэбнікамі *два*, *тры*, *чатыры*, толькі 52 адзінкі аформлены належным чынам, у той час як 85 слоў прыведзены без адмысловых пазнак**. Як ужо адзначалася, няпоўна адлюстраваны і іншыя групы назоўнікаў у складзе спалучэнняў з лічэбнікамі *два*, *тры*, *чатыры* [11]. Заўважым, што ў найноўшым БАС-2009 увогуле не вылучана ніводнае слова адзначанага тыпу.

**5**. Адвольная інтэрпрэтацыя дыспазітыўных правілаў. У якасці прыкладу прыводзім адлюстраванне ў БАС-2009 некалькіх груп назоўнікаў з патэнцыяльна варыянтнымі канчаткамі ў родным склоне множнага ліку:

**за́ла**, -ы, -е; за́л
**аванза́ла**, -ы, -е; -за́л
**танцза́ла**, -ы, -е; -аў
**квінта**, -нце, -нт *і* -нтаў
**пінта** пінце, пінтаў
**казань**, -нню, -ней *і* -няў
**гавань**, -нню, -ней *і* -няў
**прыстань**, -нню, -ней
**бухта**, -хце, -хт і -хтаў
**піхта**, -хце, -хтаў

**6**. Адвольны, нестандартызаваны для тыповых лексіка-семантычных груп аб'ём падачы інфармацыі пры слове. У якасці прыкладаў укажам на некаторыя "дыспрапорцыі" ў СБМ-87 / БАС-2009 і магчымыя варыянты іх выпраўлення (гл. табліцу).

| Запіс у СБМ-87 / БАС-2009 | Магчымыя варыянты |
|---|---|
| **барытон**, -на, -не, -наў | **барытон** *муз.* (*спявак*; *муз. інструмент*) -на, -не, -наў; (*голас*) -ну, -не, -наў |
| **бас**, -са, -се, *мн*. басы, -соў | **бас** *муз.* (*спявак, муз. інструмент*) -са, -се; (*голас*) -су, се; *мн*. басы́, -со́ў |
| **дыскант** *муз.*, -нта, -нце, -нтаў | **дыскант** *муз.* (*спявак*) -нта, -нце, -нтаў; (*голас*) -нту, -нце, -нтаў |
| **тэнар** (*голас*) -ру, -ры; (*спявак*) -ра, -ру, -раў | **тэнар** *муз.* (*спявак*) -ра, -ру, -раў; (*голас*) -ру, -ры, -раў; |
| **вулканізатар** (*рэчыва*) -ру, -ры, -раў; (*спецыяліст*) -ра, -ру, -раў | **вулканізатар** (*рэчыва*) -ру, -ры, -раў; (*апарат*) -ра, -ры, -раў; (*спецыяліст*) -ра, -ру, -раў |
| **аптымізатар** -ра, -ры, -раў | **аптымізатар** (*праграма, сістэма*) -ра, -ры, -раў; (*спецыяліст*) -ра, -ру, -раў |
| **актыватар** *хім., фізіял.*, -ру, -ры, -раў | **актыватар** (*хім., фізіял.: рэчыва*), -ру, -ры, -раў; (*апарат; падручнік*) -ра, -ры, -раў |
| **ватэрпруф** -фа, -фе, -фаў | **ватэрпруф** (*паліто*) -фа, -фе, -фаў; (*тканіна*) -фу, -фе, -фаў |

**7**. Некарэктнае ўтварэнне лексем, у тым ліку ў ходзе т. зв. распрацоўкі словаўтваральных гнёздаў. Недакладнасці гэтага тыпу, якімі рэдкімі яны ні былі б, носяць асабліва прыкры характар, бо ўкараняюць дэфармацыі ў лексічны склад мовы. Так, у БАС-2009 для агульнапрынятага напісання лексемы ***фо́бія*** знаходзім два дадатковыя варыянты: састарэлы *фабія* і *фа́бія*, такім чынам не толькі прадублявана недакладнасць*** з СБМ-87 (*фабі́я*), але і ўтвораны яшчэ дадатковы клонавы варыянт (*фа́бія*).

Прыводзячы гэтую кароткую зводку сістэмных недакладнасцей, мы маем адзінай мэтай звярнуць увагу на беспадстаўнасць любых спроб пазіцыянавання арфаграфічнага (арфаэпічнага, словаўтваральнага) слоўніка як нарматыўнага, **калі паняцце нарматыўнасці выходзіць за рамкі правапіснай нармалізацыі**. Больш за тое, цыркуляванне па старонках прадмоў да слоўнікавых выданняў недакладна акрэсленых тэрмінаў "нарматыўны слоўнік (даведнік)", "слоўнік мае нарматыўны характар", "даведнік нарматыўнага характару" і падобных зусім не бясшкодная з'ява, бо цягне за сабой шэраг адмоўных наступстваў.

Найбольш небяспечным падаецца атаясамліванне значнай часткай практычных работнікаў, найперш рэдактарска-карэктарскага корпуса беларускамоўных выдавецтваў, рэестраў вялікіх

* *Радыёаўтаграфія, радыёаўтограф, радыёбіёлаг, радыёбіялагічны, радыёбіялогія, радыёрэзістэнтнасць, радыёфатаграфія, радыёфоб, радыёфобія, радыёхімік, радыёхімічны, радыёхімія, радыёэкалагічны, радыёэколаг, радыёэлемент* (некарэктная літара вылучана паўтлустым шрыфтам і павінна быць заменена на *е*. – ***Ф. П.***).

** Прыводзім у алфавітным парадку першую пяцёрку "абмінутых" слоў (у дужках мы падаем адсутную пазнаку): **апарня́**, -ні́, *мн*. апа́рні, -няў [*з ліч. 2, 3, 4* – апарні́]; **арба́**, -бе́, *мн*. а́рбы, а́рбаў [*з ліч. 2, 3, 4* – арбы́]; **арда́**, *гіст*., ардзе́, *мн*. о́рды, орд і ордаў [*з ліч. 2, 3, 4* – ардьі́]; **аса́** асе́, *мн*. во́сы, вос [*з ліч. 2, 3, 4* – асы́]; **барада́** -дзе́, *мн*. баро́ды, -д [*з ліч. 2, 3, 4* – барады́]…

*** Варыянт *фабія*, пададзены ў СБМ-87, бярэ пачатак ад неўжыванага сёння ў рускай мове арфаэпічнага варыянта *фобúя*, што зафіксаваны ў слоўніку Дз. Ушакова (гл.: Толковый словарь русского языка: в 4 т. / под ред. Д. Н.Ушакова. – М.: Гос. ин-т "Сов. энцикл."; ОГИЗ; Гос. изд-во иностр. и нац. слов., 1935 – 1940).

слоўнікаў аб'ёмам ад 100 тысяч слоў з лексічным складам уласна самой мовы. Інакш кажучы, пры апрацоўцы тэкстаў мае месца прынцып: калі слова ёсць у СБМ-87, БРС-2002, то яно правільнае і мы яго прапускаем, калі яго няма – замяняем на іншае. Прыкладна так апісаў у прыватнай гаворцы з аўтарам гэтага артыкула рэдактар паважанага выдавецтва заўсёдную практыку работы над тэкстамі літаратараў. Кантролю не пазбягаюць ні пачаткоўцы, ні сталыя знаныя аўтары. За працоўнымі клопатамі знікае галоўнае: як жа развівацца мове, з якіх крыніц ёй жывіцца, каб не закасцянець, не знежывець. Гэтая праблема мае і другое вымярэнне: набываюць легальны статус памылкі, праніклыя пры розных абставінах у слоўнікі. Праз перакладныя беларуска-рускія слоўнікі яны могуць трапляць нават у рускамоўныя рэестры слоўнікаў*.

Відавочна, што карыстанне штампаванымі выразамі кшталту "даведнік нарматыўнага характару" ў адносінах да перакладных двухмоўных слоўнікаў падаецца тым больш беспадстаўным, калі ўсвядоміць іх асноўнае прызначэнне – забяспечыць карыстальніка інструментарыем для адэкватнай перадачы інфармацыі з адной мовы на іншую. Тое, што пры гэтым павінны захоўвацца **правапісныя** нормы дзвюх моў, зразумела без лішніх слоў.

У сённяшняй моўнай сітуацыі крытычна важна надаць канкрэтны сэнс слову *нарматыўны*, адназначна звязаўшы яго з паняццем літаратурнай нормы мовы, якая традыцыйна фіксуецца ў фундаментальных тлумачальных слоўніках, аператыўных выданнях тыпу "Новыя словы і значэнні", а ў апошні час і ў нацыянальных электронных лексічных карпусах. У нашай мове-суседцы цэнтр нормаўтварэння змясціўся ад класічнай мастацкай літаратуры "ў сродкі масавай інфармацыі (тэлебачанне, радыё, перыядычны друк)", што мае вынікам і змяненне статусу літаратурнай мовы: "…норма дэмакратызуецца, становіцца больш празрыстай для былых нелітаратурных моўных сродкаў" [12]. Добра ілюструе гэты зрух пазіцыя ўкладальнікаў 20-томнага слоўніка рускай мовы: "Вялікі акадэмічны слоўнік – гэта нарматыўны слоўнік, аднак норма разумеецца пры апісанні дастаткова шырока. Мэта слоўніка – не навязваць чытачу адзінае меркаванне, а на спецыяльна падабраных прыкладах-цытатах паказаць магчымасці ўжывання слоў. Гэта значыць, у слоўніку пад нормай літаратурнай мовы разумеецца адносна ўстойлівы спосаб выражэння, які адлюстроўвае гістарычныя заканамернасці развіцця мовы, замацаваны ў найлепшых узорах літаратуры і лічыцца прымальным адукаванай часткай грамадства" [13]. Стварэнне сучаснага нарматыўнага тлумачальнага слоўніка беларускай мовы – надзённая агульнадзяржаўная задача, якая, на глыбокае перакананне аўтара, павінна быць здзейснена на міжведамаснай аснове з прыцягненнем найлепшых творчых сіл краіны. Падаецца, што заказчыкам і каардынатарам такога праекта магло б стаць Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Што да спецыялізаваных слоўнікаў (арфаграфічных, перакладных і інш.), то яны прызваны выконваць свае задачы, не прэтэндуючы (з прычыны іх сціслага фармату) на функцыі фіксавання літаратурнай нормы. Штампаваным азначэнням з "гумовым" тэрмінам *нарматыўны*, што дэзарыентуюць карыстальніка, не месца ў прадмовах і анатацыях да такіх слоўнікаў.

* Паказальны прыклад – слова *героіка-камічны*, якое ў выніку друкарскай памылкі было пададзена ў СБМ-87 як "героікамічны", у БРС-2002 атрымала рускі пераклад "героикомический" і далей у такой форме зафіксавана ў рускамоўным рэестры РБС-2003 (Русско-белорусский словарь: в 3 т. – Мінск, БелЭн, 2003).

**Спіс літаратуры**

1. **Беларускі арфаграфічны слоўнік** / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; уклад. Л. П. Кунцэвіч, І. У. Кандраценя; пад рэд. А. А. Лукашанца. – Мінск : Беларус. навука, 2009. – 695 с.

2. **Лукашанец, А.** Да ўвагі чытачоў "Роднага слова" / А. Лукашанец, Л. Кунцэвіч, І. Кандраценя // Роднае слова. – 2010. – № 4. – С. 59.

3. **Лукашанец, А.** Беларуская мова ў жыцці сучаснага грамадства / А. Лукашанец // Роднае слова. – 2007. – № 12.

4. **Іўчанкаў, В.** Айчыннаму мовазнаўству не стае фундаментальнасці і аналітызму / В. Іўчанкаў // Звязда. – 2009. – 23 мая.

5. **Цыхун, Г.** Мова мяняецца, бо жывая! / Г. Цыхун // Звязда. – 2009. – 8, 9 вер.

6. **Піскуноў, Ф.** *Дуба* ці *дубу*? Яшчэ раз пра формы роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду ў святле камп'ютэрна-лінгвістычнага аналізу / Ф. Піскуноў // Роднае слова. – 2010. – № 1.

7. **Каўрус, А.** Граматычная схема і жывая мова : Пра некаторыя формы дзеясловаў і назоўнікаў / А. Каўрус // Роднае слова. – 2009. – №№ 10, 11.

8. **Русский орфографический словарь** : около 180 000 слов / РАН. Институт русского языка им. В. В. Виноградова. – 2-е изд., испр. и доп. – М., 2005. – 960 с.

9. **Великий зведений орфографічний словник сучасної української лексики.** – Київ, Ірпінь : ВТФ "Перун", 2003. – 896 с.

10. **Піскуноў, Ф.** Спалучэнне галосных у запазычаных словах : *ія* (*ыя*), *іе* (*ые*) ці *іа* (*ыа*), *іэ* (*ыэ*) / Ф. Піскуноў // Роднае слова. – 2010. – № 5.

11. **Піскуноў, Ф.** *Два гарады* ці *два горады* : лічэбнікі *два*, *тры*, *чатыры* ў колькасна-іменных спалучэннях / Ф. Піскуноў // Роднае слова. – 2010. – № 6.

12. **Волгина, Н.** Активные процессы в современном русском языке : учеб. пособие / Н. Волгина. – М. : Логос, 2001. – 304 с.

13. **Большой Академический словарь русского языка** / под ред. К. С. Горбачевича. – М., СПб. : Наука, 2004. – Т. 1.

*Крытыка і бібліяграфія*

# ДАЎНО ЧАКАНЫ СЛОЎНІК

**Беларускі арфаграфічны слоўнік** / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы : уклад. Л. П. Кунцэвіч, І. У. Кандраценя; пад рэд. А. А. Лукашанца. – Мінск : Беларус. навука, 2009. – 695 с. – Тыраж 5000 экз.

Прыняцце ў 2008 г. Закона Рэспублікі Беларусь “Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” і ўвядзенне яго ў дзеянне з 1 верасня 2010 г. вымагаюць ад моваведаў неадкладнай працы па стварэнні падручнікаў і арфаграфічных слоўнікаў, якія адлюстроўвалі б асаблівасці новых правапісных нормаў і садзейнічалі іх засваенню настаўнікамі і вучнямі, выкладчыкамі і студэнтамі, журналістамі і пісьменнікамі, усімі карыстальнікамі. Якраз такое даўно чаканае выданне з’явілася на паліцах айчынных кнігарань на пачатку гэтага года. Аўтары “Беларускага арфаграфічнага слоўніка”, як адзначаецца ў прадмове, імкнуліся прапанаваць карыстальнікам роднай мовы тэзаўрус, які “адлюстроўвае лексіку беларускай літаратурнай мовы канца XX – пачатку XXI ст.”, а таксама ахоплівае пашыраныя агульнаўжывальныя словы і адзінкі, якія могуць выклікаць цяжкасці пры напісанні. Вядома, што новы правапіс у пэўнай ступені уніфікаваў правілы арфаграфіі, наблізіў напісанне некаторых слоў да жывога вымаўлення.

Аўтары слоўніка імкнуліся як найпаўней адлюстраваць правапісныя адметнасці шырокага кола слоў, падаць вялікую групу неалагізмаў апошніх дзесяцігоддзяў з часткамі ***арт-***, ***відэа-***, ***вэб-***, ***аўдыя-***, ***поп-***, ***бізнес-***: *арт-галерэя, арт-дырэктар, аўдыявізуальны, аўдыякасета, бізнес-план, бізнес-форум, відэадвойка, відэазапіс, відэакліп, вэб-дызайн, вэб-сайт, вэб-старонка, поп-музыка, поп-мастацтва.* Праўда, па-за ўвагай складальнікаў засталіся такія пашыраныя і звычайныя моўныя адзінкі, як *аквапарк, асэ(е)мблер, байнэ(е)т, бамонд, барбі, блокбаста(э)р, гламур, дайджэ(а)ст, істэблішмент, менталітэт, мультымедыя, ноўтбук, пентхаус, роўмінг, тыне(э)йджар, фітне(э)с, флэ(е)шка, чартар, шоўме(э)н* і інш. Мабыць, якраз некаторыя з гэтых слоў мелі на ўвазе аўтары новых “Правіл…” у § 3, пп. 2, 3. Да ўсяго, у п. 4 гэтага параграфа гаворыцца: “У запазычаных словах, адзначаных у пунктах 2 і 3 гэтага параграфа, напісанне ***э, е*** вызначаецца па слоўніку”. На жаль, як жа іх трэба пісаць, невядома, бо ў слоўнік яны не ўключаны, як і даволі ўжывальныя апошнім часам англіцызмы *online, big board*, якія ў беларускамоўным перыядычным друку пішуцца па-рознаму: *біг-борд* і *бігборд*; *он-лайн* і *онлайн, ан-лайн* і *анлайн.* А як правільна на самай справе?

Абыдзена ўвагай і група слоў з першай часткай ***медыя-***, пашыраных у сучасных СМІ. Як будзе правільна: *медыяіндустрыя, медыясупольнасць, медыяэнцыклапедыя, медыявістыка*? Ці, можа, некаторыя з гэтых слоў неабходна пісаць праз ***е***? З § 34 “Правіл…” вынікае, што першая частка складаных слоў ***медыя-*** заўсёды пішацца праз ***-ыя***. Слоўнік не дае адказу на гэтыя пытанні – ніводнага слова з такой часткай няма. Тут можна было падаць слоўнікавы артыкул так: “***медыя***… першая частка складаных слоў пішацца незалежна ад націску ў другой частцы”.

Незразумела, чаму складаныя словы з першай часткай ***гелія-*** паслядоўна перадаюцца праз ***я***. У той час як у “Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы”, на які спасылаюцца складальнікі, гаворыцца: “**ГЕЛІЕ**… (а таксама **геліё**…, **гелія**…). Першая частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да Сонца, сонечнага выпрамянення, ужыв., калі ў другой частцы націск падае на першы склад, напр. *геліетэрапія* <…> **ГЕЛІЯ**… (гл. **геліе**…, **геліё**…)… ужыв. замест “геліе…”, калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр. *геліяграфія, геліяскоп*” (с. 148). Магчыма, што складаныя словы з гэтай часткай будуць пісацца ў адпаведнасці з правапісам спалучэння галосных ***іо*** ў запазычаных словах. Тады можна было падаць артыкул у наступным выглядзе: “***гелія***… першая частка складаных слоў, якая пішацца незалежна ад націску ў другой частцы”.

Дадатным у новым правапісе з’яўляецца імкненне пазбавіцца нехарактэрнага для нашай мовы суфікса ***-ірава-*** (***-ырава-***) у дзеясловах. Праўда, у некаторых выпадках “Правіламі…” пакінута ўжыванне паралельных формаў, што адлюстравана ў слоўніку: *аднікеліраваць – аднікеляваць* (але толькі *нікеліраваць*), *афішыраваць* і *афішаваць, градуіраваны* і *градуяваны, дэманціраваць* і *дэмантаваць, каменціраваць* і *каментаваць.* Хоць, як падаецца, тут магчыма выкарыстанне формаў без ***-ір-*** (***-ыр-***). Толькі з ***-ір-*** пададзены дзеясловы *дубліраваць, дэпаніраваць, дэфіліраваць, закамуфліраваць, эмігрыраваць, эмансіпіраваць*, напэўна, таму, што, на думку аўтараў “Правіл…” і слоўніка, тут ***-ір-*** (***-ыр-***) дапамагае захаваць словам “сваю фармальную і семантычную акрэсленасць” (§ 23 п. 2 “Правіл…”). У той час як гэтыя дзеясловы без ***-ір-*** (***-ыр-***) цалкам захоўваюць празрыстасць сваёй семантыкі, форму, адпавядаюць усім нормам беларускай мовы. (Зазначым, што ў словах *газаваць – газіраваць, буксаваць – буксіраваць* і падобных элемент ***-ір-*** сапраўды служыць для семантычнай дыферэнцыяцыі.)

Станоўчы момант – падача рознаканфесійнай рэлігійнай лексікі, назваў свят, багоў, якія абмежавана дапускаліся ў слоўнікі савецкага часу. Аднак і тут не абышлося без недахопаў. Так, ёсць *Буда* і *Алах, Далай-Лама* і *Хрыстос*, але няма *Мухамеда* (а можа, *Махамеда* ці *Магамета*). Ёсць *Вербніца*, *Вялікдзень*, *Рамазан*, *Ка-*

*ляды*, але няма аднаго з найвялікшых хрысціянскіх свят *Нараджэння Хрыстова*. Каб пазбегнуць варыянтнасці ў напісанні пазначанага свята (у беларускамоўных выданнях як толькі не пішуць: і *Ражаство*, і *Раждаство*, і *Ражство*), было б няблага замацаваць у якасці літаратурнай нормы лексему ***Раство***, якая падаецца ў "Слоўніку сучаснай беларускай мовы" У. Завальнюка, М. Прыгодзіча, В. Раманцэвіч (Мінск: Нар. асвета, 2009) і, на нашу думку, цалкам адпавядае асаблівасцям беларускай мовы.

Заўважана дадатная тэндэнцыя вызвалення ад неўласцівых беларускай мове дэрыватаў, асабліва дзееprыметнікаў цяперашняга часу, з суфіксамі ***-уч-***, ***-юч-***, ***-ач-***, ***-яч-***, ***-ім-***, але і тут не заўсёды вытрымана паслядоўнасць: побач з *вернікам* знойдзем *веруючага*, з *дзелівам – дзялімае*, з *дзейным – дзеючага*. На жаль, аўтары слоўніка ўводзяць побач з уласнабеларускімі адзінкамі чужыя, нехарактэрныя для нашай мовы пазычанні, замацаваныя ў лексікаграфічных выданнях савецкага часу: *святар – свяшчэннік* і *свяшчэннаслужыцель*, *стужка – лента*, *вясёлка – радуга*, *скрынка – каробка*, *кошык – карзіна*. Няма паслядоўнасці і ў падачы асобных назоўнікаў-кампазітаў з другой часткай ***-знавец*** і ***-вед***. Так, прыведзены дублетныя формы: *мовавед* і *мовазнавец*, *музыкавед* і *музыказнавец*, *мастацтвавед* і *мастацтвазнавец*, аднак толькі *рэлігіязнавец*, *краязнавец*; невядома адкуль з'явілася *звераводства*, а чаму не *зверагадоўля*? Таксама непаслядоўна вытрымліваецца прынцып падачы варыянтных формаў складаных слоў з першай часткай ***льн-*** (***ільн-***). Так, на с. 275 знаходзім *ільноапрацоўка* і *льноапрацоўка*, *ільназавод* і *льнавод*, на с. 311 падаецца толькі *лёнаапрацоўка* і *ільноапрацоўка*, на с. 315 чамусьці ўвогуле толькі *льнасемя* і *льнозавод*, а яшчэ ж ёсць *ільнасемя*, *ільнозавод*, *лёназавод*.

Словы *расаднік* і *рассаднік* прыведзены без дадатковых памет, але ж гэта важна для правапісу ***с*** або ***сс*** у пададзеных адзінках. Вядома, што назоўнікі *бялок*, *гардэроб* у родным склоне адзіночнага ліку ў залежнасці ад значэння могуць мець канчаткі ***-а*** або ***-у***, а ў рэцэнзаваным слоўніку яны маюць толькі канчатак ***-а***, хоць у астатніх аналагічных выпадках прынцып дадатковай паметы вытрыманы: **бук**, *бат*. -а, -у; -аў; (*драўніна і зб.*) -у; **загад** (*дакумент*) -а, -дзе; -даў; (*дзеянне*) -у, -дзе і інш. Варта было б знайсці месца для нешматлікіх лацінізмаў з прыстаўкай ***кан-***, якія пішуцца праз апостраф: *кан'юнктыва*, *кан'юнктывіт*, *кан'юнктыў*, *кан'югацыя*, *кан'юнкцыя*.

Добра, што паслядоўна пазначаны націск, падаюцца асобныя словаформы дзеясловаў, займеннікаў, назоўнікаў, якія могуць выклікаць пэўныя цяжкасці пры скланенні або спражэнні. Станоўчым з'яўляецца і тое, што ў вялікай колькасці змешчаны словаўтваральныя і акцэнталагічныя дублеты: *аржанішча* і *ржышча*, *адамкнёны* і *адамкнуты*, *безвылазны* і *бязвылазны*, *выкалаты* і *выкаланы*, *габлёваны* і *габляваны*, *дадзяўбці* і *дадзяўбаць*, *закуты* і *закаваны*, *навуказнавец* і *навуказнаўца*, *падраны* і *падзёрты*.

Пэўна, недагледам абумоўлены правапіс прыметніка *лімоннакіслы* праз злучок, тады як ён павінен пісацца разам. Калі ўчытваешся ў "Правілы…" і параўноўваеш з тым, што пададзена ў слоўніку, заўважаеш пэўную непаслядоўнасць. Так, у § 7 Правіл…" гаворыцца: "У складаных словах злучальныя галосныя ***о, ё*** пішуцца толькі пад націскам", аднак у слоўніку знаходзім *усёбачны*, *усёведанне*, дзе злучальная галосная ***ё*** захоўваецца не пад націскам.

Лексічнае багацце мовы абумоўлена сінаніміяй, здольнасцю называць адно і тое ж паняцце рознымі словамі. Гэта ў пэўнай ступені ўдалося зрабіць складальнікам, аб'яднаўшы пад адной вокладкай ужо прывычныя *выпіска, чай, май, кафэ* з новаўжываннямі апошніх дзесяцігоддзяў *вынятка, гарбата, травень, кавярня*.

Несумненна, што колькасць лексічных адзінак, пададзеных у рэестравай частцы слоўніка (блізу 50 000), не здымае пытання пра падрыхтоўку і выданне грунтоўнага тэзаўруса беларускай мовы, падобнага да таго, які быў прэзентаваны ў 1987 г. Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. На сёння гэта, бадай, задача першаступеннай важнасці. Цяпер настаў час ажыццявіць мару акадэміка М. Бірылы пра падрыхтоўку поўнага арфаграфічнага слоўніка беларускай мовы, які развязаў бы ўсе пытанні правапісу і задаволіў бы запатрабаванні моўнай і пісьмовай практыкі, стымуляваў бы павышэнне культуры мовы. А гэта праца не для двух-трох чалавек, нават высокакваліфікаваных, эрудзіраваных, абазнаных ва ўсіх нюансах мовы.

Нарэшце, неабходна ўпарадкаваць друкаванне нарматыўных слоўнікаў літаратурнай мовы, а для гэтага было б няблага арганізаваць пры НАН Беларусі ці яе галіновым інстытуце Слоўнікавую камісію (як некалі пры Інбелкульце), у якую ўвайшлі б найбольш аўтарытэтныя айчынныя мовазнаўцы і якая каардынавала б падрыхтоўку і выданне нарматыўных лексіконаў. І яшчэ. Усе карыстальнікі роднай мовы чакаюць ад аўтараў "Правіл…" не толькі іх сціплага выдання, але і шырокага каментарыя з вялікай колькасцю ілюстрацыйнага матэрыялу, бо не сакрэт, што ўжо з'явілася даволі шмат дапаможнікаў, якія можна аб'яднаць агульнай назвай "Вучымся пісаць па-новаму" і ў якіх сустракаюцца пэўныя нестыкоўкі з правіламі.

Калі хочаце, мова – гэта вялікі сімфанічны аркестр, ад музыкаў якога патрабуецца добрая прафесійная падрыхтоўка, зладжанасць, дакладнасць выканання ўсіх элементаў партытуры, якой, несумненна, з'яўляецца арфаграфія. Яна павінна мець абсалютную праліčанасць, яснасць, прадуманасць правіл напісання. І ўсе: дырыжор, музыкі, слухачы – павінны заўсёды кіравацца агульнапрынятымі правіламі.

**Дзмітрый ПАЎЛАВЕЦ,**
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры беларускай культуры і фальклярыстыкі
Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта
імя Францыска Скарыны.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

# ЛІНГВІСТЫЧНЫ ДОСВЕД

### *РУКАЧЫННЫ, РУКАТВОРНЫ, РУКАДЗЕЛЬНЫ*

Слоўнікі фіксуюць тэрмін *рукадзельны* (< *рукодельный*). Прыметнік *рукодельный* – складанае слова, утварэнне ад *рукоделие* (< *руками делать*). У беларускай мове рус. *делать* адпавядае *рабіць*. Таму адэкватам *рукоделие* ёсць калькаванне "рукаробства", а натуральныя найменні – *рукатворнасць, рукачыннасць* і прыметнікі *рукатворны* і *рукачынны*. Беларусы ж кажуць: *ручной работы, ручны*, а не "рукадзельны".

Найбольш прыдатны (з пераносным значэннем) тэрмін *рукачынны*: *З рукачынных крыніц* (Роднае слова, 2009, № 9, с. 110). У рускай мове адэкват – *рукотворный*.

### *ПАЗНАКА, ПАКАЗЧЫК, ПРЫМЕТА, АДЗНАКА*

*У нашай паўсядзённасці сціслiліся да мінімуму тыя віды дзейнасці і бытаванне, дзе традыцыйны касцюм быў запатрабаваны як* ***пазнака*** *прыналежнасці да закрытай супольнасці, родавай еднасці* (Маладосць, 2009, № 9, с. 140).

Лексема *пазнака* – утварэнне ад дзеяслова *пазнаць* 'зразумець, набыць веды пра што-небудзь, атрымаць сапраўднае ўяўленне пра каго-, штонебудзь' (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы, 1996, с. 424). Мадэль утварэння тая, што і ў слоўнікавым *адзнака*: "аснова дзеяслова (*пазна*-) + фармант -*ка*". Але семантыка не зарэгістраванай слоўнікам лексемы *пазнака* куды больш выразная і акрэсленая. Дарэчы, у слоўніках і падаюцца ў дэфініцыі словы *адзнака, паказчык, прымета*, што ўзніклі шляхам калькавання рус. *признак, показатель, отметка* (обозначение).

Слова *пазнака* вартае фіксацыі ў слоўніках літаратурнай мовы. Дарэчы, украінская мова таксама мае гэтае ўтварэнне – *познака*, якое ў даведніку В. Лемцюговай "Украінска-беларускі слоўнік" (Мінск, 1980, с. 486) кваліфікуецца наступным чынам: "*Познака*, ж., знак, м.; адзнака; прыкмета". Думаецца, тут варта было б падаць і згаданае адэкватнае беларускамоўнае *пазнака*.

### *ПАНЯТАК, ПАНЯЦЦЕ*

***Панятак*** *"беларускае адзенне", а таксама разуменне таго, што такое быць і выглядаць беларусам для абыякавага спажыўца… слаба пазначаныя дакладна апазнаванымі стэрэатыпамі…* (Маладосць, 2009, № 9, с. 141 – 142). *Ёсць такі* ***панятак*** *"уяўны музей" – гэта пошук і стварэнне навуковых пляцовак для прэзентацыі сваіх поглядаў і, як вынік, спрыянне ўяўленню гэтых твораў* (тамсама, с. 144).

Слоўнікі не змяшчаюць слова ***панятак***, а толькі *паняцце* (< *понятие*), як і прыметнікавае ўтварэнне ад яго *паняційны* (*понятийный*).

Лексема *панятак* узнікла на ўзор слоўнікавага *занятак* (*заняткі*). Яна ўсведамляецца як утварэнне ад *паняты* (*панят-ак*), вартае замацавання ў якасці тэрміналагічнай адзінкі і як утваральнае слова для атрыбутыўнай лексемы-тэрміна *паняткoвы* з выразнай структурай (фармантам -*овы*) і семантыкай, з перавагай над слоўнікавым *паняційны*.

### *ГУЧНАМОЎНІК, ГАЛОСНІК, ГУЧНАГАВАРЫЛЬНІК, ГУЧНАГАВАРЫЦЕЛЬ*

У слоўніках як адэкват рус. *громкоговоритель* падаецца *гучнагаварыцель* – паўкалька з заменай першай часткі *громко*- на *гучна*-, другая частка складанага слова, толькі напісаная па-беларуску (-*гаварыцель*). Між тым суфікс -*цель* не мае пашырэння ў беларускай мове: моўнікі незалежнай Беларусі пазбягаюць яго – утвараюць адпаведныя словы з выкарыстаннем сваіх, спрадвечных словаўтваральных сродкаў; параўнайма: *мысляр* (*мыслитель*), *выхавальнік* і *выхаваўца* (*воспитатель*), *просьбіт* (*проситель*), *служка* (*служитель*), *збаўца* (*избавитель*), *гасільнік* (*гаситель*) і пад.

На старонках сучасных выданняў на месцы *гучнагаварыцель* выкарыстоўваецца ўтварэнне з суфіксам -*льнік*: *гучнагаварыльнік*. Так, у часопісе "Дзеяслоў" (2009, № 6, с. 233) чытаем: *Каля дзвярэй убудаваная ў сцяну шафа, на стале над дзвярыма* ***гучнагаварыльнік***.

З улікам значэння гэтага слова 'прыстасаванне для ўзнаўлення гукаў і ўзмацнення гучнасці радыёперадач' (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. 2, с. 101) найбольш адэкватнымі тут маюць быць *гучнамоўнік* ці *галоснік* (узмацняюць *голас моўніка*).

### *МАЙСТРАВІТЫ*

*Да таго ж яна была вельмі* ***майстравітай*** *і захавала ў памяці шмат падрабязнасцяў, датычных свайго былога ладу жыцця і стварэння адзення ў прыватнасці* (Маладосць, 2009, № 9, с. 143).

Слоўнікі не фіксуюць вылучанага слова, хоць яно неабходнае для характарыстыкі чалавека з вялікімі здольнасцямі майстра, вельмі здатнага да майстравання.

*Майстравіты* – утварэнне ад *майстар* з выкарыстаннем фарманта -*авіты*: *майстр-авіты*. Узорам стала слова *таленавіты*: *тален(т)-авіты*.

У слоўніках бачым толькі аднакаранёвыя *майстэрскі* 'вельмі добра, дасканала зроблены' і *майстроўскі* 'які належыць майстру' (*майстроўскія прылады*).

**Павел СЦЯЦКО,**
доктар філалагічных навук.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

# ЯКОМУ Ж СЛОЎНІКУ ТРЭБА ВЕРЫЦЬ?

Каб пераканацца ў правільнасці вуснага або пісьмовага ўжывання пэўнага моўнага сродку, усе мы даволі часта звяртаемся да слоўнікаў – нашых сяброў і надзейных памочнікаў. І вельмі шкада, калі іншы раз у нарматыўным даведніку сутыкаешся з недакладнасцю. Яшчэ горш атрымліваецца, калі ў розных слоўніках арфаграфічная норма для пэўнай моўнай адзінкі даецца неаднолькава.

Так, у "Руска-беларускім слоўніку" (1953; далей РБС) і ў яго наступных выданнях (напрыклад, 1982, т. 1, с. 519) рускі дзеяслоў *недоставать* перакладаецца беларускім *неставаць*. "Беларуска-рускі слоўнік" (1988, т. 1, с. 794; далей БРС) падае на сваім алфавітным месцы беларускі дзеяслоў *неставаць* з перакладам на рускую мову: *недоставать*, але ў 2-м томе на с. 505 змяшчае і *ставаць*. Адпаведна з гэтым у "Слоўніку беларускай мовы" (1987; далей СБМ) на с. 450 падаецца *неставаць* з яго формамі *нестае, неставала*, а на с. 760 бачым: *ставаць* і формы *стае*, *ставала*. Паводле гэтых даведнікаў выходзіць, што ў нашай мове ёсць дзеясловы *ставаць* і *неставаць*. Звернемся да іншых слоўнікаў, аўтары якіх ад падобнай трактоўкі адмовіліся адназначна.

Безасабовы дзеяслоў *ставаць* мае канструктыўна абмежаванае значэнне, якое рэалізуецца толькі ў строга акрэсленай канструкцыі ("ставаць + чаго"), і належыць да дзеясловаў з няпоўнай парадыгмай: ужываецца толькі ў інфінітыве (*ставаць*), у 3-й асобе адзіночнага ліку (*стае*) і ў форме прошлага часу (*ставала*). Ён мае, як засведчана ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (т. 5, кн. 1, с. 294; далей ТСБМ), два значэнні: 1) хапаць чаго-н. для каго-, чаго-н.: *Усяго ставала* (В. Дубінка); 2) мець магчымасці, сілы, здольнасці рабіць што-н.: *І чарцяжы чытаць сваёй галавы ставала* (В. Мыслівец). Гэты дзеяслоў часцей ужываецца з адмоўем *не* (*не ставаць, не стае, не ставала*), і, зразумела, у такіх выпадках часціца *не* пішацца асобна.

Яшчэ ў 1978 г. М. Лобан і М. Суднік – складальнікі "Арфаграфічнага слоўніка" – падалі як норму напісанне *не ставаць* у два словы. Гэты слоўнік перавыдаваўся некалькі разоў і кожны раз з той самай нормай *не ставаць*. Але паколькі ў трох іншых, названых вышэй даведніках змяшчаюцца *ставаць* і *неставаць*, разнабой у напісанні мае месца і сёння. Прыводзім толькі па тры прыклады – спачатку правільнага напісання гэтага дзеяслова з адмоўем *не*, а пасля – памылковага:

1) Якой жа выгоды яшчэ *не ставала*?! (Я. Купала); 2) У яе ў галаве *не стае* трохі клёпак (Ц. Гартны); 3) Да чаго змаглі дажыцца – верыць сілы *не стае*… (Г. Бураўкін); 4) На гэта проста фізічна *нестае* часу (У. Арлоў); 5) Размова зайшла пра тое, што *нестае* піяру (А. Паплаўская); 6) Усё нібы ёсць у маёй Беларусі: і белая лебедзь, і шэрыя гусі, а нечага ўсё ж *нестае* (У. Сцебурака).

Аналагічны разнабой, толькі ўжо не ў напісанні слоў, а ў пастаноўцы націску, іншы раз таксама спараджаецца слоўнікамі – іх неаднолькавым абазначэннем месца націску. Мне ўжо даводзілася пісаць пра гэта ў артыкуле "Дзе ж ставіць націск?" (Беларуская мова і літаратура, 2008, № 9, с. 26 – 28). Тут спынімся толькі на адным слове – *статут*.

У вершы Янкі Купалы "Не плюй у карытца…" (1922) ёсць такая страфа:

А нам чужы статут
Паднёс пяць паветаў, –
Жыві і ўладай тут!
Ну, дзякуй за гэта!..

Паэт ужыў слова *статут* з націскам на першым складзе. Назоўнікі *статус, статус-кво, статут, статуя* аднолькавыя паводле сваёй этымалагічнай асновы, паходзяць ад аднаго і таго ж лацінскага кораня. І націск ва ўсіх чатырох словах прыпадае на першы склад. Менавіта так засведчана ў ТСБМ (т. 5, кн. 1, с. 315), СБМ (с. 763). У некаторых жа даведніках паказана, што для слова *статут* характэрна акцэнтная варыянтнасць (*ста́тут* і *стату́т*): БРС (1989, т. 2, с. 510), "Слоўнік іншамоўных слоў" А. Булыкі (1999, т. 2, с. 412). А яшчэ ў шэрагу слоўнікаў нарматыўным прызнаецца толькі адзін варыянт – з націскам на апошнім складзе: РБС (1982, т. 2, с. 539: *уста́в – стату́т*), "Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы" Г. Арашонкавай і В. Лемцюговай (1987, с. 172), "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (1996, с. 626), "Арфаграфічны слоўнік для школьнікаў" А. Булыкі (2000, с. 181).

Дык як быць у такім разе сучаснаму носьбіту беларускай мовы? Якому акадэмічнаму слоўніку аддаць перавагу? Каму верыць? Як ацэньваць Купалава ўжыванне гэтага слова? Дарэчы, усе гэтыя слоўнікі складаліся супрацоўнікамі адной і той жа навуковай установы – Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа.

**Іван ЛЕПЕШАЎ,**
доктар філалагічных навук.



# МЕТОДЫКА І ВОПЫТ

*Новае ў правапісе*

Віктар ІЎЧАНКАЎ

## БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС У АПОРНЫХ СХЕМАХ

*Працяг. Пачатак у №№ 5, 6.*

Увазе чытачоў прапануюцца апорныя схемы па новай рэдакцыі беларускага правапісу. Правілы падаюцца пакрокава ў выглядзе стандартных фігур рознай формы. Схемы адпавядаюць структуры правіл (Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск: Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2008). Новае і тое, што патрабуе асаблівай увагі, у апорных схемах пазначана клічнікам.

### ПАДОЎЖАНЫЯ І ПАДВОЕНЫЯ ЗЫЧНЫЯ

Схема 17

**На пісьме падоўжаныя зычныя *ж, з, дз, л, н, с, ц, ч, ш*, якія стаяць паміж галоснымі, абазначаюцца падвоеным напісаннем адпаведных літар (падоўжанае *дз* на пісьме перадаецца як *ддз*):** *замужжа, Залужжа, раздарожжа, ружжо, маззю, рыззё, суддзя, разводдзе, ладдзя, пападдзя, колле, вяселле, наваколле, карэнне, насенне, вараннё, двукоссе, калоссе, адкрыццё, дзесяццю, жыццё, забыццё, куцця, мыццё, пятнаццаццю, пяццю, пяццюдзесяццю, сваццця, суквецце, ламачча, ноччу, Уручча, зацішша, узвышша, мышшу.*

**Ва ўласных імёнах і назвах падоўжанае вымаўленне зычных адлюстроўваецца на пісьме:** *Аўгіння, Аксіння, Анісся, Аўдоцця, Наталля, Таццяна, Усціння, Фядосся, Траццякоўка, Краснаполле, Залессе, Закарпацце* і інш.;
**але:** *Ілья, Емяльян, Касьян, Ульян, Ульяна, Юльян, Юльяна, Традзьякоўскі* і вытворныя ад іх: *Ільін, Ільіч, Ільінскі, Ільічоўка, Ульянаў, Ульянаўск, ульянаўскі* і інш.

!

**У запазычаных словах, у тым ліку ва ўласных імёнах і назвах, і вытворных ад іх словах падвоеныя літары звычайна не пішуцца:** *граматыка, група, калектыў, карэспандэнт, каса, піца, саміт; Ала, Васа, Генадзь, Іна, Нона, Калькута, Марока, Ніца;*
**але:** *бонна, донна, дурра* (расліна), *манна, панна, ванна, мадонна, саванна; Ганна,* ***Жанна***, ***Сюзанна***, *Мекка* і інш.

**ПРАВАПІС МЯККАГА ЗНАКА І АПОСТРАФА**

Схема 18

# ЗМЯКЧАЛЬНЫ МЯККІ ЗНАК

## Мяккі знак пішацца:

**Пасля зычных *з, л, н, с, ц* (з мяккага *т*), *дз* (з мяккага *д*): перад наступным мяккім зычным тады, калі пры змене формы таго ж слова (або пры замене яго другім словам таго ж кораня) гэты мяккі зычны становіцца цвёрдым, а папярэдні зычны захоўвае сваю мяккасць:** *барацьбе (барацьба), пісьменнік (пісьмо), васьмю (восьмы), цьмяны (цьма).*

**Для абазначэння на пісьме мяккасці [н]: перад суфіксам *-к-*, а таксама перад суфіксам *-чык-* (калі слова без суфікса *-чык-* заканчваецца мяккім знакам):** *песенька, нянька (*і *няньчыць); каменьчык (камень);*
**перад суфіксам *-ск-* у прыметніках ад назваў месяцаў на [н′] і ў назоўніку *восень*:** *студзеньскі, чэрвеньскі, ліпеньскі, снежаньскі, восеньскі*, **а таксама ў суадносных уласных назвах:** *Чэрвеньскі раён, Ліпеньская школа;*
**у суфіксе *-еньк-* (*-эньк-, -аньк-*):** *маленькі.*

**Перад канчаткам *-ма* ў дзеясловах загаднага ладу першай асобы множнага ліку:** *кіньма.*

**Перад канчаткам *-це* ў дзеясловах загаднага ладу другой асобы множнага ліку:** *будзьце, станьце, намыльце.*

**Перад зваротнай часціцай *-ся*:** *кінься, звесься.*

**У складаных лічэбніках:** *пяцьдзясят, пяцьсот, шэсцьсот, дзевяцьсот.*

**У назоўніках перад канчаткам творнага склону множнага ліку *-мі*:** *коньмі.*

**У часціцы *-сьці*, якая ўваходзіць у склад слова:** *штосьці, чагосьці, кудысьці, дзесьці, чамусьці, якісьці.*

**У слове** *ледзьве.*

Схема 19

# ЗМЯКЧАЛЬНЫ МЯККІ ЗНАК

## Мяккі знак не пішацца:

**Пасля шыпячых (*ж, дж, ч, ш*), *р, ц* (не з *т* мяккага) і *д, т*, а таксама пасля губных *б, в, м, п, ф*:** *дождж, ноч, мыш, цар, купец, голуб, п'едэстал, сям'я, В'етнам.*

**Пры падаўжэнні зычных:** *насенне, ралля, галлё, калоссе,* **а таксама падваенні:** *ззяць.*

**Увага!**
**У прыметніках з суфіксам *-ск-*, утвораных ад назоўнікаў на *-нь*:** *конскі* (конь), *астраханскі* (Астрахань), *любанскі* (Любань), *плзенскі* (Плзень), ***чань-чунскі*** (Чань-Чунь), ***цянь-шанскі*** (Цянь-Шань).

**Пасля *з, с, ц, дз* перад мяккімі зычнымі, калі пры змене формы таго ж слова (або пры замене яго другім словам таго ж кораня) нельга паставіць гэтыя *з, с, ц, дз* перад цвёрдым зычным:** *песня – песні – песнямі, звер – зверам – звяроў, свет – свяціць – асвятленне, дзверы – дзвярэй, чацвер – чацвяргом, чацвёрты – чацвярціна – чацверыком, цвёрды – сцвярджаць; схіліцца, скінуць, ёсць, Дзвіна, Дзмітрый.*

Схема 20

# РАЗДЗЯЛЯЛЬНЫ МЯККІ ЗНАК

## Раздзяляльны мяккі знак пішацца:

**Пасля зычных *л, с, ц* (з мяккага *т*), *дз* і непрыставачных *н* і *з* перад *е, ё, і, ю, я* ў словах іншамоўнага паходжання:** *вальера, кальe, дасье, пасьянс, парцье, Дзьюі, мадзьяры, каньён, Нью-Ёрк, Карбюзье, Лавуазье.*

**Ва ўласных імёнах і назвах, утвораных ад імён на *-ій* (*-ый*), пасля зычных *л, с, ц, дз, н, з* перад суфіксальным *-еў-* (*-ев-*):** *Васільеў, Васільевіч, Афанасьевіч, Кандрацьеў, Аркадзьеў, Аркадзьевіч, Арсеньеў.*

**Пасля *г, к, х* і збегу зычных, акрамя *нц*, перад суфіксальным *-еў-* (*-ев-*) пішацца *і* (*ы*):** *Георгіеў, Георгіевіч, Яўціхіеў, Яўціхіевіч, Іраклієвіч, Яўлампіевіч, Ануфрыеў, Ануфрыевіч, Ануфрыеўка, Дзмітрыеў, Дзмітрыевіч;* **але:** *Вікенцьеў, Вікенцьевіч, Лаўрэнцьеў, Лаўрэнцьевіч, Кліменцьевіч* і інш.

**ПРАВАПІС МЯККАГА ЗНАКА І АПОСТРАФА**

Схема 21

# АПОСТРАФ

## Апостраф пішацца пры асобным вымаўленні:

**Пасля прыставак, якія заканчваюцца на зычную, перад *е, ё, ю, я* і націскным *і*:**
*ад’е́зд, аб’ём, аб’я́ва, аб’ядна́цца, пад’ёмны, раз’ю́шыцца, між’я́русны, аб’і́нец, уз’ядна́нне, ад’юта́нт, ін’е́кцыя, кан’юнкту́ра.*

**У сярэдзіне слова пасля губных *б, в, м, п, ф*, заднеязычных *г, к, х*, шыпячых *ж, дж, ч, ш*, зубных *д, т* і дрыжачага *р* перад літарамі *е, ё, і, ю, я*:**
*б’ецца, В’етнам, сям’я, Дзям’ян, Камп’ен, саф’ян, Мантэг’ю, Лук’ян, Х’юстан, Аж’е, Ч’япа, Буш’е, Д’еп, бар’ер.*



**Увага!**
**У складаных словах з першай часткай *двух-, трох-, чатырох-, шмат-* перад літарамі *е, ё, ю, я*:**
*двух’ярусны, трох’ярусны,* ***шмат’ядзерны***, ***шмат’ёмісты***.

Схема 22

## Апостраф не пішацца:

**Пасля *ў* (*у* нескладовага) перад літарамі *е, ё, і, ю, я*:** *абаўецца, саўюць, салаўі.*

**У складаных і складанаскарочаных словах на мяжы састаўных частак, у тым ліку калі іх часткі пішуцца праз злучок:**
*цэхячэйка, дзяржюрвыдавецтва, трэд-юніёны.*

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС І ГРАМАТЫКА

## ТЭОРЫЯ І ЗАДАННІ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

Сучасная беларуская літаратурная мова – поліфункцыянальная. Яна выкарыстоўваецца ў розных сферах дзейнасці чалавека з рознымі камунікатыўнымі мэтамі: для назапашвання і перадачы інфармацыі, асваення вопыту папярэдніх пакаленняў, выражэння эмоцый і рэалізацыі творчых памкненняў. Найважнейшыя характарыстыкі літаратурнай мовы – гэта яе наддыялектны характар, функцыянальна-стылявая разгалінаванасць, устойлівыя арфаэпічныя, арфаграфічныя, граматычныя і лексічныя нормы. Бо менавіта норма з'яўляецца адной з асноўных умоў стабільнасці, адзінства, самабытнасці мовы і таму павінна спрыяць захаванню нацыянальнай маўленчай культуры.

Паняцце нормы прадугледжвае пэўную "гістарычную глыбіню", аднак варта памятаць, што разам з развіццём мовы можа змяняцца і норма. Таму задача грамадства не толькі ў своечасовай фіксацыі сучаснага стану агульнапрынятых моўных сродкаў, але і ў поўным авалоданні імі.

Паспяховая рэалізацыя Закона Рэспублікі Беларусь "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" ад 23 ліпеня 2008 г. у многім залежыць ад настаўнікаў – ад правільна арганізаванай працы на ўроку, ад кваліфікавана і даступна патлумачаных тэарэтычных палажэнняў, ад удала падабранага матэрыялу для замацавання і кантролю ведаў, уменняў і навыкаў.

Калектыў выкладчыкаў Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка прапануе цыкл публікацый, якія дапамогуць педагогам у правядзенні ўрокаў па вывучэнні беларускага правапісу і граматыкі.

**ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ *О, Э, А***

| Літары *о*, *э* ў беларускай мове пішуцца пад націскам: *дом, колас, опера, рэкі, сэрца, жэмчуг, арэнда, глотка, гром*. | |
|---|---|
| Незалежна ад паходжання слова ў ненаціскным становішчы яны чаргуюцца з *а*: *дамы, каласы, рака, сардэчны, жамчужына, арандаваць, Шаўчэнка, адажыа, трыа, сальфеджыа, партфоліа, Токіа, Ватэрлоа, Антарыа, Бакачыа*. | Передача на пісьме *э* ў запазычаных словах у ненаціскных складах вызначаецца наступнымі правіламі:<br>• у адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем пачатковы [э] захоўваецца на пісьме: *эвалюцыя, экран, экспазіцыя, экспрэсія, этажэрка*. У другой частцы складанага слова, пасля прыставак таксама пішацца літара *э*: *трохэлементны, праэкзаменаваць*;<br>• пасля шыпячых, цвёрдых [р], [д], [т], [ц] пішацца *э*: *ветэран, гардэроб, жэлацін, рэформа, тэатр, тэрмометр*. Напісанне *э* і *а* пасля іншых зычных вызначаецца па слоўніку: *панэль*, але *шынель*. |
| У складах *ро*, *ло* не пад націскам *о* чаргуецца з *ы*: *глытаць, грымоты*. | |

| Фіналі *-эль, -ар* | |
|---|---|
| Ненаціскныя фіналі *-эль, -ар* у іншамоўных словах перадаюцца як *-аль, -ар*: *агітатар, вінчэстар* (зброя), *бартар, камп'ютар, магістар, прынтар, шпаталь, шніцаль* (але *сканер*). | Ва ўласных імёнах іншамоўнага паходжання ненаціскныя фіналі *-эль, -ар* перадаюцца нязменна: *Вінчэстэр* (прозвішча), *Гары Потэр, Гендэль, Манчэстэр, Рыхтэр, Юпітэр*. |

**Заданне 1.** Змяніце словы або падбярыце да іх аднакарэнныя так, каб *о, э* сталі не пад націскам. Запішыце словы парамі, растлумачце правапіс галосных.

**Варыянт 1.** Золата, шэры, свой, шэпт, дровы, прыгожы, цэнтр, дабрэць, рамонт, грэць, год, цэнтр, поўнач, рэформа, абаронца, бавоўна, гром, жэрдзе, застрэшак, гарызонт.

**Варыянт 2.** Гоман, двор, мой, бактэрыя, чароўны, шэрсць, дробны, байкот, чорны, бяссрэчны, дорага, кроў, іронія, пояс, размова, бровы, чабор, шоўк, дрэва, экспарт.

**Заданне 2.** Прачытайце, растлумачце правапіс *о, э, а*. Сэнс незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

Рамонт, чароўна, рэдакцыя, рэкі, холад, дрывасек, застрэшак, адажыа, бурымэ, бартар, дровы, характар, Токіа, поплаў, эпоха, эпітэт, полымя, Рыа-дэ-Жанэйра, жэтон, лідар, Гендэль, сканер, рачулка, шэрань, ордэн, праэкзаменаваць, Жэнева, правайдар, бавоўна, латарэя, сальфеджыа, энцыклапедыя, Шаўчэнка, сэрца, партфоліа, камп'ютар, лазовы, Чалюскін, рэзюмэ.

**Заданне 3.** Спішыце, устаўляючы патрэбныя галосныя, растлумачце іх правапіс.

**Варыянт 1.** Абгар…джваць, др…вотня, ц…гла, м…ладзь, пір…г, р…спубліка, др…вы, эпіт…т, ц…ны, др…бны, ац…нка, вінчэст…р, зашч…бечуць, кр…пасны, Ч…рнышэўскі, пр…зент, стр…каза, ц…нтральны, р…дзенькі, кр…пасць, сальфеджы…, камп'ют…р, п…шта, Гары Пот…р, тры…, др…сіроўшчык, лід…р, Токі…, ш…птаць, ж…мчужына.

**Варыянт 2.** Фламаст…р, ж…ўты, р…бры, ц…стэрна, ц…нтравы́, стр…льба, д…летант, скан…р, адажы…, Вінчэст…р, прынт…р, м…ўленне, ар…ндаваць, Ж…нева, Юпіт…р, інт…рнэт, п…плаў, зар…чны, р…клама, ж…ўтаваты, бл…ха, рэйндж…р, ж…лацін, х…лад, с…рдэчны, т…лефон, ас…нсаванне, Ч…люскін, Піт…р, ш…раваты.

**Заданне 4.** Запішыце словы па-беларуску і растлумачце напісанне ў іх *о, э, а*.

**Варыянт 1.** Дровосек, ремонт, Горацио, винчестер, монолог, концерт, купе, Хосе, желатин, Онтарио, шестерка, эксперимент, желудь, академический, сольфеджио, реформа, шницель, целлюлоза, речной, бровь, желтоватый, Эстония, канапе, Токио, тема, катер, гендерность, облако, лидер, сканер, Череповец, телефон, похолодание, трио, Макао, галифе.

**Варыянт 2.** Рейнджер, адажио, карцер, Фишер, Женева, заречный, церемония, демонстрация, стрекоза, крепость, горизонт, железо, Баренцево море, желтоватый, грейдер, орден, жемчужина, Юпитер, жевать, эшелон, турне, компьютер, каприччио, карате, скутер, галантерея, родео, шестерка, глотать, интервал.

### ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ *Е, Ё, Я*

| Літары *е, ё* пішуцца пад націскам: *дзевяць, сем, вёска, дзённік, мёд, мёрзлы, сёмга.* | | | |
|---|---|---|---|
| У першым складзе перад націскам замест літар *е, ё* пішацца *я*: *мёд – мядовы, дзевяць – дзявяты, дзесяць – дзясяты, сем – сямнаццаць.* | Ва ўсіх іншых ненаціскных складах *е* захоўваецца: *верацяно, вечарына, дзевятнаццаты.* Літара *ё* ў ненаціскным складзе пішацца ў словах з коранем *ёд-* і *ёт-*: *ёдаметрыя, ётаваны.* | Пасля заднеязычных *г, к, х* у першым пераднаціскным складзе захоўваецца *е*: *гепард, гербарый, Германія, кефір, Херсон.* | Літара *я* пішацца ў каранях некаторых слоў: *мяккаваты, цягавіта, пояс, месяц, заяц.* |

**Заданне 1.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс слоў.

**Варыянт 1.** Б…сконцы, м…д, кал…ндар, дз…сяты, к…фір, б…тон, Г…ракл, з…л…наваты, сц…на, вас…мнаццаць, зар…чча, бал…рына, Х…рсон, дз…сятка, ц…ц…рук, ц…гавіты, б…здарожны, Б…рлін, м…даль, с…ржант, Б…тховен, аб…ліск, Ал…ксей, м…тровы, паўдз…сятка, б…злессе, г…рбарый, вос…мдз…сят, с…кунда, дз…с…ць, н…пісьменны, св…ткаваць.

**Варыянт 2.** П…рон, ц…гавіты, дз…сятаму, к…фір, б…злессе, б…льгіец, б…нгальскі, б…л…трыстыка, св…домасць, в…нгерскі, с…мнаццаць, п…нал, вас…мнаццаты, л…мантаваць, б…з меры, роўн…дзь, вал…йбол, дз…вяты, дз…рністы, дз…тл…ня́, Мак…донія, м…даль, м…тро, П…трусь, кал…ндар, с…кунда, л…снік, г…рманскі, нев…сёлы, Св…тлана, Арг…нціна.

**Заданне 2.** Змяніце словы так, каб у іх на месцы *е, ё* было *я*. Запішыце словы парамі, растлумачце правапіс галосных.

Цёплы, плесці, дзень, вербы, след, месца, нёс, сёстры, далёкі, вёслы, елка, вецер, снег, сем, перанесці, серп, цвёрды, цень, дзевяць, лешч, зеленаваты, дзесяць, весела, сельскі, поезд, верх, веснавы.

**Заданне 3.** Запішыце словы па-беларуску і растлумачце напісанне ў іх літар *е, ё, я.*

**Варыянт 1.** Березка, генерал, пятьдесят, ефрейтор, Менделеев, веселый, восемьсот, спектакль, Европа, бесстрашный, Ершов, семнадцать, металл, Македония, вечер, вельвет, немецкий, безграничный, аппетит, пятидесятый, Васнецов, пенал, енот, тележка, зеленоватый, методика, молекулярный, беллетристика, Белинский, Версаль.

**Варыянт 2.** Земной, спектакль, Герасим, Александр, девятнадцатый, денек, селекция, генерал, веревочный, Аргентина, телефон, бетон, балерина, десятый, гербарий, медуза, мензурка, легендарный, Сервантес, метафора, метро, середина, несете, берлога, полдесятка, дежурный, операция, пятидесятый, Несвиж, Тегеран.

**Заданне 4.** Запоўніце табліцу.

| Правапіс *о, э, а* | Правапіс *е, ё, я* |
|---|---|
| | |

**Варыянт 1.** Антары…, б…змежны, б…скарысны, бр…во, бр…зент, в…с…мнаццаты, в…снушка, ве…лка, высв…тліць, Г…расім, Гары Пот…р, ж…лацін, ж…ўты, к…раміка, камп’ют…р, кр…пасны, л…сніковы, лат…рэя, майст…р, п…ццюдз…с…ццю, паж…ўклы, праг…мець, р…клама, р…мантаваць, с…мнаццаць, тракт…р, хр…бет, ц…ц…рук, ц…мент, ц…на, Ч…рнышэўскі, ч…снок, шніц…ль.

**Варыянт 2.** Адажы…, в…снавы, г…рбарый, г…рой, гл…ток, дз…в…ты, др…вотня, …ўропа, кіб…рнетыка, л…бёдка, літ…ратура, м…сцовасць, Манчэст…р, н…пісьменны, п…ргамент, партфолі…, пас…ленец, паўдз…сятка, Піт…р, по…зд, прынт…р, с…мідз…с…ты, с…мнаццаць, скан…р, тры…, тыс…ча, тэнд…р, фламаст…р, Х…рсон, ш…раваты, Ш…ўчэнка, Юпіт…р.

### ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ У СКЛАДАНЫХ СЛОВАХ

У складаных словах можа быць адзін асноўны і адзін або некалькі пабочных націскаў. Калі націск у другой частцы складанага слова на першым складзе, то ў першай частцы замест *о* пішацца *а*: *вадасхо́вішча, даўгаве́чны, гарналы́жны.* У першай частцы складаных слоў захоўваецца *о*, калі ў другой частцы слова націск падае не на першы склад: *до̀ўгачака́ны, во̀гнетушы́льны, во̀далячэ́бніца, до̀брасусе́дства.*

Лічэбнік *сто* ў складаных словах заўсёды мае форму *ста*: *стагадо́вы, стаметро́ўка, ста́ножка.*

Літара *о* захоўваецца ў складаных словах, першай часткай якіх з’яўляюцца *слова-, што-, фота-, мота-*: *словатворча́сць, словафо́рма, словападзе́л, словаўжыва́нне, мотара́лі, мотаро́лер, мотаго́нка* (але *матацы́кл, матаво́з* і вытворныя ад іх), *фотако́нкурс, фотапартрэ́т, фотафі́ніш* (але *фатагра́фія* і вытворныя ад яго).

У першай частцы некаторых складаных слоў, асабліва навуковых тэрмінаў,

НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ ПРАВІЛ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

можа праяўляцца пабочны націск і тады, калі асноўны на першым складзе другой асновы: *азо̀тнакі́слы, мо̀вазна́ўства, мало̀чнакі́слы*.

Літара *о* пішацца ў першай частцы складаных слоў, калі другая частка пачынаецца з *ў* (*у* нескладовага): *збо̀жжаўбо́рка, маро̀заўсто́йлівы*.

Літара *е* захоўваецца ў першай частцы складанага слова незалежна ад таго, на якім складзе націск у другой частцы: *свежазамаро́жаны, белагры́вы*. У складаных словах з асновай *велік-* (*вялік-*) у першай частцы слова пішацца *е*, калі націскным з'яўляецца першы склад другой часткі: *велікаро́слы, велікагру́зны, велікаду́шны*. Літара *я* пішацца, калі націск не на першым складзе: *вялікаакія́нскі, вялікадзяржа́ўны, Вялікабрыта́нія*.

Літара *ё* захоўваецца ў першай частцы складанага слова пры націску не на першым складзе другой часткі: *лёнаапрацо́ўка, лёгкавыраша́льны, мёдаварэ́нне, цёмнавало́сы*. Замест *ё* пішацца *е*, калі націск падае на першы склад другой часткі: *легкакры́лы, легкара́нены, медано́сны, цемнаво́кі, цемнаску́ры*.

**Заданне 1**. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс.

**Варыянт 1.** В…дасховішча, т…рфаўборачны, з…мл…коп, м…тавоз, р…дкалессе, в…лам…таспорт, г…рналыжны, ф…такамера, в…даразборны, м…вазнаўства, сл…ватворчасць, ст…гадовы, зерн…сховішча, в…лікасвецкі, в…рацярпімасць, к…нтрмеры, выс…к…частотны, мал…чнакіслы, р…дкалессе, сін…вокі, зб…жжаўборка, м…танакіраваны, ш…сцісоты, св…жавымыты, В…лікабрытанія, л…дарэз, мар…з…ўстойлівы, л…гкаатлет.

**Варыянт 2.** В…гн…тушыцель, з…мл…мер, л…даўборачны, б…яздольны, н…д…бразычлівец, кін…аматар, ф…таграфія, ск…раварка, с…мібор'е, в…днатранспартны, ст…кілаграмовы, заходн…еўрапейскі, в…лікагрузны, м…тавоз, в…лікаакіянскі, л…гкакрылы, ст…п…цідз…с…цігоддзе, сл…ваўжыванне, пр…цівірусны, ш…рсц…прадзільны, л…дадрабільны, ст…галосы, ч…рнаплодны, ц…мнавокі, х…ладаўстойлівы, с…р…дн…сутачны, х…лоднапракатны, ст…працэнтны.

**Заданне 2.** Утварыце ад наступных спалучэнняў слоў складаныя словы. Запішыце іх, растлумачце правапіс галосных.

Тонкі (ствол), што (месяц), розны (колер), сто (працэнтаў), сінія (вочы), фосфарны (кіслы), здабыча (вугалю), рэдкія (зубы), зерне (бабы), роўныя (правы), слова (творчасць), убіраць (збожжа), дзесяць (гадоў), свежы (марозіць), гадаваць (коней), высокая (проба), радаснае (жыццё), мёд (збіраць), кроў (цячы), востры (вугал), вада (лячыць).



**ПРАВАПІС СПАЛУЧЭННЯЎ ГАЛОСНЫХ У ЗАПАЗЫЧАНЫХ СЛОВАХ**

| | |
|---|---|
| Спалучэнні *іо*, *йо*, калі яны вымаўляюцца як два склады, перадаюцца на пісьме: | у пачатку слова – літарамі *іо* пад націскам: *іон, іонаабмен, Іосіф*, а літарамі *іа* не пад націскам: *іанізатар, іанасфера, Іанічнае мора;* |
| | у сярэдзіне слова – пад націскам літарамі *іё* (*ыё*): *грацыёзны, аксіёма, геліёграф, рацыён*, не пад націскам – літарамі *ія* (*ыя*): *патрыятызм, ажыятаж, дыядэма*. |
| Калі спалучэнне *йо* вымаўляецца як адзін склад, | то на пачатку слова яно перадаецца праз *ё*: *ёгурт, ёд, ётавы, Нью-Ёрк*; |
| | то ў сярэдзіне слова пад націскам пішацца літара *ё*: *булён, раён, мікрараён, маёр*, а не пад націскам – літара *я*: *маянэз, раяніраваць*. |
| Спалучэнне *іе* | незалежна ад націску і месца ў слове на пісьме абазначаецца літарамі *іе* (*ые*): *абітурыент, кліент, дыета, іерогліф, іерыхонскі*. |
| Спалучэнне *йе* вымаўляецца як адзін склад | незалежна ад пазіцыі ў слове на пісьме перадаецца праз *е*: *езуіт, праект, фае, Феербах*. |
| Спалучэнне *іа* | незалежна ад націску абазначаецца літарамі *ія* (*ыя*): *варыянт, геніяльны, дыяпазон, піяніст*. |
| Спалучэнне *йа* | пасля галосных і ў пачатку слова абазначаецца літарай *я*: *ярд, яхант, лаяльны*; |
| | пасля зычных *л*, *с*, *ц* (мяккага), *дз* і непрыставачных *н*, *з* – праз *ья*: *мільярд, кальян, альянс*; |
| | пасля астатніх зычных – праз *'я*: *саф'ян*. |
| Спалучэнне *ео* | пад націскам перадаецца праз *ео* (*эо*): *акардэон, ідэолаг, фразеолаг*; |
| | не пад націскам абазначаецца літарамі *эа* (*еа*): *акардэаніст, ідэалогія, фразеалогія*. |
| Спалучэнне *еа* | на пісьме абазначаецца літарамі *еа* (*эа*): *лаўрэат, рэалізм, неандэрталец, Неапаль* (але *акіян* і вытворныя ад яго). |

Большасць запазычаных слоў пішуцца згодна з правіламі беларускай арфаграфіі. У некаторых іншамоўных словах спалучэнні галосных захоўваюцца нязменна.

**Заданне 1**. Растлумачце правапіс спалучэнняў галосных у запазычаных словах. Сэнс незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

Стадыён, фае, мельхіёр, маянэз, афіцыянт, арыенцір, акіянскі, ёгурт, каланіяльны, біёлаг, матэрыял, чэмпіён, Нью-Ёрк, акардэаніст, віяланчэль, кліент, геніяльны, генеалогія, акіянарыум, Мая, фартэпіяна, ятаган, акцыянерны, булён, іерогліф, іанізацыя, Ліён, ліяна, іон, траекторыя, дыяфрагма, піяла, іерыхонскі, іаніт, раён, лайнер, бібліятэка, філіял, інгрыдыент, дыета, бібліяграфія, Іанічнае мора, саквояж.

**Заданне 2.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс спалучэнняў галосных.

**Варыянт 1.** Ав…цыя, філ…л, пац…нт, п…ніст, д…дэма, …гурт, пер…дыка, Эф…пія, абітур…нт, прафес…нал, акард…н, фе…рверк, шп…н, ч…мп…нат, гіг…на, …рогліфы, ла…льны, секво…, фа…, ма…нэз, б…тлон, ма…р, ген…льны, мін…цюрны.

**Варыянт 2.** П…ла, б…логія, стад…н, д…та, кампан…н, ак…нскі, …нізацыя, зад…к, прафес…нал, Нью-…рк, …рданія, ра…н, папа…,

алімп…ц, антыквар…т, апаф…з, аўд…апаратура, афіц…зны, бактэр…логія, бібл…граф, энтуз…зм, натар…т, лег…нер, фр…н, ф…летавы, фе…рычны, т…логія, тр…да, стыпенд…т.

**Заданне 3.** Запішыце словы па-беларуску, растлумачце правапіс спалучэнняў галосных. Сэнс незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

**Варыянт 1.** Юниор, приоритет, Иоланта, ориентация, авиация, радио, йог, грандиозный, аудиенция, Лиозно, идеограмма, лабиальный, мантия, региональный, пионы, физиотерапия, иерархия, индустриальный, ориентир, бастион, Адриатическое море, фиаско, авиация, Майоров, акционер, универсиада, траектория, папайя, теоретик, рантье, аммиак, лосьон, чемпион, иерархия, Берлиоз, геодезия, артезианский, кардиограмма, сиамский.

**Варыянт 2.** Палеонтология, пианино, Нью-Йорк, реактив, диаметр, фойе, майонез, лауреат, океанолог, филиал, стеарин, аккордеон, йога, медиабизнес, Эфиопия, виолончель, аукцион, ориентация, радиационный, диаграмма, океан, радио, коллекционер, миниатюрный, мелиорация, период, абитуриент, ажиотаж, чемпионат, гносеология, пиар, эфиопский, ионизатор, мельхиор, бастион, аксиома, приоритет, олимпиада, театральный, проект, материализм, яхта, софьян, бульон, рояль, Майя, Иокагама, секвойя, йод, бактериолог.

*Працяг будзе.*

Падрыхтавалі
**Дзмітрый ДЗЯТКО,**
**Наталля РАДЗІВАНОЎСКАЯ,**
**Вольга УРБАН.**

*Метадыст прапануе*

# ЯК “ПЕРАЖЫЦЬ” ПЕРАХОДНЫ ПЕРЫЯД

## ФАКУЛЬТАТЫЎНЫЯ ЗАНЯТКІ “ВЫВУЧАЕМ БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС”, “ПРАКТЫКУМ ПА АРФАГРАФІІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ”

З 1 верасня 2010 года ўступае ў сілу Закон Рэспублікі Беларусь “Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” ад 23 ліпеня 2008 г. З мэтай якаснай арганізацыі працэсу навучання беларускай мове Міністэрствам адукацыі вызначаны пераходны перыяд па рэалізацыі палажэнняў Закона – з 1 верасня 2010 г. да 31 жніўня 2013 г.

Як адзначаецца ў інструктыўна-метадычным пісьме Міністэрства адукацыі “Аб выкладанні беларускай мовы і літаратуры ў 2010 / 11 навучальным годзе”, на кожным уроку беларускай мовы неабходна праводзіць арфаграфічныя хвілінкі, на якіх трэба знаёміць вучняў са зменамі ў напісанні тых ці іншых слоў у адпаведнасці з новай рэдакцыяй “Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”. У пераходны перыяд пры праверцы навучальных, кантрольных, экзаменацыйных работ памылкі ў напісанні слоў, якія адпавядаюць правілам арфаграфіі 1959 г. (*пяцьдзесят* замест *пяцьдзясят*, *кантрастны* замест *кантрасны*, *трыо* замест *трыа* і да т. п.), выпраўляюцца, аднак пры выстаўленні адзнакі не ўлічваюцца. Для правядзення кантрольных дыктантаў, пераказаў рэкамендуецца падбіраць тэксты, дзе не выкарыстоўваюцца словы, у правапісе якіх адбыліся змены. Калі ў тэкстах сустракаюцца такія словы, неабходна папярэджваць вучняў аб зменах у іх напісанні. Словы варта запісваць на дошцы, тлумачыць іх правапіс, а пры неабходнасці і лексічнае значэнне.

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

Для правядзення факультатыўных заняткаў у пераходны перыяд Нацыянальным інстытутам адукацыі распрацаваны вучэбна-метадычныя комплексы “Вывучаем беларускі правапіс” (V – IX класы) і “Практыкум па арфаграфіі беларускай мовы” (X – XI класы), кожны з якіх уключае вучэбную праграму, дыдактычныя матэрыялы і метадычныя рэкамендацыі для настаўнікаў (аўтары Г. Валочка, В. Зелянко). Названыя факультатыўныя заняткі дапамогуць вучням у пераходны перыяд засвоіць тыя змены, якія адбыліся ў беларускай арфаграфіі, і забяспечаць паспяховае вырашэнне праблемы фарміравання арфаграфічнай пісьменнасці школьнікаў.

**Вучэбная праграма** факультатыўных заняткаў уключае тлумачальную запіску, у якой раскрываецца іх актуальнасць (абумоўленая найперш змяненнем і ўдакладненнем некаторых правапісных нормаў сучаснай беларускай мовы, засвоеных вучнямі ў папярэдніх класах), акрэсліваюцца мэта і задачы, метады і прыёмы работы. У праграме вызначаны змест навучання, размеркаваны па раздзелах і тэмах, колькасць гадзін на вывучэнне кожнага раздзела; указаны прагназуемыя вынікі; змешчаны спіс рэкамендаванай літаратуры.

НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ ПРАВІЛ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

**Дапаможнік для вучняў** уключае разнастайны

дыдактычны (тэарэтычны і практычны) матэрыял, які забяспечвае замацаванне і сістэматызацыю ведаў, уменняў і навыкаў вучняў, удасканаленне арфаграфічнай пісьменнасці.

Фарміраванню правапісных уменняў і навыкаў вучняў спрыяюць практыкаванні, звязаныя з:

• размеркаваннем слоў па групах у адпаведнасці з прынцыпамі беларускай арфаграфіі;

• знаходжаннем у тэксце слоў, напісанне якіх адпавядае пэўнаму правілу;

• спісваннем слоў, сказаў, тэкстаў з устаўкай прапушчаных літар і раскрыццём дужак;

• падборам беларускіх адпаведнікаў да слоў з рускай мовы;

• пошукам слоў, у якіх допушчаны арфаграфічныя памылкі;

• працай з арфаграфічнымі слоўнікамі;

• пісьмом па памяці;

• арфаграфічным аналізам слоў і інш.

Замацаванне, паглыбленне і сістэматызацыя ведаў, удасканаленне ўменняў і навыкаў вучняў па арфаграфіі адбываюцца з апорай на веды па іншых раздзелах курса беларускай мовы:

• фанетыцы і арфаэпіі (напрыклад, пры вывучэнні тэмы "Правапіс і вымаўленне звонкіх і глухіх, шыпячых і свісцячых зычных" даецца заданне запісаць прыказкі ў адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі: *Добраму го*[*с'*]*цю вароты самі ра*[*ш*]*чыняюцца*; *І печанае рэ*[*ц'*]*кі* [*з'*]*ясі, калі выгаладае*[*с̄'*]*я* і інш.);

• лексіцы [напрыклад, пры вывучэнні тэмы "Правапіс літар *у*, *ў*" прапануецца запісаць словы, якія адпавядаюць наступным лексічным значэнням: 'пышнае сцэнічнае відовішча з удзелам майстроў эстрады, цырка і інш.' (*шоу*); 'сукупнасць усіх відаў жывёл якой-небудзь тэрыторыі або пэўнага адрэзка часу, што гістарычна склалася за перыяд існавання Зямлі' (*фаўна*) і інш.];

• складзе слова і словаўтварэнні (напрыклад, пры вывучэнні тэмы "Правапіс падоўжаных зычных" даецца заданне пісьмова растлумачыць паходжанне назваў вёсак, пра якія ідзе гаворка ў тэксце паводле В. Віткі: "У нас адно паселішча называецца *Цераспопле*. Каб патрапіць у Цераспопле, трэба перайсці цераз поле. Няцяжка здагадацца, як утварыліся назвы вёсак *Заполле, Загор'е, Падгор'е, Залессе, Падлессе, Прылессе, Залужжа, Падлужжа, Зарэчча, Надрэчча, Прырэчча*");

• марфалогіі (напрыклад, пры вывучэнні тэмы "Правапіс мяккага знака і апострафа" прапануецца ад дзеясловаў *забрудзіць, кінуць, сустрэць, глянуць* і іншых утварыць і запісаць формы 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку загаднага ладу) і інш.

З мэтай развіцця маўленчых уменняў і навыкаў вучняў прадугледжаны заданні на ўспрыманне, разуменне, трансфармацыю, стварэнне і пісьмовае афармленне тэкстаў, напрыклад:

• прачытаць тэкст "Жаночая мова" паводле В. Мядзведзевай (тэкст прысвечаны беларускім ручнікам), растлумачыць сэнс загалоўка;

• на аснове інфармацыі, прыведзенай у тэксце "Ліпавая Калода" паводле В. Лемцюговай (тэкст паведамляе пра паходжанне назвы вёскі *Ліпавая Калода*), апісаць працэс вырабу борці, ужываючы дзеясловы загаднага ладу (узор: *Для таго каб змайстраваць борць, выберыце старую тоўстую сасну, дуб або ліпу…*);

• напісаць сачыненне-мініяцюру на тэмы (тып маўлення – разважанне): *"Даецца жыццё нам, каб радасць з адчаем вучыліся мы прымірадь"* (Н. Мацяш); *"Шкада, што казачныя словы мы хочам зберагчы на потым"* (С. Законнікаў) і інш.;

• перакласці тэкст з рускай мовы на беларускую і інш.

Значная частка дыдактычнага матэрыялу, прадстаўленага ў дапаможніку для вучняў, падаецца ў рубрыках "Правільнасць маўлення", "Мова і нацыянальная культура", "Назвы роднага краю" і інш. (V – IX класы); "Арфаграфія і лексікалогія", "Арфаграфія і фразеалогія", "Мова ў дыялогу культур" і інш. (X – XI класы).

У рубрыцы "Правільнасць маўлення", накіраванай на фарміраванне моўнай і камунікатыўнай кампетэнцый вучняў, тлумачацца значэнні слоў-паронімаў (*ордэн – ордар, тэлевізарны – тэлевізійны, пясчаны – пясочны*), прыставак *дыс-* і *дэз-*, першых частак складаных слоў *радыё-* і *радые-* і інш. Азнаямленне з рубрыкай спрыяе ўсведамленню вучнямі ролі арфаграфічнай нормы (дазваляе размяжоўваць сэнс аднолькавых або блізкіх па гучанні слоў і іх формаў).

Для засваення вучнямі арфаграфічных з'яў у кантэксце семантыкі слоў і фразеалагізмаў уводзяцца рубрыкі "Арфаграфія і лексікалогія", "Арфаграфія і фразеалогія". Напрыклад, пры вывучэнні тэмы "Правапіс спалучэнняў галосных *іё* (*ыё*), *ія* (*ыя*), *іе* (*ые*), *ео* (*еа*), *эо* (*эа*) у іншамоўных словах" у рубрыцы "Арфаграфія і лексікалогія" даецца заданне запісаць словы з левага слупка, раскрываючы дужкі; указаць лічбу, пад якой тлумачыцца лексічнае значэнне кожнага прыметніка ў правым слупку (узор: *ідэальны* [2]; гл. дадатак 1).

Для замацавання ўмення правільна пісаць літары *і, ы, й* пасля прыставак у рубрыцы "Арфаграфія і фразеалогія" прапануецца запісаць фразеалагізмы, устаўляючы, дзе трэба, літары, і суаднесці фразеалагізмы з іх значэннямі (гл. дадатак 2).

На развіццё лінгвакультуралагічнай кампетэнцыі вучняў накіраваны рубрыкі "Мова і нацыянальная культура", "Мова ў дыялогу культур", у якіх арфаграфічныя задачы вырашаюцца на аснове выкарыстання:

• культуразнаўчых тэкстаў, якія паведамляюць пра беларускія святы, звычаі і традыцыі, духоўныя і матэрыяльныя каштоўнасці, помнікі культуры, спецыфічныя рысы нацыянальнага характару, выдатных дзеячаў культуры і пад.; тлумачаць паходжанне і семантыку культурна афарбаваных моўных адзінак, раскрываюць нацыянальную спецыфіку маўленчых паводзін і пад.;

• нацыянальна маркіраваных моўных адзінак: устойлівых параўнанняў, фразеалагізмаў, прыказак і прымавак і інш. У прыватнасці, з мэтай удасканалення ўмення вучняў правільна пісаць словы з мяккім знакам і апострафам у рубрыцы "Мова ў дыялогу культур" даецца заданне ўстанавіць адпаведнасць паміж рускімі і беларускімі прыказкамі, запісаць беларускія прыказкі, устаўляючы, дзе трэба, мяккі знак ці апостраф (гл. дадатак 3).

Падобныя заданні спрыяюць папаўненню слоўніка вучняў народнымі выслоўямі, фарміраванню ўяўлення пра адметнасць беларускай і рускай моўных карцін свету.

Рубрыка "Назвы роднага краю" ўзбагачае школьнікаў ведамі пра беларускую тапаніміку, вывучэнне якой цесна звязана з матэрыяльнай і духоўнай культурай народа і таму патрабуе ўліку не толькі лінгвістычных, але і гістарычных, геаграфічных, прыродных, сацыяльна-эканамічных і іншых фактараў. Матэрыял, прадстаўлены ў названай рубрыцы, арганічна звязаны з тэмай заняткаў. Напрыклад, пры вывучэнні правапісу прыстаўных галосных *і, а* падаецца інфармацыя пра паходжанне тапонімаў *Амшара*, *Аржаніца*: "Назва *Амшара* паходзіць ад слова *амшара* (*імшара*) 'мохавае балота'. На тэрыторыі Беларусі назвы з гэтай асновай сустракаюцца паўсюдна: лясы *Амшар*, *Амшара*, палі *Амшарнікі*, *Амшарок*, балоты *Амшары*, *Амшарына*" (паводле В. Лемцюговай); "*Аржаніца* – прыток Бярозаўкі – Заходняй Дзвіны. Назва паходзіць ад слова *іржа*, бо часам вада ў рацэ ржавая, у ёй значныя сляды жалеза" (паводле У. Юрэвіча).

З мэтай развіцця арфаграфічнай пільнасці вучняў прапануюцца тэксты для самадыктантаў [пераважна культуразнаўчага зместу: "Песняры" (V – IX класы), "Графіка Георгія Паплаўскага" (X – XI класы) і інш.], якія школьнікі спачатку запісваюць у адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі, а потым выконваюць самаправерку.

Вывучэнне кожнай тэмы факультатыўных заняткаў у V – IX класах заканчваецца выкананнем тэставых заданняў закрытага (частка А) і адкрытага (частка В) тыпу, змешчаных у рубрыцы "Тэст для самаправеркі". У X – XI класах настаўнік таксама можа прапаноўваць вучням падобныя тэматычныя тэставыя заданні для аператыўнага ажыццяўлення кантролю за засваеннем матэрыялу. Для гэтага варта выкарыстоўваць падрыхтаваны ў адпаведнасці з новай рэдакцыяй "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" дапаможнік "Беларуская мова: дапаможнік для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання" Г. Валочкі, Я. Лаўрэля, С. Язерскай (Мінск, 2010), рэкамендаваны навукова-метадычнай установай "Нацыянальны інстытут адукацыі" Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

**Метадычны дапаможнік для настаўніка** змяшчае прыкладнае тэматычнае планаванне вучэбнага матэрыялу, рэкамендацыі па эфектыўнай арганізацыі і правядзенні факультатыўных заняткаў (вызначаюцца мэты заняткаў, формы, метады і прыёмы навучання і г. д.).

У дапаможніку для настаўніка акцэнтуецца ўвага на зменах, што адбыліся ў правапісе некаторых слоў. Напрыклад, да тэмы "Змякчальны мяккі знак як сродак абазначэння мяккасці папярэдняга зычнага" прыводзіцца наступны каментарый: "Пры засваенні правапісу мяккага знака неабходна звярнуць увагу на ўдакладненне, якое ўніфікуе правапіс прыметнікаў, утвораных ад назоўнікаў на *-нь*: мяккі знак не пішацца ў прыметніках, утвораных ад кітайскіх назваў (*чань-чунскі, цянь-шанскі, уханскі*), якія раней пісаліся з мяккім знакам".

Аўтары прапануюць разнастайныя метады і прыёмы вывучэння лінгвістычнай тэорыі:

• дапаўненне тэарэтычнага матэрыялу ўласнымі прыкладамі, што ілюструюць розныя палажэнні арфаграфічнага правіла;

• пісьмо па памяці слоў, якія прыводзяцца ў якасці прыкладаў у вучэбным тэксце;

• складанне схем, якія адлюстроўваюць правапіс слоў;

• складанне табліцы на аснове лінгвістычнай інфармацыі;

• падрыхтоўка вуснага лінгвістычнага паведамлення на аснове прапанаваных схем і інш.

Значную дапамогу ў падрыхтоўцы да заняткаў акажуць настаўніку змешчаныя ў метадычным дапаможніку:

• рэкамендацыі па арганізацыі самастойнай працы вучняў. Так, пры вывучэнні тэмы "Правапіс вялікай і малой літар" можна прапанаваць вучням скласці тэксты для ўскладненага спісвання (з устаўкай прапушчаных літар, выбарам з дужак патрэбнай літары) пра славутых дзеячаў нацыянальнай гісторыі і культуры. Тут варта выкарыстаць энцыклапедычны даведнік "Асветнікі зямлі беларускай" (2001). Картка з тэкстам павінна складацца з дзвюх частак: 1) тэкст, які трэба спісаць, рашаючы арфаграфічныя задачы; 2) тэкст для самаправеркі. Напрыклад:

**Валенцій Ваньковіч**

Жывапісец Валенцій Ваньковіч (1800 – 1842) нара(д, дз)іўся ў вёсцы (К, к)алюжыца на (М, м)іншчыне ў сям…і павятовага суд…і. Вучыўся ў (П, п)олацкім (Е, е)зуі(тс, ц)кім (К, к)алегі(у, ў)ме,

потым у (В, в)іленскім (У, у)ніверсітэце. Пасля заканчэння (у, ў)ніверсітэта за дз…ржаўны кошт быў накіраваны на вучобу ў (П, п)ецярбур…скую (М, м)астацкую (А, а)кад…мію.

Некаторыя карціны Ваньковіча захоўваюцца ў (Д, д)зяржаўным (М, м)астацкім (М, м)узеі (Р, р)эспублікі (Б, б)еларусь. Карціна "(М, м)адон…а з дзіцём" знаходзіцца ў (Л, л)уўры.

**Валенцій Ваньковіч**

Жывапісец Валенцій Ваньковіч (1800 – 1842) нарадзіўся ў вёсцы Калюжыца на Міншчыне ў сям'і павятовага суддзі. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, потым у Віленскім універсітэце. Пасля заканчэння ўніверсітэта за дзяржаўны кошт быў накіраваны на вучобу ў Пецярбургскую мастацкую акадэмію.

Некаторыя карціны Ваньковіча захоўваюцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Карціна "Мадонна з дзіцём" знаходзіцца ў Луўры.

• этымалагічныя даведкі (напрыклад, пры вывучэнні тэмы "Правапіс галосных *е, ё, я*" настаўнік можа зацікавіць вучняў паведамленнем пра паходжанне слова *апельсін*: "Слова *апельсін* запазычана з галандскай мовы, дзе *апель* – яблык, *Сіна* – Кітай; літаральна *апельсін* – кітайскі яблык");

• культуразнаўчыя звесткі [так, пасля напісання вучнямі самадыктанта "Русальны тыдзень" настаўнік можа распавесці школьнікам пра святкаванне Русальнага тыдня: *"У народзе верылі, што на Русальным тыдні русалкі могуць зацягнуць людзей у свае ўладанні (таму ў гэтыя дні забаранялася купацца), а таксама могуць паспрыяць таму, каб на зямлю праліўся неабходны для палеткаў дождж. На працягу ўсяго Русальнага тыдня дзяўчаты плялі вянкі, якія надзявалі падчас свята, прысвечанага праводзінам русалак, варажылі на гэтых вянках. Не пачыналі ніякай новай работы, не аралі, не сеялі, не вілі вяроўкі, не ставілі плот"* (паводле А. Катовіч, Я. Крука і інш.);

• дадатковыя заданні, якія спрыяюць узбагачэнню слоўнікавага запасу вучняў [напрыклад, пасля спісвання вучнямі слоў з літарамі *д* і *дз*, *т* і *ц* настаўнік можа прапанаваць знайсці сярод запісаных слоў тыя, якія адпавядаюць наступным лексічным значэнням: 'пясчаны пагорак, нанесены ветрам на марскім узбярэжжы' (*дзюна*); 'магутны электрычны асвятляльны прыбор, які выкарыстоўваецца пры кіназдымках' (*юпітар*) і інш.].

• практычны матэрыял, накіраваны на засваенне тэарэтычнай інфармацыі, прыведзенай у рубрыцы "Правільнасць маўлення" [так, пасля азнаямлення з тым, што ўжыванне зборных назоўнікаў (*калоссе*, *карэнне* і інш.) у форме множнага ліку (*калоссі*, *карэнні* і да т. п.) з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы, вучням можна даць заданне выправіць граматычныя памылкі ў сказах: 1) *Гарачыя камені былі пакрыты пылам.* 2) *Хатка на дзіцячай пляцоўцы была зроблена з сасновых бярвенняў* і інш.];

• узоры выканання некаторых заданняў;

• матэрыял для правядзення слоўнікавых дыктантаў і інш.

Такім чынам, развіццё арфаграфічных уменняў і навыкаў вучняў на факультатыўных занятках "Вывучаем беларускі правапіс", "Практыкум па арфаграфіі беларускай мовы" адбываецца шляхам увядзення актыўных прыёмаў працы. Прапанаваны дыдактычны (тэарэтычны і практычны) матэрыял, рэкамендаваныя метады і прыёмы работы не толькі дазволяць удакладніць і сістэматызаваць веды вучняў па арфаграфіі і ўдасканаліць на гэтай аснове ўменні і навыкі, але і будуць спрыяць фарміраванню ўсведамлення таго, што арфаграфічная пісьменнасць – адзін з паказчыкаў маўленчай і агульнай культуры асобы.

**ДАДАТАК 1**

| | |
|---|---|
| ід(эа, ыя)льны<br>ід(эа, ыя)лізаваны | 1) лепшы, чым у сапраўднасці, прыхарошаны<br>2) узвышаны; вельмі добры, дасканалы |
| р(эа, эя)лістычны<br>р(эа, эя)льны | 3) які зыходзіць з разумення і ўліку абставін, практычны<br>4) які сапраўды існуе; магчымы для выканання; |
| рац(ыа, ыя)налістычны<br>рац(ыа, ыя)нальны | 5) разумны, мэтазгодны<br>6) які абапіраецца толькі на патрабаванні логікі, розуму |
| нац(ыа, ыя)нальны<br>нац(ыа, ыя)налістычны | 7) які мае адносіны да нацыі; уласцівы нацыі<br>8) які мае адносіны да ідэалогіі і палітыкі, што прапаведуе выключнасць адной нацыі |

**ДАДАТАК 2**

| | |
|---|---|
| а) вы…сці сухім з вады | 1) зусім не закрануць, мінуць каго-небудзь, што-небудзь |
| б) ады…сці ў нябыт | 2) дзейнічаючы ашуканствам, застацца непакараным |
| в) пры…шло ў рукі | 3) каму-небудзь становіцца цяжка дыхаць (ад хвалявання, перажывання і пад.) |
| г) абы…сці бокам | 4) перастаць існаваць, знікнуць назаўсёды |
| д) ад…грываць ролю | 5) перашкодзіць каму-небудзь, апярэдзіўшы ў чым-небудзь і перахапіўшы тое, на што разлічваў іншы |
| е) за…мае дух | 6) вельмі лёгка дасталася |
| ё) раз…грываць камедыю | 7) мець значэнне, аказваць уздзеянне на каго-небудзь, што-небудзь |
| ж) пера…сці дарогу | 8) прыкідвацца перад кім-небудзь, крывадушнічаць |

**ДАДАТАК 3**

| | |
|---|---|
| а) Голодному Федоту и пустые щи в охоту. | 1) Хвалілася рэдз…ка, што з мёдам смачная. |
| б) Хвастала овца, что у нее хвост, как у жеребца. | 2) Сядз…ма на калодзе, пагаворым аб прыгодзе. |
| в) Обжегшись на молоке, будешь дуть и на воду. | 3) Апарыўся на капус…це ў гаршку, то і на гародзе дз…мухаў. |
| г) Глаза видали, что покупали. | 4) Быў кон…, ды з…езджаны, быў хлеб, ды з…едзены. |
| д) В ногах правды нет. | 5) У вераб…я багатая сям…я: у кожнага верабейкі па тры капейкі. |
| е) Богат Ермошка: завел кота да кошку. | 6) З гора, з бяды пад…еў лебяды. |
| ё) Был конь, да изъездился. | 7) Бачылі вочы, што бралі, а цяпер плач…це, хоць павылаз…це. |

**Вольга ЗЕЛЯНКО,**
малодшы навуковы супрацоўнік
лабараторыі гуманітарнай адукацыі
Нацыянальнага інстытута адукацыі.

*У дапамогу настаўніку*

Ганна ВАЛОЧКА

# АРГАНІЗАЦЫЯ І ПРАВЯДЗЕННЕ ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

На працягу ўсяго навучання беларускай мове (V – XI класы) у агульнаадукацыйных установах з беларускай і рускай мовамі навучання прадугледжваюцца факультатыўныя заняткі, якія з'яўляюцца формай арганізацыі вучэбнай дзейнасці вучняў і накіраваны перш за ўсё на адпрацоўку спосабаў дзейнасці, неабходных для асэнсавання законаў і фактаў мовы; фарміраванне вопыту творчай дзейнасці, а таксама на развіццё пазнавальнай дзейнасці вучняў, іх інтэлектуальных і творчых здольнасцей, фарміраванне навыкаў самастойнай вучэбнай дзейнасці.

Асноўная мэта факультатыўных заняткаў развіццёвая, паколькі гэтыя заняткі дазваляюць павысіць ступень асэнсаванасці і ўспрымання вучнямі моўнай і маўленчай тэорыі ў межах базавай праграмы, актуалізаваць набытыя на ўроках беларускай мовы ўменні і навыкі, у тым ліку навыкі практычнай маўленчай дзейнасці.

Факультатыўныя заняткі па беларускай мове, распрацаваныя ў лабараторыі гуманітарнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі для V – XI класаў, носяць сістэмны характар і захоўваюць на працягу ўсяго працэсу навучання пераемнасць з асноўным зместам вучэбнай праграмы па беларускай мове (V – XI класы).

Факультатыўныя заняткі выконваюць наступныя функцыі:

• **навучальную** (садзейнічаюць удасканаленню вучэбна-моўных і камунікатыўных уменняў і навыкаў вучняў, фарміраванню навыкаў самастойнай і даследчай працы);

• **дыягнастычную** (дазваляюць ацаніць ступень засваення моўнага і маўленчага матэрыялу, сфарміраванасць арфаграфічных, пунктуацыйных і камунікатыўных уменняў і навыкаў);

• **развіццёвую** (садзейнічаюць развіццю пазнавальнай актыўнасці, творчых здольнасцей і маральных якасцей вучняў);

• **стымулявальную** (развіваюць патрэбу ў самаадукацыі).

Асаблівасцю факультатыўных заняткаў з'яўляецца, з аднаго боку, захаванне пераемнасці з дзеючай вучэбнай праграмай па беларускай мове для V – XI класаў і звязанасць з тым матэрыялам, што вывучаецца ў пэўным класе, з другога боку – спалучэнне глыбіні і навуковасці зместу з займальнай формай яго падачы.

Такім чынам, для арганізацыі і правядзення факультатыўных заняткаў па беларускай мове прапануюцца зацверджаныя навукова-метадычнай установай "Нацыянальны інстытут адукацыі" Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь наступныя вучэбна-метадычныя комплексы, кожны з якіх складаецца з трох кампанентаў: вучэбнай праграмы, дыдактычных матэрыялаў (дапаможніка для вучняў), метадычных рэкамендацый (дапаможніка для настаўнікаў).

**"Грані слова: ад гука да сказа" (V клас, аўтар – Л. Гамеза).** Слова (розныя яго аспекты: гукавая абалонка, лексічнае значэнне, будова і ўтварэнне, спалучальнасць слоў) з'яўляецца аб'ектам вывучэння курса беларускай мовы ў V класе. Таму мэта факультатыўных заняткаў – павысіць увагу да гукавога афармлення, семантыкі, сінтаксічнай спалучальнасці, складу слова і спосабаў яго ўтварэння для ўвядзення яго ў актыўны лексічны запас вучняў. Задачы, якія вырашаюцца на факультатыўных занятках: фарміраваць уменні вызначаць фанетыка-арфаэпічныя характарыстыкі слова, карыстацца словамі ў вусных выказваннях; звяртаць увагу школьнікаў на выяўленне семантыкі слова і падбор да яго сінонімаў, антонімаў; удасканальваць уменне характарызаваць марфемную будову слова і спосабы яго ўтварэння; узбагачаць слоўнікавы запас вучняў і развіваць граматычны лад іх маўлення.

**"Сакрэты словазмянення і формаўтварэння" (VI клас, аўтар – С. Якуба).** Факультатыўныя заняткі павінны дапамагчы вучням сістэматызаваць веды пра вывучаныя часціны мовы, адметнасць іх словазмянення і формаўтварэння; развіваць моўную, маўленчую і лінгвакультуралагічную кампетэнцыі вучняў; садзейнічаць павышэнню творчага патэнцыялу школьнікаў, развіццю іх разумовых здольнасцей, лінгвістычнага мыслення, моўнага чуцця.

Задачы, якія вырашаюцца ў адпаведнасці з пастаўленай мэтай, наступныя: на аснове адабранага лінгвістычнага матэрыялу сістэматызаваць і пашырыць веды вучняў па пытаннях формаўтварэння і словазмянення розных часцін мовы; арганізаваць практычную работу над марфалагічнымі паняццямі і правіламі на аснове пашырэння спосабаў дзейнасці; садзейнічаць развіццю лінгвістычнага мыслення, фарміраванню ўмення самастойна набываць веды ў працэсе прадуктыўна-



*Ганна Міхайлаўна Валочка – загадчык лабараторыі гуманітарнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. Доктар педагагічных навук (2008). Аўтар манаграфіі "Тэарэтыка-метадычныя асновы развіцця звязнага маўлення вучняў на ўроках беларускай мовы: 5 – 10 класы", аўтар і сааўтар шматлікіх вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў па беларускай мове для агульнаадукацыйных устаноў: "Беларуская мова ў табліцах і схемах" (1997), "Беларуская мова: вучэбны дапаможнік для 7 класа" (2009), "Навучанне перакладу ў школе" (1999), "Методыка выкладання беларускай мовы: вучэбны дапаможнік для студэнтаў" (2007), "Беларуская мова: дапаможнік для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання" (2010) і інш.*

творчай дзейнасці; сістэматычна і мэтанакіравана развіваць граматычны лад маўлення і моўнае чуццё вучняў, узбагачаць іх слоўнікавы запас; удасканальваць навыкі аналізу тэкстаў, якія змяшчаюць словы розных часцін мовы, абгрунтоўваць асаблівасці формаўтварэння і словазмянення, вучыць абагульняць, сістэматызаваць моўны матэрыял, рабіць самастойныя вывады; развіваць уменні і навыкі выкарыстання слоў розных часцін мовы ў вусных выказваннях і пісьмовых тэкстах у адпаведнасці з нормамі літаратурнай мовы і сітуацыяй маўлення, прымяняць веды ў незнаёмых сітуацыях; ствараць умовы для развіцця пазнавальнай актыўнасці, даследчыцкіх навыкаў, творчых здольнасцей і маральных якасцей вучняў.

**"Слова ў тэксце" (VII клас, аўтары – Г. Валочка, С. Язерская).** Мэта факультатыўных заняткаў: павысіць увагу вучняў да асноўнай моўнай і маўленчай адзінкі – слова як зыходнага элемента ўзнікнення тэксту, тым самым забяспечыць фарміраванне ўмення асэнсоўваць механізм функцыянавання кожнай часціны мовы на ўзроўні тэксту.

У прапанаваным курсе разглядаецца тэкстаўтваральная функцыя самастойных і службовых часцін мовы, іх здольнасць удзельнічаць у стварэнні тэксту, звязваць у адно цэлае яго элементы (асобныя словы, словазлучэнні і сказы) з улікам агульнай задумы. Такі падыход робіць працэс вывучэння моўных адзінак найбольш цікавым і карысным для вучняў, садзейнічае не толькі ўзбагачэнню іх слоўнікавага запасу, але і фарміраванню ўменняў асэнсоўваць, як функцыянуе кожнае слова, кожная часціна мовы на ўзроўні тэксту. Гэта дапаможа вучням зразумець функцыю пэўнай моўнай адзінкі ў арганізацыі маўлення, разгортванні і стварэнні разнастайных тэкстаў, а таксама адметныя асаблівасці тэкстаў розных тыпаў, стыляў і жанраў.

**"Гэты няпросты просты сказ" (VIII клас, аўтары – І. Саматыя, В. Палтаржыцкая).** Фарміраванне ў васьмікласнікаў сістэмы сінтаксічных паняццяў, якія лагічна звязаны з сутнасцю простага сказа як спецыфічнай моўнай і маўленчай адзінкі, – мэта прапанаваных факультатыўных заняткаў. Праграмны матэрыял дапамагае разгледзець будову сказа праз прызму маўленчатворчасці, асэнсаваць яго ўнутраныя і знешнія рэсурсы, выявіць механізмы, якія дазваляюць перадаць інфармацыю аптымальным спосабам, усвядоміць сэнсава-стылістычныя і тэкстаўтваральныя магчымасці простых сказаў, сказаў ускладненай будовы, а таксама сінтаксічную сінаніміку.

У працэсе засваення простага сказа як сінтаксічнай адзінкі аўтары прапануюць выкарыстоўваць на занятках варыянтны дыдактычны матэрыял, навучаць васьмікласнікаў алгарытмам прымянення правіл, фарміраваць апорныя ўменні і навыкі, прымяняць практыкаванні папераджальнага характару з незнаёмымі вучням выпадкамі выкарыстання знакаў прыпынку ў тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў.

**"Складаны сказ без складанасці" (IX клас, аўтары – М. Новік, С. Бут-Гусаім, В. Касцючыц).** Факультатыўныя заняткі грунтуюцца на базавым узроўні сінтаксісу, пры вывучэнні якога актуальным застаецца комплекснае вывучэнне складанага сказа. Лінгвістычная прырода складанага сказа шматаспектная, гэта дазваляе замацоўваць набытыя раней уменні захоўваць арфаэпічныя, арфаграфічныя, граматычныя, пунктуацыйныя і маўленчыя нормы беларускай літаратурнай мовы ў вусным і пісьмовым маўленні. Вывучэнне складанага сказа ў цеснай узаемасувязі з іншымі раздзеламі школьнага курса беларускай мовы будзе спрыяць не толькі ўспрыманню вучнямі роднай мовы як гарманічнай цэласнай сістэмы, але і як нацыянальнай каштоўнасці, універсальнага сродку, што дапамагае здабываць і перадаваць інфармацыю ў прасторы і часе. Засваенне паняццяў, звязаных з будовай складанага сказа, асаблівасцямі сэнсава-граматычных адносін паміж часткамі, спецыфікай сродкаў сувязі частак павінна быць скіравана на фарміраванне ўменняў правільна інтанаваць складаныя сказы і правільна пунктуацыйна афармляць іх. Удасканаленне моўных і маўленчых навыкаў будзе станоўча ўплываць на развіццё творчых здольнасцей вучняў, на фарміраванне ўменняў выказвацца вусна і пісьмова ў розных стылях і жанрах, выкарыстоўваючы пры гэтым сэнсавыя і стылістычныя магчымасці розных відаў складаных сказаў.

**"Практыкум па арфаграфіі беларускай мовы" (X клас, аўтары – Г. Валочка, В. Зелянко).** Асноўная мэта факультатыўных заняткаў – павышэнне арфаграфічнай пісьменнасці вучняў, развіццё культуры пісьма. Гэтая задача становіц-

ца асабліва актуальнай у час увядзення ў дзеянне новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". Задачы, якія ў гэтай сувязі вырашаюцца на факультатыўных занятках, наступныя: замацаваць, паглыбіць і сістэматызаваць веды вучняў па арфаграфіі беларускай мовы з апорай на веды па іншых раздзелах (фанетыка, лексіка, склад слова і словаўтварэнне, граматыка, тэкст); удасканальваць арфаграфічную пісьменнасць вучняў; стварыць умовы для асэнсавання таго, што арфаграфічная пісьменнасць з'яўляецца адным з паказчыкаў маўленчай і агульнай культуры асобы, сведчыць пра адукаванасць чалавека.

**"Практыкум па пунктуацыі беларускай мовы" (XI клас, аўтары – Г. Валочка, І. Бурак, В. Зелянко).** Асноўная мэта факультатыўных заняткаў у XI класе заключаецца ў павышэнні пунктуацыйнай пісьменнасці вучняў, у развіцці культуры пісьма. Найважнейшай задачай навучання на гэтым этапе з'яўляецца сістэматызацыя, падагульненне ведаў, уменняў і навыкаў старшакласнікаў па сінтаксісе і пунктуацыі. Пры гэтым улічваецца той факт, што, хоць арфаграфія і пунктуацыя разглядаюцца адносна самастойна (арфаграфія – у X класе, пунктуацыя – у XI класе), прадугледжваецца адначасовае паўтарэнне асноўных пунктуацыйных правіл пры разглядзе арфаграфічнай сістэмы, а ў працэсе засваення пунктуацыі – удасканаленне арфаграфічных уменняў. Разам з тым праца па пунктуацыі не можа абыходзіцца без аналізу сінтаксічных канструкцый, якія ўключаюць у сябе тыя ці іншыя сэнсавыя адрэзкі, што патрабуюць выдзялення (раздзялення) знакамі прыпынку.

Зыходзячы з гэтага, на факультатыўных занятках прапануецца разглядаць звыклыя праблемы перш за ўсё з пазіцый агульных задач валодання беларускай мовай у розных сферах яе дзейнасці. Таму асаблівую ўвагу на занятках трэба надаваць маўленню ў цэлым, асаблівасцям пісьмовага маўлення, а таксама спецыфічным элементам маўленчага этыкету, якія выкарыстоўваюцца ў тэкстах розных стыляў і жанраў. Свабоднае валоданне беларускай мовай, у прыватнасці пунктуацыяй беларускай мовы, прадугледжвае ўменне прымяняць пунктуацыйныя правілы з улікам пэўнай маўленчай сітуацыі, уменне найбольш дакладна і выразна перадаць сэнс выказвання, выкарыстоўваючы пры гэтым сінтаксічныя і пунктуацыйныя моўныя сродкі.

Для арганізацыі і правядзення факультатыўных заняткаў па беларускай мове настаўнікі могуць таксама выкарыстоўваць праграмы, зацверджаныя Міністэрствам адукацыі, якія адпавядаюць патрабаванням дзеючых вучэбных праграм:

1. Грані слова. V клас.
2. "Мой родны кут…" (краязнаўства). V клас.
3. Развіццё маўлення. VI – VII класы.
4. Цяжкія пытанні сінтаксісу і пунктуацыі. IX клас.
5. Стылістыка тэксту. VIII – IX класы.
6. Пішам сачыненні. VIII – IX класы.
7. Беларуская антрапаніміка. VIII клас.
8. Беларуская тапаніміка. IX клас.
9. Комплексны аналіз тэксту. X клас.
10. Майстэрства перакладу. X клас.
11. Майстэрства пераказу. XI клас.
12. Уводзіны ў журналістыку. X клас.
13. Беларуская традыцыйная культура ў люстэрку мовы. X клас.
14. Мова і культура. XI клас.
15. Практыкум па беларускай мове. X – XI класы.
16. Малады даследчык. XI клас.
17. Рыторыка. X – XI класы.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 г.

ВЕРАСЕНЬ

*Працяг. Пачатак на с. 33.*

**11 верасня –** 155 гадоў з дня нараджэння Еўдакіма Раманава (1855 – 1922), этнографа, фалькларыста, археолага, краязнаўцы, педагога, літаратара

120 гадоў з дня нараджэння Мікалая Шатэрніка (1890 – 1934), мовазнаўцы і педагога

**12 верасня –** 70 гадоў з дня нараджэння Івана Стадольніка, паэта, празаіка

**14 верасня –** 80 гадоў з дня нараджэння Антаніны Лысенкі, літаратуразнаўцы і крытыка

60 гадоў з дня нараджэння Хведара Гурыновіча, паэта

**15 верасня –** 100 гадоў з дня нараджэння Ізраіля Германа (1910 – 1974), музычнага педагога, цымбаліста, заслужанага настаўніка Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Коласа, акцёра, рэжысёра, заслужанага работніка культуры Беларусі

70 гадоў з дня нараджэння Анатоля Лапунова, дырыжора, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**16 верасня –** 90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Зялёнкіна (1920 – 1991), мастака-афармляльніка

75 гадоў з дня нараджэння Анатоля Забалоцкага (1935 – 2007), кінааператара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі

**17 верасня –** 150 гадоў з дня нараджэння Кандрата Лейкі (1860 – 1921), празаіка, паэта, драматурга

90 гадоў з дня нараджэння Яўгена Крамко (1920 – 1999), празаіка, публіцыста

80 гадоў з дня нараджэння Яўгена Лысіка (1930 – 1991), украінскага і беларускага мастака, народнага мастака Украіны

60 гадоў з дня нараджэння Івана Карэнды, грамадскага дзеяча, паэта

*Заканчэнне на с. 82.*

*Прапануем план-канспект*

# ХАРАКТАРЫСТЫКА СУСВЕТНАЙ І БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ ПАЧАТКУ XX ст.

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў IX КЛАСЕ

**Мэты:** пазнаёміць з разнастайнасцю літаратурных кірункаў і плыней у сусветнай і беларускай літаратуры; развіваць уменне вылучаць галоўнае, карыстацца даведачнай літаратурай; выхоўваць культуру слухання, дапытлівасць, назіральнасць.

**Тып урока:** урок-лекцыя.

**Абсталяванне:** калаж, рэпрадукцыі карцін Сальвадора Далі, эксперыментальны нацюрморт, візуальная паэзія, карта сусветных культурных цэнтраў пачатку XX ст. (Францыя, Італія, Расія, Швейцарыя, Беларусь).

**Эпіграф:**

*Я заўсёды бачыў тое, чаго іншыя не бачылі; а таго, што бачылі іншыя, я не бачыў.*

Сальвадор Далі.

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант.**

**II. Тлумачэнне новага матэрыялу.**

**Настаўнік.** На сённяшнім уроку вы адчуеце сябе сапраўднымі творцамі, мастакамі, паэтамі, станеце ўдзельнікамі цікавых эксперыментаў.

Звярніце ўвагу на дошку. Перад вамі схема мастацкіх сістэм. У сваім развіцці мастацтва праходзіла перыяды спаду і пад’ёму, на змену адной эпосе прыходзіла іншая. Літаратура пачалася з міфа, але сёння, у эпоху постмадэрнізму, міф – у цэнтры ўвагі найвядомейшых пісьменнікаў свету.

“Міф” – Ранняе Сярэднявечча – Позняе Сярэднявечча – Рэнесанс – Барока – Класіцызм – Рамантызм – Мадэрнізм – Постмадэрнізм

Мы пазнаёмімся з незвычайнай, эксперыментальнай і супярэчлівай эпохай – эпохай мадэрнізму (*вылучыць тлустым у схеме*).

Ваша задача – запамінаць новую інфармацыю, пасля кожнага падэтапу ўрока вы павінны пісьмова адказваць на пастаўленыя пытанні.

**Мадэрнізм** (ад фр. *moderne* – самы новы, сучасны) – філасофска-эстэтычны рух авангардысцкага кірунку, што не прымаў сацыяльна-гістарычнай абумоўленасці мастацтва. У літаратуры мадэрнізм вызначаецца ўпэўненасцю ў глыбокім, непераадольным разыходжанні духоўнага вопыту чалавека і асноўных тэндэнцый развіцця грамадства, адчуваннем адзіноты, адчужанасці чалавека, абсурднасці яго існавання ў свеце, стратай ідэалаў.

Галоўная каштоўнасць мадэрнісцкага мастацтва – асоба з яе складанымі душэўнымі перажываннямі. Мадэрнізм заснаваны на псіхалогіі, яго цікавяць унутраны свет, свядомае і падсвядомае. Тут важнае значэнне мае інтуіцыя. Мадэрністы сцвярджалі, што ў чалавеку ёсць усё: ад узвышанага да нізкага.

Мадэрнізм узнік у Францыі.

*Настаўнік звяртае ўвагу вучняў на карту сусветных культурных цэнтраў.*

• **Вывучэнне новых паняццяў.**

Цяпер звернемся да кірункаў мадэрнізму.

**Футурызм** (ад лац. *futurus* – будучае) – авангардны кірунак (плынь), які развіваўся ў Італіі і Расіі. Футурызм праявіўся не толькі ў літаратуры, музыцы, архітэктуры, але і ва ўсёй культуры ў цэлым, уключаючы палітыку, ідэалогію, філасофію. У 1909 г. з’явіўся “Маніфест футурызму” (праграма) Філіпа Тамаза Марынеці.

*Вучні запісваюць на карце: Італія. Футурызм; Расія. Футурызм.*

У аснове футурызму ляжыць адчуванне разбурэння ўсяго старога і спроба стварыць новую літаратуру. Футурысты захапляліся сімваламі прагрэсу – аўтамабілямі і самалётамі. Імкнуліся перадаць тэмп сучаснага жыцця, дзе падзеі хутка змяняюць адна адну.

*Вучні запісваюць у сшыткі сімвалы футурыстаў.*

Першы маніфест футурызму з’явіўся ў друку на старонках парыжскай газеты “Фігара”. Маніфест складаўся з пранумараваных абзацаў і заклікаў да разбурэння старой культуры.

*Вучань чытае “Маніфест футурызму”.*

1. Мы жадаем уславіць дух небяспекі, абудзіць энергію і адвагу!

2. Мы абвяшчаем агрэсіўнае дзеянне, ліхаманкавую бяссонніцу, небяспечны скачок!

3. Мы заяўляем новую прыгажосць: прыгажосць хуткасці. Гоначны аўтамабіль прыгажэйшы за багіню!

**Сюррэалізм** (фр. *surrealisme* – звышрэалізм) – авангардысцкі кірунак у культуры XX стагоддзя, першапачаткова ўзнік у Францыі. Найбольш яскрава сюррэалізм праявіў сябе ў жывапісе,

літаратуры і кінематографе. Слова *сюррэалізм* прыдумаў французскі паэт Гіём Апалінер. Ідэалам для сюррэалістаў было прымітыўнае мастацтва, у якім свет убачаны вачыма дзіцяці, драпежніка або душэўнахворага.

*Вучні запісваюць на карце: Францыя. Сюррэалізм.*

*Далей настаўнік прапануе прагледзець выставу рэпрадукцый карцін мастака-сюррэаліста Сальвадора Далі, зачытвае і тлумачыць назвы.*

Сюррэалісты ва ўсім хацелі бачыць цудоўнае. Яны лічылі, што яно заўсёды побач. Любімы род літаратуры сюррэалістаў – лірыка. Яны актыўна выкарыстоўвалі візуальную паэзію – вершы-прадметы, у якіх спалучаліся пісьмо і малюнак.

*Дэкламацыя вершаў-прадметаў.*

Галоўны тэхнічны метад сюррэалізму – “аўтаматычнае пісьмо”. “Аўтаматычнае пісьмо” – гэта хуткаснае пісьмо “пад дыктоўку” бессвядомага, запіс усяго, што прыходзіць у галаву, фіксацыя галюцынацый, сноў. Галоўная ўмова “аўтаматычнага пісьма” – хуткасць і ніякіх выпраўленняў.

У аснову сюррэалістычнай творчасці пакладзены гульнёвы пачатак. Гэта моўная гульня, гульня са словамі і ў словы, гульня як спосаб жыцця. Гульня – гэта свабода.

*Настаўнік прапануе вучням згуляць у сюррэалістычную гульню, удзельнікі якой падпісваюць да невядомых ім назоўнікаў дзеясловы-выказнікі з падпарадкаванымі ім словамі.*

Наступны кірунак мае вельмі загадкавую назву.

**Дадаізм** [фр. *dadaïsme*, ад *dada* – “конік” (дзіцячы лепет)] – авангардысцкі кірунак у мастацтве і літаратуры Заходняй Еўропы, які першапачаткова склаўся ў Швейцарыі. Заснавальнік кірунку – швейцарскі паэт Трыстан Тцара. Яго “Маніфест гаспадара Анціпірына” – першы маніфест дадаізму. Слова *дада* бяссэнсавае або мае адразу некалькі розных не звязаных паміж сабой значэнняў – гэта і хвост свяшчэннай каровы, і дзіцячы драўляны конік, і дзіцячы лепет, і яшчэ што-небудзь іншае. Згодна з адной версіяй, назва кірунку ўзята з разгорнутага наўздагад слоўніка. Па другой версіі – слова *дада* было вядома як назва касметычнай серыі фірмы “Bergmann & Co”. “Дадаісцкім вірусам” было ахоплена ўсё мастацтва таго часу: кіно, музыка, тэатр. Гэта быў сапраўдны “тэрор розуму”.

*Вучні запісваюць на карце: Швейцарыя. Дадаізм.*

Дадаісты – самыя вялікія эксперыментатары. Сярод іх любімых прыёмаў – тэхніка калажу: кавалкі газетных артыкулаў, парэзаныя, перамяшаныя і склееныя ў адвольным парадку.

*Дэманстрацыя тэхнікі калажу.*

Акрамя таго, вядомая тэхніка “ready-made” (зроблена з гатовага) – звычайныя прадметы масавай вытворчасці, якія выпадкова састаўленыя і падпісаныя. Напрыклад, “Веласіпеднае кола на табурэтцы”.

*Дэманстрацыя тэхнікі “ready-made”.*

Цяпер мы будзем пісаць фанетычную паэму. Для гэтага кожнаму раду прапануецца па адным слове. Неабходна пры дапамозе толькі гукаў, спалучэнняў зычных і галосных (не слоў!), або толькі зычных, або толькі галосных, або з дапамогай аднаго гука перадаць змест слова: 1-ы рад – *кіслы*, 2-і рад – *радасць*, 3-і рад – *цішыня*.

*Праверка выкананага вучнямі.*

Мастацтва на Беларусі… Пачатак ХХ стагоддзя на нашай радзіме – гэта з’яўленне шматлікіх арганізацый, таварыстваў, аб’яднанняў і іх філій. Для беларускай літаратуры, як і для сусветнай, характэрны эксперыментатарства і пошук. Сёння вы станеце “ўдзельнікамі” трох самых вядомых аб’яднанняў. Вам прапануюцца праграмы творчай дзейнасці, якім трэба даць назвы.

*Вучні выбіраюць у сваіх групах будучых выступоўцаў.*

**1-я група:**

- імкненне рамантызаваць з’явы сучаснасці;
- масавасць;
- традыцыйныя прынцыпы, новыя тэмы;
- літаратура павінна служыць рэвалюцыі;
- творчасць маладых літаратараў.

Прадстаўнікі: Міхась Чарот, Адам Бабарэка, Язэп Пушча.

**2-я група:**

- неабходнасць стварыць вялікую літаратуру;
- мэта – узвышэнне беларускай літаратуры і культуры шляхам стварэння высакаякасных мастацкіх твораў;
- згуртаванасць, сяброўства.

Прадстаўнікі: Уладзімір Дубоўка, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва.

**3-я група:**

- перадача нацыянальна-класічных традыцый;
- клопат пра выхаванне творчай моладзі.

Прадстаўнікі: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі.

*Для выканання задання вучням прапануюцца падказкі: малюнкі (малады лес, гара, вогнішча); словы (маладыя, высокі, палымяны). Вучні афармляюць адказы ў форме табліцы, настаўнік выпраўляе магчымыя памылкі.*

*Пасля выканання задання вучні запісваюць на карце: Беларусь. “Маладняк”, “Узвышша”, “Полымя”.*

**III. Падагульненне вывучанага на ўроку.**

**• Пытанні класу.**

На чым заснаваны мадэрнізм? Палажэнні якой навукі былі ўзяты мадэрністамі ў сваёй творчасці за аснову?

У якой краіне ўпершыню ўзнік мадэрнізм?

Хто з'яўляецца аўтарам тэрміна *сюррэалізм*?

Назавіце любімы род літаратуры сюррэалістаў.

Які пачатак пакладзены ў аснову сюррэалістычнай творчасці?

Узгадайце назву першага маніфеста дадаізму.

У асобе кожнага чалавека жыве творца. Не забывайце пра тое, што вы жыхары не толькі свайго горада (вёскі), Беларусі, вы жыхары ўсяго свету і маеце права ведаць пра свой вялікі дом: што адбываецца навокал і з кім вы жывяце побач.

**IV. Выстаўленне і каменціраванне адзнак.**

**V. Дамашняе заданне.**

Абавязкова: на аснове матэрыялу ўрока скласці табліцу:

| Назва кірунку | Краіна, дзе ўзнік | Характарыстыка | Прадстаўнікі | Што мяне найбольш зацікавіла |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

На выбар: зрабіць спробу напісаць твор метадам "аўтаматычнага пісьма".

**Ірына БАЖОК,**
аспірантка кафедры беларускай літаратуры
Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта
імя Францыска Скарыны.

*З вопыту работы*

Алеся ЗЯНЕВІЧ

# ТЭМА ГУМАНІЗМУ Ў АПАВЯДАННІ "ПАРОМ НА БУРНАЙ РАЦЭ" УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў IX КЛАСЕ

**Мэта:** стварыць умовы для ўсведамлення вучнямі гуманістычнай пазіцыі У. Караткевіча ў апавяданні "Паром на бурнай рацэ"; спрыяць асэнсаванню тэмы, ідэі, праблем твора, удасканаленню ўменняў вылучаць эпізоды і дэталі, істотныя для характарыстыкі дзейных асоб, выказваць свае адносіны да герояў і падзей; садзейнічаць развіццю аналітыка-сінтэтычнага мыслення, маўлення вучняў; спрыяць выхаванню цікавасці да гісторыі роднага краю, да лёсу свайго народа, Радзімы.

**Тып урока:** сістэматызацыя і абагульненне вывучанага матэрыялу.

**Абсталяванне:** мультымедыйная ўстаноўка, прэзентацыя.

**Эпіграф:**

*Кожны гістарычны сюжэт – гэта адкрытая размова з сучаснікам.*

Уладзімір Караткевіч.

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны этап.**

**II. Этап падрыхтоўкі вучняў да актыўнага і свядомага засваення ведаў.**

*На экране – рэпрадукцыі карцін, прысвечаных падзеям на Беларусі 1830 – 1831 і 1863 – 1864 гг. Гучыць паланез "Развітанне з Радзімай" Міхала Клеафаса Агінскага.*

**Настаўнік.** Якія асацыяцыі ўзніклі ў вас падчас прагляду? Адкажыце, як вы разумееце значэнні слоў *гуманізм*, *гуманны*. *(Гуманізм – гуманнасць, чалавечнасць у грамадскай дзейнасці, у адносінах да людзей; гуманны – чалавекалюбівы, дабрачынны, прасякнуты павагай да людзей.)*

Як вы думаеце, ці можна ваш асацыятыўны рад дапоўніць словам *гуманізм*? Аргументуйце свае меркаванні.

Менавіта пра гуманізм як адну з найважнейшых катэгорый чалавечага жыцця і пойдзе сёння размова на ўроку. Запішыце ў сшытак тэму ўрока і азначэнні названых паняццяў.

*Настаўнік звяртае ўвагу вучняў на эпіграф да ўрока.*

Адкажыце, хто ў нашым выпадку звяртаецца да сучаснікаў, да вас?

Каб правільна асэнсаваць мастацкі твор, мы, чытачы, імкнемся зразумець і ўсвядоміць аўтарскую пазіцыю ў адносінах да пастаўленых у творы праблем. Пры гэтым у кожнага з вас ёсць думкі, меркаванні наконт прачытанага. Таму мы павінны акрэсліць сваю пазіцыю і суаднесці яе з пазіцыяй аўтара.

Што, на ваш погляд, складзе змест нашага ўрока? Якія задачы мы паставім перад сабой? *(Выявіць гуманістычную пазіцыю У. Караткевіча ў апавяданні "Паром на бурнай рацэ"; выка-*

*зацьі абгрунтаваць сваю пазіцыю; супаставіць яе з аўтарскай.)*

**III. Этап абагульнення і сістэматызацыі вывучанага.**

Каб дасягнуць пастаўленай мэты, трэба вызначыць ідэйна-тэматычны змест і праблематыку твора.

- **Камбінаваны аналіз апавядання.**
- **Пытанні і заданні класу.**

Дайце азначэнні паняццяў *тэма, ідэя, праблема мастацкага твора.*

Акрэсліце тэму апавядання.

Якія праблемы ў творы ўздымае аўтар? З прапанаванага пераліку выберыце характэрныя для апавядання "Паром на бурнай рацэ" (гл. дадатак).

*Абмеркаванне праблематыкі твора з класам.*

У чым, на ваш погляд, заключаецца гонар афіцэра? Складзіце кластэр на тэму "Якімі якасцямі павінен валодаць афіцэр?" (гл. дадатак).

- **Міні-дэбаты з класам.**

Пора-Леановіч і Гораў, як бачым з твора, зрабілі свой выбар, таму прапаную правесці ***міні-дэбаты*** на тэму "Міласэрнасць ці загад?". Ваша задача абараніць пазіцыю як Горава, так і Пора-Леановіча, карыстаючыся цытатамі з апавядання.

Як вы думаеце, на чыім баку аўтар? Чаму?

Чыя пазіцыя – Горава ці Пора-Леановіча – вам бліжэй? Чаму?

- **Хвіліна адпачынку.**

*Настаўнік прапануе вучням паразважаць на тэму "Што такое міласэрнасць?".*

- **Пытанні і заданні класу.**

Каб разабрацца ў выбары кожнага, трэба прааналізаваць, у чым бачылі прызначэнне чалавека героі твора: Гораў, Пора-Леановіч, Усяслаў Грынкевіч, жонка Усяслава Грынкевіча, Іван, Мураўёў (гл. дадатак).

**IV. Рэфлексія.**

Звярніце яшчэ раз увагу на эпіграф да ўрока. Як вы разумееце Караткевічавы словы? Чым апавяданне "Паром на бурнай рацэ" можа быць цікавым для сучасніка? Чым актуальнае? Абгрунтуйце сваё меркаванне. *(Сапраўдны твор актуальны ў любы час. Сапраўдны твор – гэта ўрок, на якім чалавек вучыцца быць чалавекам, вучыцца думаць і рабіць правільны выбар. Выбар заўсёды трэба рабіць, але ў любой сітуацыі чалавек павінен заставацца міласэрным, з чыстым сумленнем.)*

Калі б вы былі мастакамі, які эпізод з апавядання праілюстравалі б?

Як вы думаеце, ці можна на аснове апавядання стварыць кінафільм? Абгрунтуйце сваё меркаванне.



***Алеся Мікалаеўна Зяневіч** – настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 43 г. Мінска. Закончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка (1999). Пераможца конкурсу "Сталічны настаўнік – сталічнай адукацыі" 2010 г. у намінацыі "Настаўнік". Аўтар метадычных публікацый у рэспубліканскіх перыядычных выданнях.*

**V. Выстаўленне і каменціраванне адзнак.**

**VI. Дамашняе заданне.**

Абавязкова: прачытаць апавяданне "Губаты" Генрыха Далідовіча і прасачыць, як раскрываецца тэма гуманізму ў творы.

Па жаданні: напісаць міні-сачыненне на тэму "Гуманізм – аснова жыцця".

**ДАДАТАК**

**Заданне 1.** Якія праблемы ў творы ўздымае аўтар? З прапанаванага пераліку выберыце характэрныя для апавядання "Паром на бурнай рацэ":

1. Абавязак і гонар афіцэра.
2. Прызначэнне чалавека.
3. Каштоўнасць жыцця чалавека.
4. Сяброўства.
5. Адзінства чалавека і прыроды.

**Заданне 2.** У чым гонар афіцэра? Складзіце кластэр на тэму "Якімі якасцямі павінен валодаць сапраўдны афіцэр?":




**Заданне 3.** У чым бачылі прызначэнне чалавека героі твора: Гораў, Пора-Леановіч, Усяслаў Грынкевіч, жонка Усяслава Грынкевіча, Іван, Мураўёў?

**План**

1. Сэнс жыцця героя.
2. Галоўныя каштоўнасці жыцця героя.
3. Доказы (учынкі, выказванні).
4. Якія каштоўнасці, на ваш погляд, з'яўляюцца найважнейшымі для чалавека?
5. Якім чынам, на ваш погляд, раскрываецца тэма гуманізму ў апавяданні?



# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ І СУСВЕТНАЯ КУЛЬТУРА

*Памяць нашчадкаў*

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

## ЯНКА КУПАЛА Ў КУЛЬТУРНЫМ, ЛІТАРАТУРНЫМ І НАВУКОВЫМ ЖЫЦЦІ ГАРОДНІ

Вядучая навучальная ўстанова прынёманскага краю, якая напрыканцы лютага 2010 г. адзначыла сваё 70-годдзе, невыпадкова носіць імя класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы: наш горад непасрэдна звязаны з яго творчасцю. Можна з упэўненасцю гаварыць пра значныя культурныя, літаратурныя, навуковыя традыцыі, якія склаліся тут здаўна.

Духоўным цэнтрам нашага горада з'яўляецца вуліца Элізы Ажэшкі, дзе амаль насупраць размешчаны два будынкі – дом вялікай пісьменніцы і галоўны корпус Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Імя вялікага паэта тады яшчэ Гродзенскаму педінстытуту было прысвоена ў 1957 г. Пра акалічнасці той падзеі даведваемся з успамінаў прафесараў нашага універсітэта А. Пяткевіча і І. Крэня.

Янка Купала неаднойчы бываў у горадзе над Нёманам. Упершыню ён наведаў Гародню ў 1914 г. Што прывяло сюды знанага нашаніўскага паэта, дакладна невядома. Пра тую паездку сведчыць ліст М. Карынфскай, жонкі пісьменніка А. Карынфскага, да літаратуразнаўцы А. Малюцінай, аўтаркі артыкула "З літаратурных сувязей Я. Купалы", дзе чытаем: "У 1914 г. мы паехалі на Волгу, Янка (г. зн. І. Д. Луцэвіч) выехаў у Гродна, пачалася перапіска яго з Апалонам Апалонавічам" [1, с. 156].

У нашым горадзе жыў брат жонкі паэта Уладзіславы Францаўны Вікенцій Станкевіч, які працаваў інжынерам на керамічным заводзе. Менавіта да яго і прыязджаў Янка Купала ў 1939 – 1941 гг. Дата апошняй паездкі дакладна вядома: 27 – 28 сакавіка 1941 г. Сведчанне пра гэта знаходзім ва ўспамінах пісьменніка Васіля Віткі "Сустрэчы, якія зберагла памяць", дзе аўтар прыводзіць свае дзённікавыя запісы саракагадовай даўнасці (успаміны пісаліся на пачатку 1980-х гг.). В. Вітка працаваў тады сакратаром аддзялення Саюза пісьменнікаў у Беластоку, куды завітаў Янка Купала 27 сакавіка і дзеля таго таксама, каб пазнаёміцца з горадам. Мы можам дакладна ўявіць, як выглядаў народны паэт у той час: "Выгляд у яго, як і заўсёды, самавіты і паважны, ды яшчэ ў гэтым шэрым у ёлачку футры з штрыфлямі, у шапцы-стаўбунку. Ва ўсіх ашчадных, не частых жэстах відаць як бы ўся натура чалавека, вельмі адметнага" [2, с. 166]. Можна меркаваць, што і ў нашым горадзе Янку Купалу ведалі гэтак жа, як і ў недалёкім тады Беластоку. Таму ўявім, ізноў жа з дапамогай запісаў В. Віткі, вандроўку паэта па Гародні 28 сакавіка, бо 27-га ён прыехаў сюды позна вечарам. Толькі зменім дэкарацыі: замест вуліцы Сянкевіча, па якой паэт шпацыраваў з Віткам у Беластоку, перанясёмся на вуліцу Дамініканскую (сёння Савецкая) і паслухаем жывыя, надзвычай цікавыя ўспаміны: "Што мяне асабліва ўражвае: няўжо Купалу настолькі ведаюць, што ўсюды пазнаюць? Многія сустрэчныя вітаюцца, некаторыя далікатна здымаюць капелюшы, прыпадымаюць доўгія брылі шэрых суконных шапак.

Мабыць, свайго здзіўлення я не мог схаваць.

– Не звяртайце ўвагі. Гэта яны думаюць, што я – вялікі пан, – і, тарганууўшы губой, хавае ў вусах вясёлую ўсмешку" [2, с. 166].

Рэдка ў якіх успамінах таго часу сустрэнем Купалу ўсмешлівага, у добрым настроі, што выяўляўся праз дасціпны жарт. Ён і сапраўды быў адметным на вуліцах заходнебеларускіх гарадоў, тут ведалі яго творчасць, пазнавалі па партрэтах са школьных падручнікаў, па фотаздымках з перыёдыкі: "Купала ішоў са сваім неразлучным замашным кіем грушавага дрэва, але рэдка калі абапіраўся на яго, не размахваў, не пагрукваў ідучы, часцей нёс, пачапіўшы крывулькай на руку. Само па сабе і гэта не абмінала ўвагі. Але я ўсё ж бачыў, што многія-такі пазнаюць яго. Купала тут ужо не першы раз… Дый, наогул, у Заходняй Беларусі паэта вельмі шанавалі" [2, с. 167].

Упершыню творы Янкі Купалы былі прапанаваны гарадзенцам дзякуючы культурна-асветнай дзейнасці сяброў Гродзенскага гуртка беларускай моладзі (1910 – 1913), якія актыўна прапаганда-

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 4.*

валі беларускую культуру, распаўсюджвалі беларускія кнігі, календары, перыёдыку. На вечарынах чыталіся творы паэта, выконваліся песні на яго вершы. Пра ўсё гэта мы даведаліся з успамінаў актыўнай удзельніцы гуртка Людвікі Антонаўны Сівіцкай – пісьменніцы Зоські Верас.

Вучні першай беларускай школы ў Гародні, што адчынілася дзякуючы намаганням Вацлава Ластоўскага і Антона Луцкевіча ў 1916 г., дзе першымі настаўнікамі былі Тэкля Станішэўская і Аляксандр Грыкоўскі, таксама вывучалі творы Янкі Купалы. Школа месцілася на вуліцы Маставой, 9 пры Барысаглебскім манастыры, дзе сёння знаходзіцца Гродзенскі абласны драматычны тэатр.

А ў 1919 г., у часы дзейнасці драматычнага гуртка Грамады беларускай моладзі (знаходзілася ў будынку па сучасным адрасе вул. Карбышава, 10), 19 верасня ўпершыню ў нашым горадзе быў пастаўлены спектакль па п'есе "Паўлінка", у якім галоўную ролю выконвала знакамітая Паўліна Мядзёлка. На жаль, гэты факт не згадваецца ў энцыклапедычным даведніку "Янка Купала", дзе гаворыцца, аднак, што спектаклі па п'есе "Паўлінка" былі пастаўлены П. Мядзёлкай у Літве і Латвіі.

Спектакль паводле п'есы "Паўлінка" неаднойчы ішоў на сцэне нашай ВНУ. У згаданым энцыклапедычным даведніку паведамляецца, што ён ставіўся "студэнцкім тэатрам у 1957, 1974, 1979 гг." [3, с. 170]. Ва ўспамінах І. Крэня знаходзім згадку пра першую пастаноўку: "На ўручэнне акта аб прысваенні ВНУ імя паэта прыехала яго жонка Уладзіслава Францаўна. Мы падрыхтавалі да яе прыезду спектакль…" [4, с. 2]. Іван Платонавіч іграў у ім ролю Якіма Сарокі. Запомніўся яму надзвычай ухвальны водгук Уладзіславы Францаўны: "Мабыць, мой Яначка, калі пісаў Якіма, то бачыў цябе" [4, с. 2]. А. Пяткевіч згадвае пра падарунак, які прывезла жонка паэта. Гэта была графічная работа мастака Янкі Раманоўскага, пляменніка Купалы, з цыкла "Я ад вас далёка". Доўгі час гэта карціна ўпрыгожвала кафедру беларускай літаратуры. Яшчэ адзін партрэт Янкі Купалы займае годнае месца ў сапраўдным беларускім пантэоне дзеячаў літаратуры і культуры, што размешчаны ў Гродзенскім музеі Максіма Багдановіча. Аўтар гэтай працы – мінскі мастак Пётр Свентахоўскі.

На жаль, наш горад не можа пахваліцца манументальнымі творамі, што прысвечаны дзеячам беларускай літаратуры. Янку Купалу ў гэтым плане адносна пашанцавала: помнікаў, дзе ўвасоблены вобраз народнага песняра, у Гародні тры. Усе яны звязаны з ГрДУ. Самая вядомая скульптура знаходзіцца перад галоўным корпусам універсітэта, выкананая В. Даненкавым, яна была ўсталявана ў 1965 г. Помнік Купалу стаіць таксама і на другім паверсе гэтага ж корпуса, а ў будынку на вуліцы Леніна, дзе месціцца беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта, – бюст працы гарадзенскага скульптара А. Ліпеня. Аднак згаданыя творы маюць далёка не той мастацкі ўзровень, якога заслугоўвае першы народны паэт Беларусі. Адна з вуліц горада носіць яго імя. Мажліва, там або дзесьці ў цэнтры Гародні паўстане калісьці помнік, варты вялікага песняра…

**Творы Янкі Купалы на прафесійных сцэнах Гародні.** Асобная старонка культурнага жыцця горада, дзе прапагандуюцца творы Янкі Купалы, звязана з дзейнасцю Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра (заснаваны ў 1947 г.), у рэпертуары якога перыядычна з'яўляюцца творы класіка. Напачатку быў спектакль па п'есе "Прымакі", створаны да 90-годдзя з дня нараджэння паэта, пастаўлены рэжысёрам В. Скорабагатавым у 1972 г. Тады ж на сцэне можна было ўбачыць літаратурны мантаж паводле паэмы "Курган". У 1979 г. з'явілася пастаноўка па камедыі "Паўлінка" (рэжысёр А. Ушацкі). "У спектаклі былі цікавыя акцёрскія работы [асабліва Кучарэнкі і Мішчанчука (выканаўцы ролі Паўлінкі і Адольфа Быкоўскага)]. Тонка адчуўшы прыроду купалаўскага гумару, выканаўцы стварылі яркія каларытныя характары" [5, с. 169]. А ў 1982 г. гледачам была прапанавана літаратурна-музычная кампазіцыя "Прарок" паводле твораў паэта.

Сёння ў рэпертуары тэатра спектаклі "Раскіданае гняздо" і "Прымакі". Рэжысёрам першага, жанр якога пазначаны як трагедыя ў 2 дзеях, з'яўляецца А. Гарцуеў, прэм'ера адбылася ў лістападзе 2006 г. Найбольш удала ролі выконваюць Сяргей Курыленка (Лявон Зяблік), Аляксандр Калагрыў (Сымон), Таццяна Жук (Зося) і, безумоўна, Аляксандр Луцэнка (Старац). Асаблівай ухвалы заслугоўвае праца мастака-пастаноўшчыка Таццяны Сакалоўскай, якая стварыла надзвычай цікавыя дэкарацыі, адышоўшы ад стэрэатыпнага паказу беларускай сялянскай хаты, вясковага асяроддзя. Макрамэ шэрага колеру неадбеленага лёну, шматлікія вяроўкі, пні не толькі ствараюць атмасферу беларускай аўтэнтыкі, не толькі сведчаць пра надзвычайны мастакоўскі густ, але і вырастаюць да вобразаў-сімвалаў зямлі, нядолі, наканаванасці.

Аўтары спектакля змянілі фінал твора, своеасабліва інтэрпрэтавалі некаторыя вобразы. Не з усім можна пагадзіцца. Так, вобраз Незнаёмага страціў той таямніча-ўзнёслы і адначасова зласвесны змест, з якім ён паўстае ў драме. Пазбаўлены сімваліка-рамантычнага значэння, персанаж Незнаёмага на гарадзенскай сцэне ўспрымаецца як звычайны злачынца з крымінальнымі задаткамі, што не грэбуе дробным крадзяжом, а ў фінале паўстае выканаўцам замоўленага Панічом забойства Сымона і Зоські. Няпроста ўспрыняць такі фінал, але апошняя сцэна, калі

па чарзе падаюць забітыя, калі яны зліваюцца з зямлёй, ператвараюцца ў яе і тым самым усё ж застаюцца тут назаўсёды, уражвае незвычайна. Як і музыка, што на працягу ўсяго спектакля бездакорна адлюстроўвае стан герояў, іх душэўныя рухі, пакуты, каханне і нянавісць.

Пастаноўка "Прымакі", вызначаная як народны вадэвіль у адной дзеі, была створана тым жа рэжысёрам да 125-годдзя з дня нараджэння паэта. Прэм'ера адбылася 6 кастрычніка 2007 г.

Два спектаклі паводле Купалавых твораў з поспехам ідуць на сцэне Гродзенскага абласнога тэатра лялек. Асабліва шчаслівы лёс выпаў "Тутэйшым" (рэжысёр М. Андрэеў), якія ідуць з заўсёдным аншлагам, карыстаюцца нязменным поспехам у гарадзенцаў. Таленавітая ігра вядучых акцёраў В. Шалкевіча, Т. Корневай, Ю. Мянько надае спектаклю непаўторны шарм. Зала то ўзрываецца смехам, то замірае, усхваляваная нядобрым прадчуваннем. Трагікамічны характар твора перададзены надзвычай дакладна. Асабліва пачварнымі выглядаюць вобразы Усходняга і Заходняга вучоных – не толькі як носьбітаў расійскага і польскага шавінізму, але найперш як псеўдавучоных, пра што пісаў гарадзенскі літаратуразнаўца І. Жук: «Гэтыя "вучоныя", што як кузюрку праз павелічальнае шкло, разглядалі Беларусь, не маглі, а – галоўнае – не жадалі заўважаць таго, да чаго адзіна і павінен быў клікаць статус вучонага, – праўды!» [6, с. 74].

Аўтарам спектакля ўдалося "ажывіць" (І. Жук) купалаўскую падказку, стварыць на першы погляд застылае, а насамрэч надзвычай напружанае сцэнічнае дзейства, калі пад павелічальнае шкло вучоных пакладзена мапа Беларусі, а яны "замест таго, каб яе вывучаць, адначасна кінуліся яе разрываць… Ніводнага руху, за выключэннем бойкі дзвюх недарэчных фігур у акадэмічных мантыях, а ўсе астатнія – на сцэне і па-за ёю – суцэльныя гледачы. Гледачы, пасіўныя сузіральнікі свайго гістарычнага бездарожжа" [6, с. 64].

"Паэма без слоў" – гэткую назву атрымаў спектакль паводле драматычнай паэмы Янкі Купалы "Сон на кургане", пастаўлены да 120-годдзя класіка. Прэм'ера адбылася ў сакавіку 2002 г. Гэты спектакль асаблівы паводле мастацкай задумы (рэжысёр А. Жугжда), у ім выкарыстаны адметныя спосабы адлюстравання мастацкай рэчаіснасці, а традыцыйныя вобразы беларускай міфалогіі, русалкі, паўстаюць у нязвыклай інтэрпрэтацыі.

Пастаноўшчыкам удалося адлюстраваць трагічнае ўспрыманне чалавекам, які застаецца Асобай, людзей, што перасталі быць носьбітамі духоўнага, адкінулі прагу да высокага, ператварыліся ў бяздумных марыянетак д'ябальскай улады:

*Людзі!.. Што людзі? Ці ёсць дзе між іх*
*Годны адзін хоць у людзі:*
*Мутнасцю, трупам нясе ад усіх,*
*Пошасцей поўныя грудзі* [7, с. 54].

Няпростую задачу паставілі перад сабой майстры сцэны – перадаць усё гэта без слоў. І вырашылі яе выдатна, знайшоўшы мноства цікавых сродкаў. Мастацтва пантамімы, колеравая палітра (мастак Л. Мікіна), ценявыя карціны, музычнае аздабленне (музыка У. Кандрусевіча) працуюць на выразнае выяўленне аўтарскай задумы. Злавесны вобраз Чорнага, які яскрава супрацьпастаўлены вобразу Сама, стварыла акторка (Л. Мікуліч), што нечакана выяўляецца ў час выхаду на паклон, калі здымаецца чорная маска. І гэты ўжо па-за сцэнічны жэст таксама ўражвае. Надзвычай выразная сцэна ўкрыжавання Сама бачыцца алюзіяй на ўкрыжаванне Хрыста. Колеравая палітра, вытрыманая ў чырвона-чорна-белых тонах, спрыяе агульнай экспрэсіі.

**Прынёманская Купаліяна.** Пачынальнікам нашай прынёманскай Купаліяны стаў Міхась Васілёк. У яго вершы-прысвячэнні "Янку Купалу", напісаным у 1946 г., сцвярджаецца думка пра неўміручасць песняра:

*Хоць і няма між намі:*
*Заўчасна смерць забрала, –*
*Ты будзеш жыць вякамі,*
*Вялікі наш Купала!* [8, с. 178].

Пісьменніцы Зінаідзе Бандарынай, ураджэнцы Гародні, аўтарцы вядомай кнігі пра Купалу "Ой, рана на Івана…" і нарыса "Па купалаўскіх сцежках", належыць і верш з такой жа назваю. Духоўнае сваяцтва з вялікім песняром узгадоўвалася праз далучэнне да яго творчасці, праз блізкія паэтцы вобразы гусляра, Бандароўны. Жаданне прайсці яго сцежкамі выклікана імкненнем непасрэдна спрычыніцца да таго, што было для Купалы родным кутом, дзе па-сяброўску з'яўляецца ён перад тымі, каму даводзіцца духоўнай раднёй:

*І радасна сэрца ў грудзях замірала,*
*Бо поруч стаяў ужо Янка Купала.*
*Сяброўскай рукою паказваў мне сцежкі*
*І песціў спагаднай бацькоўскай усмешкай*
[9, с. 245 – 246].

Некалькі вершаў прысвяціла народнаму паэту Данута Бічэль. Першы з іх "Каля помніка Янку Купалу ў Гародні" быў напісаны, калі юная паэтка была яшчэ студэнткай нашай ВНУ. На пачатку твора вобраз Купалы, што ўвасоблены ў помніку насупраць галоўнага корпуса, бачыцца аўтарцы абаронцам маладога пакалення беларусаў ад цемры духоўнага нябыту, увасабленнем святла дня, новага часу:

*Каб ні кропелькі дня*
*ў прорву ночы не ўпала,*
*наш інстытут засланяў*
*ад непагоды Купала* [10, с. 304].

Кветкі, прынесеныя паэту, – даніна памяці і любові, абараняюць яго ад напластаванняў імклівага часу, бо ў вечнасці, дзе пануюць спакой і ціша, яму і цяпер ёсць пра што думаць і клапаціцца:

*У Нёмане коней купалі,*
*а стрыглі вушамі вякі.*
*Барвовыя гваздзікі*
*ахоўвалі думы Купалы* [10, с. 304].

Заканчваецца верш урачыста-строга, як заклік шанаваць ідэалы вялікага песняра, памяць пра яго:

*Да памяці Вашай бяздушнасць*
*не даруецца, Янка Купала!* [10, с. 305].

Далікатна, па-жаночы гучыць паэтычная мініяцюра Дануты Бічэль "Паясок", дзе матыў ткацтва перамяжоўваецца з матывам творчасці. Слова Купалы пераносіцца на новую аснову, успрымаецца з асаблівым душэўным узрушэннем, калі ўсё заціхае, як у час з'яўлення праўдзівага цуду:

*Перасыпаю сонечны пясок,*
*Вучуся простай шчырасці ў Купалы.*
*На кросенцах, дзе гукі не ступалі,*
*Сную, не дыхаючы, паясок* [10, с. 112].

Юрка Голуб прысвяціў Янку Купалу два вершы: "Вандроўнік" і "Хата Янкі Купалы". Апошні нарадзіўся ў выніку наведвання роднай сядзібы паэта ў Вязынцы. Творчасць Купалы ва ўяўленні тады яшчэ маладога аўтара – гэта першааснова таго, што створана ў беларускай паэзіі праз усё ХХ стагоддзе. Таму і ўзнікае матыў абавязку перад памяццю паэта, перад усім, што звязана з яго шляхам па гэтай зямлі, а ўсе беларускія шляхі вядуць да Купалы:

*Калі ў адну ўсе дарогі звяжуцца,*
*То пройдзе яна праз Вязынку.*
*Ёй кожны з нас абавязаны.*
*Гатоў затуліць яе вязамі* [11, с. 19].

Таямніца купальскай ночы, яркасць сонечнага ўзыходу, водар тутэйшых зёлак, што адлюстроўваюць красу нябесных зорак, – усё гэта паэзія Янкі Купалы. Вобраз песняра неаддзельны ад паняцця Айчыны. Гэтыя матывы галоўныя ў фінале верша Юркі Голуба:

*Купалле іскрыцца золкам:*
*На вернасць дае зарок.*
*За зоркаю сочыць зёлка.*
*Купала.*
*Айчына.*
*Зрок* [12, с. 15].

**Купалаўскія чытанні.** У нашым універсітэце (тады Гродзенскім педінстытуце) у 1958 – 1965 гг. праводзіліся Купалаўскія чытанні. Заўсёдным арганізатарам і актыўным іх удзельнікам быў А. Пяткевіч. Першыя чытанні, што былі прысвечаны 40-годдзю БССР, адбыліся 9 снежня 1958 г. Урачыстым акордам, што вітаў удзельнікаў і гасцей, сталі словы з верша Янкі Купалы:

*Спявай ты, Беларусь,*
*у радасці спявай!*
*Твайго народа сёння*
*права і закон.*

Загадчыкам кафедры беларускай літаратуры ў той час была кандыдат філалагічных навук Л. Храмава. Менавіта яна распачала чытанні дакладам "Тэма Радзімы ў творчасці Я. Купалы". Тэму "Народнасць паэзіі Я. Купалы" прапанаваў А. Пяткевіч, а мовазнаўца Т. Сцяшковіч выступіла з дакладам "Мова паэзіі Я. Купалы". Знакавым сёння падаецца той факт, што ўжо ў гэтых першых Купалаўскіх чытаннях бралі ўдзел юныя філолагі, студэнты пятага курса Т. Каролька ("Вобраз працоўнага селяніна ў дакастрычніцкай лірыцы Я. Купалы") і Н. Нерад ("На заходнебеларускія матывы").

Купалаўскія чытанні 1960 г. (адбыліся 28 мая) распачаў А. Пяткевіч дакладам "Я. Купала і польская паэзія", а працягвалі яе студэнты. М. Юрэвіч прапанавала прысутным тэму «Фальклорныя асновы паэмы Я. Купалы "Магіла льва"». Тады ўпершыню выступіла тады яшчэ студэнтка другога курса А. Мацыевіч ("Назіранні над мастацкім стылем дакастрычніцкай лірыкі Я. Купалы"), якая будзе браць удзел ва ўсіх наступных чытаннях, стане вядомым даследчыкам, выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры ГрДУ. Аліна Люцыянаўна Халянкова – яркая постаць нашага літаратуразнаўства. Менавіта тыя Купалаўскія чытанні 1960 г. далі пачатак яе навуковай працы. На жаль, яна вельмі рана пайшла з жыцця.

Чытанні 1962 г. таксама праходзілі вясной і былі юбілейнымі: прысвячаліся 80-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы. Эпіграфам да іх сталі словы паэта:

*Я адплаціў народу,*
*Чым моц мая магла:*
*Зваў з путаў на свабоду,*
*Зваў з цемры да святла.*

Удзельнікі падрыхтавалі не толькі навуковую праграму (з дакладамі выступалі А. Пяткевіч, Т. Сцяшковіч, А. Мацыевіч, А. Сабасцян), але і музычна-літаратурны вечар, у праграме якога былі песні на творы Купалы, мастацкае чытанне вершаў, выступленне струннага аркестра і харавога калектыву. Але самае галоўнае – спектакль паводле Купалавых "Прымакоў".

Традыцыйныя Купалаўскія чытанні былі аднаўлены як навуковая канферэнцыя ў 1995 г. дзякуючы прафесару кафедры беларускай літаратуры І. Жуку, які ва ўступным артыкуле “Слова на дарогу” да першага выдання матэрыялаў слушна адзначаў, што універсітэту, які носіць імя народнага паэта, “стаць ініцыятыўным асяродкам навуковых Купалаўскіх чытанняў… лёсавая праднаканаванасць” [13, с. 3]. Гэта ўжо новая старонка навуковай гарадзенскай Купаліяны. За пятнаццаць гадоў адбылося восем навуковых сустрэч, сем выдадзеных навуковых зборнікаў змяшчаюць 370 артыкулаў.

На Купалаўскіх чытаннях, што адбыліся 24 – 25 лютага 2010 г., было заяўлена 89 тэм, прадстаўлены амаль усе універсітэцкія гарады нашай краіны: Мінск, Гомель, Магілёў, Брэст, Мазыр. Шчыра віталі ўдзельнікі доктара філалагічных навук, прафесара, загадчыка кафедры тэорыі літаратуры БДУ В. Рагойшу, які з’яўляецца старшынёй ГА “Міжнародны фонд Янкі Купалы” і сустаршынёй аргкамітэта канферэнцыі ў Гародні. Адкрыў чытанні І. Жук, чыё ўзнёслае слова ў гонар паэта і згадка пра мінулыя канферэнцыі сталі першай урачыстай нотай, што была падхоплена і ў словах В. Рагойшы, першага прарэктара ГрДУ І. Бурлыкі, дэкана філалагічнага факультэта В. Варановіча, і ў літаратурна-музычнай кампазіцыі “Зазвіні ты, Купалава слова!”, якую падрыхтавалі студэнты-філолагі.

Сёлетнія чытанні праводзіліся ў рамках святкавання 70-годдзя Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Па добрай традыцыі поруч са сталымі даследчыкамі мелі слова і тыя, хто толькі пачынае працу на ніве айчыннай філалогіі: аспіранты, магістранты, студэнты.

**Спіс літаратуры**


1. **Малюціна, А.** З літаратурных сувязей Я. Купалы / А. Малюціна // Народны паэт Беларусі. – Мінск : Выдавецтва АН БССР, 1962. – С. 156 – 164.
2. **Вітка, В.** Сустрэчы, якія зберагла памяць / В. Вітка // Успаміны пра Янку Купалу / склад. А. Кулакоўскі і Н. Цвірка. – Мінск : Маст. літ., 1982. – С. 164 – 171.
3. **Саламевіч, І. У.** Гродна / І. У. Саламевіч // Янка Купала : энцыкл. даведнік. – Мінск : БелСЭ, 1986. – С. 169 – 170.
4. **Крэнь, І. П.** “Мне шанцуе на добрых людзей” / І. П. Крэнь. – Гродна, 2009.
5. **Гаробчанка, Т. Я.** Гродзенскі абласны драматычны тэатр / Т. Я. Гаробчанка // Янка Купала : энцыкл. даведнік. – Мінск : БелСЭ, 1986.
6. **Жук, І. В.** Сустрэчны рух : літаратуразнаўчыя эцюды / І. В. Жук. – Гродна : Гродз. абл. аддзяленне Бел. фонду культуры, 1998. – 112 с.
7. **Купала, Я.** Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. – Мінск : Маст. літ., 2001. – Т. 7. – 399 с.
8. **Васілёк, М.** Зоры над Нёманам. Выбранае / М. Васілёк. – Мінск : Дзяржвыд БССР, 1963. – 284 с.
9. **Бандарына, З.** Па купалаўскіх сцежках / З. Бандарына // Народны паэт Беларусі. – Мінск : Выдавецтва АН БССР, 1962.
10. **Бічэль-Загнетава, Д.** Даўняе сонца. Лірыка / Д. Бічэль-Загнетава. – Мінск : Маст. літ., 1985. – 398 с.
11. **Голуб, Ю.** Гром на зялёнае голле : вершы / Ю. Голуб. – Мінск : Беларусь, 1969. – 64 с.
12. **Голуб, Ю.** Багра : вершы і паэма / Ю. Голуб. – Мінск : Кнігазбор, 2006. – 224 с.
13. **Жук, І.** Слова на дарогу / І. Жук // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні : матэрыялы навук. канф., Гродна, 4 – 6 кастр. 1995 г. / ГрДУ імя Янкі Купалы, 1996. – С. 3 – 4.


## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 г.

ВЕРАСЕНЬ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 33, 73.*

**18 верасня –** 100 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Лазіцкага (1910 – 1979), мастака па касцюмах

**19 верасня –** 105 гадоў з дня нараджэння Янкі Тумiловiча (1905 – 1938), паэта

**20 верасня –** 200 гадоў з дня нараджэння Пляцыда (Плакіда) Янкоўскага (1810 – 1872), пісьменніка

75 гадоў з дня нараджэння Міхася Засінца (1935 – 1982), самадзейнага жывапісца, заслужанага работніка культуры Беларусі

65 гадоў з дня адкрыцця Літаратурнага музея Янкі Купалы

**22 верасня –** 85 гадоў з дня нараджэння Алеся Траяноўскага (1925 – 2005), перакладчыка, крытыка, публіцыста

70 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Багушэвіча, мовазнаўцы

**23 верасня –** 130 гадоў з дня нараджэння Рахілі Брохес (1880 – 1941), ідыш- і беларускамоўнага празаіка, драматурга

100 гадоў з дня нараджэння Юльяна Сергіевіча (1910 – 1976), паэта, мастака

**24 верасня –** 100 гадоў з дня нараджэння Івана Карасёва (1910 – 1983), жывапісца, сцэнографа

**25 верасня –** 135 гадоў з дня нараджэння Сяргея Паўловіча (1875 – 1940), грамадска-культурнага дзеяча і педагога

115 гадоў з дня нараджэння Ванды Лявіцкай (па мужу Лёсік; 1895 – 1968), паэткі, празаіка

75 гадоў з дня нараджэння Аляксея Фядуся, мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва

**26 верасня –** 100 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Агіевіча (1910 – 1952), крытыка і літаратуразнаўцы

85 гадоў з дня нараджэння Навума Кісліка (1925 – 1998), паэта, перакладчыка

70 гадоў з дня нараджэння Анатоля Арцімовіча, скульптара

**27 верасня –** 70 гадоў з дня нараджэння Міколы Бусько, паэта

**28 верасня –** 85 гадоў з дня нараджэння Барыса Лапава (1925 – 1967), мовазнаўцы

80 гадоў з дня нараджэння Віктара Дайліды, празаіка

**29 верасня –** 130 гадоў з дня нараджэння Сяргея Сахарава (1880 – 1954), фалькларыста, этнографа, публіцыста, педагога

* * *

85 гадоў з часу стварэння літаратурна-мастацкага і навуковага ілюстраванага часопіса “Вольны сцяг”. Існаваў да 1923 г.

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*

*Прэм'ера рубрыкі*

Алена САЛАМЕВІЧ

# ЯК СПЛЯТАЎСЯ КЛУБОЧАК…

## ЛЁСЫ НАСТАЎНІКАЎ ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ ПРАЗ ПРЫЗМУ ЧАСУ

**1920 – 1930 гг.**

Таму, хто разглядае рэльефную карту Беларусі, кідаецца ў вочы прадаўгаватае паглыбленне, якое нібыта рассоўвае Ашмянскае ўзвышша, – даліна Заходняй Бярэзіны (на поўначы Валожынскага раёна), што чамусьці не мае наймення, хоць польскі журналіст Чэслаў Янкоўскі ў "Ашмянскім павеце" назваў яе "забрэзскай раўнінай": побач вёска Забрэззе. Аднак гэты старажытны населены пункт (вядомы з XV ст. як уласнасць вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча, потым – Забярэзінскіх, С. Збаражскага) апошнія дзесяцігоддзі стаў уступаць па колькасці жыхароў вёсцы-суседцы – Гародзькам, перспектыву развіцця якіх прадвызначыла праведзеная ў пачатку XX ст. чыгунка. Спачатку буйным цэнтрам на скрыжаванні дарог павінны былі стаць Лістапады: менавіта тут была пабудаваная чыгуначная станцыя, будынак якой згарэў ад агню варожай артылерыі ў гады Першай сусветнай вайны. Дзеля стратэгічных мэт станцыю тады перанеслі крыху далей ад лініі фронту, у Гародзькі.

Перад падзеламі Рэчы Паспалітай Гародзькі належалі Прушынскім, пасля – графу Аляксею Собалеву, некальскім пакаленням Фельдманаў, Мечыславу Ваўчацкаму. На картах Беларусі канца XVI ст. мы не знойдзем Гародзькаў, хоць вакольныя Гарадзечна, Забярэззе, Лоск, Вішнеў, Багданава ёсць. Гэта значыць, што вёскі нашай тады ці не было, ці яна не стала яшчэ такой вялікай, каб трапіць на карту. Ні ў адной энцыклапедыі не гаворыцца, калі яна ўпершыню ўзгадваецца, і толькі ў даведніку "Минская область: энциклопедия" (2007) чытаем: "Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 18 ст." (с. 484). Аднак з нарыса "Мінуўшчына" С. Кулачэнкі, надрукаванага яшчэ ў 1974 г. у раённай газеце, даведваемся наступнае: «Ашмянскія шляхціцы настолькі баяліся народнага гневу, што на павятовым сейміку, што праходзіў 28 красавіка 1656 года, прынялі пастанову аб выбары ротмістраў для падаўлення выступленняў сялян. Такім уціхамірнікам у маёнткі "Крэвалоск, Гародзікаў, Гастова, Пяршая, Валожын, Забрэсць, Слонівінск і іншыя ўсялякія ўгоддзі" назначаўся шляхціц Тобіяш Комар» (Працоўная слава, 30.04.1974, № 52, с. 2). Ці не трэба было б і лічыць 1656 год годам першага ўзгадвання пра Гародзькі? На жаль, аўтар нарыса не робіць спасылкі на літаратуру, таму знайсці гэтыя крыніцы яшчэ не ўдалося. На карце Ашмянскага павета ў другой палове XIX ст. наша вёска не толькі ёсць, але і пазначана як цэнтр воласці, хоць воласць называлася Забрэзскай. У "Слоўніку геаграфічным Каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх" (выдадзеным на польскай мове ў 1884 г. у Варшаве) чытаем: "Гародзькі, вёска, павет Ашмянскі, над рэчкай без назвы, якая ўпадае ў Бярэзіну. Гміна Гародзькаўская налічвае 715 дамоў, 5 760 жыхароў. Валаснное праўленне ў вёсцы Гародзькі. Гародзькаўская гміна складаецца з 7 вясковых акруг: 1) Гародзькі; 2) Забрэззе; 3) Кабыльчыцы; 4) Дубіна; 5) Лоск; 6) Запруддзе; 7) Філіпіняты. У акругу вёскі Гародзькі ўваходзяць вёскі Гародзькі, Лістапады, Гарадзечна, Ганькавічы".

На ўсход ад Гародзькаў, у гэтай жа нізіне, – Гарадзечна (вядома з XV ст.), Старынкі, на поўнач – Малое Запруддзе і Вялікае Запруддзе, далей за імі – старажытны Лоск (вядомы з XV ст.), дзе ў канцы XVI ст. Сымон Будны друкаваў кнігі. На захад ад Забрэззя – Студзянец, Пагарэльшчына, Барташы, Лістапады, на паўднёвы захад – Славенск (вядомы з XV ст.), на ўсход – Узбалаць, Дубіна (вядома з XV ст.)…

У 1860-я гг. у Гародзькаўскай воласці былі ўтвораны народныя вучылішчы: у 1862 г. – Славенскае, у 1863 г. – Забрэзскае, у 1864 г. – Гародзькаўскае. У канцы XIX – пачатку XX ст. тут дзейнічалі і царкоўнапрыходскія аднакласныя школы (у Дубіне, Лоску), але найбольш было школ граматы. Выкладанне ў гэтых пачатковых навучальных установах вялося па-руску. У трывожныя часы паміж Першай і Другой сусветнымі войнамі ўлада ў Гародзьках і наваколлі мянялася некалькі разоў. У 1920 – 1930-я гг. навучанне ў школах вялося на польскай мове – старажылы нашых мясцін могуць прадэманстраваць сваё ўменне гаварыць і чытаць па-польску. У савецкія часы ўсе школы сталі беларускія, але цяпер, калі сельскіх жыхароў становіцца менш і менш, у большасці вёсак яны закрыты. На тэрыторыі былой Гародзькаўскай воласці (у польскія часы – Забрэзскай гміны) сярэдняя школа засталася толькі ў Гародзьках, а базавая школа-сад – у Дубіне.

Вывучэнне гісторыі роднага краю пачынаецца з вывучэння гісторыі сваёй сям'і, роду, вёскі. А гісторыя краіны найлепш уяўляецца праз аповеды пра лёс яе людзей.

Жаданне скласці радавод, вызначыць сваяцкія адносіны з носьбітамі аднолькавых прозвішчаў прывяло мяне да цікавых знаходак. Напрыклад, я даўно ведала, што некалі ў Гародзьках жыў брат майго прадзеда Васіля – Міхась Адамавіч Стан-

кевіч, якога звалі Беларусам. У канцы 1950-х гг. ён выехаў у Вільню. Роспыты, перапіска з яго дачкой Нінай Міхайлаўнай раскрылі такі факт: у 1921 г. на настаўніцкія курсы ў Вільню паехалі ажно сем чалавек з Гародзькаў. Тады я стала вывучаць літаратуру пра курсы, дзеля чаго працавала ў архівах і бібліятэках, – і даведалася пра дзейнасць Таварыства беларускай школы на тэрыторыі Забрэзскай гміны ў "польскія" часы. Пачала распытваць і запісваць пра дзяцей Ганны Адамаўны Станкевіч – і выплылі факты рэпрэсій людзей з маёй мясцовасці ў сталінскія часы. Хацела вызначыць, ці сваякі мы з Міхасём Ануфрыевічам Станкевічам, які ў 1920-я гг. адкрыў беларускую кнігарню ў Маладзечне і пра лёс якога напісаў краязнавец М. Казлоўскі, – і знайшла ў сшытках былога настаўніка апісанне нашых мясцін, своеасаблівы летапіс вёскі Гародзькі з планамі. Зацікавілася пісьмовымі крыніцамі пра Гародзькі, надрукавала вынікі сваіх знаходак у газетах – і мне сталі несці старыя фотаздымкі, расказваць пра людзей на іх. Гэтак жа трапіў да мяне і штодзённік былога бібліятэкара Мікалая Пятровіча Асіповіча, дзе ёсць не толькі факты з гісторыі малой радзімы, але і звесткі пра сяброўскія адносіны Асіповічаў з Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч і яе братам Вінцэнтам (Вікенціем) Францавічам Станкевічам.

У 1919 г. у нашых мясцінах быў Янка Купала, на сустрэчу з якім у суседнім Седлішчы сабраліся мясцовыя настаўнікі. Стала збіраць інфармацыю пра тагачасных настаўнікаў, а таксама іх фотаздымкі, каб уявіць тую сустрэчу, – з'явіліся нарысы пра лёсы настаўнікаў-землякоў, якія, натхнёныя Купалам на стварэнне нацыянальных школ, сутыкнуліся са шматлікімі праблемамі. У аповедах пра настаўнікаў можна знайсці інфармацыю з заходнебеларускіх газет і архіўныя матэрыялы, што павінны запоўніць прабел у гісторыі некаторых школ на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1920 – 1930-я гг.

Адметнае ва ўсіх знаходках тое, што змаганне за беларускую школу ў той час было масавым: на вёсцы кожны настаўнік вызначаўся высокім пачуццём нацыянальнай свядомасці, станавіўся своеасаблівым абаронцам правоў беларусаў, адно з якіх – мець школу з выкладаннем на роднай мове. Спадзяюся, некаторыя архіўныя і газетныя матэрыялы, што працытуюцца ў публікацыях, будуць карысныя для настаўнікаў не толькі зместам, але і лексікай, сінтаксісам, а таксама тагачасным правапісам (асабліва цяпер, калі нас чакаюць змены ў беларускай арфаграфіі).

Усё вышэйсказанае сведчыць, што ў кожнай нашай вёсцы, у кожнай яе хаце і цяпер можна знайсці тое, чым будзе дапаўняцца гісторыя Беларусі. Варта толькі пацягнуць за адну нітачку – і зматаецца вялікі клубок, у якім пераплятуцца лёсы нашых суайчыннікаў і лёс краіны.

*З гісторыі беларускай школы*

# НАТХНЁНЫЯ КУПАЛАМ

Яшчэ ў 1972 г. Генадзь Каханоўскі, тады намеснік дырэктара Мінскага абласнога краязнаўчага музея, у газеце Валожынскага раёна "Працоўная слава" пісаў пра наведванне Янкам Купалам маёй малой радзімы – вёскі Гародзькі: "Старажылы з Гародзькаў сцвярджаюць, што ў 1919 годзе Я. Купала наведаў іхнюю вёску. Прыязджаў чыгункай. Тут быў сіроцкі дом. Вось да дзетак прыязджаў паэт, цікавіўся іх лёсам. А яшчэ раней, у 1906 – 1907 гадах, нібыта таксама наведаў вёскі Ганькавічы, Гарадзечна" [1]. У 1978 г. у газеце "Літаратура і мастацтва" Г. Каханоўскі ўдакладніў, што Купала прыязджаў у былы маёнтак Седлішча (недалёка ад Забрэззя і Гародзькаў), каб "азнаёміцца з жыццём дзяцей-сірот, бацькі якіх загінулі на вайне. Дачуўшыся пра такую навіну, на сустрэчу з паэтам сабраліся навакольныя настаўнікі. Я. Купала расказаў пра будаўніцтва вольнай Беларусі, пра арганізацыю беларускіх школ, чытаў свае вершы" [2]. Згадваліся прозвішчы настаўнікаў З. П. Асіповіч, М. А. Станкевіча, якія расказвалі пра тую сустрэчу. Пазней гэтыя звесткі ўвайшлі ў энцыклапедычны даведнік "Янка Купала" [3, с. 150, 554], бо паэтаў шлях ішоў праз чыгуначную станцыю Гародзькі (на лініі Маладзечна – Ліда, пракладзенай яшчэ ў 1906 г.; цяпер станцыя называецца Валожын). Купалу сустрэлі настаўнік М. А. Станкевіч, выхавальніца Я. П. Асіповіч і суправаджалі да Седлішча. Сёння на карце Беларусі гэтага фальварка не знойдзем, але ў самым канцы XIX ст. польскі гісторык, публіцыст і паэт Чэслаў Янкоўскі згадвае яго ў "Ашмянскім павеце": "За імі [вёскамі Кабыльчыцы, Баяры, Барташы, якія зліліся ў адну доўгую вёску. – ***А. С.***], далей да Забрэззя – і вярсты не будзе – не вялікі, але прыгожа забудаваны і старанна ўпарадкаваны фальварак Седлішча Іяхіма Некрашэвіча, брата ўладальніка таксама падзабрэзскага Вялікага Двара" [4]. Паводле звестак 1905 г., у маёнтку Некрашэвіча пражывала 15 чалавек, гаспадару належала 186 дзесяцін зямлі [5]. Пасля (ці ў час) Першай сусветнай вайны тут быў прытулак для дзяцей. За польскім часам, як расказваюць старэйшыя, уладальнікам маёнтка быў Дэмбіц-

кі, якога выбіралі ад беларусаў дэпутатам у польскі сейм. У Вялікую Айчынную вайну ў маёнтку гаспадарылі немцы, а калі адыходзілі ў 1944 г., падарвалі, таму маладзейшыя яго не памятаюць. На тым месцы цяпер толькі сельскагаспадарчыя пабудовы.



***Алена Уладзіміраўна Саламевіч** – даследчык мовы. Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1984), аспірантуру пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка (1998). Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў СШ № 138 г. Мінска. З 1991 г. – у БДПУ на факультэце дауніверсітэцкай падрыхтоўкі, цяпер – старшы выкладчык кафедры методыкі выкладання інтэграваных школьных курсаў. Даследуе пытанні сінтаксісу беларускай мовы, гісторыі роднага краю. Аўтар 50 публікацый па праблемах сінтаксісу, методыцы выкладання беларускай мовы і літаратуры ў сістэме даўніверсітэцкай падрыхтоўкі, краязнаўстве.*

Колькі праіснаваў прытулак, высветліць не ўдалося. Але Купала прыязджаў не ў тое Седлішча, што ў Пяршайскім сельсавеце, як напісаў пра гэта А. Гедроіць у "Куфэрку Віленшчыны" [6, с. 24], і не ў Седлішча ў Сугваздаўскім сельсавеце, як сцвярджаюць А. Мальдзіс і Дз. Крывашэй [7], а ў Седлішча, што паміж Забрэззем і Гародзькамі, за тры кіламетры ад чыгуначнай станцыі. Шлях Купалы ў гэты маёнтак ішоў паўз Вялікі Двор каля Забрэззя. Едучы на возе, настаўнікі распавядалі яму і пра Гародзькі, якімі тады валодалі шляхціцы Ваўчацкія, і пра Вялікі Двор, апошняй уладальніцай якога была Браноўская. Перад Забрэззем падарожнікі павярнулі направа і хутка былі ў Седлішчы.

Ніна Аляксееўна Станкевіч (нарадзілася ў 1921 г.) расказала:

– Сядзім мы з цёткай Марусяй, а яна кажа: "Гэта ж во на якіх машынах цяпер ездзяць! А некалі, як прыязджаў Купала да нас, паклалі на калёсы дошчачку-лавачку, селі ўсе ў воз і паехалі. Едзем і расказваем, дзе чые ўладанні".

Купала мог быць частым госцем Валожыншчыны. Гэта зразумела: яго жонка Уладзіслава Францаўна родам з Вішнева, якое не так і далёка ад Гародзькаў, за дваццаць адзін кіламетр. Гэта па прамой. Але, напэўна, зручней было вярнуцца з Седлішча ў Гародзькі (а можа быць, і зайсці да тых настаўнікаў-сяброў, якія запрашалі на сустрэчу), а потым сесці на цягнік, даехаць да ст. Багданаў, адкуль да Вішнева кіламетраў пяць.

Хто быў ініцыятарам той сустрэчы? Янка Купала і яго жонка? А хто з нашых мясцін? Маё дзявочае прозвішча – Станкевіч. Гэта стала падставай для меркавання, што, можа, і мае карані нейкім чынам звязаны з каранямі Уладзіславы Францаўны, сваяцкія адносіны з якой маглі падтрымліваць мой прадзед Васіль Адамавіч і яго брат, настаўнік Міхась Адамавіч Станкевіч. Тым больш што яшчэ не высветлена, адкуль з'явіўся наш продак у Гародзьках – ці то з Вільні, ці то з Вішнева. Але, паколькі бацька Уладзіславы Францаўны родам з Навагрудчыны, гэта малаверагодна. Такую гіпотэзу выказвалі і пра Міхася Ануфрыевіча Станкевіча, які з іншымі настаўнікамі ў 1970-я гг. расказваў пра тую сустрэчу Генадзю Каханоўскаму. Мой жа сваяк Міхась Станкевіч тады ўжо жыў у Вільні.

Дык хто ж з маіх землякоў быў ініцыятарам прыезду Купалы? Павінны быць тыя, хто запросіць госця і пад чыім кіраўніцтвам будзе арганізавана сустрэча, падрыхтаваны канцэрт. У Гародзьках у 1919 г. жылі настаўніцы Зінаіда Пятроўна Асіповіч і яе сястра Яўгенія, ураджэнкі Вішнева. І сёння на маёй радзіме стаіць вялікі дом, пабудаваны ў 1912 г. іх бацькам – Пятром Ігнатавічам Асіповічам, таксама вішнеўскім настаўнікам. Напэўна, Зінаіда Асіповіч была накіравана сюды на працу ў школе.

Старэйшыя гародзькаўцы расказваюць, што Асіповічы добра ведалі Уладзіславу Францаўну Луцэвіч, ездзілі да яе ў Мінск.

Мінулай восенню я стала збіраць звесткі пра сям'ю Асіповічаў. Пачала з таго, што разам з Веранікай Саламевіч (намеснікам галоўнага рэдактара "Настаўніцкай газеты") завітала ў Вішнева да праўнучкі Пятра Ігнатавіча Асіповіча, таксама былой настаўніцы Наталлі Яўстаф'еўны Іванкевіч; у Мінску сустрэлася яшчэ з адной яго праўнучкай – Любоўю Міхайлаўнай Корсак. Абедзве пацвердзілі, што Асіповічы сябравалі з сям'ёй Франца і Эміліі Станкевічаў, іх дзеці раслі разам. (Уладзіслава Францаўна Станкевіч з 1891 г., яе брат Вікенцій з 1886 г.; дзеці Пятра і Ганны Асіповічаў Наталля – з 1882-га, Зінаіда – з 1883-га, Дар'я – з 1890-га, Яўгенія – з 1891-га, Мікалай – з 1894 года.) У сем'ях Асіповічаў часта пра гэта згадваюць, калі гаворка ідзе пра мінулыя часы. Ды можна і здагадацца, што сем'і настаўнікаў маглі быць у добрых адносінах. Пётр Ігнатавіч – педагог, з 1869 г. працаваў настаўнікам у Вішнеўскім народным вучылішчы, за 25-гадовую працу атрымаў тытул ганаровага грамадзяніна Вішнева, за стараннасць быў узнагароджаны сярэбраным медалём, а грамадскасць (праваслаўны і каталіцкі святары, калегі, вучні) падарылі яму абраз Казанскай Божай Маці, які да гэтага часу захоўваецца ў Вішневе яго праўнучкай. У панскім маёнтку выкладала французскую мову маці Уладзіславы Францаўны – Эмілія (яна прыехала сюды з Францыі як выкладчыца, тут і пазнаёмілася з леснiком Францам Станкевічам), яна ж была на-



**Сёстры Асіповіч** (злева направа) **Зінаіда Пятроўна, Яўгенія Пятроўна** (стаіць), **яе муж Сяргей Іванавіч Цярэшчанка, Наталля Пятроўна, дачка Яўгеніі Пятроўны і Сяргея Іванавіча Ірына** (сядзіць у цэнтры). 1930-я гг. З архіва ўнучкі Наталлі і Міхася Іванкевічаў – Любові Корсак.

стаўніцай паэткі Канстанцыі Буйло. Расказваюць, што дзеці Пятра і Ганны Асіповічаў з дзецьмі Франца і Эміліі Станкевічаў бегалі ў панскую сядзібу Адрывонж. А там працавала шмат адукаваных людзей з Еўропы, якія займаліся гаспадаркай, навучаннем і выхаваннем дзяцей: мясцовыя хлопчыкі і дзяўчаткі маглі там навучыцца ігры на музычных інструментах, танцам. Сёння невядома, ці гэта было па асабістай просьбе бацькоў, за пэўную плату ці яшчэ як, але дзеці імкнуліся да новых ведаў і з задавальненнем вучыліся. Зінаіда Пятроўна (памятаюць гародзькаўцы) іграла на піяніна, складала вершы, песні і вельмі прыгожа спявала. Паводле ўспамінаў Вінцэнта Францавіча Станкевіча, у іх хаце заўсёды было шмат дзяцей, а яго сястра Уладзя любіла для ўсіх прыдумваць розныя гульні [8]. Ці не дзяцей Пятра і Ганны Асіповічаў ён і меў на ўвазе?

Тады, вясной 1919 г., Уладзіслава Францаўна прыязджала разам з Янкам Купалам [9], а пасля сустрэчы ў Седлішчы яны накіраваліся ў яе роднае Вішнева. Янка Купала і яго спадарожніца не былі абыякавымі да лёсу дзяцей-сірот. Уладзіслава Францаўна ў 1908 г. працавала выхавальніцай у прытулку ў Вільні, у 1914 г. удзельнічала ў арганізацыі дзіцячага прытулку [3, с. 361]. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што і Купала менавіта з гэтай прычыны нібыта быў у Гародзьках яшчэ ў пачатку Першай сусветнай вайны [6, с. 23]. А правесці са станцыі Гародзькі ў Седлішча і назад Купалу і яго жонку тады, у 1919 г., мог любы з настаўнікаў, але ў першую чаргу гэта магла зрабіць зямлячка, аднагодка і сяброўка Уладзіславы Францаўны – **Яўгенія Пятроўна Цярэшчанка (Асіповіч)** (1891 – 1947), выхавальніца, відаць, у тым жа прытулку ў Седлішчы.

Па адукацыі Яўгенія Пятроўна была настаўніцай: калі выходзіла замуж за Сяргея Іванавіча Цярэшчанку 1 лістапада 1917 г., выкладала ў Докшыцкім народным вучылішчы, пра што сведчыць выпіска з метрычнай кнігі пра заключэнне шлюбу. 17 студзеня 1919 г. у сям'і Яўгеніі і Сяргея Цярэшчанкаў нарадзілася адзіная дачка Іраіда (Ірына) (гэтая інфармацыя з дакументаў, якія захоўвае сын Іраіды і ўнук Яўгеніі – Георгій Мікалаевіч Сазановіч). Тады яны жылі ў Лунінцы Пінскага павета. Аднак вясной таго ж года, відаць, пераехалі ў Гародзькі, бо Яўгенія Цярэшчанка брала непасрэдны ўдзел у арганізацыі сустрэчы з Янкам Купалам.

Натхнёныя паэтам на адкрыццё беларускіх школ, у 1920 г. настаўнікі Забрэзскай воласці пачалі ствараць нацыянальныя школы і выкладаць на роднай мове. Адной з такіх настаўніц была і Яўгенія Цярэшчанка. Становішча беларускіх настаўнікаў пры польскай уладзе было незайздросным, аднак яны не маўчалі. 12 красавіка 1921 г. настаўнікі Забрэзскай воласці пратэстуюць, што ім не выплачана пенсія (зарплата) яшчэ за лістапад 1920 г., просяць акружнога інспектара Дубіну высветліць у Дэпартаменце асветы прычыну затрымкі [10]. Калі польскімі ўладамі беларускія школы ў Забрэзскай гміне былі зачынены, на яе тэрыторыі пачалося змаганне за права вучыць дзяцей па-беларуску. 24 верасня 1922 г. паміж звольненымі настаўнікамі былі размеркаваны 13 вёсак, у якіх яны дабіваліся адкрыцця пачатковых беларускіх школ. Яўгеніі Цярэшчанцы даручылі весці работу ў вёсцы Дайнава [11].

У 1930 – 1940-я гг. сям'я Яўгеніі жыла ў Лідзе. Вырасла дачка Ірына, закончыла дзяржаўную гімназію ў Лідзе, паступіла на юрфак Віленскага універсітэта ў 1937 г. Нягледзячы на ваенныя перашкоды, вышэйшую адукацыю яна атрымала. Добра ведала нямецкую мову. Гэта і дало падставы органам НКУС пасля вызвалення Беларусі абвінаваціць Ірыну, настаўніцу нямецкай мовы, у тым, што яна “была памагатая немцаў”. Ёй прысудзілі год і сем месяцаў працоўна-папраўчых работ [12]. Выратавала дваццаціпяці-

гадовую дзяўчыну тое, што яе падтрымлівалі родныя: пастаянна высылалі ў Архангельскую вобласць пасылкі. Пракуратурай Гродзенскай вобласці яна рэабілітавана ў верасні 1991 г. Аднак Яўгенія Пятроўна не змагла перажыць таго, што здарылася з адзінай дачкой: яна цяжка захварэла і памерла 12 верасня 1947 г. у мінскай бальніцы, так і не дачакаўшыся вызвалення любімай Ірыны. Свой вечны прытулак Яўгенія Цярэшчанка знайшла ў Вішневе, побач з бацькамі. У памяці землякоў яна засталася як "знакамітая дзяўчына свайго часу". Відаць, гэтая знакамітасць заключалася ў яе неардынарным мысленні, адносінах да людзей і падзей таго часу.

**Зінаіда Пятроўна Асіповіч** (1883 – 1972) мела адукацыю настаўніцы. Яна спрыяла маладым таленавітым дзяўчатам і хлопцам, дапамагала знайсці сваю дарогу ў жыцці.

У 1914 г. Зінаіда Пятроўна Асіповіч сама павезла ў Барысаў Марыю Станкевічанку для паступлення ў жаночую настаўніцкую семінарыю, тры класы якой тая паспяхова закончыла. Марыя Станкевічанка (Каліноўская) усё жыццё сябравала з сям'ёй Асіповічаў. Захаваўся фотаздымак Марыі, падораны 9 снежня 1922 г. "на памяць даражэнькай Яўгеніі Пятроўне ад Марусі". Выхаванка Зінаіды Пятроўны памятала пра сустрэчу з Янкам Купалам у 1919 г. і расказвала нам пра яе таксама: быў пастаўлены спектакль "Паўлінка" ці ўрыўкі з яго, дзе яна выконвала галоўную ролю, і нават сам Купала падтрымаў яе – патанцаваў разам.

Зінаіда Асіповіч у 1916 г. працавала ў Гарадку, што на Маладзечаншчыне, у "Северапомачы" – дзейнасць гэтай арганізацыі была накіравана на дапамогу бежанцам у час Першай сусветнай вайны. Як адзначыў М. Казлоўскі, тут у 1919 г. яна стварыла разам з Міхасём Ануфрыевічам Станкевічам, таксама гародзькаўцам, прытулак для дзяцей [13]. Газета "Беларускі звон" за 12 красавіка 1922 г. змясціла спіс тых, хто выслаў ахвяраванні на карысць дзіцячага прытулку ў Вільні, сярод іх – "Зінаіда Асіповіч – 8.000 м.", тая ж газета за 11 кастрычніка 1922 г.: "Асіповіч Зінаіда – 500 м., Станкевічанка Мар'я – 500 м.". Восенню 1922 г. Зінаіда Асіповіч уключылася ў актыўную работу перад выбарамі ў сойм і сенат, увайшла ў склад прэзідыума Забрэзскага беларускага выбарнага камітэта (разам з Міхасём Станкевічам, Данілам Марзаком, Сяргеем Канапелькам і Мар'яй Станкевіч). Камітэт заўважыў фальсіфікацыі (многія жыхары не былі ўнесены ў спіс выбаршчыкаў), арганізаваў мітынгі, пасля якіх адбываліся "беларускія прадстаўленні, ладжаныя трупай, арганізаванай Камітэтам" (Беларускі звон, 23.09.1922, с. 2). 21 верасня, у кірмашовы дзень, мітынг адбыўся ў Гародзьках, на ім выступалі прадстаўнікі Забрэзскага камітэта



**Яўгенія Пятроўна Цярэшчанка (Асіповіч).** 1911 г.
З архіва ўнука Яўгеніі Цярэшчанкі Георгія Сазановіча.

і ад Цэнтральнага выбарнага камітэта гр. Туркевіч. Пасля мітынгу сяляне сабраліся ў вялікай хаце на нараду, дзе пастанавілі галасаваць толькі за беларускі спіс № 16. Дэкламаваліся вершы родных паэтаў, гучала песня "Ад веку мы спалі" (Беларускі звон, 28.09.1922, с. 2).

Не раз Зінаіда прыцягвалася польскімі ўладамі да судовай адказнасці за "антыпанствовую" дзейнасць (за тое, што ў яе хаце знаходзілі беларускія газеты і часопісы). І не толькі яна, але і загадчык яе гаспадаркі Францішак Сасноўскі караўся польскімі ўладамі, іншыя настаўнікі з Гародзькаў былі ў спісах пакараных, напрыклад Станкевічы Міхасі – сыны Адама, Восіпа і Ануфрыя [14, арк. 155, 156, 350]. У 1924 г. у хаце Зінаіды Асіповіч паліцыянты знайшлі карэспандэнцыю з Масквы – мандаты на камуністычны з'езд, за што справа на яе была пададзена ажно ў Вільню [14, арк. 200].

У другой палове 1920-х і ў 1930-я гг. (змаганне за беларускія школы тады было безвыніковым) у Гародзьках працавала польская школа. Настаўнікі часта мяняліся. Але Станіслаў Чаплінскі запомніўся ўсім як настаўнік ад Бога, які вельмі стараўся даць дзецям трывалыя веды, быў справядлівым, карыстаўся аўтарытэтам у навучэнцаў і іх бацькоў. Мясцовая інтэлігенцыя не ставілася да яго варожа, а Зінаіда Пятроўна Асіповіч дазволіла яму кватараваць у сваім доме (хоць пры школе быў пакой для настаўніка). Сама ж гаспадыня, каб мець грошы на пражыццё, у сваёй хаце адкрыла невялічкую краму.



**Зінаіда Пятроўна Асіповіч.** 1902 г.
З архіва ўнука Яўгеніі Цярэшчанкі Георгія Сазановіча.

З прыходам савецкай улады Зінаіда Пятроўна зноў настаўнічала, ужо ў беларускай школе. Гародзькаўцы расказваюць, як у панскім доме ў 1939 – 1941 гг. працавала школа і выкладалі ў ёй Зінаіда Пятроўна Асіповіч, Марыя Восіпаўна Каліноўская (Маруся Станкевічанка), М. А. Куляшоў. Зінаіда Асіповіч была патрабавальнай настаўніцай, хацела, каб яе выхаванцы сталі найлепшымі вучнямі.

Гэтая жанчына ніколі не была абыякавай да ўсяго, што рабілася ў краіне, у роднай вёсцы. Ёй было цікава ўсё: чым жыве і старэйшае пакаленне, і моладзь, як працуюць людзі і як адпачываюць, якія песні спяваюць і што танцуюць. Таму яе, ужо ў немаладым узросце, можна было ўбачыць нават у клубе, дзе яна з лёгкасцю дзяўчыны магла прайсці круг у вальсе з хлопцам. Мая памяць (мне было дзесяць гадоў, як яе не стала) таксама захавала вобраз гэтай інтэлігентнай сталай жанчыны, у светлай пышнай спадніцы і з капялюшыкам на галаве – у такім незвычайным, характэрным для пачатку XX ст. строі, які яна з уласцівай ёй годнасцю і прыхільнасцю дэманстравала пакаленню 1960-х гг.

Дзякуючы Зінаідзе адбылася сустрэча яе старэйшай сястры **Наталлі Пятроўны Асіповіч** (1882 – 1966) з настаўнікам Міхасём Данілавічам Іванкевічам (ён працаваў у Трабах, тады Ашмянскага павета, цяпер Іўеўскага раёна). І хоць сама Наталля прысвяціла сябе найперш сям'і, у якой было чацвёра дзяцей, свой лёс яна бачыла ў адзінстве з лёсам краіны. Міхась Іванкевіч і іх дачка, таксама Зінаіда, двойчы, у 1920 – 1921-м (на мяжы гадоў), а таксама летам 1921 г., як настаўнікі беларускай школы ў Мароськах (Маладзечанскі раён) займаліся на настаўніцкіх курсах у Вільні; Міхась працаваў з 1923 да 1926 г. загадчыкам беларускай школы ў Насілаве, а іх дачка Зінаіда была звольнена польскімі ўладамі з настаўніцкай пасады яшчэ ў 1921 г. (пры савецкай уладзе яна працавала ў Маладзечне ў выканкаме і двойчы выбіралася дэпутатам Вярхоўнага Савета). Апошнія гады жыцця Наталля і Міхась Іванкевічы правялі на радзіме Наталлі, у Вішневе, у хаце Пятра Ігнатавіча Асіповіча. І гэты дом працягваў быць для ўсіх, народжаных тут, мілым прыстанкам.

Мае землякі памятаюць **Мікалая Пятровіча Асіповіча** (1894 –1971), які ў 1925 г. закончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт, нейкі час жыў у Маскве (там у яго была сям'я; Валожыншчына ж аказалася ў складзе Польшчы) і працаваў у Цэнтральным навукова-даследчым інстытуце цукровай прамысловасці. Мікалай Пятровіч верыў, што праз зручнае геаграфічнае становішча Гародзькі павінны мець свой цукровы завод. Гэтая мара не здзейснілася, і тады ён узяў непасрэдны ўдзел у планіроўцы і будаўніцтве Скідзельскага цукровага завода. Пасля вайны прыехаў да сястры ў Гародзькі, працаваў у вёсцы загадчыкам бібліятэкі і зрабіў яе ў канцы 1950-х гг. найлепшай сярод сельскіх бібліятэк Беларусі, за што меў граматы. Пра яго пісалі ў "ЛіМе", "Искре" (газета Валожынскага раёна)*, аўтарам некаторых артыкулаў быў сам Мікалай Пятровіч**. У бібліятэцы М. Асіповіч праводзіў цікавыя лекцыі, мерапрыемствы для школьнікаў і вечары для моладзі. Бібліятэка і нават сельсавет нейкі час, пакуль у 1958 г. не пабудавалі новае памяшканне для клуба і бібліятэкі, месціліся ў іх доме: сям'я Асіповічаў і тут не адышла ад сваёй дабрачыннасці.

Гародзькаўцы расказваюць, што Мікалай Пятровіч заўсёды, калі ехаў у Мінск па справах, не прапускаў магчымасці наведаць сваіх сяброў, у тым ліку і зямлячку Уладзіславу Францаўну Луцэвіч.

Сёння ў хаце Асіповічаў жыве сям'я Язерскіх. Некалі, як толькі хата была прададзена, разбіраліся лішнія кнігі, не забраныя сваякамі Асіповічаў паперы. Сярод іх трапіўся блак-

* **Буран, В.** Сябра і дарадчык / В. Буран // ЛіМ. – 1958. – 28 мая; **Носаў, В.** Найлепшая бібліятэка / В. Носаў // Искра. – 1960. – 17 лют.

** **Асіповіч, М.** Па сямейных абанементах / М. Асіповіч // Мінская праўда. – 1960. – 21 мая; **Асіповіч, М.** Настаўнікі і сельская бібліятэка / М. Асіповіч // Искра. – 1958. – 23 сак.; **Асіповіч, М.** Вясёлай песняй заканчваецца вечар / М. Асіповіч, Н. Дурко, М. Кезік // Искра. – 1960. – 19 ліст.

нот – штодзённік за 1930 г., але запоўнены пазней, у 1945 і 1946 гг., рукой Мікалая Пятровіча. Калі мною былі надрукаваны даследаванні па гісторыі вёскі Гародзькі*, Марыя і Анатоль Язерскія прынеслі яго мне, спадзеючыся, што я змагу расчытаць запісы і знайсці што-небудзь цікавае пра нашу радзіму.

Аўтар блакнота ў 1945 г. яшчэ пастаянна жыў у Маскве, але яго праца была звязана з частымі камандзіроўкамі. Лаканічныя запісы гавораць, што Мікалай Пятровіч думаў пра тое, як хутчэй адрадзіць Беларусь пасля ваеннай разрухі, як сумаваў па Радзіме, думаў пра сясцёр і іх дзяцей, клапаціўся пра іх, адпраўляў пасылкі, грошы, рабіў для іх пакупкі. Атрымліваў пісьмы і пасылкі з Беларусі, найчасцей ад Зінаіды Пятроўны Асіповіч. Калі наведваў Беларусь, прыязджаў у Мінск на розныя пасяджэнні то ў Акадэміі навук, то ў Доме ўрада, заходзіў у бібліятэку, чытаў цэлымі днямі, пісаў артыкулы. Наведваў Уладзіславу Францаўну Луцэвіч і яе брата Вінцэнта Францавіча Станкевіча [3, с. 574] у Гродне.



**Мікалай Пятровіч Асіповіч.** Масква. 1925 г. З архіва ўнучкі Наталлі і Міхася Іванкевічаў – Любові Корсак.

**З запісаў Мікалая Асіповіча**

***16 красавіка 1945 г., панядзелак, Масква.***

*Устаў рана. Да 9 паехаў у “Метраполь”. Але парадкі такія, што сабраліся акадэмікі БССР, а арганізатараў не было. Пайшоў у кіно… Цяжкая карціна. У 11 гадзін раніцы сустрэў цёцю Уладзю. Чакалі білеты да 3 гадзін. Ездзіў на цэнтр. рынак. Купіў дробязі для Зіны і родных. Затым адвёз білет Мір.* (Мірашнічэнку. – ***А. С.***) *і вечарам паехалі ў 11 у Мінск.*

***17 красавіка 1945 г., аўторак.***

*На вуліцы мароз. У вагоне прамерзлі. Не ацяплялі. Ехаў з Мірашнічэнкам. У мяк., дзе ехала цёця Уладзя, – цёпла… Бачыў жах разбурэнняў. Смаленск, Орша… Радасць сустрэчы клікала наперад. Раніцай ужо Мінск. Стала цяплей.*

***18 красавіка 1945 г., серада.***

*Каля 6 гадзін раніцы разбудзілі. Мінск паўстаў ужо. Вакзал. Вакол развалiны. Пілі чай. На 9 пайшлі да Аўласевіч. Затым былі ў Доме ўрада… Былі ў с. г. аддзеле Дзяржплана…*

***22 красавіка 1945 г., нядзеля, Гародзькі.***

*Ідзе дождж. Зелянее. Шчасце быцця ў сястры. Пяшчота, смачныя пажыўныя стравы. Пазнаёміўся з работнікамі раёна. Тыповыя прадстаўнікі. Як у вёсцы мала культуры. Чытаў. Думкі пра цукровую прамысловасць у Беларусі. Трэба ехаць у Гродна. Наперадзе дарога, сустрэча з новымі людзьмі.*

***24 красавіка, аўторак. Раніцай прыехаў у Гродна.***

*…Заходзіў да Станкевічаў* (у штодзённіку ў канцы запісаны адрас: *вул. Ажэшкі, 41, кв. 2. Станк. Вік. Франц.* – ***А. С.***). *Аддаў пісьмы. Бачыў Віцю, Мар. Франц. і ўсю сям’ю. Дзеці збіраюцца ехаць у Польшчу, як і многія, гнаныя нейкім страхам.*

Брат Уладзіславы Францаўны Вікенцій у Гродне працаваў на керамічным заводзе. Потым сапраўды выехаў з сям’ёй у Польшчу, жыў у Любліне. Працягваў займацца сваёй справай і быў вядомы там як добры спецыяліст у галіне вытворчасці керамікі.

***9 мая 1945 г., серада.***

*Незабыўны дзень. Вішнева. Закончылася жахлівая вайна. Быў банкет з раніцы. Былі Наташа, Зіна, Жэня, я, Ніна, Маруся, Сташа, Міша, Жэня, Вова. Вечарам у 10 паехалі са Сташам на вакзал, я з Жэняй. Сустрэлі Сяргея ў Багданаве. Халодная ноч. Раніцай былі ў Лідзе.*

***14 мая 1945 г., панядзелак, Мінск.***

*Хадзіў па горадзе. Быў у Паповіча. Аднёс ліст цёці Уладзі. Бачыў Алесю* (напэўна, Алесю Александровіч – літаратуразнаўца і педагога; яна стане супрацоўніцай музея Янкі Купалы. – ***А. С.***). *Вечарам уладкаваліся ў гасцініцы…*

***23 мая, чацвер, Гародзькі.***

*Прыехала Жэня. Размовы пра жыццё. Атрымаў пісьмы з Масквы. Усюды нявызначанасць і нейкі страх. Чаму так? Усе хочуць мірнай працы і дружбы* (тут відаць трывога за сястру Яўгенію і яе рэпрэсаваную дачку Ірыну. – ***А. С.***).

***24 мая, чацвер, Гародзькі.***

*Зранку збіралі пасылку Іры. Павязу яе ў Мінск для здачы.*

***25 мая, чацвер, Гародзькі.***

---

* **Саламевіч, А.** Вядомыя і невядомыя Гародзькі / А. Саламевіч // Рэгіянальная газета (Маладзечна). – 2008. – №№ 3 – 7; **Саламевіч, А.** У вёскі Гародзькі багаты летапіс / А. Саламевіч // Працоўная слава (Валожын). – 2009. – 17, 24, 31 ліп.; **Саламевіч, А.** Сядзіба Фельдманаў і Ваўчацкіх у Гародзьках: Апошнія гады існавання / А. Саламевіч // Працоўная слава. – 2009. – 16 кастр.

*Былі істэрыкі ў Жэні. Дрэнна спаў. Усё нелады. Нявызначанасць з Сяргеем і з пераездам у Гародзькі. Цяжкія перажыванні. Няма дачкі, клопаты пра жыццё. Ужо ў гадах. І сам я ўжо не малады…*

***26 мая 1945 г., субота, Мінск.***

*…Прыехаў рана. Гразь. Здаў пасылку Іры. Быў у наркома Паповіча. Бачыў Бермана. Напісаў ліст Зотаву пра цукровы завод. Быў у цёці Уладзі. Азлобленая, старэе. Шукае намесніка. Марыся паехала ў Вільню. Пакінуў ц. Уладзі 3 паштоўкі з выглядам Масквы…*

***17 жніўня 1945 г., пятніца, Масква.***

*Устаў рана. Заключаны дагавор з Польшчай наконт межаў. Белавежская пушча і ўся Беластоцкая вобласць адыходзяць да палякаў…*

***12 верасня 1945 г., серада, Мінск.***

*Раніцай зайшоў да ц. Уладзі. Усё старэе. Шмат працуе. Уся яе сям'я ад'язджае ў Польшчу. Нашы хадзілі ў Ак. Н. Я быў у Захарыча з Надзеждзіным. Пісалі лісты, рыхтаваліся да ад'езду ў Гродна.*

19 верасня 1945 г. Мікалай Пятровіч, калі быў у Гародзьках і каторы дзень хварэў, зрабіў такі запіс: *"Газет няма. Жыву чуткамі"*.

29 верасня 1945 г. М. Асіповіч запісаў, што дзень гэты трэба лічыць гістарычным, бо прынята пастанова пра будаўніцтва цукровага завода ў Гродзенскай вобласці. У сувязі з гэтымі падзеямі ён быў вельмі заняты, таму, напэўна, навіна пра адкрыццё 20 верасня 1945 г. у Мінску музея Янкі Купалы з'явілася ў штодзённіку толькі ў канцы кастрычніка. Мікалай Пятровіч, відаць, прыехаўшы ў Мінск, змог прачытаць газеты ў бібліятэцы, бо ў штодзённіку напіша наступнае:

***21 кастрычніка 1945 г., Мінск.***

*"…Колькі работы чакае тых, што любяць сваю радзіму" Е. Р. Раманаў.*

***22 кастрычніка 1945 г.***

*У газеце "Труд" нататка пра музей Янкі Купалы… Музей складаецца з 2-х пакояў. Уладзіслава ўдзячна… умелы падбор… аўтабіяграфія… Дырэктар муз. У. Фр. Луц. – жонка паэта. Ал. Алекс. Намеснік дырэктара – Таўлай, пісьменнік. Беларускія жыхары, настаўнікі, сельскія жыхары, студэнцкая моладзь сабралі… З густам аформлены залы…*

Вось што пісала тады газета "Труд": «Мінск, 20 верасня. (ТАСС). Тут адкрыўся літаратурны музей Янкі Купалы. У ім сабраны экспанаты і дакументы, што адлюстроўваюць жыццё і творчасць знакамітага беларускага паэта. Вялікую цікавасць мае чарнавы рукапіс яго вершаў "Шляхам жыцця". Сярод экспанатаў шмат здымкаў, карцін і любімых кніг нябожчыка. У адной з залаў устаноўлена карціна "Янка Купала ў гасцях у Максіма Горкага"» [15].

Скупыя запісы ў дзённіку Мікалая Пятровіча Асіповіча – земляка Уладзіславы Францаўны – рабіліся толькі пра самае важнае для яго і з'яўляюцца сведчаннем таго, што Асіповічы ўсё жыццё былі звязаны з жонкай паэта і ніколі не заставаліся абыякавымі да яе лёсу, да той высакароднай справы па ўвекавечанні памяці Янкі Купалы, якой яна займалася пасля яго трагічнай гібелі.

Расказанае тут найлепш пацвярджае, што ўсё ж за тую, 1919 г., сустрэчу з Купалам у Седлішчы, памяць пра якую гародзькаўцы пранеслі праз гады, мы павінны быць удзячны найперш Асіповічам – сябрам дзяцінства Уладзіславы Францаўны Луцэвіч.

Апісаны гістарычны факт абрастае легендамі, нават выдумкамі. У студзені 2010 г., выкарыстаўшы мае даследаванні па гісторыі малой радзімы, Юрый Жыгамонт запісаў у Гародзьках свае "Новыя падарожжы дылетанта". Не абышоў і факт прыезду Купалы ў нашу вёску. Стоячы на самай старой вуліцы, тэлевядучы сказаў, што па ёй некалі "гуляў Купала". Наўрад ці Купала *гуляў* па гэтай вуліцы! Хутчэй за ўсё, не было ў яго часу на гэта. А калі і спыніўся на нейкі час, то ў Асіповічаў – а іх хата знаходзіцца не на вуліцы Гагарына, а на цяперашняй Леніна. А яшчэ Ю. Жыгамонт распавёў, што гародзькаўцы мараць, каб самая старая вуліца насіла імя Купалы. Добра было б, каб яны сапраўды пра тое марылі, а іх мары спраўдзіліся!

**Спіс літаратуры**


1. **Каханоўскі, Г.** "Як шукаў шчасце па светах"/ Г. Каханоўскі // Працоўная слава. – 1972. – 6 ліп.
2. **Каханоўскі, Г.** Салаўіныя гнёзды Міншчыны / Г. Каханоўскі // ЛіМ. – 1978. – 20 кастр. – С. 7.
3. **Янка Купала** : энцыкл. давед. / рэдкал. : І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БелСЭ, 1986.
4. **Jankowski, Cz.** Pod Zabrzeż / Cz. Jankowski // "Powiat Oszmiański. Materjały do dziejów ziemi i ludzi". – Petersburg – Krakyw, 1897. – Część druga. – S. 8.
5. **Виленская губерния.** Полный список населенных мест со статистическими данными о каждом поселении, составленный по официальным сведениям И. И. Гошкевичем. – Вильна, 1905.
6. **Гедроіць, А.** Янка Купала і яго блізкія на Валожыншчыне / А. Гедроіць // Куфэрак Віленшчыны. – 2002. – № 1 (6). – С. 22 – 24.
7. **Крывашэй, Дз.** Літаратурныя мясціны Беларусі. Краязнаўчы даведнік. Валожынскі раён / Дз. Крывашэй, А. Мальдзіс // Маладосць. – 2010. – № 3. – С. 138.
8. **Равінскі, Г.** Наканавана лёсам / Г. Равінскі // Люблю наш край… : Валожыншчына літаратурная : проза, паэзія, публіцыстыка, драматургія, ліставанне. – Мінск : Маст. літ., 2006. – С. 121.
9. **Саламевіч, І. У.** Летапіс жыцця і творчасці / І. Саламевіч // Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. – Мінск : Маст. літ., 2003. – Т. 9, кн. 2. – С. 139.
10. **НАРБ.** – Фонд. 883. – В. 1. – Спр. 14. – Арк. 5.
11. **НАРБ.** – Фонд. 883. – В. 1. – Спр. 18. – Арк. 129. – 129 зв.
12. **Маракоў, Л.** Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі : энцыкл. давед. у 10 т. / Л. Маракоў. – Мінск, 2007. – Т. IV, кн. 2. – С. 232.
13. **Казлоўскі, М.** Беларускі кнігар / М. Казлоўскі // Галасы разбуджаных птушак : гістарычна-біяграфічныя нарысы, роздумы над кнігамі, літаратурныя партрэты / М. Казлоўскі. – Мінск : Логвінаў, 2006. – С. 279.
14. **Занальны архіў г. Маладзечна.** – А-93. – Воп. 1. – Зв. 1. – Спр. 5.
15. **Музей Янки Купала** // Труд. – 1945. – 21 сент.

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# ТАТУРЫ ГЕРБА “ДАМБРОВА”

Адна з прадстаўнікоў роду Татураў – Ганна Самуілаўна Татур – прапрабабуля маёй мамы і прабабуля майго дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча.

З роду Татураў выйшла шмат знакамітых асоб, у тым ліку і беларуская паэтэса Наталля Татур. «Наш род, – як распавядала сама Наталля, – у Польшчы лічыўся адным з найстаражытнейшых. Першапачаткова прозвішча гучала як Тур, а тая галіна роду, што перасялілася з Францыі, пісала яго звычайна з прыстаўкай “Ля”. У час Варфаламееўскай ночы палякі-католікі пакінулі краіну, і мае продкі, перасякаючы межы княства Літоўскага, кімсьці былі названы Татурамі.

Генрык Татур – вядомы этнограф, заснавальнік найбагацейшага прыватнага музея, яго імя змешчана ў нацыянальнай энцыклапедыі. Мой кузен Анджэй Татур – вядомы польскі даследчык Антарктыкі, знакаміты унікальнай знаходкай шкілета двухметровага пінгвіна. Мой прадзед быў прадвадзіцелем мінскага дваранства. Бацька, Мікалай Татур, стаў беларускім пісьменнікам, а бабуля па матчынай лініі была не толькі дырэктарам кандытарскай фабрыкі, але і перакананай камуністкай. Увогуле, цікавы род, цікавыя людзі». Думкі Наталлі Мікалаеўны адносна паходжання роду Татураў маюць права на існаванне, але звернемся да фактаў і дакументаў мінулага.

Справа Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу пра дваранскае паходжанне Татураў ахоплівае некалькі стагоддзяў. Мінулае адлюстравана ў ёй на 1565 аркушах. Гістарычныя факты гавораць пра знакамітасць старажытнага роду, які меў свой герб “Дамброва”.

Легенда сведчыць, што ў 1096 г. крыжаносцы на чале з Готфрыдам Бульёнскім рушылі ў паход да Труны Гасподняй у Іерусалім. Войскам Готфрыда не ўдалося заваяваць горад, тады ён папрасіў дапамогі ў польскага манарха Крывауста. Польскі атрад рыцараў узначаліў Дамброўскі. За праяўленую ў бітве адвагу і мужнасць пры ўзяцці Іерусаліма слаўны воін атрымаў ад Готфрыда герб, які назвалі “Дамброва”.

*“Роднае слова” працягвае друкаваць часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі “Я – сын Ваш” **Анатоля Статкевіча-Чабаганава**, першы том якой рыхтуецца да выдання. Ужо змешчаны матэрыялы з летапісу беларускай шляхты «Некрашэвічы герба “Любіч”» (2010, № 4), «Сацкевічы-Статкевічы герба “Касцеша”» (2010, № 5), «Карафа-Корбуты герба “Корчак”» (2010, № 6).*




**Герб “Дамброва” роду Татураў.**

На шчыце герба ў сінім полі – сярэбраная падкова, на якой размешчаны залаты крыж, на канцах той падковы – яшчэ два крыжы; на шлеме, па-шляхецку каранаваным, адлюстравана птушынае крыло, пранізанае стралою.

Да ўладальнікаў герба паважліва ставіліся многія знакамітыя асобы, у тым ліку і польскія каралі, што засведчана летапісцамі: “Прозвішча Татур мае прывілеі дваранскага паходжання і карыстаецца ўласцівымі сяму званню правамі”. Гэтыя правы захоўваліся за Татурамі на працягу некалькіх стагоддзяў. Доказам таму служаць дакументы, дзе сустракаецца прозвішча Татур: выпіс патэнта на навагародскага ротмістра Івана Татура ад 19 верасня 1786 г., трохгадовая закладная з на фальварак Плехаў і іншыя. На жаль, многія дакументы былі спалены падчас вайны. І ўсё ж тых, якія засталіся, хапіла, каб прызнаць Татураў “радавітымі і старажытнымі польскімі дваранамі” і ўнесці “оных у дваранскую кнігу Мінскай губерні ў першую частку”.

Надзвычай цікавыя архіўныя матэрыялы знойдзены ў апошні час.

З дакумента, датаванага маем 1845 г., даведваемся пра трохіменнага Хрызастома-Лаўрэнція-Дамініка Іванава сына Татура, прадвадзіцеля слонімскага павятовага дваранства – бацьку Генрыка Татура. Са скупой інфармацыі вынікае,



МИНСКІЙ
ГОРОДСКОЙ
ГОЛОВА.
Апрѣля 12 дня 1893 г.
№ 3515
г. Минскъ.

Свидѣтельство

Минская Городская Управа симъ удостовѣряетъ, что предъявитель сего Дворянинъ Генрихъ Христофоровичъ Татуръ, согласно п. X ст. 2 Гор. Пол. 11 Июня 1892 г., уполномоченъ Минской Городской Управой выработать проектъ устройства въ г. Минскѣ публичной библіотеки, съ указаніемъ для этого подходящаго помѣщенія и всего относящагося до этой библіотеки, а также, что выработанные имъ по сему предмету матеріалы были представлены в Управу. Вслѣдствіе чего Городская Управа покорнѣйше [illegible] и учрежденія [illegible] Татуръ будетъ относиться не отказывать ему въ [illegible] содѣйствіи. Апрѣля 12 дня 1893 г.
г. Минскъ
Городской Голова [illegible]
Секретарь [illegible]

**Тытульны ліст з даследавання Генрыка Татура “Система подразделения археологических памятников на пространстве Минской губернии”.**
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы.
Ф. 716, арк. 4, спр. 215.

што Татуры пакінулі на Слонімшчыне добры след. Дзядзька Генрыка Татура быў святаром аднаго з мясцовых касцёлаў і надзвычай паважаным сярод прыхаджан. Адсюль паходзіла і маці ўжо згаданага вядомага археолага, калекцыянера і кнігазнаўцы Генрыка Татура. Захаваўся яе ліст сыну, напісаны ў Слоніме.

Да гэтага часу пра асобу Генрыка Татура пішуць газеты, часопісы, нашы і замежныя, даючы пры гэтым розныя ацэнкі яго дзейнасці. Дата яго нараджэння доўгі час заставалася нявысветленай. Мне ўдалося ўстанавіць, што ён нарадзіўся 17 верасня 1846 г. у Слоніме. Фотаздымкаў вядомага беларускага археолага знайсці не ўдалося, існуе толькі апісанне яго знешнасці.

Ну, а што пісалі пра Генрыка Татура яго сучаснікі? Звернемся да твораў Аляксандра Ельскага, вядомага дзеяча беларускай культуры, пісьменніка, публіцыста, этнографа, збіральніка помнікаў пісьменства і гісторыі роднага краю. У яго нарысе “Гарады і мястэчкі” ёсць цікавае сведчанне:

“Археалагічна-этнаграфічны музей пры мясцовым губернскім статыстычным камітэце знаходзіцца ў памяшканні губернатара, мае да 600 археалагічных знаходак каменнай і бронзавай эпох, каля 1000 тамоў польскіх і лацінскіх старажытных твораў, сабраных у былых бібліятэках касцёлаў, некалькі тысяч розных мясцовых работ, што адносяцца да этнаграфіі, пэўную колькасць айчынных манет і розных памятак, а таксама чалавечых чарапоў з дагістарычных курганоў. Музей гэты дзесяць гадоў таму быў створаны і ўкамплектаваны здольным даследчыкам, археолагам Генрыкам Татурам. Цікавасць у гэтым зборы выклікае выкананая названым Татурам невядомая археалагічная карта Мінскай губерні, на якой абазначаны ўсе мясцовасці, дзе ёсць дагістарычныя помнікі: курганы, гарадзішчы, насыпы, замкі, памятныя камяні і іншае. Татур падзяліў усе помнікі на 25 груп і адзначыў на Міншчыне да 30 000 курганоў і да 1000 гарадзішчаў і насыпаў”.

Удумаўшыся ў гэтыя лічбы, можна ўявіць аб’ём работ, выкананы нястомным даследчыкам. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі так характарызуе нашага земляка: «Беларускі археолаг, гісторык, краязнавец, калекцыянер. Член Мінскага статыстычнага камітэта, павятовы маршалак дваранства. З 1874 г. вёў археалагічныя раскопкі ў Мінскай губерні, склаў археалагічную карту з апісаннем помнікаў. У 1884 – 1885 гг. заснаваў часовы археалагічны музей у Беразіно, дзе ў наваколлі вёў раскопкі… Толькі ў 1890 г. ён раскапаў 120 курганоў каля в. Дулебаў і Няюнішчаў Ігуменскага павета, у 1892 – сорак курганоў каля Станькава, у 1893 – сорак курганоў каля в. Прылукі Мінскага павета. У выніку паездак па Міншчыне падрыхтаваў вялікі альбом археалагічных помнікаў (1893). Стварыў у Мінску багаты прыватны музей па гісторыі матэрыяльнай культуры Беларусі і унікальную бібліятэку (калекцыі рукапіснай і старадрукаванай кнігі, у т. л. “Біблія” Ф. Скарыны, беларускага жывапісу). Выказваўся за стварэнне агульнанацыянальнага музея ў Мінску. Пасля смерці яго зборы былі прададзены, многія вывезены за мяжу. Аўтар прац “Археалагічнае значэнне Мінскай губерні” (1878), “Нарысы археалагічных помнікаў на прасторы Мінскай губерні і яе археалагічнае значэнне” (1892)… У рукапісах засталіся “Гістарычны нарыс мястэчка Турава, ранейшай сталіцы ўдзельнага Тураўскага княства”, “Гісторыя Станькава”, “Гісторыя Заслаўя”; праект адкрыцця публічнай бібліятэкі ў Мінску і інш. (зберагаюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы)».

Наконт папаўнення калекцыі старажытнай зброі, а таксама бібліятэкі для Нясвіжскага замка з Г. Татурам раіўся князь Антон Радзівіл. З Татурам плённа супрацоўнічаў граф Чапскі. Генрык Хрыстафоравіч браў удзел у рабоце дзевятага ар-

хеалагічнага з'езда краіны з грунтоўным дакладам пра сваю дзейнасць. Гэта быў сапраўды адукаваны, эрудзіраваны чалавек. Нездарма Іван Луцкевіч, адзін з заснавальнікаў газеты "Наша Ніва", лічыў Г. Татура сваім настаўнікам. Аляксандр Уласаў пісаў: «Мы і Казімір Кастравіцкі [родзіч вядомага французскага паэта Гіёма Апалінера (Кастравіцкага), бацькі якога паходзілі з-пад Навагрудка] былі ў музеі Татура мноства разоў, расказвалі яму пра свае "беларускія планы". <…>

Строгі стары, лысы, з рыжай барадой, падобны да прарока Майсея, быў з намі адной думкі. Седзячы вечарам у сваім прыстанку, закіданым кальчугамі, мячамі, старымі кнігамі, дакументамі, мэбляю, іконамі, ён выслухоўваў нашы "даклады" пра яшчэ нясмелыя спрэчкі з палякамі і абрусіцелямі, часам рабіў заўвагі, прыводзіў аргументы з гісторыі Беларусі.

Кастравіцкі быў духам "Белавежскай пушчы", з народа, ад Татура на нас веяла духам Гедыміна, Ягайлы, Канстанціна Астрожскага, менскіх, слуцкіх і ўсіх фундатараў і будаўнікоў беларускай мінуўшчыны. Гэта былі два магіканы, дзве крыніцы, якія захавалі зародак беларускай ідэі і не далі ёй згаснуць».

У кнізе "Археалогія і краязнаўства Беларусі XVI ст. – 30-я гг. XX ст." прафесар Л. Аляксееў піша пра Генрыка Татура як пра дылетанта, але і не адмаўляе яго заслугі ў справе, якой наш родзіч быў адданы ўсё жыццё: "Г. Х. Татур збіраў старажытнасці з чатырнаццаці гадоў. Гэты своеасаблівы чалавек, апантаны страсцю калекцыянера, займаўся яшчэ і раскопкамі. Г. Х. Татур валодаў несумненна вялікімі, хоць і спецыфічнымі, ведамі археалагічных старажытнасцей Беларусі, якія ён з цягам часу і абагульняў. Рассылаючы па Мінскай вобласці спецыяльныя анкеты, ён склаў археалагічную карту Мінскай губерні".

Пісалі пра нястомнага археолага і краязнаўца вядомыя даследчыкі З. Даўгяла, А. Каўка, У. Мархель, Г. Каханоўскі. Аднак, на жаль, да гэтай пары няма асобнай кнігі пра жыццё і дзейнасць гэтага неардынарнага чалавека. Некаторыя звесткі можна ўзяць толькі з архіўных дакументаў. Напрыклад, з вызначэння Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу вядома пра судалучанасць да дваранскага роду Татураў Генрыка-Франца Хрызастомава Татура, што адбылося 14 лістапада 1853 г. Яшчэ адзін дакумент – справа Мінскай аб'яднанай палаты крымінальнага і грамадзянскага суда па спрэчках паміж удавой калежскага саветніка К. Леміхавай, жонкай калежскага саветніка А. Перхуравай, інжынерам-капітанам В. Багдановічам і дваранінам Г. Татурам аб праве валодання спадчынай пасля смерці ўдавы С. Мезенцавай у маёнтку Крушыны Ігуменскага павета. У той час квітнела фундатарства, у пашане быў талент, які багатыя людзі імкнуліся падтрымліваць. Вось і С. Мезенцава звярнула ўвагу на маладога археолага Татура, які, магчыма, неаднойчы заглядваў у маёнтак Крушыны, вёў раскопкі ў тых мясцінах, расказваў пра знаходкі і свае планы на будучае. Невыпадкова ў 1866 г. з'явіўся дакумент, дзе С. Мезенцава завяшчала свой маёнтак Г. Татуру. У дадатковым завяшчальным распараджэнні ад 29 жніўня 1868 г. фундатарка пісала, што калі ўлады не дазволяць перадаць маёнтак Крушыны Татуру ў вотчыннае валоданне, то яна "завяшчае Татуру выкупную ссуду за сялянскія надзелы ў яе маёнтку колькі такавой належыць і прадстаўляе яму, Татуру, атрымаць з яе маёнтка 8 тысяч рублёў за паслугі, а да атрымання сіх грошай жыць у тым маёнтку і кіраваць бескантрольна, з абавязацельствам толькі плаціць за казённыя павіннасці".

Маёнтак Крушыны так і не дастаўся маладому даследчыку. Аб'яднаная палата пры разглядзе духоўнага завяшчання патлумачыла, што пераход нерухомай маёмасці Генрыку Татуру ва ўласнасць як асобе рымска-каталіцкага веравызнання дапушчаны быць не можа. Не дапамог і Урадавы Сенат, куды Татур звярнуўся са скаргаю. Прычына адмовы была вядомая: нядаўна пракацілася паўстанне, да якога далучыліся некаторыя знатныя людзі. За гэта яны пазбаўляліся сваіх званняў, маёнткаў і зямель. Каб захаваць набытае, многія перадавалі свае багацці тым, хто не меў адносін да вірлівых падзей…

У створаным Г. Татурам прыватным музеі знаходзілася вялікая калекцыя старажытных рэчаў і кніг, якая ацэньвалася на той час у 200 тысяч рублёў. Пасля смерці збіральніка, у 1907 г., калекцыю хацела набыць Расійская акадэмія навук, але ў царскага ўрада грошай не знайшлося, экспанаты былі распрададзены і, на жаль, назаўсёды страчаны для сваёй краіны.

Хацелася б асобна спыніцца на лёсе калекцыі Генрыка Татура. Даследавалі гэтую тэму гісторыкі мастацтва Ю. Піскун і А. Хадыка, а таксама доктар філалагічных навук А. Мальдзіс.

Найбольш значная частка калекцыі была выкуплена ў 1907 г. ва ўдавы Г. Татура графам Тышкевічам, а другая, на думку даследчыкаў, апынулася ў архіве уніяцкага мітрапаліта Шаптыцкага ў Львове. Пераканаў мітрапаліта пра неабходнасць яе набыцця ўкраінскі прафесар-славіст І. Свянціцкі, а садзейнічаў гэтаму вядомы дзеяч беларускай культуры І. Луцкевіч.

Лічыцца, што на сёння частка калекцыі Татура знаходзіцца ў Музеі ўкраінскага мастацтва,

які стварыў І. Свянціцкі. Хочацца думаць, што такім чынам яна была выратавана і захавана…

Цікавы лёс яшчэ адной прадстаўніцы знакамітага роду – Ганны Самуілаўны Забэлы, народжанай Татур, прабабулі майго дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча.

Пра бацьку яе – Самуіла – нам вядома, што ён быў хрышчоны 15 жніўня 1748 г. ксяндзом Канстанцінам Дунцэвічам у Бабовенскім касцёле. Жыў, як відаць з пасямейнага спіса дваран Слуцкага павета за 1796 г., у засценку Марозаўшчына, які знаходзіўся ўсяго за некалькі кіламетраў ад маёнтка Дашкі, вотчыны яго будучай жонкі Феліцыяны Тэадораўны Карыбут-Дашкевіч.

Ганна, яе браты і сёстры былі ахрышчаныя ў Бабовенскім касцёле. Пасля 1796 г. сям'я перасялілася ў фальварак Беразоўшчына, дзе раней жылі продкі Татураў. І, магчыма, у гэты час яны перайшлі ў праваслаўе. Як відаць з метрычных кніг, Татуры сталі прыхаджанамі Пукаўскай Георгіеўскай царквы, там 6 красавіка 1821 г. адпявалі бацьку Ганны.

У тыя далёкія часы, як і сёння, да сітуацыі, калі ў адным родзе былі і праваслаўныя, і уніяты, і католікі, адносіліся цярпліва. Аднак часам на гэтай глебе ўзнікалі сур'ёзныя праблемы.

Так атрымалася і ў Ганны Татур. Яна выйшла замуж за Андрэя Забэлу. Яе абраннік быў каталіцкай веры, таму маладыя абвянчаліся ў Грозаўскім касцёле па рымска-каталіцкім абрадзе. Ганна перастала наведваць Пукаўскую царкву, а ўсіх дзяцей сям'я хрысціла ў Грозаўскім касцёле.

Аднак, калі ў першай палове XIX ст. Расійскай дзяржавай праводзілася дзейнасць па скасаванні уніі, пачаліся разбіральніцтвы ў прыходах: каго лічыць праваслаўнымі, а каго аднесці да рымска-каталіцкай веры. Гэта датычылася і сям'і Ганны, дзе, на думку святароў, быў здзейснены незаконны пераход у каталіцтва.

Так і ўзнікла справа "О совращении из православия в латинство дворянки Анны Забеловой (Татур) и детей ее: Симеона, Василия, Франца, Иосифа, Казимира, Марьяны, Антонины и Франтишки", якая была пачата 24 красавіка 1851 г. Мінскай духоўнай кансісторыяй. Фактычна гэтая гісторыя пачалася на дзесяць гадоў раней і доўжылася ажно да 1875 г. Да таго часу Ганна памерла, а страсці ўсё кіпелі яшчэ гадоў дваццаць.

Вось што пісаў у 1862 г. яе сын Франц у сваім прашэнні імператару Аляксандру Мікалаевічу: "У 1841 г. у Мінскай губерні Ігуменскага павета вёскі Пукава прыходскі святар Ксенафонт Шанец, пасварыўшыся з дзядзькам маім Мартынам Самуілавічам Татурам, па злосці ўчыніў начальству данос, што мы, Татуры, у дзеянні сваім і роўна, як і я з братамі і сёстрамі, народжаныя ад дачкі Самуіла Татура Ганны, спакусіліся з праваслаўя ў рымскі абрад. Па такавым данясенні праведзена было прыставам 1-й стацці Ігуменскага павета агульнае з духоўнымі дэпутатамі рымскімі і праваслаўнымі следства, у час якога прысяжнымі паказаннямі шасці старэйшых апытаных жыхароў і метрычнымі выпіскамі аб нараджэнні і хрышчэнні нас саміх і бацькоў нашых даказалі, што як Татуры, так і мы, Забэлы, спавядалі рымска-каталіцкую веру і што да праваслаўя, а таксама да былой уніі мы не належалі. Пагэтаму данясенне святара Шанеца засталося без увагі.

З цягам часу, калі адбыліся разбіральніцтвы паміж рымскім і праваслаўным духавенствам, святар Шанец вырашыў нас і Татураў звярнуць у праваслаўе і прад'явіў іск ксяндзу Грозаўскага рымска-каталіцкага касцёла Маўчановічу. Падмануты і даверлівы Маўчановіч без учынення разбораў выключыў нас і Татураў са спісаў даверанага яму храма".

А вось паведамленне Мінскай духоўнай кансісторыі: "У 1843 г. 23 лістапада Пукаўскай царквы святар Ксенафонт Шанец і настаяцель Грозаўскага касцёла Міхаіл Маўчановіч па патрабаванні епархіяльнага начальства чынілі разбіральніцтва па Найвышэйшым указе пра ўсіх тых пукаўскіх прыхаджан, якія ў розныя часы з былой уніі і з праваслаўя пачалі прызнаваць рымска-каталіцкую рэлігію. І па ўзаемным метадзе сабор можа з царкоўных дакументаў дазнацца аб сапраўдна збітых з правільнага шляху, а таму абавязаць іх вярнуцца ў нетры праваслаўя. У ліку іншых асоб была і Ганна Самуілаўна Забэлава, удава. І па акце разбіральніцтва ксёндз Маўчановіч з прылажэннем царкоўнай пячаткі ўласнаручна напісаў, што ён усім асобам, якія маюць адносіны да праваслаўя, паведаміў пра выключэнне са спісаў і што ім не прадаставяць хрысціянскіх трэб. Пагэтаму з боку праваслаўнага епархіяльнага начальства даведзены да ведама святару Пукаўскай царквы абавязак праводзіць адпаведныя павучанні, у ліку іншых асоб і Ганну Забэлаву з прапісанымі дзецьмі на вяртанне ў праваслаўе. Але так як яны пасля ўсіх павучанняў засталіся ў цвёрдасці, то Ганна Забэлава і старэйшы сын Сімяон былі вызваны ў кансісторыю для пераконванняў. І выклікаліся тройчы 17, 18, 19 чысла ліпеня 1844 года. [Усе гэтыя дні Ганна з сынам удзельнічала ў праваслаўнай літургіі ў Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы.] Там Сімяон Забэлаў даў падпіску добраахвотна

вярнуцца з дзецьмі сваімі ў праваслаўную веру і быць спавяданым і прычашчоным у Кафедральным саборы. А маці яго Ганна Забэлава засталася ў сваёй цвёрдасці і была адпушчана на месца жыхарства. Але паколькі яна перасялілася зараз у ваколіцу Малінава Бабруйскага павета, у прыход Глускай нядзельнай царквы, то прадпісана глускаму дабрачыннаму протаіерэю Смолічу настаўляць дзяцей яе ў сапраўднасці праваслаўнай царквы, пераконваць іх у прыняцці праваслаўя".

Але і на новым месцы ўгаворы і настаўленні Іосіфа Смоліча не ўплывалі на пазіцыю Ганны Забэлы. У сваіх данясеннях у Мінскую духоўную кансісторыю, якія ён пасылаў на працягу некалькіх гадоў, святар паведамляў:

"Ганна Забэлава і дзеці, якія знаходзяцца з ёю, сцвярджаюць, што яны народжаны ў каталіцызме і прабываць у оным будуць да старасці, свайму веравызнанню ніколі не здрадзяць і застануцца ў цвёрдасці сваёй непахісныя, і дзеці бяруць прыклад з маці".

Ганна Самуілаўна памерла ў 1855 г., застаючыся каталічкай, але адпявалася святаром Восіпам Смолічам і пахавана па праваслаўным абрадзе на могілках у Машнічах (цяпер Клетнае). Дзеці яе праз шлюбы і па ўласных перакананнях станавіліся або праваслаўнымі, або каталіцкімі хрысціянамі.

А вось як скláліся лёсы некаторых іншых прадстаўнікоў роду Татураў.

Адной з найцікавейшых асоб з'яўляецца Кузьма Феліксавіч Татур. Ён нарадзіўся ў 1870 г. у Барысаўскім павеце Мінскай губерні і лічыўся незаконнанароджаным сынам Фелікса Фаміча Татура. Так здарылася, што хлопчык нарадзіўся яшчэ да шлюбу Фелікса Фаміча і Ганны Навумаўны Татураў. Пазней бацька ўсынавіў Кузьму і зраўняў у правах з другім сваім сынам Феліксам. Вызначэннем Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31 мая 1885 г. Кузьма быў далучаны да дваранскага роду Татураў. Паводле сямейнага спіса дваран Слуцкага павета за 1893 г., пражываў разам з маці і сёстрамі ў вёсцы Заастравечча.

З 1885 г. Кузьма Татур служыў памочнікам валаснога пісара Засульскай, Самахвалавіцкай і Сенніцкай валасцей Мінскага павета, потым валасным пісарам Круговіцкай і Заастравецкай валасцей Слуцкага павета, пісьмавадзіцелем канцылярыі слуцкага павятовага і мінскага прадвадзіцеляў дваранства. З лютага 1897 г. быў губернскім сакратаром і сакратаром Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу. Магчыма, менавіта ён дапамог нашчадкам Ганны Татур, роду Забэлаў, зацвердзіцца ў дваранстве.

Цікавы той факт, што ў сям'і двараніна Кузьмы Феліксавіча Татура і яго жонкі Алімпіяды Іванаўны, у дзявоцтве Свіяжскай, трое сыноў – Сяргей, Генадзь і Пётр – сталі прафесарамі. Сяргей Кузьміч Татур – заслужаны дзеяч навукі РСФСР, доктар эканамічных навук, заснавальнік і загадчык кафедры бухгалтарскага ўліку і аналізу гаспадарчай дзейнасці эканамічнага факультэта МДУ імя М. В. Ламаносава. Аўтар больш як 140 навуковых прац, многія з якіх перакладзены на балгарскую, венгерскую, нямецкую, польскую, славацкую, чэшскую мовы. За навуковую і педагагічную дзейнасць С. Татур узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. У яго гонар у МДУ ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Другі сын Кузьмы Генадзь Татур – заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі, доктар тэхнічных навук. Вучыўся ў Мінску, потым у Тульскім і Казанскім камерцыйных вучылішчах, апошняе скончыў у 1918 г. з залатым медалём. У 1919 г. пераехаў ва Уладзівасток, дзе паступіў на механічнае аддзяленне Далёкаўсходняга політэхнічнага інстытута. З 1931 г. – загадчык кафедры будаўнічай механікі. У 1937 г. за страту палітычнай пільнасці і сваяцкую сувязь з "ворагам народа" быў выключаны з кандыдатаў у партыю бальшавікоў. У 1955 г. быў зацверджаны ў вучонай ступені доктара тэхнічных навук і ў вучоным званні прафесара Крыварожскага інстытута, а ў 1958 г. абраны па конкурсе на пасаду загадчыка кафедры тэарэтычнай механікі Беларускага політэхнічнага інстытута (БПІ) ў Мінску.

Малодшы сын Кузьмы Пётр Татур – доктар эканамічных навук, заслужаны землеўпарадчык Узбекістана. Вучыўся ў чыгуначнай школе ў Мінску. Потым працаваў у Крыме, будаваў малыя плаціны – "метраў сто па грэбні, метраў пяць-сем вышынёй". Да сёння гэтыя плаціны стрымліваюць націск вод мясцовых вадасховішчаў. Потым паступіў на рабфак пры Маскоўскім інстытуце інжынераў землеўпарадкавання, які скончыў на выдатна ў 1937 г., і быў накіраваны ва Узбекістан на навукова-даследчую станцыю арганізацыі тэрыторыі. У час Вялікай Айчыннай вайны пасля паскораных курсаў Ваенна-інжынернай акадэміі імя Куйбышава трапіў на фронт. Перамогу сустрэў у Германіі ў званні маёра. Узнагароджаны баявымі ордэнамі і шматлікімі медалямі. Пасля вайны П. Татур вярнуўся ва Узбекістан. Быў загадчыкам кафедры планіроўкі і добраўпарадкавання сельскіх населеных пунктаў Ташкенцкага інстытута ірыгацыі і меліярацыі, падрыхтаваў сотні вучоных і практыкаў, якія і цяпер працуюць ва Узбекістане і іншых краінах Сярэдняй Азіі.

Яго сын Сяргей Пятровіч Татур – член Саюза пісьменнікаў Узбекістана. Цікава, што першае яго апавяданне "Доктар, доктар!" было апублікавана ў 1965 г. у часопісе "Звезда Востока", куды праз дваццаць гадоў Сяргей Пятровіч прыйшоў на пасаду галоўнага рэдактара. Аўтар больш за 100 апавяданняў і 23 раманаў і аповесцей, сярод якіх "Манія велічы", "Пікі Цянь-Шаня", "Сцяна", "Слава Тварцу" і іншыя.

У родзе Татураў былі яшчэ прафесійныя пісьменнікі. Адзін з іх – Мікалай Татур, бацька Наталлі Татур, пісьменнік-перакладчык са славянскіх моў, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ён нарадзіўся ў маёнтку Урочышча Застар'е, выхоўваўся ў дзіцячым доме. Пасля заканчэння факультэта мовы і літаратуры Мінскага настаўніцкага інстытута працаваў на Віцебшчыне. У час Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у партызанскім руху, быў цяжка паранены. За баявыя заслугі ўзнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі.

Бацька Мікалая Татура Ігнат, у мінулым афіцэр царскай арміі, быў расстраляны ў 1931 г. у Мядзвежагорску.

Не менш адметныя лёсы і іншых шматлікіх прадстаўнікоў роду Татураў.

Вікенцій Татур – кадравы вайсковец, удзельнік грамадзянскай вайны, палкоўнік Чырвонай Арміі. Нарадзіўся ў г. Буй Кастрамской губерні.

Але як маглі апынуцца там бацькі Вікенція? Высветлілася, што яго дзед Юльян загінуў на руска-турэцкай вайне, пакінуўшы сына Антона, бацьку Вікенція, сіратою. Спадар Шпілеўскі, дзядзька хлопчыка па лініі маці, які некалі быў высланы царскім урадам за ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў г. Буй Кастрамской губерні, забраў Антона да сябе, змог яго выхаваць і даць належную адукацыю.



**Палкоўнік Вікенцій Антонавіч Татур.** 1941 г.



**Мікалай Ігнацьевіч Татур.** Мінск. 1960-я гг.

У час Вялікай Айчыннай вайны Вікенцій Антонавіч Татур служыў намеснікам камандуючага аператыўнай групай па артылерыі Паўднёва-Заходняга фронту. У 1941 г. быў паранены каля беларускага мястэчка Парычы. У сакавіку 1942 г. узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга, а ў чэрвені таго ж года прапаў без вестак пад Харкавам.

А вось яшчэ адна заўважная асоба гэтага роду – Анджэй Татур, які нарадзіўся ў 1944 г. у Варшаве. Дзед Анджэя Зыгмунд-Ілья – палкоўнік царскай арміі, у час грамадзянскай вайны ў Расіі ваяваў на баку белых. Пасля рэвалюцыі разам з сям'ёй апынуўся на тэрыторыі Польшчы. Адзін з яго сыноў – Генрых, бацька Анджэя, вучоны-хімік, – быў удзельнікам Варшаўскага паўстання. Сам Анджэй – геолаг-палярнік, дырэктар інстытута біялогіі Антарктыкі Польскай акадэміі навук, дырэктар польскай антарктычнай станцыі імя Хенрыка Арктоўскага, прафесар Люблінскага універсітэта прыроды, удзельнік шматлікіх палярных экспедыцый.

…Гэта быў цікавы род, прадстаўнікі якога пакінулі значны след у навуцы і культуры. А калі ўзнікала неабходнасць, яны мужна абаранялі Радзіму. І сёння нашчадкі роду Татураў памятаюць мінулае, ведаюць і шануюць свае карані.

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

Наталля ШАРАНГОВІЧ

# ФІЛАСОФІЯ Ў КАРЦІНКАХ

Няспешна перагортваю афорты Сяргея Балянка і спрабую ўхапіць няўлоўныя ўражанні ад яго работ. Пустэльныя вуліцы, "сляпыя" вокны старых дамоў, людзі без вачэй з недарэчна буйнымі капелюшамі замест твараў, велізарныя птушкі, нейкія істоты, што выявіліся з глыбінных пластоў падсвядомасці…

Штосьці няўлоўнае не дае спакою. Вяртаюся да работ другі, трэці раз – пакуль яны не "закрычаць". Хрыплa, прыглушана, на нейкім паўгуку. У творах Сяргея Балянка балюча не хапае святла, там заўжды шэры змрок. Больш яркай можа быць толькі ноч з адзінокімі зоркамі або святлом цьмяных ліхтароў. Прыслухоўваешся і чуеш гукі – мінулых дзён і начэй, няісных дамоў, няспраўджаных лёсаў, галасы нязбыўных прастораў. Сам мастак гаворыць, што яго работы – водгулле праблем, якія ставіць перад намі рэчаіснасць. Аднак творчасць Сяргея Балянка намнога глыбей за такую адназначнасць, яго афорты ніколі не былі проста рэакцыяй на пытанні, што ўздымае перад намі жыццё. Для гэтага лісты мастака задужа эмацыянальныя і асабістыя. Іх змест нельга пераказаць, часам іх нават немагчыма ўзнавіць у памяці. Назвы заўсёды складаныя і шматзначныя. Яны нібы спроба сцвердзіць для сябе самога той сімвал, які хацелася б данесці да гледача. І ад гэтага загадкавая магія работ становіцца ўсё больш складанай.



***Сяргей Балянок.* Некаторы час матляўся на скразняковым ветры ўздоўж…** 2003 г. Афорт.

"Мілы Серж! Нават калі вы пайшлі проста збіраць каштаны, не забывайцеся пра парасон". Або так: "Сад непадалёк ад чыгункі, але вельмі хочацца паехаць". Сам Сяргей назву да ўжо зробленай працы можа прыдумваць доўга – да паўгода.

На просьбу вызначыць тэматычны змест сваіх твораў мастак дае зусім нечаканую фармулёўку: філасофія ў карцінках. Спачатку яму здавалася, што гэта выключна яго ўласная філасофія. Але з цягам часу ён прыйшоў да высновы, што не ўсё так проста. Давялося сустрэцца з вялікай колькасцю людзей, якія ўспрымаюць свет гэтак жа, як і ён. Сяргей Балянок не імкнецца вызначаць словамі ключавыя пазіцыі сваёй філасофіі. Не жадае гэтага рабіць прынцыпова, бо навязваць публіцы ўласнае меркаванне – дрэнны тон.

У Беларусі Сяргей Балянок вядомы хіба што вузкаму колу прафесіяналаў, а ў Еўропе ён прызнаны майстар. Упершыню яго работы з'явіліся на беларускай выставе ў 1974 г., а першая персанальная выстава адбылася ў 1987-м. З тых часоў праходзяць даволі часта і геаграфія іх даволі шырокая: Беларусь, Літва, Польшча, Галандыя, Данія,



***Сяргей Балянок.* Мноства мокрых дзьмухаўцоў.** 2001 г. Афорт.

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*



***Сяргей Балянок.* Летні дождж.** 2001 г. Афорт.

Швецыя. Работы Сяргея Балянка набывалі музеі Італіі, ЗША, Венгрыі. Колькі афортаў захоўваецца ў прыватных калекцыях, аўтар не ведае – не лічыў. Званняў, прызоў, узнагарод не мае і не імкнецца да іх, а таму ў конкурсах не ўдзельнічае таксама з прынцыповых меркаванняў.

…У шэсць гадоў бацька падараваў Сяргею самаробны мальберт, хлопчык пачаў маляваць, хутчэй нават гуляць у мастака. Гульня з часам перарасла ў імкненне да прафесіі. Ён скончыў Львоўскі паліграфічны інстытут, там упершыню паспрабаваў тэхніку афорта. Прыехаў у Беларусь па размеркаванні, працаваў у кніжным выдавецтве. Сяргея называюць адным з найлепшых ілюстратараў кніг, асабліва зборнікаў фантастыкі. Памятаю яго афармленне папулярных выданняў Жуля Верна, Курта Ванегута. «Я памятаю, як мастацкі савет Дзяржкамвыда "зарубіў" "майго" Булгакава, – распавядае мастак. – Да сённяшняга дня шкада. Я – наравісты чалавек, таму, магчыма, мяне не ўсе любяць. Я і малюю наравіста. Але з самай першай выставы водгукі і крытыкаў, і наведвальнікаў былі станоўчымі і прыхільнымі. Гэта паказалі і замежныя выставы – у Венгрыі, Галандыі і ЗША, дзе 12 маіх работ трапілі ў прэстыжную калекцыю Нормана Доджа».

У Сяргея Балянка рэпутацыя "нетыповага" творцы. «Мастак – гэта чалавек, які пастаянна знаходзіцца ў творчым працэсе, пошуку. Ён замыкаецца ў майстэрні, увесь у "задумах", вакол эскізы, эцюды. У мяне нічога гэтага няма. Я звычайны абывацель, малюю дома, на кухні – хочаш вер, хочаш – не. Я нічога не "нараджаю" ў муках. Я проста жыву. Сеў і намаляваў нешта. Не атрымалася – адклаў. А атрымалася: бяру цынкавую пласціну, пакрываю вогнетрывалым лакам. На яе пераношу малюнак, які першапачаткова раблю на паперы, і гравірую іголкай па метале. Потым траўлю кіслатой, змываю лак, зноў наношу грунт і гравірую больш цёмныя месцы – гэта другое траўленне. Змываю. Далей – так званая акватынта: каніфоль змяльчаецца, наносіцца на цынк, злёгку награваецца, каб прыліпла да металу, і зноў ідзе хуткае траўленне. Затым на пласціну набіваецца фарба, такім чынам выпрабляецца друкарская форма, і на афсетным станку робіцца адбітак. З адной пласціны можна зрабіць да 50 якасных адбіткаў, але па сусветных стандартах прынята 10. Гэтым і жыву – я ж вольная птушка…»

Афорты Сяргея Балянка немагчыма аднесці ні да карыкатур, ні да ілюстрацый. Гэта не абстракцыя і не сюррэалізм. Часта ў іх сустракаюцца рэальныя дамы, кошкі, птушкі, сабакі, асобныя пазнавальныя прадметы. Але пакоі не маюць межаў, мэбля ў іх сціплая і часта зламаная, сярод буралому няўтульна прымасціліся вулічныя ліхтары, людзі больш нагадваюць цені. Разглядаць такія карціны, шмат разоў вяртаючыся назад, надзвычай цікава. Можа, таму на яго выставы Балянка заўсёды ходзяць гледачы. А яго афорты заўсёды маюць прыхільнікаў. І ўсё гэта таму, што ён валодае даволі рэдкай для сучаснага мастака якасцю – уменнем здзіўляць.

Кожны афорт нараджаецца лёгка і неверагодна хутка, а вобраз з'яўляецца нечакана нават для самога аўтара. Папярэднія загатоўкі, накіды і малюнкі адвяргаюцца Сяргеем адразу і канчаткова. Незвычайная пляма на акне, некалькі выпадковых ліній у запісной кніжцы, цень на пяску – і прачынаецца мастак. Усё гэта можа яго натхніць. Далей працэс становіцца тэхнічным.

Павялічаная апаратурай пляма – і на аркушы з'яўляюцца нечаканыя вобразы. Немалую частку непрадказальнасці ўносіць і працэс апрацоўкі кіслатой прадрапанай цынкавай пласцінкі. Вынік невядомы загадзя, і гэта вельмі хвалюе. Гэта падобна да імправізацыі, непрадказальнай інтэрпэтацыі адной і той жа хвалююча-цягучай джазавай мелодыі. Цікава, што свае афорты Сяргей ніколі не рабіў як ілюстрацыі да мастацкіх твораў. І пры гэтым некаторыя з іх "Сто гадоў адзіноты", "Лесвіца", "Пераадолей свой сум" і многія іншыя непасрэдна перагукаюцца з кнігамі Габрыеля Маркеса, Курта Ванегута, Андрэя Платонава.

Самым вялікім гонарам Сяргея Балянка з'яўляецца тое, што ніводны яго графічны аркуш не быў зроблены пад заказ. Усе яны адлюстраванне асобы, частка яго сапраўднага ўнутранага свету. І гэтаму неяк адразу верыш, зірнуўшы на мастака, у яго трошкі наіўныя вочы. Ён, здаецца, бачыць наша жыццё без бытавога налёту. Жыццё, у якім гарады – пустэчы, дрэвы – вялікія, а людзі – маленькія.

*Малады даследчык прапануе*

# ІДЭЯ УНІВЕРСАЛЬНАГА АДЗІНСТВА Ў МАСТАЦКІМ ПЕЙЗАЖЫ

У артыкуле раскрываецца сутнасны змест Ідэі універсальнага Адзінства, закладзенай у мастацкім пейзажы. Адзначаецца вядучая роля ў шматслойнай структуры твора пейзажнага мастацтва духоўнага кампанента, які выступае дзейснай сілай у працэсе стварэння мадэлі ўзаемаадносін Чалавека і Прыроды. Аўтарам зроблены акцэнт на аксіялагічным аспекце мастацкага пейзажа, што вызначае шкалу духоўных каштоўнасцей, фарміруе панэстэтычны светапогляд. Рэсурс духоўнасці мастацкага пейзажа мае актуальнае значэнне ў працэсе стварэння цэласнай, маральна арыентаванай карціны быцця, на шляху фарміравання антрапапрыроднай парадыгмы.

Адметнай тэндэнцыяй у развіцці сучаснай навукі з'яўляецца імкненне да інтэгральнага ведання. Новыя тэорыі (універсалогія, тэорыя фізічных структур і інш.) маюць на мэце стварэнне цэласнай карціны свету, пабудаванай на аснове універсальнага першапрынцыпу. Відавочным становіцца і тое, што на сучасным этапе цывілізацыі, калі экалагічныя, сацыяльныя, палітычныя праблемы набылі глабальныя маштабы, развіццё навукі павінна абапірацца на цвёрдыя этычныя нормы. Іншымі словамі, у імкненні да універсальнага ведання, да спасціжэння Ідэі ўсеагульнага Адзінства Сусвету чалавецтву неабходны сінтэз духоўнага і фармальна-лагічнага пазнання.

Ідэя пошукаў агульнага першапрынцыпу, своеасаблівай матрыцы ўсяго існага – не новая. Яшчэ каля вытокаў касмалогіі і антрапалогіі ў якасці агульнай першаасновы быцця мысляры прапаноўвалі "лічбы" (Піфагор), "эйдасы" ("ідэі рэчаў" – Платон). Арыстоцель увёў ва ўжытак паняцце "першарухавік". У старажытнакітайскай філасофіі такім перашаабсалютам было "дао". Старажытнаіндыйская думка зыходзіла з прынцыпу духоўнай тоеснасці ўсяго існага – "тат твам асі" ("ты ёсць тое"). У эпоху Сярэднявечча Абсалютам лічыўся Бог. Нямецкі класічны ідэалізм за аснову быцця браў Абсалютную Ідэю ў яе вечным станаўленні.

Па сутнасці, кожная культура і эпоха, кожная форма грамадскай свядомасці прапаноўвалі свае варыянты абагульняльнага першапрынцыпу быцця. Гэтыя канцэпцыі, модусы Ідэі Абсалютнай Ісціны, фарміравалі цэласны погляд на свет, надавалі сэнс і мэту чалавечаму існаванню. Рух да Абсалюту з'яўляецца жыццёва неабходным працэсам у справе асваення чалавекам навакольнага асяроддзя, удасканалення асобы і соцыуму.

На шляху стварэння анталагічна цэласнай карціны быцця асаблівую ролю адыгрывае мастацтва. Кожны глыбокі мастацкі твор – гэта своеасаблівы "іерогліф Абсалютнай Ісціны" (А. Таркоўскі). Твор для ўспрымання патрабуе не толькі рацыянальнага ўсведамлення закладзенай у ім ідэі, але і эмацыянальнага перажывання яго вобразнага зместу. Менавіта ў перажыванні можа быць адчута Ісціна. Любы крок на шляху ўнутранага ўдасканалення асобы павінен быць перш за ўсё ёй перажыты. У гэтым бачыцца залог і глыбокага рацыянальнага засваення універсальнай Ідэі анталагічнай цэласнасці свету.

Праблема анталагічнага маштабу, якой з'яўляецца Ідэя ўсеагульнага Адзінства, знаходзіць выразнае адлюстраванне ў мастацкім пейзажы. Калі разглядаць твор мастацтва як філасофскую форму выказвання, выражаную сродкамі гукавой, моўнай, колеравай сімволікі, то мастацкі пейзаж – гэта філасофія адухоўленай прыроды. З першабытнасці прырода ўспрымалася чалавекам не толькі як асяроддзе, але і як духоўна блізкая існасць. Ужо ў тыя далёкія часы, вядома, з вялікай доляй містыцызму, фарміравалася ўяўленне пра свет як пра цэлае, непадзельнае Адзінства ўсяго існага. Гэтая інтэнцыя ў розных мадыфікацыях існавала на ўсім шляху духоўнага развіцця чалавецтва, выступаючы асноўным вектарам і сэнсавым ядром філасофскіх, рэлігійных, мастацкіх канцэпцый. У XIX ст. прынцып тоеснасці чалавечай і прыроднай душы стаў зыходным пунктам філасофіі і мастацтва рамантызму. У. Вардсворт бачыў у прыродзе "чистейший мыслей якорь", "пристань сердца", "наставника и душу природы нравственной" [2, с. 219]. Наваліс (Ф. фон Гардэнберг) надаваў прыродзе сакральны характар, лічыў, што "ўвесь наш унутраны свет – сфера невыказальнага павеву, крыніца якога ў невычарпальных нетрах. Калі вакол нас разгортваецца дзівосная прырода, якая ўспрымаецца ці не ўспрымаецца намі, у гэтым павеве мы схільныя чуць заклік яе, наша з ёй суперажыванне" [6, с. 83]. Прырода паўстае ў гэтым апісанні жывой, адухоўленай, роднаснай і блізкай чуламу да яе чалавеку. Ф. Шэлінг надзяляў прыроду крэатыўнай здольнасцю: "Прырода не проста прадукт неспа-

сцігальнага тварэння, але і само гэтае тварэнне" [7, с. 891]. Думка нямецкага філосафа атрымае пазней працяг у творчасці беларускага мысляра І. Абдзіраловіча (І. Канчэўскага), які выведзе формулу, што "ўсё існуючае – творча" [1, с. 38]. Ідэя духоўнага Адзінства чалавека і прыроды, суцэльнасці творчага працэсу ў Сусвеце складае падмурак філасофскага базісу пейзажнага мастацтва.

Мастацкі пейзаж са старажытных часоў – гэта адлюстраванне Ідэі ўсеагульнага Адзінства, заснаванага на абсалютнай духоўнасці. Адначасова з электрамагнітным, гравітацыйным, слабым і моцным фундаментальнымі ўзаемадзеяннямі ў прыродзе можна, зразумела, з пэўнай доляй умоўнасці казаць пра ўзаемадзеянне яшчэ аднаго кшталту – *духоўнае*, якое выконвае прадуктыўную ў філасофскім плане функцыю: напаўняе сэнсам чалавечае існаванне, робіць цэласнай карціну быцця. Сусвет, *свет-для-чалавека*, такім чынам, выступае як поле духоўнага ўзаемадзеяння ўсяго з усім. Гэтае ж поле складае ядро твораў пейзажнага мастацтва (гл. малюнак).




Абагульняльным фактарам у структуры мастацкага пейзажа з'яўляецца *поле духоўнага ўзаемадзеяння*, ступень "напружання" якога абумоўлена ўзроўнем эмацыянальнага перажывання і энергіі мыслення аўтара, перцэптыўнай, сугестыўнай, інтэлектуальнай энергіяй рэцыпіента ва ўзаемадзеянні з крэатыўнай энергіяй прыроды. Відавочна, што для функцыянавання дадзенай мадэлі неабходна эмацыянальная і інтэлектуальная чуйнасць творцы і рэцыпіента, іх уменне "пранікаць" у душу прыроды, знаходзіць там адпаведнікі ўласным унутраным інтэнцыям. Невыпадкова І. Гётэ адзначаў асаблівасць, характэрную для чулага душой таленту, – "пастаяннае імкненне настойліва шукаць для ўсяго, што залажыла ў яго прырода, адпаведныя вобразы ў знешнім свеце і тым самым узвышаць унутранае да нечага цэласнага і неаспрэчнага" [4, с. 159].

Калі пагадзіцца з думкай Б. Крочэ, што мастацтва – гэта інтуіцыя, то тады пейзаж выступае як інтуітыўнае адчуванне і перажыванне ўсеагульнага Адзінства. У гэтым і яго асноўная філасофская функцыя – раскрыць Ідэю ўсеагульнага Адзінства ўласнымі сродкамі. Г. Шпэт слушна адзначаў, што мастак "*раней* за філосафа сцвярджае рэчаіснасць, таму што наперадзе ўсялякага спазнання ідзе сузіранне", якое "не проста *для сябе* сузірае, а раскрывае таямніцы" [8, с. 365]. Творы пейзажнага мастацтва адкрываюць "таямніцы" ўсеагульнай адухоўленасці свету. Мудры погляд на свет – бачанне за абалонкай матэрыяльных целаў, духоўнай першаасновы быцця. І ў гэтых словах няма містыкі. Трэба адзначыць, што, па сутнасці, не існуе *свету-без-чалавека*. І. Гётэ справядліва пісаў, што "мы нічога не ведаем пра свет па-за яго адносінамі да чалавека; мы не жадаем ніякага мастацтва, якое не было б сколкам з гэтых адносін" [3, с. 593]. Усё, што мы ведаем, – гэта *веданне-для-нас*, г. зн. наша бачанне рэчаіснасці, будовы Сусвету і г. д. Адсюль вынікае, што няма абсалютна нейтральнай пазіцыі знешняга назіральніка, якая служыць гарантыяй "аб'ектыўнасці" ведаў. Культывацыя такой "нейтральнасці", якой на самай справе не існуе, атрымала і негатыўную афарбоўку: напрыклад, авалоданне энергіяй атама прывяло да стварэння атамнай бомбы. "Нейтральнасць" знешняга назіральніка, тэарэтычнае адасабленне не толькі ад прыроды, але і ад лёсу соцыуму мае, як паказвае гісторыя Найноўшага часу, трагічныя вынікі… Менавіта таму ўсё, што мы ведаем, – духоўна… Перш за ўсё – як веданне-для-нас, бо духоўнасць – гэта чалавечы свет. Значыць, і свет – гэта *свет-для-чалавека*. Свет-у-чалавеку. Чалавек-у-свеце. І гэтыя адносіны, па сутнасці, тоесныя, нельга ўявіць інакш. Менавіта з гэтай пазіцыі можна сцвярджаць, што *ўсё існае – духоўнае*. І мы, носьбіты духоўнасці, адказныя за гэты свет.

Абсалютная духоўнасць, якая выступае канстантнай характарыстыкай свету-для-чалавека, выяўляе ў асаблівым святле аб'екты мастацкага пейзажа. У нашу эпоху утылітарызму, штучнага "другога асяроддзя" часам цяжка ўбачыць і адчуць духоўную значнасць феноменаў. Некаторыя сучасныя філасофскія канцэпцыі, напрыклад трансгуманізм, нават лічаць, што дадзены стан рэчаў, калі чалавек амаль ужо страціў сувязь з натуральнай прыродай, – заканамерны. Чалавецтва знаходзіцца ў стане кеносісу, г. зн. спустошанасці ўласных рэсурсаў духоўнасці. На змену сучаснаму чалавеку павінен прыйсці новы эвалюцыйны від, больш здольны да існавання ва ўмовах тэхнагеннай цывілізацыі. Будучае дасць адказы на гэтыя пытанні, але можна спадзявацца, што менавіта ў прыродзе, у яе мастацкім вобразе, мы зможам адчуць адвечную знітаванасць усяго з усім у модусе духоўнасці. Як бы ні ішоў ход эвалюцыі, аднак зварот да

першапачатковай энергіі Маці-Прыроды, з лона якой мы выйшлі, верыцца, дапаможа захаваць і падсілкаваць саслабелы дух сучаснага чалавека. Інакш духоўнае разняволенне соцыуму пагражае ў кароткі перыяд паглынуць цывілізацыю ў глабальнай экалагічнай ці ваеннай катастрофе.

У сувязі з вышэйсказаным новае гучанне ў сённяшніх умовах набывае старажытнаіндыйскі прынцып "тат твам асі". Калі пакінуць убаку першапачатковы рэлігійны змест гэтага выказвання, то ён выразна адлюстроўвае асноўны накірунак фарміравання новай Ідэі універсальнага Адзінства – "ты ёсць тое". Усведамленне, што кожны аб'ект рэчаіснасці свету мае да суб'екта пазнання самае непасрэднае дачыненне, што ўсё, як у люстэрку, адбіваецца ва ўсім, фарміруе пачуццё адказнасці за стан рэчаў у свеце. Кожнае дзеянне, духоўнае ці фізічнае, выклікае рэзананс у Сусвеце, фарміруе хвалі энергіі, якія распаўсюджваюцца вакол, уступаюць ва ўзаемадзеянне з іншымі, і гэты працэс бясконцы. Такая пазіцыя стварае трывалы грунт узаемаразумення людзей, адчування глыбіннай духоўнай сувязі ўсяго існага. І мастацтва, якое па сваёй сутнасці звернута да духоўнага свету чалавека, яскрава адлюстроўвае гэтую Ідэю Адзінства. Пра неабходную мастаку здольнасць пранікаць у схаваную сутнасць рэчаў, адчуваць сваю арганічную сувязь з аб'ектам адлюстравання, разумець "душу" прыроды выразна гаворыцца ў кітайскім трактаце па тэорыі мастацтва "Слова пра жывапіс з саду з гарчычнае зерне" (1679 – 1818) [5, с. 108].

Кітайскае пейзажнае мастацтва выразна сцвердзіла ідэю духоўнай першаасновы быцця. І стварэнне, і сузіранне карцін прыроды выступала ў ім формай медытацыі, працэсам спасціжэння схаванага зместу рэчаў, дасягнення стану растварэння асобы ў прыродным цэлым. Сузіранне аб'ектаў прыроднага свету з'яўлялася неад'емнай часткай працэсу пазнання і самапазнання. Увага да матэрыяльнага феномена, да нават невялікай плошчы жыццёвай прасторы (напрыклад, выявы галінкі ці асобнага дрэва, якія выражалі сабой прыродны універсум) у многім сэнсава зближае кітайскае пейзажнае мастацтва з беларускім. У беларускай культуры панэстэтычнае стаўленне да прыроды фарміравалася на грунце фальклорнага светабачання з характэрным для яго адчуваннем монафізічнай еднасці свету. Прырода ўспрымалася як маці, даравальніца жыцця, крыніца чалавечага існавання. Гэтае адчуванне напаўняла культуру вітальнай энергіяй. Моцны жыццесцвярджальны імпульс, пазбаўлены ўсялякай трансцэндэнтнасці, абумовіў тое, што прырода ў творах беларускага пейзажнага мастацтва трактавалася як вобраз дасканалага быцця. Прычым – прырода блізкая, родная. Гэта можна прасачыць і ў творах Кірылы Тураўскага, М. Гусоўскага, і ў паэзіі А. Міцкевіча, Я. Коласа, і ў пейзажах А. Гараўскага, Ф. Рушчыца, В. Бялыніцкага-Бірулі, і ў працах сучасных мастакоў Г. Вашчанкі, І. Бархаткова, А. Бараноўскага, В. Шкарубы і інш. Галоўная Ідэя, закладзеная ў творах згаданых аўтараў, – харaство жыцця ў гэтым свеце, радасць быцця, заснаваныя на адчуванні непарыўнай знітаванасці ўласнага і прыроднага.

Такім чынам, рэсурс духоўнасці, акумуляваны ў мастацкім пейзажы, валодае багатым патэнцыялам у справе фарміравання анталагічна цэласнай карціны быцця, пошуку універсальнага ведання пра свет і чалавека. Мастацкі пейзаж сцвярджае Ідэю арганічнага Адзінства свету прыроды і чалавека на інтуітыўным узроўні. Без гэтага духоўнага базісу само існаванне жанру было б немагчымае. Прырода ў творы мастацтва набывае "душу", тоесную душы чалавека, здольную да суперажывання. Разам з тым мастацкі пейзаж не толькі адлюстроўвае "душу прыроды", дзеянне творчага Абсалюту, але і выступае адначасова крытэрыем духоўнасці аўтара, яго здольнасці ўспрыняць гармонію Сусвету і адлюстраваць яе мэтазгоднымі сродкамі выразнасці. Пейзаж з'яўляецца своеасаблівай медытацыяй, пошукам адпаведнасці ўласнага духу – духу Сусвету. Па сутнасці, мастацкі пейзаж не толькі тварэнне карціны быцця прыроды, але, і гэта не менш важна, – працэс тварэння чалавека, адкрыццё ім самога сябе, шлях да разумення свайго "я", якое набывае ўласнае вымярэнне і значнасць у суаднесенасці з "Я" агульным.

Пейзаж – гэта позірк творцы ў свет Прыроды са спадзяваннем на адказ і ўзаемнасць. А ў наш час – яшчэ і з просьбай прабачэння…

**Спіс літаратуры**

1. **Абдзіраловіч, І.** Адвечным шляхам : Дасьледзіны беларускага сьветапогляду / І. Абдзіраловіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993. – 44 с.
2. **Вордсворт, У.** Избранная лирика : сборник / У. Вордсворт / сост. Е. Зыковой. – М. : ОАО Издательство "Радуга", 2001. – 592 с.
3. **Гёте, И. В.** Об искусстве / И. В. Гёте. – М. : Искусство, 1975. – 623 с.
4. **Гёте, И. В.** Собрание сочинений: в 10 т. / И. В. Гёте. – М. : Худож. лит., 1980. – Т. 10 : Об искусстве и литературе / пер. с нем.; под общ. ред. А. Аникста и Н. Вильмонта. – 510 с.
5. **Завадская, Е. В.** Слово о живописи из сада с горчичное зерно / Е. В. Завадская. – М. : Главная редакция восточной литературы, 1969. – 520 с.
6. **Новалис.** Гимны к ночи / Новалис / пер. с нем. В. Микушевича. – М. : Энигма, 1996. – 192 с.
7. **Шеллинг, Ф. В.** Сочинения / Ф. В. Шеллинг / пер. с нем. М. И. Левиной, А. В. Михайловой. – М. : Мысль, 1998. – 1664 с.
8. **Шпет, Г. Г.** Сочинения / Г. Г. Шпет. – М. : Правда, 1989. – 608 с.

**Аляксандр СЯЛІЦКІ,**
выкладчык Мінскага дзяржаўнага
тэхналагічнага каледжа.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кандыдатам філалагічных навук А. У. Рагулем.*

# УЗАЕМАСУВЯЗЬ ТЭЛЕВІЗІЙНАЙ РЭКЛАМЫ І СУЧАСНАГА МАСТАЦТВА

## АДЛЮСТРАВАННЕ НА МЕДЫЯРЫНАК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У адрозненне ад іншых вызначэнняў маркетынгу паняцце *тэлевізійная рэклама* працягвае фарміравацца адначасова з развіццём рэкламнай сферы. З гэтай прычыны навуковае асяроддзе аддае перавагу тэрміну *аўдыёвізуальная рэклама*. Яна ўздзейнічае не толькі на інтэлект суб'екта, але і на яго пачуцці. Гэта значна павышае каштоўнасць рэкламнага прадукту. Развіццё інфармацыйных тэхналогій і метадаў эмацыянальнага ўплыву на суб'ект пашырыла магчымасці вытворцаў аўдыёвізуальнай рэкламы.

Рэкламны рынак Рэспублікі Беларусь пачынаўся з кінарэкламы і толькі напрыканцы 1980-х гг. рэклама пачынае распаўсюджвацца на айчынным тэлебачанні. У той жа час былі створаны першыя рэкламныя дырэкцыі, якія займаліся не так прасоўваннем беларускіх тавараў, як сацыяльнай рэкламай, а яе мастацкае напаўненне зыходзіла з эмпірычнага досведу і інтэлектуальнага ўзроўню канкрэтных творчых асоб. Наступнае дзесяцігоддзе стымулявала развіццё тэлебачання і новых плыней аўдыёвізуальнай рэкламы. Пачалі з'яўляцца першыя рэкламныя відэафільмы. Стваральнікі рэкламнай прадукцыі атрымалі магчымасць знаёміцца з замежным вопытам і скарыстоўваць яго на айчыннай глебе. Гэты перыяд характарызуецца адкрытым плагіятам. Да прыкладу, у роліках беларускай фірмы "РамПО" выкарыстоўваліся ідэя і творчыя хады расійскай рэкламы банка "Імперыял".

Пачатак 2000-х гг. адзначаны тым, што ў нашай краіне з'яўляецца заканадаўства па ахове аўтарскіх правоў. Такім чынам, пачынаецца новы этап развіцця беларускай рэкламы і ў значнай ступені яе творчага складніка. Атрымала распаўсюджванне новая плынь – "ан-лайн медыя". Звернемся да найлепшых узораў сусветных вытворцаў, каб прадэманстраваць перспектыўнасць новага кірунку. "Лайнфільмы" – гэта новая з'ява рэкламнага кінематографа, што дазваляе прапанаваць спажыўцу блізкую да кіно прадукцыю пры дапамозе інтэрнэту без абмежавання колькасці паказаў. Відэа змяшчаецца на пэўным сайце, і глядач сам выступае ў ролі распаўсюджвальніка, калі скачвае ролік з рэсурсу. Са спецыяльнага сайта канцэрна "BMW", які і быў стваральнікам новай плыні, за пяць гадоў зафіксавана 40 млн скачванняў. Гэта значыць, што па меншай меры 40 – 50 млн чалавек зацікавіліся прадукцыяй і добраахвотна сталі ўдзельнікамі маштабнага праекта.

Тэхнічны прагрэс кардынальна змяніў падыходы да стварэння відэарэкламы. Раней заказчык выбіраў камунікацыйны канал, канкрэтную тэлекампанію і характар відэаработы: анімацыю ці пастаноўку. У наш час сродкі адлюстравання і стылістыка абмяжоўваюцца толькі двума фактарамі: фантазіяй стваральніка і бюджэтам заказчыка. Узгадаем серыю ролікаў знакамітага вытворцы спартыўных тавараў "Nike", дзе ў футбольным паядынку людзі супрацьстаялі цёмным сілам. Дзякуючы камп'ютэрным эфектам усё было зроблена максімальна праўдападобна. У наш час змяніўся і фармат рэкламных ролікаў: традыцыйныя 30 – 60-секундныя фільмы саступаюць месца нефарматным – 3-, 12-, 20-секундным. Хуткасць успрымання спажыўцом рэкламнай інфармацыі значна ўзрасла. Вытворцам даводзіцца шукаць новыя творчыя падыходы дзеля ўтрымання тэлегледача перад экранам. Гэтаму спрыяюць і вядомыя асобы, што карыстаюцца аўтарытэтам у мэтавай аўдыторыі, і звароты да асабістых якасцей спажыўца, а таксама мастацкія міні-мюзіклы. Як заўважыў у адным са сваіх інтэрв'ю вядомы расійскі рэжысёр Юрый Грымаў, "я спрабаваў пазнаёміць чалавека, які хоча нешта прадаць, з чалавекам, які хоча купіць. Але ж спрабаваў зрабіць гэта творча!" [1].

Такім чынам, пры распрацоўцы рэкламнай кампаніі і стварэнні відэарэкламы на першы план выходзіць зусім не фінансавы аспект, а ідэя. Яна найкаштоўнейшае з таго, што можа быць не толькі ў рэкламнай кампаніі, але і ва ўсім жыцці чалавека. Аднак гэта зусім не азначае, што заказчык заўсёды можа набыць гарантаваную ідэю за вялікія грошы. Доказам гэтаму служыць серыя рэкламных ролікаў "BonAqua" з удзелам зорак Нацыянальнай зборнай Рэспублікі Беларусь па мастацкай гімнастыцы, дзе спартсменкі выконвалі складаныя практыкаванні з прыладамі. Асаблівасць кампаніі ў тым, што апошнія былі зроблены з вады пры дапамозе камп'ютэрнай графікі. Гэта была выдатная ідэя, якая скалыхнула айчынны рэкламны рынак. Аднак выкарыстанне дрэва з вады ў апошняй серыі рэкламы "BonAqua" насіла ўжо другасны характар. Успрыманне гэтых ролікаў сапсавана тым, што *ідэя* трансфарміравалася ў *форму*, а гэта не мела

значнага эмацыянальнага эфекту ў параўнанні з першай кампаніяй.

У той жа час агенцтва "Крынь", якое займалася стварэннем рэкламы для "BonAqua", даказала: крэатыўнасць не патрабуе значных інвестыцый. Рэкламісты зрабілі серыю ролікаў для беларускай гандлёвай маркі "Анега", якія выклікалі станоўчую рэакцыю тэлегледачоў і разам з тым каштавалі надзвычай танна. Арт-дырэктар агенцтва "Крынь" Аляксандр Шавялевіч лічыць, што "крэатыў не вымяраецца ніякімі сумамі. Ідэя прыходзіць або не, якімі б фінансавымі сродкамі ты не стымуляваў розум. Шмат залежыць і ад таго, які тавар ты збіраешся рэкламаваць". Такім чынам, мы можам гаварыць пра блізкасць унутраных працэсаў, якія суправаджаюць творчасць мастака і рэкламіста.

Дагэтуль відэарэкламу многія ўспрымаюць як чыста маркетынгавы сродак стымулявання продажу тавараў ці паслуг. Аднак развіццё сучаснага грамадства і не ў апошнюю чаргу інтэлектуальны прагрэс надалі тэлевізійнай рэкламе больш істотныя функцыі. Узгадаем, як на пачатку 1990-х гг. ролікі на тэлебачанні ўспрымаліся павевам заходняй цывілізацыі. Тым самым тэлевізійная рэклама мела культурна-асветніцкае значэнне. Гэта пазней для гледачоў постсавецкага тэлебачання яна зноў набыла спецыялізаваную функцыю – стымуляванне продажаў. Тут мы не гаворым пра іміджавую рэкламу, якая не ставіць на мэце прасоўванне якога-небудзь прадукта, а павінна выклікаць у спажыўца прыемныя асацыяцыі, звязаныя з канкрэтным брэндам.

Між іншым, для спецыяліста сёння дастаткова паглядзець рэкламны блок вядучага тэлеканала краіны, каб мець дастаткова выразнае ўяўленне пра сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў дзяржаве і маральна-этычныя каштоўнасці той ці іншай нацыі. І гэта нягледзячы на тое, што тэлевізійная рэклама і сучасная эканоміка адчуваюць ціск усёпаглынальнай глабалізацыі.

Рынак тэлевізійнай рэкламы Рэспублікі Беларусь сфарміраваўся некалькі гадоў таму. Гэты працэс стымулявала прыняцце заканадаўства па рэкламе, якое павысіла адказнасць вытворцаў і заказчыкаў. Асаблівасцю нацыянальнага рынку рэкламы можна лічыць тое, што вытворцы па розных прычынах не імкнуцца ўкладваць сродкі ў свой рэкламны прадукт. Беларускія "Віцязь", "Атлант", "Луч" і дзесяткі іншых прадстаўнікоў прамысловасці разлічваюць на тое, што іх традыцыйная на рынку дамінанта не патрабуе значнай маркетынгавай падтрымкі. Згодна са звесткамі маніторынгу тэлевізійнай рэкламы MACMI ў кастрычніку 2009 г. сярод 10 найбуйнейшых рэкламадаўцаў на тэлебачанні не было ніводнага айчыннага брэнда. Між тым эфемернасць устойлівасці на сучасным рынку яскрава дэманструе сегмент мабільнай сувязі. Лідэры рынку "Velcom" і "МТС" у 2009 г. па ацэнках экспертаў страцілі ад 5 да 10% абанентаў кожны з-за недаацэнкі маркетынгавых магчымасцей і агрэсіўнай рэкламнай кампаніі новага аператара "Life". Актывізацыя канкурэнтнай барацьбы запатрабавала і новых нестандартных ідэй, што падштурхоўвалі б кліентаў да выбару. І тут практычна ўпершыню быў скарыстаны амаль увесь творчы патэнцыял беларускіх рэкламных агенцтваў.

Трэба заўважыць, што якасць беларускай рэкламы значна ўзрасла за два апошнія дзесяцігоддзі. Але ж гэта даволі кароткі тэрмін, каб можна было адчуць маштабнасць трансфармацыі аўдыёвізуальнай рэкламы ў кантэксце гісторыі грамадства і азначыць асобныя эстэтычныя аспекты. Для гэтага звернемся да некаторых асаблівасцей развіцця рэкламы за мяжой.

Пасля Другой сусветнай вайны камерцыйнае тэлебачанне толькі пачало развівацца. У гэты ж перыяд ствараецца новы жанр – тэлевізійная рэклама. Яна была вельмі простай і прызначалася толькі для стымулявання амерыканцаў жыць лепш, дасягнуць пэўнага сацыяльнага статусу. «Канец 1940-х і пачатак 1950-х гг. адзначыліся гонкай, у якой грамадства спажыўцоў набывала ўсё больш тавараў, зыходзячы з прынцыпу "раўненне на Джонсанаў", гэта значыць "жыві не горш за іншых"» [2].

З цягам часу сацыяльная значнасць тэлерэкламы яшчэ больш узрасла. Яна працягвае фарміраваць у масавай свядомасці стэрэатыпы паводзін. Аднак сёння рэклама выконвае і функцыі акумулятара эстэтычных каштоўнасцей грамадства. Папулярнасць часопісаў "Glamour", "Vogue", "Bazaar" і дзесяткаў іншых таблоідаў заключаецца ў тым, што пэўныя сацыяльныя слаі з задавальненнем "паглынаюць" рэкламныя праспекты, адфільтроўваючы самае неабходнае і выпрацоўваючы квінтэсенцыю таго, што завецца "стыль жыцця".

Тэлевізійная рэклама сёння не толькі прадае сам тавар, яна стварае ідэальны свет, да якога імкнецца звычайны спажывец; яна ініцыіруе ланцуг *грошы – рэклама – жаданне – набыццё – асалода*, яго рэалізацыя сімвалізуе ўсяго толькі дасягненне пэўнага парога, за якім адразу пачынаецца новы і гэтак далей – "ведаю больш – больш хачу". Такая сітуацыя стымулюе і вытворцаў: "найноўшае – значыць найлепшае". У той жа час, прапаноўванне абноўленага тавару ў такім калейдаскопе сусветных брэндаў становіцца ўсё больш складанай задачай. Тут аднаго толькі маркетынгу ўжо недастаткова. І вось тады бізнес (!) звяртаецца па дапамогу да мастацтва, разам з якім шукае новыя формы па-




**Кадр з рэкламнага роліка "BonAqua".**

дачы інфармацыі, што павінна адпавядаць не толькі канонам камерцыі, але і эстэтыкі. І той, у каго гэтае спалучэнне будзе больш гарманічным, у канчатковым выніку заваюе і сэрца, і кашалёк спажыўца. Спаборніцтва тавараў ператвараецца ў супрацьстаянне ідэй.

«Памятаючы пра адмоўныя рысы рэкламы, неабходна разумець, што яна імкнецца палепшыць "якасць" жыцця чалавека, інфармуе спажыўца пра новыя тавары і магчымасці, спрыяе задавальненню разнастайных патрэб і аказвае станоўчы ўплыў на рух тэхнічнага прагрэсу і развіццё эканомікі» [3].

Рэклама не з'яўляецца першаснай неабходнасцю чалавека, аднак уплывае на рост агульнага інтэлектуальнага і эстэтычнага ўзроўняў суб'екта, які пашырае свой кругагляд дзякуючы рэкламе. І гэта надае апошняй рысы мастацтва, што мае на мэце развіццё чалавека. А займацца гэтай складанай працай маюць права толькі творчыя асобы, якія адчуваюць адказнасць перад соцыумам і добра ведаюць, на якіх струнах душы чалавека трэба сыграць мелодыю камерцыйнага поспеху.

"Сучасная рэклама – перш за ўсё інтуіцыя. А яна ў сваю чаргу – абагульненне ўсяго накопленага вопыту суб'екта. Гэта значыць, што рэкламшчык, вядома ж, павінен арыентавацца практычна ва ўсіх сферах сучаснага жыцця" [1].

Большасць зорак кінематографа прайшлі рэжысёрскую школу тэле- і кінарэкламы. Для адных гэта сродак зарабіць грошы на рэалізацыю аўтарскай задумы, для іншых – новая плынь творчага пошуку. "Рэклама ўмее ствараць адны прыярытэты і разбураць іншыя" [4].

Калі прааналізаваць кінафільмы, што выклікалі пэўны рэзананс, без цяжкасці можна заўважыць блізкасць мастацкіх формаў і прыёмаў кінамастацтва і тэлерэкламы. Паказальнымі ў гэтым сэнсе з'яўляюцца работы расійскага рэжысёра Цімура Бекмамбетава, прызнанне да якога прыйшло яшчэ ў сярэдзіне 1990-х гг. дзякуючы эпічнаму рэкламнаму тэлесерыялу, што быў створаны па канонах класічнага поўнаметражнага кіно. У перыяд з 1992 да 1997 г. Бекмамбетаў зняў па заказе прэзідэнта банка "Імперыял" 18 рэкламныхролікаў з агульнай канцэпцыяй «Сусветная гісторыя ад банка "Імперыял"». Безумоўна, эстэтычная вартасць гэтай рэкламы значна большая за камерцыйны складнік, бо яна выконвала і адукацыйныя функцыі: гледачы знаёміліся са старонкамі нацыянальнай гісторыі, бачылі добрую ігру кінаакцёраў і пранікаліся сапраўднасцю атмасферы, што панавала ў кожным роліку. Пазней Бекмамбетаў пакінуў рэкламны рынак дзеля сапраўднага кіно. Аднак стылістыку і прыёмы рэкламы ён выкарыстоўвае ва ўсіх работах: знакамітых "Дазорах", сіквеле "Іронія лёсу-2", галівудскім экшэне "Wanted". Крытыка адзначыла шэраг рэжысёрскіх знаходак, але найбольшую каштоўнасць уяўляе тое, што ў адрозненне ад амерыканскіх і большасці рускамоўных кінастужак усе фільмы Бекмамбетава былі цэльнымі. Стыль вытрымліваўся ад пачатку і да фіналу. Дынамічны мантаж, класічная прарысоўка кожнага кадра, насычанасць колеру – усё гэта ўласціва тэлерэкламе. Не так ужо і складана зрабіць дынамічны 30-секундны ролік, які ўспрымаецца гледачом з захапленнем. Значна складаней дамагчыся такой жа рэакцыі на 2-гадзінную кінастужку. Бекмамбетаў выкарыстаў увесь вопыт рэкламшчыка дзеля таго, каб стварыць новае кіно – рэкламны відэаролік працягласцю ў паўтары-дзве гадзіны. Фільм прымушае гледача ўспрымаць пасыл кожнага кадра і атрымліваць асалоду ад таго, што ён гэта разумее і яму гэта цікава рабіць.

Дзякуючы Бекмамбетаву ў кінематографе краін СНД з'явіўся "product placement". Гэта значыць, што шалік на шыі героя Бязрукава ў "Іроніі лёсу-2" мае жоўта-чорную расфарбоўку, бо за гэта заплаціў мабільны аператар "Білайн", а "светлы" герой Хабенскага ў "Дзённым дазоры" п'е з куфля з выявай млына, таму што гэта выгадна "Старому мельніку". "Product placement" – дастаткова новая плынь рэкламнага бізнесу, дзе камерцыйны прадукт арганічна сінтэзіраваны ў кінагісторыю. Аднак рэжысёр "99 франкаў" Ян Кунен лічыць, што «схаваная рэклама – найвялікшая пагроза, якая здольная знішчыць кіно.

Вялікія кампаніі вырашылі, што лепш даць дзесяць – дваццаць мільёнаў даляраў і глядзець, як Джэймс Бонд раз'язджае на іх машыне, носіць іх гадзіннік, чым здымаць рэкламныя ролікі. Гэта непрымальна і ганебна. І ўсё таму, што на тэлебачанні кожны рэкламны ролік дакладна абмежаваны і мае пачатак і канец. Гледачам паведамляецца: "Зараз вамі будуць маніпуліраваць". А ў фільме рэклама замаскіраваная, вас ніхто ні аб чым не папярэджвае» [5]. Так здарылася, што Бекмамбетаў зрабіў кіно рэкламным ролікам, як таго патрабуе час. Глядач жыве ў інфармацыйнай прасторы, што хутка змяняецца і адаптуе пад сваё ўспрыманне і мастацкія творы.

Усяго некалькі дзесяцігоддзяў таму француз Клод Лелюш упершыню прадэманстраваў, што рэкламны ролік можа быць кінастужкай. Яго эсэ "Мужчына і жанчына" мела пад сабой камерцыйны базіс. Амерыканская кампанія звярнулася да маладога рэжысёра з прапановай зняць рэкламны відэафільм для прасоўвання на еўрапейскі рынак суперкара "Mustang". Першапачаткова праект так і пачаў увасабляцца, аднак творчы патэнцыял узяў верх над камерцыяй. І ў выніку свет убачыла рамантычная гісторыя з элементамі "product placement". Пры праглядзе фільма можна ўбачыць, што ў большасці эмацыянальных сцэн тым ці іншым чынам прысутнічае "Ford Mustang" з характэрнай размалёўкай, якая падкрэслівае спартыўны характар машыны і яе гаспадара.

Рэкламны бізнес стаў першай прыступкай прафесійнага росту для многіх рэжысёраў і аператараў. АндронКанчалоўскі, напрыклад, лічыць этапнай сваю работу ў рэкламе. «Усе найлепшыя аператары свету працуюць у рэкламе. Я пазнаёміўся з Паскуліна дэ Сантэсам, які здымаў з Дзефірэлі, Вісконці, Брэсонам, з Таніна Дэла Колі, што зняў "Евангелле паводле Матфея" і "Аднойчы ў Амерыцы", з Гварнэры, якога лічыў увогуле геніем, – потым я здымаў з ім "Бліжняе кола". Рэклама патрабуе надзвычайнай канцэнтрацыі вобразнасці. Але ж, зразумела, рэкламу я здымаў не з такім прафесійным бляскам, як, да прыкладу, Рыдлі Скот, аўтар "Бегуна па лёзе" ("Blade runner"), "Чужога" ("Alien"), – ён зарабіў на рэкламе багацце» [6].

Безумоўна, Рыдлі Скот з'яўляецца першым кінарэжысёрам, які здолеў дасягнуць прызнання, як у кінамастацтве, так і ў рэкламным бізнесе. Яго рэклама пякарні "Hovis", што выглядае, нібы фрагмент кінафільма, была прызнана часопісам "Independent" найлепшай у Брытаніі. А ролік "1984", зроблены для першага камп'ютэра "Macintosh", прымусіў успрымаць тэлерэкламу як плынь мастацтва. На здымкі роліка, сугучнага антыутопіі Дж. Оруэла, быў выдаткаваны рэкордны і па сённяшніх мерках бюджэт – $900 000. Пазней "1984" прынёс Р. Скоту гран-пры "Канскіх львоў", а шэраг спецыялізаваных выданняў палічылі ролік найлепшай відэарэкламай усіх часоў і народаў. Яшчэ ў сярэдзіне 1990-х на экранах многіх тэлеканалаў СНД можна было ўбачыць гэты эпахальны для рэжысёра і галіны рэкламны твор.

Вядомы амерыканскі рэжысёр Дэвід Фінчэр увесь час браўся за праекты, якія Р. Скот лічыў камерцыйна нявыгаднымі, і дамагаўся поспеху. Сваю кар'еру пачынаў з рэкламы і музычных кліпаў. Асаблівая, крыху змрочная манера вылучае яго работы сярод тысяч аналагічных. Знакаміты трылер "Сем" і кінаманіфест "Байцоўскі клуб" адкрылі новыя тэмы і новыя кірункі для амерыканскага кінематографа, дадаўшы экспрэсіўнасці кадру і кінатвору ў цэлым. Гэта яшчэ раз падкрэслівае асаблівую ролю мастака і яго светапогляду ў сучасным рэкламным бізнесе. "Вялікае кіно" дае магчымасць творцу рэалізаваць больш задум. Аднак паспрабаваць новую методыку, тэхнічныя рашэнні можна толькі ў рэкламе. Нездарма Д. Фінчэр захаваў сваю схільнасць да рэкламы. "Усё ж такі палёт візуальнай думкі ў рэкламных і музычных кліпах для мяне значна больш шырокі – у кіно большая колькасць абмежаванняў, што накладваюцца прадзюсерамі, сцэнарыстамі і іншымі ўдзельнікамі здымачнага працэсу" [7]. Шэраг паспяховых работ, і Фінчэр зрабіў паўзу – вярнуўся ў рэкламны бізнес. Яму спатрэбілася адчуць подых жыцця, новых ідэй, якіх так не хапае ў сучасным кіно, асабліва амерыканскім.

Новая ідэалогія канцэрна "BMW", распрацаваная Крысам Бэнглам, у 2001 г. выклікала скандал у аўтамабільным бамондзе. Адкрыта правакацыйная стылістыка дазволіла аднаму з самых вядомых нямецкіх аўтамабільных вытворцаў справіцца з праблемай сталых брэндаў – недахопам прытоку новых маладых кліентаў. Маштабны рэкламны праект, што па-новаму прадстаўляў новую мадэль аўтамабіляў і ўпершыню выкарыстоўваў інтэрнэт, быў даручаны Д. Фінчэру. Для стварэння так званых лайнфільмаў ён прыцягнуў маладых, таленавітых і здольных на правакацыю кінарэжысёраў з усяго свету. Адзін пералік імёнаў і работ дае разуменне, якім нестандартным і цікавым стаў гэты праект: Энг Лі (Ang Lee), які зняў стужку "Тыгр, што крадзецца, нябачны дракон", Гай Рычы (Guy Ritchie), аўтар фільмаў "Карты, грошы, два ствалы", "Вялікі куш", Вонг Кар Вай (Wong Kar Wai), рэжысёр "Любоўнага настрою", Александра Гансалес Іньярыту (Alejandro Gonzalez Iñárritu), правакатар-стваральнік карціны "Сука-каханне", і Джон Франкенхаймер (John Frankenheimer), які зняў "Востраў доктара Маро" і "Роніна".

Серыя кароткаметражных рэкламных відэафільмаў выклікала рэакцыю, не меншую за новую стратэгію баварцаў. Рэкламісты стварылі

новую плынь у кінарэкламе. Іх працы гарманічна спалучалі рысы кароткаметражнага кіно і камерцыйнага роліка: гэта было кіно, якое прадавала аўтамабілі. Рэклама на мяжы мастацтва. Трэба заўважыць, што прэм'ера "The Follow" Вонга Кар Вая адбылася ў рамках Канскага кінафестывалю. Уся серыя відэафільмаў у 2003 г. заняла месца сярод экспанатаў знакамітага Музея сучаснага мастацтва ў Нью-Йорку. Поспеху сярод крытыкі спрыяў і поспех камерцыйны: праз два гады продажы "BMW" узраслі на 74%.

Ступень развіцця і ўзаемны ўплыў сучасных кінамастацтва і рэкламы дасягнулі такога ўзроўню, што гэта стымулюе тэхналагічны працэс. Дастаткова ўзгадаць апошнюю работу Дэвіда Фінчэра "Гісторыя Бенжаміна Батана", якая дэманструе гледачу новы спектр сучасных тэхналогій. Нагадаю, што галоўны герой, якога іграе Брэд Піт, пражывае жыццё наадварот – з цягам часу маладзее. Зняць падобнае можна было толькі дзякуючы працэсу накладання камп'ютэрнай мадэлі твару акцёра на рэальных статыстаў. Магчымасці такой тэхналогіі Фінчэр ацаніў у час працы над рэкламным ролікам папулярнага ў ЗША брэнда папкорну.

Сучасная тэлевізійная рэклама з'яўляецца не толькі дзейсным сродкам маркетынгу, які рэгулюе маёмасныя адносіны паміж суб'ектамі. Рэклама фарміруе пэўнае ўнутранае аблічча брэнда ці канкрэтнага тавару, пабуджае гледача да канкрэтнага дзеяння і ўплывае на эмацыянальны настрой. Беларускі рэкламны рынак яскрава дэманструе як пазітыўны, так і негатыўны бакі. Станоўчы момант заключаецца ў дынаміцы росту высакаякаснай рэкламнай прадукцыі, што ствараецца айчыннымі брэндамі ў супрацоўніцтве з найлепшымі беларускімі рэкламістамі. Негатыўнае ўспрыманне гледачом сучаснай тэлерэкламы выклікана перш за ўсё непрафесійным менеджментам кампаній і нізкім мастацкім узроўнем работ. Чалавек будзе ўважліва глядзець рэкламны ролік некалькі разоў і не пераключыцца толькі ў тым выпадку, калі чарговы сеанс здольны ініцыіраваць у яго розуме думку: "А я гэтага раней не бачыў ці не заўважыў!"

Такім чынам, прагляд рэкламных ролікаў можа прынесці эстэтычнае задавальненне, але толькі пры выкананні аўтарскім калектывам шэрага ўмоў: найноўшыя тэхналагічныя рашэнні, новы падыход да рэалізацыі, дастатковы бюджэт і нестандартная ідэя. Менавіта гэта нас цікавіць і ў кінематографе. Блізкасць патрабаванняў, пры якіх ствараецца добрая рэклама і высакаякасны кінафільм, а таксама дасягаецца станоўчая рэакцыя аўдыторыі, дазваляе паставіць паміж імі знак тоеснасці ў сучасным мастацтве.




**Прыклад тэлерэкламы, выкананай беларускімі аўтарамі на недастатковым мастацкім узроўні.**


**Спіс літаратуры**

1. **Никольский, С.** Интервью с Юрием Грымовым / С. Никольский // Авторский портал Ю. Грымова [Электронный ресурс]. – 31.11.2005. – Режим доступа : http://grimov.ru/content/view/99/116/. – Дата доступа : 24.04.2009.
2. **Баве, К. Л.** Современная реклама / К. Л. Баве; пер. с англ.; гл. ред. О. А. Феофанова. – Тольятти : Изд. дом "Довгань", 1995.
3. **Кулешова, М.** Методы рекламного воздействия / М. Кулешова // Портал Advertology [Электронный ресурс]. – 01.07.2005. – Режим доступа : http://www.advertology.ru/ article16008.htm. – Дата доступа : 23.04.2008.
4. **Кириллов, М.** Реклама – двигатель поколения / М. Кириллов // Деловая газета "Взгляд" [Электронная версия печатного издания]. – 17.02. 2008. – Режим доступа : http://www.vz.ru/culture/2008/2/17/145287.html. – Дата доступа : 17.02.2008.
5. **Васильев, С.** Режиссёр Ян Кунен : «Реклама убьёт кино» / С. Васильев // Агенство "MigNews" [Электронное средство массовой информации]. – 17.07.2008. – Режим доступа : http://www.mignews.com/print/170708_105337_89944.html. – Дата доступа : 23.04.2009.
6. **Кончаловский, А.** Возвышающий обман / А. Кончаловский. – М. : Изд. дом "Совершенно секретно", 1998. – С. 184.
7. **Дэвид Финчер** : справочный материал // Wikipedia – свободная энциклопедия [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://ru.wikipedia.org/wiki/Финчер,_Дэвід. – Дата доступа : 30.09.2009.
8. **Мухаметов, М.** Рекламная кампания, которая изменила весь интернет / М. Мухаметов // Портал рекламы adme.ru [Электронный ресурс]. – 03.10.2007. – Режим доступа : http://www.adme.ru/kreativnyj-obzor/bmw-films-legendarnaya-kampaniya-izmenivshaya-internet-20480. – Дата доступа : 24.11.2009.



**Дзмітрый КОСЦІН,**
аспірант Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў,
загадчык аддзела рэпарцёраў Агенцтва тэленавін
Нацыянальнай дзяржаўнай
тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь.

*Мастацтва ў кантэксце часу*

# ВЫЗНАЧЭННЕ ФОТАГРАФІКІ Ў ДЫЗАЙНЕ

У артыкуле дадзены вызначэнні тэрміна *фотаграфіка* з пункту гледжання мастацтва фатаграфіі і дызайну; гісторыя фотавыяў у графічным дызайне; высветлены фактары, умовы і сферы існавання фотаграфікі з мэтаю выяўлення яе утылітарнага прызначэння.

Тэрмін *фотаграфіка* ў наш час мае некалькі значэнняў і часцей за ўсё выкарыстоўваецца і разумеецца ў кантэксце пэўнага выказвання ці інтуітыўна. У сувязі з гэтым узнікае неабходнасць аналізу сэнсаў, што ўкладаюцца ў названае паняцце. Праблема фотаграфікі часткова даследавалася айчыннымі і замежнымі аўтарамі [1 – 20].

Першапачаткова тэрмін *фотаграфіка* з'явіўся ў фатаграфіі. Польска-беларускі фатограф Ян Булгак выкарыстоўваў яго ў сваіх кнігах "Фотаграфіка. Апісанне мастацкай фатаграфіі" (1931) і "Эстэтыка святла. Асновы фотаграфікі" (1936) для абазначэння мастацкага кірунку фатаграфіі ў адрозненне ад бытавога, дакументальнага і навуковага [3, с. 22]. У 1971 г. у Мінску прайшла першая выстава мастацкай фатаграфіі "Фотаграфіка'71" [3, с. 24]. У шырокім сэнсе ў фатаграфіі пад фотаграфікай разумеецца мастацкі кірунак.

Больш вузкае значэнне даследаванага тэрміна ў фатаграфіі – гэта сума ўсіх спецыяльных тэхнік здымкі і апрацоўкі фотаматэрыялу. Такім чынам, любая фатаграфія, знятая ці надрукаваная незвычайным чынам, адносіцца да фотаграфікі [5, с. 92]. Існуе меркаванне, што фотаграфіка ў фатаграфіі павінна мець некаторыя прыкметы традыцыйнай мастацкай графікі, гэта значыць пераважанне ліній і некаторае скарачэнне колькасці танальных пераходаў на выяве – быць "графічнай". Аднак такая ўмова не з'яўляецца абавязковай і хутчэй адлюстроўвае творчае бачанне асобных фотамастакоў.

У дызайн тэрмін *фотаграфіка* трапіў са сферы фатаграфіі і фіксуецца з канца 1970 – пачатку 1980-х гг. Ён застаецца паўафіцыйным і выкарыстоўваецца толькі вузкімі спецыялістамі. Такім чынам, у дызайне не склалася выразнага азначэння паняцця фотаграфікі, якое таксама мае шырокае і вузкае значэнні.

Самым шырокім з'яўляецца разуменне фотаграфікі як спосабу камунікацыі. Гэта адзін са спосабаў перадачы інфармацыі праз візуальныя вобразы, атрыманыя фіксаваннем выяў прадметаў на святлоадчувальных матэрыялах пры дапамозе адлюстраванага ці выпраменненага гэтымі прадметамі святла, з выкарыстаннем фотаапаратуры і апрацаваныя спецыяльным спосабам (хімічным і / ці электронным – у адпаведнасці з мэтамі ўздзеяння), дапоўненыя ў большасці выпадкаў вербальным складнікам; яны распаўсюджваюцца з дапамогаю розных каналаў перадачы дадзеных, на розных носьбітах інфармацыі.

Існуе досыць шырокае вызначэнне фотаграфікі як сферы графічнага дызайну, заснаванай на сінтэзе фатаграфіі, тэксту і малюнка. Фатаграфія выступае неабходнай часткай гэтага сінтэзу, у той час як тэкст і малюнак могуць адсутнічаць.

Больш вузкім з'яўляецца разуменне фотаграфікі як спецыфічнага сродку графічнага дызайну – выяўленча-выразнай і тэхнічнай прылады для ўвасаблення задумы дызайнера. Аднак у гэтым выпадку нельга атаясамліваць фотаграфіку і фатаграфію. Апошняя з'яўляецца адным з базавых унітарных сродкаў графічнага дызайну, тады як фотаграфіка – гэта комплексны сродак больш высокага ўзроўню, што спалучае ў сабе фатаграфію, малюнак і тэкст. Наяўнасць і дамінаванне фатаграфіі пры выбары выяўленча-выразнага рашэння – адметная рыса фотаграфікі як сродку графічнага дызайну.

Самае вузкае ўспрыманне фотаграфікі – спецыфічная тэхніка апрацоўкі фотавыяў для пэўных мэт графічнага дызайну. У гэтым сэнсе даследаваны тэрмін у дызайне сугучны сваіму значэнню ў фатаграфіі, дзе разумеецца як фотавыява, што валодае "графічнасцю" традыцыйнай мастацкай графікі.

Фотаграфікай у дызайне называюць таксама спосаб дэкарыравання прадуктаў і аб'ектаў розных сфер вытворчасці, якія выкарыстоўваюць дэкаратыўна-прыкладныя магчымасці фатаграфіі.

Такім чынам, незалежна ад таго, у якім значэнні ўжываецца тэрмін, без фотавыявы фотаграфіка не існуе.

У нашым артыкуле тэрмін *фотаграфіка* разглядаецца як сродак графічнага дызайну, заснаваны на комплексным спалучэнні фатаграфіі, малюнка і тэксту, для вытворчасці канчатковага прадукту, што змяшчае фотавыяву ў пэўным выглядзе. Неабходнай умовай для аднясення якога-небудзь малюнка, аб'екта, паведамлення і г. д. да фотаграфікі з'яўляецца абавязковая утылітарная нагрузка, гэта значыць пэўная мэта(ы) (камерцыйная, функцыянальная, пазнавальная і г. д.), дзеля якой яны ўжываюцца, а не толькі наяўнасць эстэтычнай значнасці ці прывабнасці, як у сферы мастацкай творчасці.

Протаперыядам фотаграфікі можна назваць выкарыстанне фотаздымкаў з тлумачальнымі подпісамі на мяжы XIX – XX стст. у паліграфіі ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу для газет, часопісаў і г. д.

Наступным этапам стала выкананне фотамантажу пры афармленні выстаў, кніг, рэкламы і паліграфічнай прадукцыі ў 1920 – 1930-я гг. Фотамантажныя доследы ў нямецкім Баўхаузе, а таксама працы канструктывістаў у СССР можна лічыць з'яўленнем фотаграфікі ў тым выглядзе, у якім яна існуе і сёння.

Першым у СССР фотамантаж стаў рабіць А. Родчанка [16, с. 86]. Вялікі ўклад у станаўленне гэтай з'явы ўнеслі таксама Э. Лісіцкі, Г. Клуцыс, С. Сенькін, А. Лавінскі, А. Сямёнава, У. і Г. Стэнбергі, В. Елкін, Н. Пінус, В. Кулагіна і інш. [17, с. 190].

Пераход ад статычнага візуальнага мастацтва да формы агляднай камунікацыі, створанай дзякуючы рэдагаванню фільмаў ці фатаграфій, прадказаў Л. Махой-Надзь [19, с. 99]. Ён назваў спалучэнне слова і выявы, выкананай пры дапамозе механічных сродкаў, *тыпафотай*. "Што ёсць тыпафота? Тыпаграфіка – гэта камунікацыя, заснаваная на шрыфце. Фатаграфія – гэта візуальнае ўяўленне таго, што можа быць аптычна схоплена. Тыпафота – гэта візуальна найбольш дакладнае выкананне камунікацыі" [19, с. 100]. Л. Махой-Надзь аказаў значны ўплыў на развіццё фотаграфікі не толькі ў Германіі, але і ў іншых краінах Заходняй Еўропы.

Выкарыстанне фотамантажу ў паліграфіі ў першай трэці XX ст. у значнай меры было абмежавана недаступнасцю новых тэхналогій у той ці іншай краіне. Стрымлівальным фактарам з'яўляўся і агульны культурны фон, які не спрыяў новай, досыць жорсткай і агрэсіўнай для непадрыхтаванага гледача тэхніцы. Толькі папулярная прэса, такая, як спартыўныя часопісы, часопісы для моладзі, выданні прыгодніцкіх раманаў і турыстычныя брашуры, выкарыстоўвала ў афармленні фотамантаж [20, с. 172].

Фотаграфіка СССР у гады Другой сусветнай вайны практычна не развівалася. Галоўным чынам гэта было звязана са складанасцямі тэхналагічнага працэсу, а таксама з вялікімі эканамічнымі выдаткамі.

У 1950-я гг. у агульнасусветных тэндэнцыях эканамічнага і культурнага развіцця стаў распаўсюджвацца дух касмапалітызму. Узраслі патрабаванні да хуткасці і якасці камунікацый, камунікатыўнай выразнасці. З'явілася патрэба ў простых фатаграфіях, якія дазвалялі б з большай лёгкасцю разумець і засвойваць інфармацыю людзям розных краін і нацыянальнасцей. На рашэнне падобных задач у гэты час быў накіраваны графічны дызайн у Заходняй Еўропе.

Па прычыне фактычна поўнай адсутнасці камерцыйнай рэкламы заходняга ўзору ў той жа час у СССР фотаграфіка перажывала перыяд заняпаду ў параўнанні з 1920 – 1930-мі гг. Яе інтэнсіўнае выкарыстанне ў СССР пачалося толькі ў канцы 1970 – пачатку 1980-х гг.

З пункту гледжання тэхналогіі з 1920 і да 1990-х гг. рэвалюцыйных змен у сферы фотаграфікі не адбывалася. Яна была заснавана на аналагавай фатаграфіі, што прадугледжвала стварэнне негатыва ці пазітыва на фатаграфічным матэрыяле, які затым праходзіў неабходныя этапы ў паліграфічным цыкле. Прарыў фотаграфікі пачаўся з развіццём і распаўсюджваннем лічбавай фатаграфіі, якая паступова стала выцясняць аналагавую. Сапраўды масавае выкарыстанне фотаграфікі стала магчымым са з'яўленнем камп'ютэрных праграм для апрацоўкі выяў у 1990-я гг. Хуткасць атрымання такіх выяў у большасці выпадкаў узрастае, пры гэтым тэхналагічны працэс спрашчаецца.

Інтэнсіўная эксплуатацыя фотаграфікі ў шматлікіх сферах вытворчасці Беларусі ў апошнія дваццаць гадоў можа быць растлумачана з наступных пазіцый: эканамічнай, культурнай і тэхніка-тэхналагічнай. У канцы 1980 – пачатку 1990-х гг. у краіне склалася сітуацыя, калі трансфармацыя эканамічнай сістэмы пацягнула за сабою сур'ёзную пераарыентацыю прынцыпаў, на якіх грунтавалася вытворчасць. Адным са сродкаў барацьбы за спажыўца стала павышэнне канкурэнтаздольнасці прадукцыі. Важным элементам якасных паказчыкаў канкурэнтаздольнасці тавару з'яўляецца яго ўпакоўка. Яе камунікатыўныя функцыі адкрываюць вялікія перспектывы для выкарыстання фотаграфікі: чалавек, які не валодае моваю суправаджальнай інфармацыі, лёгка разумее фотавыяву. Своечасова ўжытая фатаграфія можа спрыяць зніжэнню выдаткаў у сферы прасоўвання тавару.

Яшчэ адным фактарам, які садзейнічаў папулярызацыі фотаграфікі, стала шырокае пранікненне на пачатку 1990-х гг. на тэрыторыю Беларусі заходняй рэкламы, што валодала багатым візуальным радам. З культурнага пункту гледжання падобная рэклама была ў насельніцтва крыніцай новых эталонаў успрымання. Многія прадпрымальнікі на першым этапе выкарыстання такой фотаграфікі пачалі пераймаць замежныя ўзоры. Потым у іх з'явілася неабходнасць і магчымасць адаптацыі атрыманага вопыту да сваіх спецыфічных патрэб. Аднак усё гэта не мела б рэалізацыі, калі б не развіццё тэхнікі і тэхналогіі ў сферах фатаграфіі, паліграфіі, камунікацыйных і камп'ютэрных сістэм.

Аб'ектыўныя фактары, што могуць растлумачыць прысутнасць у графічным дызайне фота-

графікі, у поўнай меры не з'яўляюцца гарантамі развіцця гэтага кірунку. Неабходна ўзнікненне ўмоў, пры якіх выкарыстанне фотаграфікі становіцца апраўданым і мэтазгодным.

1. *Павышэнне канкурэнтаздольнасці прадукцыі*. Камерцыйнае выкарыстанне фотаграфікі ў графічным дызайне найбольш яскрава выяўляецца ў рэкламе, бо:

– дазваляе стварыць выяву рэкламнага аб'екта, дзе ён будзе такім, якім з'яўляецца насамрэч;

– з дапамогай розных прыёмаў можна надаць рэкламнаму аб'екту адметныя характарыстыкі, якія на самай справе могуць існаваць або не існаваць;

– тэкст дае магчымасць сфарміраваць, апроч візуальнай, вербальную камунікацыю, што палягчае данясенне сэнсу рэкламнага паслання да патэнцыйнага спажыўца.

У выпадках выкарыстання фотаграфікі на аб'ектах, якія традыцыйна не ўваходзяць у сферу графічнага дызайну, павялічваецца канкурэнтаздольнасць тавару за кошт яго прыстасавання да пэўных эстэтычных патрэб спажыўца; дзякуючы тэхналагічна даступным сродкам стандартызаваныя прадметы разнастаяцца вонкавым дэкарыраваннем.

2. *Наяўнасць прафесійных дызайнераў і фатографаў*, бо любая дзейнасць сыходзіць ад суб'ектаў, якія яе ажыццяўляюць.

3. *Фарміраванне нацыянальнай школы фотаграфікі*. Прымаючы да ўвагі фармальную прыкмету наяўнасці школы, а менавіта існаванне ў краіне навучальнай установы, дзе рыхтуюць спецыялістаў падобнага кірунку, можна сцвярджаць, што ў Беларусі створаны перадумовы для фарміравання нацыянальнай школы фотаграфікі. Так, у 2008 г. Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў ажыццявіла першы выпуск студэнтаў па спецыяльнасці "Фотаграфіка". Задоўга да гэтага тут вялася падрыхтоўка спецыялістаў па графічным дызайне, якія часткова вывучалі і фотаграфіку.

Аднак сёння цяжка выявіць пэўныя адметныя нацыянальныя рысы беларускай фотаграфікі, а таму нельга сказаць, што ў Беларусі сфарміравалася свая школа; на сучасным этапе яна, хутчэй, праходзіць шлях свайго станаўлення і ідэнтыфікацыі. Адсутнічаюць лідэр школы і яго вучні, прызнаныя як у самой краіне, так і за мяжой, навукова-абгрунтаваная метадалогія навучання, дастатковая колькасць публікацый, спецыялізаваныя выставы, немагчыма выявіць закончаныя фазы развіцця школы, яе дасягненні, і, самае галоўнае, няма міжнароднага прызнання дзеячаў і іх поспехаў у сферы фотаграфікі.

4. *Наяўнасць заказчыка*. Гэтая ўмова звязана з мэтай стварэння фотаграфічнага паведамлення, у залежнасці ад якой адна і тая ж інфармацыя можа быць візуалізавана рознымі спосабамі. Заказчык абгрунтоўвае, што, каму, як і навошта неабходна паведаміць, гэта значыць вызначае мэтавую аўдыторыю. Менавіта заказчык сваім рашэннем накладвае абмежаванні на выразныя сродкі, якімі будзе карыстацца дызайнер. Такім чынам, асноўныя складнікі паведамлення фотаграфікі – змест (прадмет і / ці аб'ект паведамлення) і фармальна-дынамічныя характарыстыкі (тэхнічныя, мастацкія, графічныя, тэкставыя і іншыя сродкі афармлення асноўнай інфармацыі) – будуць падладжвацца пад пэўныя патрабаванні.

5. *Наяўнасць даступных матэрыялаў і абсталявання*. Тэхніка-тэхналагічныя патрабаванні, якія прад'яўляюцца да матэрыялаў і абсталявання, перажываюць змены ў часе, аднак іх адсутнасць робіць немагчымым выкарыстанне фотаграфікі.

6. *Наяўнасць заканадаўчай базы, якая рэгулюе дзейнасць у дадзенай галіне і спадарожных сферах*. Напрыклад, Грамадзянскі кодэкс Рэспублікі Беларусь, Закон Рэспублікі Беларусь "Аб аўтарскім праве і сумежных правах", Закон Рэспублікі Беларусь "Аб рэкламе" і іншыя заканадаўчыя і нарматыўна-прававыя акты.

7. *Наяўнасць каналаў абмену і перадачы інфармацыі як сярод прафесійнай супольнасці (напрыклад, фотабанкі), так і для камунікацыі з навакольным асяроддзем*. Дадзеная ўмова спрыяе развіццю эстэтычных густаў і этычных якасцей удзельнікаў абмену, павялічваючы агульную эфектыўнасць абменаў за кошт натуральнага вывядзення са звароту ўзораў, а таксама мадэлей паводзін, якія не з'яўляюцца прымальнымі па тых ці іншых крытэрыях.

Фотаграфіка можа выкарыстоўвацца ва ўсіх сферах, характэрных для графічнага дызайну, а таксама там, дзе яна мае дэкаратыўна-прыкладное значэнне. Паводле гэтага можна вызначыць наступныя сферы ўжывання фотаграфікі:

1. Рэклама.
2. Паліграфічная прадукцыя.
3. Упакоўка.
4. Кніжны дызайн.
5. Плакат.
6. Віртуальнае асяроддзе (сайты, камп'ютэрныя гульні, фактуры для кінавытворчасці і інш.).
7. Тэлебачанне (афармленне заставак, студый і г. д.).
8. Архітэктурнае асяроддзе (рэклама ў інтэр'еры і экстэр'еры, афармленне фасадаў будынкаў, вітрын, святочнае афармленне горада і інш.).
9. Адзенне і абутак.
10. Керамічныя і шкляныя вырабы (посуд, санітарная кераміка, дэкаратыўныя вырабы, лямпы, падстаўкі і інш.).
11. Выраб сувенірнай прадукцыі (майкі, кубкі, талеркі, паштоўкі, календары, запальніцы, торбы і інш.).
12. Тэкстыльная прамысловасць.

13. Афармленне мэблі і інтэр'ераў (мэбля, аксесуары, вітрыны, фасады, нанясенне фотавыяў на будаўнічыя і дэкаратыўныя матэрыялы і інш.).

14. Кандытарская прамысловасць (фотаторты, шакалад, карамель, цвёрдыя цукровыя вырабы і інш.).

Дадзены пералік сфер выкарыстання фотаграфікі нельга лічыць вычарпальным.

Такім чынам, тэрмін *фотаграфіка* запазычаны тэорыяй графічнага дызайну з фатаграфіі. Як у фатаграфіі, так і ў дызайне ён не мае адназначнага прачытання. Да цяперашняга часу ў дызайне ён не замацаваўся і часцей за ўсё падаецца і разумеецца ў кантэксце выказвання або інтуітыўна.

Развіццё фотаграфікі як сродку графічнага дызайну было абумоўлена тэхналагічнымі, эканамічнымі і культурнымі зменамі ў грамадскім жыцці, якія адбываліся ў пачатку XX ст. Фотаграфіка стала натуральным працягам тэхнікі фотамантажу, што развівалася савецкімі канструктывістамі і нямецкім Баўхаузам. Імі ж былі ўпершыню асэнсаваны тэарэтычныя і практычныя магчымасці фотаграфікі як спосабу камунікацыі. Далейшае развіццё фотаграфікі злучана з тэхнічным і тэхналагічным развіццём фатаграфіі і паліграфіі, а таксама фарміраваннем эканамічнага і сацыяльнага заказу з боку камерцыйных і некамерцыйных арганізацый. Больш інтэнсіўнае ўжыванне фотаграфіка знайшла ў краінах з рыначнай эканомікай, што было абумоўлена ўзнікненнем грамадства спажывання, якое мела патрэбу ў эфектыўных сродках стварэння культурных знакаў.

Інтэнсіўнае выкарыстанне фотаграфікі ў шматлікіх сферах вытворчасці ў апошнія дваццаць гадоў, а ў Беларусі – у апошнія дзесяць гадоў, можа быць растлумачана істотнымі зменамі ў эканамічным і культурным жыцці, а таксама імклівым развіццём лічбавых і камп'ютэрных тэхналогій стварэння, апрацоўкі і распаўсюджвання фотавыяў.

### Спіс літаратуры


1. **Арамян, Г. Л.** Проблемы функционирования визуального текста в графическом дизайне : автореф. … дис. канд. искусствоведения : 17.00.06. / Г. Л. Арамян; ВНИИТЭ Гос. ком-та СССР по науке и технике. – М., 1979. – 16 с.

2. **Бергер, А. А.** Видеть – значит верить. Введение в деятельную коммуникацию : [пер. с англ.] / А. А. Бергер. – М. : Вильямс, 2005. – 288 с.

3. **Васильев, Ю. С.** Из истории фотографии в Беларуси. Традиции и тенденции развития / Ю. С. Васильев // Фотография в пространстве искусства : материалы Междунар. науч.-практ. конф., Минск, 24 окт. 2008 г. / Белорус. гос. академия искусств, Ин-т им. Гёте в Минске, Польский ин-т в Минске, Посольство Франции в Республике Беларусь; редкол. : Е. Я. Кенигсберг [и др.]. – Минск : Ин-т им. Гёте в Минске, 2009. – С. 18 – 26.

4. **Овчинникова, Р. Ю.** Дизайн в рекламе. Основы графического проектирования : учеб. пособие для вузов / Р. Ю. Овчинникова; под ред. Л. М. Дмитриевой. – М. : Юнити-Дана, 2009. – 239 с.

5. **Курушин, В. Д.** Графический дизайн и реклама : самоучитель / В. Д. Курушин. – М. : ДМК-пресс, 2001. – 270 с.

6. **Лежанская, П. В.** Некоторые культурно-информационные аспекты фотографики / П. В. Лежанская // Наука и образование в условиях социально-экономической трансформации общества : материалы XIII Междунар. науч.-практ. конф., Минск, 15 апреля 2010 г. / ЧУО "Ин-т современных знаний им. А. М. Широкова"; редкол. : В. А. Мищенко (пред.) [и др.]. – Минск : Современные знания, 2010. – С. 213 – 216.

7. **Лежанская, П. В.** Социально-экономические особенности дизайна в Беларуси / П. В. Лежанская // Управление в социальных и экономических системах : материалы XVII Междунар. науч.-практ. конф., Минск, 2 – 6 июня 2008 г. / Минский ин-т управления; редкол. : Н. В. Суша (пред.) [и др.]. – Минск : Изд-во МИУ, 2008. – С. 296 – 298.

8. **Лежанская, П. В.** Фотографика в рекламе / П. В. Лежанская // Культура. Наука. Творчество : материалы II Междунар. науч.-практ. конф., Минск, 10 – 11 апр. 2008 г. / Министерство культуры Республ. Беларусь, Белорус. гос. академия музыки, Белорус. гос. академия искусств, Белорус. гос. ун-т культуры и искусств, Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора им. К. Крапивы НАН Беларуси, Национал. художествен. музей Беларуси; редкол. : В. И. Кураш (пред.) [и др.]. – Минск : Бел. гос. академия музыки, 2008. – С. 801 – 804.

9. **Лежанская, П. В.** Фотографика как объект теоретического исследования / П. В. Лежанская // Фотография в пространстве искусства : материалы Междунар. науч.-практ. конф., Минск, 24 окт. 2008 г. / Белорус. гос. академия искусств, Ин-т им. Гёте в Минске, Польский ин-т в Минске, Посольство Франции в Республ. Беларусь; редкол. : Е. Я. Кенигсберг [и др.]. – Минск : Ин-т им. Гёте в Минске, 2009. – С. 55 – 58.

10. **Матусевич, В. В.** Принципы и методы фотографики в рекламном и графическом дизайне : автореф. … дис. канд. технич. наук : 17.00.06. / В. В. Матусевич; Московский гос. ун-т им. А. Н. Косыгина. – М., 2005. – 16 с.

11. **Мжельская, Е. Л.** Редакторская подготовка фотоизданий : учеб. пособие / Е. Л. Мжельская. – М. : Аспект-пресс, 2005. – 112 с.

12. **Павловская, Е. Э.** Дизайн рекламы. Поколение NEXT : Стратегия творч. проектирования / Е. Э. Павловская. – СПб. : Питер-принт, 2003. – 318 с.

13. **Пронин, С.** Рекламная иллюстрация : креативное восприятие / С. Пронин. – М. : Бератор-Пресс, 2003. – 144 с.

14. **Розин, В. М.** Визуальная культура и восприятие. Как человек видит и понимает мир / В. М. Розин. – М. : Едиториал УРСС, 2004. – 224 с.

15. **Тимофеев, Г. С.** Графический дизайн / Г. С. Тимофеев, Е. В. Тимофеева. – Ростов н/Д : Феникс, 2002. – 314 с.

16. **Фоменко, А.** Монтаж, фактография, эпос : производственное движение и фотография / А. Фоменко. – СПб. : Изд-во С.-Петерб. ун-та, 2007. – 374 с.

17. **Хан-Магомедов, С. О.** Пионеры советского дизайна / С. О. Хан-Магомедов. – М. : Галарт, 1995. – 423 с.

18. **Черневич, Е. В.** Язык графического дизайна. Материалы к методике художественного конструирования / Е. В. Черневич. – М. : ВНИИТЭ, 1975. – 138 с.

19. **Aynsley, J.** Graphic design in Germany 1890 – 1945 / J. Aynsley. – Berkeley and Los Angeles : University of California Press, 2000. – 240 p.

20. **Jankevičiūtė, G.** Lietuvos grafika. The Graphic Arts in Lithuania 1918 – 1940 / G. Jankevičiūtė. – Vilnius : E. Karpavičiaus leidykla, 2008. – 240 p.



**Паліна ЛЯЖАНСКАЯ,**
выкладчык кафедры тэорыі і гісторыі дызайну Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.


*Артыкул рэкамендаваны да друку кандыдатам філасофскіх навук В. І. Каламійцам.*

*Светлай памяці*

# З ЛЮБОЎЮ ДА МУЗЫКІ

На зыходзе вясны ў рэдакцыю часопіса прыйшла сумная вестка: айчынная культура страціла таленавітую асобу, чалавека светлай душы, высокай эрудыцыі і інтэлігентнасці. Заўчасна пайшоў з жыцця Радзівон Глебаў, кампазітар, аўтар твораў розных музычных жанраў – ад песні да араторыі.

Радзівонам Глебавым напісаны прэлюдыі, санаты, п'есы для фартэпіяна, варыяцыі, рондa… Найбольшую вядомасць атрымалі саната для фартэпіяна (1988), сімфанічныя варыяцыі для вялікага сімфанічнага аркестра (1988), босанова для эстраднага ансамбля (1996), фантазія для аркестра "З любоўю да музыкі" (2003), песня на верш Лявона Вольскага "Зімовая дарога" ў аранжыроўцы Дзмітрыя Даўгалёва (1989). Адзін са знакавых твораў кампазітара – араторыя "Быў. Ёсць. Буду…", прысвечаная Уладзіміру Караткевічу.

Разам з бацькам, славутым беларускім кампазітарам, народным артыстам Беларусі і СССР, прафесарам Яўгенам Глебавым, была напісана музыка да спектакля Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч" "Мой маленькі прынц" (рэжысёр Галіна Дзягілева). Двума магутнымі талентамі, сынам і бацькам Глебавымі, створана "Урачыстая уверцюра" для вялікага сімфанічнага аркестра і аргана. А сваю сімфанічную паэму (1989) Радзівон Глебаў з павагай і ўдзячнасцю прысвяціў бацьку.



**Радзівон Глебаў (12.04.1966 – 30.05.2010).**

Радзівон Глебаў напісаў таксама музыку да васьмі кінафільмаў: "Маскоўская сувязь", "Апёк", "Камчатка – апошні рубеж", "Асенні дэтэктыў" і інш.

Музыка Радзівона Глебава, адметная светлай самотай, надзеяй і радасцю, філасофскім роздумам пра жыццё, глыбока пранікае ў душу і не можа пакінуць раўнадушным.

Апошнія гады кампазітар займаўся сістэматызацыяй творчай спадчыны Яўгена Глебава. Наперадзе было шмат планаў і мар, якія, на вялікі жаль, не паспелі спраўдзіцца. Не вытрымала сэрца, якому за такое кароткае жыццё давялося ўвабраць і радасць, і боль, і расчараванне…

Аднак засталася творчасць Радзівона Глебава, сапраўднага кампазітара, засталіся яго любімыя "ноткі", якія, як гаварыў яму бацька, "ніколі не схлусяць і не здрадзяць", засталася памяць блізкіх і сяброў…

**Роднасловаўцы.**




**Партытуры (рукапісы) Радзівона Глебава.**

# ЗІМОВАЯ ДАРОГА

Словы **Лявона Вольскага**

Музыка **Радзівона Глебава**

**Andante**

Canto

Бя - жыць зі - мо - ва - я да - ро - га праз бе - лы, стом - ле - ны су - свет.
ры ма - е ця - пер да - лё - ка, ды я іх чу - ю га - ла - сы.

Ры - пяць у хруст - кім сне - зе кро - кі, ры - пяць у хруст - кім сне - зе кро - кі, і
Я пом - ню лет - ні - я да - ро - гі, я пом - ню лет - ні - я да - ро - гі, я

ве - цер за - мя - та - е след. Не грэ - е стом - ле - на - е сон - ца, і
пом - ню цёп - лы - я ля - сы. Я пом - ню по - ста - ці і тва - ры, я

снег кла - дзец - ца на да - лонь. Бя - жыць зі - мо - вы шлях бяс - кон - цы, бя -
пом - ню яс - ны - я аг - ні. І па - мяць зноў - ку не - заў - важ - на, і

жыць зі - мо - вы шлях бяс - кон - цы пад бе - лым со - неч - ным свят - лом, пад
па - мяць зноў - ку не - заў - важ - на мя - не вяр - та - е ў ты - я дні, мя -

бе - лым со - неч - ным свят - лом. 2.Сяб // дні. 3.Ры пяць у хруст - кім сне - зе
не вяр - та - е ў ты - я //

кро - кі, і ве - цер за - мя - та - е след. Бя - жыць зі - мо - ва - я да -

ро - га, бя - жыць зі - мо - ва - я да - ро - га, ва - кол – за - сне - жа - ны су -

свет, ва - кол – за - сне - жа - ны су - свет...

Установа «Рэдакцыя часопіса “Роднае слова”». Заснавальнік – Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар часопіса 561.
220035, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 47, кор. 1, пад’езд 2 (уваход з вул. Гвардзейскай, код на ўваходзе: 43 + званок).
Р/р № 3015702170012 у аддзяленні № 527 ААТ “Белінвестбанк” г. Мінска, код 739, УНН 190241571, ОКПО 37551965.

*Тэлефоны:* галоўнага рэдактара **(017) 203-35-17**, намесніка галоўнага рэдактара **(017) 203-24-69**,
рэдактараў і галоўнага бухгалтара **(017) 203-34-79**, адказнага сакратара і загадчыка прыёмнай **(017) 203-07-40**,
факс **(017) 203-07-40**.
E-mail: **rodnaje_slova@tut.by**
**www.rs.unibel.by**

Падп. да друку 09.07.2010. Фармат 60х84 1/8. Папера афсетная. Гарнітура “Minion Pro”. Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 11,02.
Ум.-фарб. адбіт. 12,07. Ул.-выд. арк. 13,2. Тыраж 3255 экз. Зак. 1616.
Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва “Беларускі Дом друку”».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79. ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.